# ЛАНЦУГ

**Аліне**

I

Лета, каля дзесяці гадзін раніцы, а ў кабінеце хірурга 14-й Мінскай клінічнай бальніцы Стэльмаха гарэла святло — на дварэ з самай ночы сеяўся цёмны, халодны дождж...

Кабінет знаходзіўся на першым паверсе старога, з тоўстымі сценамі і маленькімі, нізкімі вокнамі будынка, таму добра было чутно, як вада патокам бяжыць па асфальтавай дарожцы і сцякае ў люк пад акном. Па шыбах паўзлі звілістыя кроплі, у адчыненую фортку з двара залятала халодная імжа, і, здавалася, нават старыя клёны ў бальнічным дворыку, на які глядзела адзінае акно кабінета, неяк пагорбіліся, апусцілі пад гэтай няспыннай макрэчай рукі-галіны і ўжо самі не вераць, што цяпер — самае лета, ліпень, стаміліся чакаць лагоднага сонца і сабраліся толькі жаўцець і пакрысе засынаць...

Усярэдзіне кабінет быў утульны і невялікі: два сталы, паміж сталамі — высокая бальнічная шафа-сервант, збоку каля дзвярэй, у кутку, умывальнік, насупраць сталоў, каля сцяны, абкладзенай ад падлогі на метр кафельнай пліткаю, — кушэтка, два крэслы; ад дзвярэй да акна — дарожка, зашорганая нагамі так, што ні колеру, ні ўзору вызначыць немагчыма... Сам Стэльмах, Іван Змітравіч яго звалі, у белым пакамечаным халаце, тоўсты, вялікі, у акулярах, з сівой шчоткай жорсткіх нават на выгляд валасоў, сядзеў за сталом, што бліжэй да акна, і пераглядаў карткі хворых; другі, асістэнт Стэльмаха, нядаўні выпускнік медыцынскага інстытута Яўген Вінярскі, стаяў побач і курыў у адчыненую фортку. Гэта быў высокі прыгожы хлопец гадоў дваццаці васьмі, падобны тварам да дзяўчыны — тым больш падобны, што доўгія чорныя валасы ў яго былі гладка зачэсаны і на патыліцы перацягнуты гумкаю. На ім таксама быў белы халат, і калі Вінярскі паварочваў галаву, чорная дзявочая каса матлялася па белых плячах. Ён курыў, пасля кожнай зацяжкі падносячы цыгарэту да меднай попелкі-чарапашкі» і збіваючы попел доўгім указальным пальцам з дагледжаным, акуратна падпіленым ружовым пазногцем — па адных гэтых яго пальцах з пазногцямі можна было заключыць, з якой ён сям’і, як выхаваны, як гадаваўся, як жыве і чым цікавіцца цяпер.

Раз-пораз Вінярскі кідаў позіркі на старога доктара, які блізарука нагінаўся над сталом, выстаўляючы сваю галаву-вожык, — і тады ў вачах у Вінярскага ўспыхвала нейкае блюзнерства, нават пагарда. Ен адварочваўся і глядзеў на мокры двор, на клёны, на жоўта-брудную ад дажджу сцяну суседняга корпуса, дзе быў задні пад’езд клінічнай сталоўкі — і тады яго вочы неяк патухалі і ў іх чытаўся сум, нуда чалавека, якому абрыдла ўсё гэта даўно і надоўга. Вось пад акном праехаў, нібы праплыў, зялёны пашарпаны «рафік», рассякаючы коламі паток вады на асфальце, завярнуў і спыніўся каля сталоўкі; з яго выскачылі два мужчыны ў сініх халатах, адзін расчыніў дзверы, падпёр цаглінаю, і мужчыны хутка, горбячыся, пачалі заносіць у дзверы белыя сталёвыя падносы з курамі, булкамі, хлебам, скрынкі з малочнымі пляшкамі... Усё гэта мачыў дождж. Вінярскі нібы ўбачыў гэтую сталоўку — у паўпадвале, з цёмным, пазадзіратым на швах лінолеумам доўгая заля з нізкай столлю, дзе нават у сонечны дзень заўсёды гараць лямпачкі і ўсё адно цёмна, дзе на сталах — алюмініевыя аблезлыя міскі, такія ж лыжкі і нават людзі за гэтымі сталамі здаюцца нейкімі бляклымі і аблезлымі, як міскі, з якіх ядуць, — уявіў, і ў яго раптам аж занылі зубы, аж прабегла пад языком аскома і чамусьці забалеў указальны палец — уявілася, што ён здзірае з гэтага пальца аб шкло пазногаць. Вінярскі нават паклаў палец у рот і прыкусіў пазногаць. Калі перастала балець, ён павярнуўся і пачаў разглядаць Стэльмаха, нібы першы раз бачыў.

«А ён тут усё жыццё! Сядзіць, глядзіць на гэтыя сцены, на гэты падвал-сталоўку, есць з алюмініевай міскі — і хоць бы што!» — з нечаканым раздражненнем падумаў Вінярскі.

Іван Змітравіч сядзеў, глядзеў у кніжку з пажоўклымі старонкамі, трошкі нахіліўшы галаву да акна, і Вінярскаму быў відаць сівы пушок, якім кучаравілася ўся доктарава тоўстая шыя, які лез аж пад зацёрты, нясвежы каўнер халата і, відаць, рос і на плячах, грудзях... Бачылася вуха, з якога тырчэў такі ж сівы пух, нават не сівы, а з нейкай пажоўкласцю. «І такая гадзюка спала некалі — ці мо нават і цяпер спіць? — з жанчынаю, мае дзяцей... Няўжо і ён некалі жыў, як і я жыву, быў малады, пра нешта марыў?..» — думаў Вінярскі, разглядаючы старога хірурга.

Стэльмаха ён не палюбіў адразу ж, з першай сустрэчы. Прычын, каб не любіць, было хоць адбаўляй: Іван Змітравіч быў неахайны, рассеяны, сквапны, абедаў у клінічнай сталоўцы і ўмудраўся перабівацца малочным супам з алюмініевай міскі і шклянкай кефіру з чорным хлебам; апранаўся заўсёды ў нязменны карычневы касцюм, у якім два гузікі былі прышыты белымі ніткамі, з

дня ў дзень у адну і тую ж цёмную кашулю (цёмнае з карычневым!), без гальштука, на нагах адны і тыя ж, нячышчаныя, з пакрыўленымі, збітымі абцасамі чаравікі... Іван Змітравіч ні пра што не здагадваўся, ён паважаў Вінярскага, стараўся паддобрыцца да яго, раіўся ва ўсім — быццам не ён, а Вінярскі за яго быў старэйшы ў два разы. Але маладому доктару гэтая добрасць была асабліва непрыемная.

Стэльмах быў вечна заклапочаны, часта замаўкаў сярод размовы, абарваўшы сказ, і думаў штосьці. Разоў колькі пасля такіх нечаканых паўз ён, наморшчыўшы лоб, пакусваючы вусны, загадкава пазіраў на Вінярскага, потым пытаўся, ці ўмее ён захоўваць тайны. Вінярскі, не жадаючы слухаць ніякіх споведзей, адмахваўся, казаў, што няма часу, альбо проста дэманстратыўна паварочваўся і пачынаў насвістваць. Стэльмах замаўкаў, але дзён праз колькі, рассеяны, забываўся і зноў пытаў, ці ўмее Вінярскі маўчаць, і зноў узнаўлялася спроба споведзі, і зноў адмахваўся малады хірург.

Магчыма, калі б Вінярскі меўся застацца ў гэтай клініцы надоўга, калі б была патрэба неяк выслужыцца ці, скажам, «падседзець» Стэльмаха, ён так бесцырымонна сябе не паводзіў бы. Але ён быў упэўнены, што ён тут — чалавек часовы. У яго былі зусім іншыя планы.

Іван Змітравіч перагортваў, адкладаў убок тоўстыя кніжачкі з белымі і пажоўклымі старонкамі, углядаўся ў паперкі аналізаў, перачытваў па некалькі разоў заключэнні, але рабіў гэта чыста машынальна. Калі б яго зараз спытаць, нашто ён гэта робіць, якая карысць з такога яго чытання, ён, хутчэй за ўсё, нічога не змог бы адказаць і толькі развёў бы рукамі. Радасць перапаўняла яго і перашкаджала засяродзіцца. Сёння ён тут апошні дзень, заўтра — у адпачынак, але не гэта... Не адно гэта! Урэшце ён прагартаў апошнюю кніжачку, ляпнуў ёю па стале (Вінярскаму здалося, што ад кніжачкі ва ўсе бакі паляцеў жоўты пыл), зняў акуляры з тоўстымі лінзамі, пацёр стомленыя вочы і глянуў на маладога доктара. Вінярскі адвярнуўся.

— А дай і мне курнуць! — папрасіў Стэльмах і засмяяўся. — Дай, сёння я сабе дазваляю!

Вінярскі паморшчыўся — цыгарэты былі амерыканскія, дарагія, але дастаў з пляскатага пачка прыгожую цыгарэту з залатым абадком.

— На.

Яны былі на ты, Стэльмах так захацеў. Вінярскі чыркнуў запальнічкай, Стэльмах няўмела пацягнуў разы два і вінавата засмяяўся. З непрывычкі ў яго закружылася галава і, як чамусьці

заўсёды апошнімі днямі, неяк ня-добра, сур’ёзна неяк зашчымела сэрца.

— Накурыўся?

— Жэня, — сказаў Іван Змітравіч, паціраючы сэрца, блізарука ўглядаючыся ў маладога ўрача, — я да цябе за гэты год прывык. Ты мне як родны сын.

— Рады за цябе.

«Зараз пачне спавядацца», — падумаў Вінярскі.

Але Іван Змітравіч памаўчаў, узяў са стоса верхнюю кніжачку, разгарнуў, адсунуў на даўжыню рукі, гучна, па складах прачытаў:

— О-те-кание ко-неч-ности! — і зноў ціха затросся ад смеху.

— Што ты хіхікаеш, як... малады казёл? — груба сказаў Вінярскі.

Іван Змітравіч ніколькі не пакрыўдзіўся. Ён устаў — быў даволі высокага росту, паварушыў плячыма, размінаючыся, ступіў да Вінярскага і прыабняў яго за плечы.

— Эх, Жэня... Здаецца, каб было не пяцьдзесят сем гадоў, а трохі больш за дваццаць, як табе, — сапраўды, выбег бы зараз на двор, пад гэты дождж, і скакаў бы, як малады казёл, па мокрай траве...

Вінярскага проста абдало рэзкім ранішнім мужчынскім пахам з рота; ён бесцырымонна скінуў са сваіх плячэй чужыя рукі, адышоў і сеў за свой стол.

— Ты мне як сын, — паўтараў Іван Змітравіч, нічога не заўважаючы. — Я паважаю цябе, я ж бачу, што ты ў дзесяць разоў разумнейшы за мяне. Я хачу табе штосьці расказаць...

У дзверы нясмела пастукалі, і прасунулася нечая галава.

— Ну, што там? Што? — рэзка крыкнуў Стэльмах. Галава знікла.

— Ты помніш маю Мілу? — спытаў Іван Змітравіч, зрабіўшыся зноў самім сабою — добрым і мяккім. — Помніш, вясной прыходзіла сюды, у кабінет, я вас знаёміў яшчэ?

Вінярскі паціснуў плячыма — мала хто сюды прыходзіць і мала з кім яго знаёмяць!

— Слухай, давай на абход збірацца, — сказаў ён, паказваючы, што і на гэты раз не збіраецца выслухоўваць ніякія споведзі.

— Які абход?! Толькі дзевяць гадзін!

— Значыць, у мяне гадзіннік спяшаецца, — спакойна схлусіў Вінярскі.

— Як жа ты не запомніў Мілу? А яшчэ малады хлопец... Такую дзяўчыну не запомніць! — з мяккім дакорам пачаў ушчуваць

Стэльмах. Відаць, сёння ён цвёрда вырашыў выгаварыцца. — Красуня, разумніца, у гэтым годзе скончыла школу, з медалём... Гэта я пра старэйшую сваю, Мілу. Нядаўна пад стол бегала, не паспелі аглянуцца — ужо нявеста! І ведаеш, хто жаніх? Ніколі не ўгадаеш!

— Я і гадаць не буду.

— Помніш, у тым годзе ў нас хлопец ляжаў? У чацвёртай палаце? Такі малады, белы, гаварыў па-беларуску? Усе яшчэ здзіўляліся...

— Мала іх у нас ляжала і ляжыць, — сказаў Вінярскі, хоць, сапраўды, нешта смутна прыгадалася.

— Ну-у, Жэня... Хай я, стары, магу забывацца, а ты — светлая галава, залатыя рукі... Дык вось гэты хлопец і ёсць яе жаніх. Вось як жыццё можа закруціць! Не ведаю, чым ён мне спадабаўся, але ён мне — як сын родны (Стэльмах, было падобна, забыўся, што толькі што называў родным сынам Вінярскага). Светлая галава, я табе скажу. Не паверыш, але ён — пісьменнік, піша і друкуецца ў часопісах.

II

— Усё было б добра, каб не... Справа ў тым, што ні яе жаніх, ні сама Мілачка нават не здагадваюцца, што ў Мілачкі рэдкая, небяспечная хвароба. (Стэльмах памаўчаў і сказаў па-латыні назву.) Уратаваць яе можа толькі аперацыя. Хваробу вызначылі даўно, калі Мілачцы толькі споўнілася сем гадоў, і трэба было весці яе ў школу. Перад гэтым трэба было прайсці поўны медыцынскі агляд. Вядома, я павёў яе не ў паліклініку, а да самога Барыса Іосіфавіча, у кардыялагічны цэнтр. Страшна ўспомніць, што са мной зрабілася, калі я пачуў... Спачатку мяне ад адчаю проста захліснула злосць, я ледзь не кінуўся на Барыса Іосіфавіча з кулакамі, крычаў, што ён — не доктар, што, перш чым ставіць такія дыягназы, хай навучыцца разбірацца ў звычайных аналізах... Потым мне, здароваму саракагадоваму мужчыну, стала блага, і мяне адпойвалі карвалолам і давалі нашатыр пад нос. Калі я апрытомнеў, Барыс Іосіфавіч, які за ўвесь час, пакуль я на яго крычаў, не прамовіў ні слова, ціхім і вінаватым голасам паўтарыў страшны дыягназ. «Колькі з такой хваробаю жывуць?» — вымучыў я з сябе, вымучыў словы, якія столькі разоў даводзілася чуць мне самому і да якіх я быў абыякавы, буркаў звычайна, што такіх пытанняў задаваць нельга, што гэта справа не вашая, а дактароў і таму падобнае. Цяпер я баяўся пачуць такі ж самы, халодна-дзяжурны, адказ ад Барыса Іосіфавіча. Але ён сказаў: «Калі нармальная псіхалагічная абстаноўка — можа пражыць доўгі

век. Калі ж, не дай Бог, пачнуцца нейкія нервовыя зрывы, стрэсы... Вы самі доктар і павінны разумець, што канкрэтна вам ніхто нічога не скажа. Дзяўчынцы патрэбна аперацыя. Але яе можна рабіць толькі пасля паўналецця вашай дачкі. Ад вас залежыць, каб да гэтага часу дзяўчынка ні пра што не здагадвалася, каб яна проста жыла, як і ўсе дзеці, і лічыла сябе такой, як і ўсе». Барыс Іосіфавіч адразу папярэдзіў, што тут, у Саюзе, пра такую аперацыю няма чаго і думаць. Яе нідзе тут не зробяць. Але мяне гэта не спалохала. Для мяне тады, пасля ўсяго пачутага, і гэты праменьчык надзеі быў шчасцем. Ды я, думаў я тады, на каленях гатоў паўзці ў тую праклятую Маскву; я дастукаюся ў любыя дубовыя дзверы, буду прасіць, маліць, прыніжацца, змагу расчуліць, давесці да слёз любога медналобага чыноўніка... Я даб'юся дазволу на аперацыю за мяжою! — думаў я. Мілачка сядзела на калідоры, на канапе каля дзвярэй, падабраўшы ножкі, і глядзела перад сабой сур'ёзна, нібы пра ўсё здагадвалася. Я схапіў яе і пачаў усю зацалоўваць, і гэтыя ножкі, а яна стала ўсхліпваць ад страху і вырывацца... Барыс Іосіфавіч, які таксама выйшаў на калідор і глядзеў на нас, адвёў мяне ўбок і зноў нагадаў, каб ні ў якім разе не пужаў дзіця. Ізноў голас у яго быў вінаваты, і ён стараўся не глядзець мне ў вочы. Тады я яшчэ не разумеў чаму. Доктар прадбачыў, што мяне чакае наперадзе.

З таго дня асабістае жыццё для мяне скончылася. Я матаўся па некалькі разоў на год у Маскву, Ленінград, званіў, дабіваўся прыёмаў, даваў хабары, пісаў лісты... словам, прайшоў праз усе тыя этапы, якія ўявіў сабе, калі пачуў ад Барыса Іосіфавіча пра сваё гора. Самае галоўнае, што я быў адзінокі, мне даводзілася трымаць усё гэта ў тайне нават ад жонкі. За сябе я быў упэўнены, а за яе баяўся. Вядома, я збіраўся ёй пра ўсё расказаць, але толькі тады, калі сам ужо нечага даб'юся; тады і аб'яўлю — так і так, Мілачка хворая, але нічога страшнага, вось дазвол на аперацыю за мяжою... Аднак жонка адразу западозрыла нешта няладнае. Пачала рабіць мне сцэны, даймаць роспытамі — дзе прападаю, чаму стаў такі неакуратны, няўважны, абнасіўся, нічым не цікаўлюся, куды пачалі знікаць грошы, чаму я пачаў стагнаць па начах і нават у сне некага аб нечым прасіць?.. Я маўчаў, яна плакала, і я ўжо бачыў, што яна пачынае ненавідзець мяне. Але вось урэшце, шчаслівым летнім ранкам, дазвол быў атрыманы. Я цалаваў гэты шэры казённы бланк, танцаваў вакол яго, сто разоў перачытваў скупыя словы — «Выезд разрешаем, если располагаете средства»; потым супакоіўся, і раптам да мяне дайшло. «Располагаете средства»!.. За гэты час я праездзіў, растраціў на тэлеграмы, перамовы, на заказныя лісты, на хабары ўсе тыя невялікія

зберажаэнні, што ў нас былі. Але праз хвіліну я ўзяў сябе ў рукі, і пачаўся новы віток. Яшчэ перад гэтым я паслаў ліст у адну з лепшых замежных клінік, і недзе праз тыдзень пасля маскоўскага бланка прыйшоў ліст з Еўропы: мне пісалі, што згодныя зрабіць такую аперацыю, і называлі суму ў далярах. Гэта была каласальная, астранамічная для мяне сума! Ад тысяч мёртвых паперак залежала, будзе жыць ці не белагаловае, разумнае, жывое, прыгожае стварэнне — з рукамі, нагамі, сінімі вачыма, якое магло б выйсці замуж, ашчасліваць некага, нараджаць дзяцей...

Але трэба было дзейнічаць. Гэта быў ужо апошні этап. У адзін з вечароў я рашыўся: расказаў пра ўсё жонцы. Неверагодна, але калі ўсё высветлілася, яна, бедная, абняла мяне і заплакала... ад радасці! Яна называла мяне самым лепшым у свеце мужам і бацькам... Гэта надало мне новыя сілы.

Як мы збіралі, як ашчаджалі кожную капейку!.. Як я часамі проста ўпадаў у адчай, бачачы, што вакол раскідваюцца направа і налева без усялякай, як мне здавалася, карысці дзесяткі, сотні, тысячы, а цяпер — і мільёны!.. Страшна ўспомніць, але разоў колькі я на поўным сур’ёзе абдумваў, дзе б украсці, каго б абрабаваць... І толькі жонка суцяшала мяне, падбадзёрвала, памагала перабыць такія хвіліны.

І вось учора, калі мне выплацілі нечакана высокія адпускныя, прагрэсіўку, прэмію, калі я памяняў гэта на даляры і вечарам падлічыў усё, што ёсць, я ўбачыў — хопіць. Цяпер хопіць і на білеты, і на аперацыю, і на абслугу. Вось яны!..

Іван Змітравіч дастаў з-пад стала чорны пластмасавы «дыпламат», і, калі адчыняў замкі, яго вялікія далоні з валасатымі пальцамі дрыжэлі.

— Вось!.. Ён выцягнуў з «дыпламата» цэлафанавы пакет, у якім было нешта квадратнае, падобнае на дзве цагліны, узважыў у руцэ, потым паклаў назад, у «дыпламат», і пстрыкнуў замкамі.

— Спытаеш, чаму такія грошы я хаваю тут? — сказаў Іван Змітравіч. — А дзе ж?! Ты не паверыш, але праблема была не столькі збіраць, колькі недзе хаваць. З самых першых месяцаў у мяне ўзнікла манія падазронасці — пачало здавацца, што за мною сочаць. Я хаваў грошы ў кватэры, у прыбіральні, пад ваннай, у спальні, але па некалькі разоў на ноч прачынаўся і бег глядзець, ці на месцы яны. Спрабаваў вазіць чамаданчык з сабой на працу і назад, але ў тралейбусе мне здавалася, што на чамаданчык пачынаюць глядзець адразу некалькі падазроных чалавек. Даводзілася хітраваць, збіваць іх са следу, выходзіць, то пераязджаючы свой прыпынак, то

недаязджаючы... Спрабаваў здаваць на вакзале ў камеру захоўвання, але ў тую ж ноч не вытрымаў — прыбег і забраў назад. Урэшце мне прыйшло ў галаву — кабінет! І ніхто не здагадаецца! Каму прыйдзе ў галаву шукаць грошы ў клініцы, якая да таго ж на ноч замыкаецца, дзе цэлую ноч сядзяць дзяжурныя ўрачы? Пакінуўшы тут грошы адзін раз, я нарэшце зразумеў, што знайшоў надзейную схову. Я ўпершыню тады спаў спакойна.

— Нашто мне ўсё гэта ведаць? — злосна спытаў раптам Вінярскі. Да гэтага ён моўчкі слухаў Стэльмаха і барабаніў па стале сваімі прыгожымі пальцамі.

— Каму ж, як не табе?! — здзіўлена ўсклікнуў Іван Змітравіч. — Няўжо ты мог падумаць?!.. Тым больш усё — больш хавацца няма патрэбы. Усё ўладкавана! Аднак я не буду спяшацца — з заўтрашняга дня адпачынак, часу хапае. Чакаў і болей. Я яшчэ раз усё пранюхаю, пераправеру — як стары біты сабака.. Мы з жонкай падрыхтуем Мілачку, я куплю білеты...

Іван Змітравіч задумаўся і засмяяўся, потым падсунуў да шафы крэсла, стаў на яго, адчыніў верхнія створкі антрэсоляў і запіхнуў «дыпламат» пад стос старых папак. Паставіў крэсла на месца і па-змоўніцку падміргнуў Вінярскаму.

Дзверы зноў расчыніліся, на гэты раз без стуку, і ў кабінет заглянуў загадчык аддзялення Сцяпанаў.

— Ну што? — сказаў ён і пастукаў пальцам па гадзінніку.

Стэльмах хутка сабраў гісторыі хворых, Вінярскі — рэнтгенаўскія здымкі, і дактары пайшлі на абход.

III

А шостай гадзіне вечара Вінярскі, апрануўшы свой доўгі белы плашч, з парасонам пад пахай, праз галоўны корпус — так было бліжэй да прыпынку — выйшаў на вуліцу. Дождж перастаў, хмара сплывала за Мінск. Адна палавіна вуліцы, у тым баку, адкуль павінен пад'ехаць тралейбус, была асветленая нясмелым пакуль сонцам — так бывае позняй восенню, калі сонца то зырка блісне, то зусім схаваецца; але паступова паласа шырэла, святлела, набягала сюды, на прыпынак. Вось сонечны промень зіхнуў, адбіўся ад пярэдняга шкла тралейбуса, які выплыў з-за павароту... Вось тралейбус спыніўся, густа плюхнуўшы вадой з калюжыны на ногі тым, хто тоўпіўся блізка, вось натоўп паваліў у яго, аж затрашчалі дзверы, а сонечная паласа пабегла і пабегла сабе далей, заліваючы святлом паўгорада.

Вінярскі пастаяў, паглядзеў на тралейбус, уявіў, як яму будуць наступаць на ногі, запэцкаюць плашч, будуць дыхаць у твар, будзе пахнуць спяцоўкамі і прэлымі парасонамі, — павярнуўся і пайшоў пехатою, як рабіў не раз. Ісці было далекавата, праз увесь праспект, ажно ў Вяснянку, затое цалейшыя былі нервы і дарогаю добра думалася. Вінярскі расшпіліў плашч, дастаў цёмныя акуляры — мокры тратуар блішчэў пад сонцам, і пайшоў няспешна, трымаючыся далей ад краю тратуара.

На мосце праз Свіслач ён закурыў, перагнуўся, стараючыся не запэцкацца аб мокрыя чыгунныя парэнчы, папляваў уніз, цэлячы слінаю ў качку, якая плавала і нырала блізка каля моста. Пакуль стаяў, яго прамінулі двое п’яных; ішлі, хістаючыся, трымаючы пад рукі адзін аднога — і пранеслі за сабою свой адмысловы пах... Вінярскаму зрабілася гідка, ён павярнуўся, каб зірнуць ім услед, і ўбачыў, што і п’яныя спыніліся і глядзяць на яго. Ён абышоў іх — і зноў той жа пах...

Вінярскі не любіў людзей. І гэтых п’яных, і тых, каго ён цяпер абганяў, і тых, што яго абганялі, і тых, што панабівалі сабою, як селядцы бочкі, аўтобусы і тралейбусы і ездзілі ў іх туды-сюды па праспектах і вуліцах... Ва ўсіх вачах, што на яго глядзелі, ён чытаў толькі прасцейшыя жывёльныя інстынкты: убіцца, уплішчыцца ў тралейбус, дабрацца да ларка, да таннага, разбаўленага піва, «набухацца», атупець яшчэ больш — гэта ў мужчын; у жанчын, растаўсцелых да сарака гадоў, як пацукі на essential кармавых дражджах, — дапасці да нейкай чаргі, адстаяць, пасварыцца, схапіць урэшце ў руку чаканую сінюю палку крухмальнай варанай каўбасы, ад аднога выгляду якой нармальнага чалавека павінна зблажыць... Згадаліся раптам свае пацыенты — з загноенымі дзіркамі на руках і нагах, з пакрыўленымі, няправільна зрослымі пасля пераломаў касцямі, з апухлымі, перакошанымі рожаю тварамі, з выродлівымі, як шары, фурункуламі... І ў гэтых у вачах — тое ж жывёльнае: выратуй, пазбаў ад болю, выпусці гной, накладзі швы, здымі рожу... Каб зноў мы маглі піць сваё піва і стаяць у чэргах па сінюю каўбасу...

Вінярскаму прыйшло ў галаву, што з яго можа атрымацца добры хірург. Ён ніколі не пашкадаваў ніводнага свайго пацыента, заўсёды адчуваў да іх толькі агіду, яны былі для яго менавіта пацыенты, а не жывыя людзі. А гэта добра, усе вялікія ці проста добрыя хірургі, якіх ён ведаў ці пра якіх чуў у інстытуце на лекцыях, былі жорсткія. «Там мне гэта прыдасца, — падумаў ён, — а тут — трэба больш практыкавацца, набіваць руку».

Павярнуў на праспект — любімае сваё месца — шырокі, прыгожы, абсаджаны каштанамі, з кветкамі ў клумбах паўз тратуар. Вінярскі любіў гэты праспект яшчэ і таму, што тут хоць зрэдку, дзе-небудзь каля «Планеты» ці «Юбілейкі», можна было пачуць чужую мову і ўбачыць сапраўдных, свабодных, шчаслівых і багатых людзей. Ён ішоў павольі, пазіраючы вакол і прыслухоўваючыся, і сапраўды — раптам каля газетнага кіёска пачуў англійскую мову. Мужчына ў белых шортах, у белай кашулі і ў белым гальштуку, у цёмных акулярах, паказваў на нешта ў кіёску сваёй сяброўцы — маладой жанчыне, таксама ў шортах, з фотаапаратам у руцэ, — і абое смяяліся. І вочы ў жанчыны чыстыя, бестурботныя, і смех у абаіх дзіцячы і бестурботны. Вінярскага нібы працяло токам ад гэтага смеху. Ажыло раптам у душы таксама нешта чыстае і светлае, і захацелася абняць гэтых людзей, узяць пад руку жанчыну, ісці разам з імі некуды і ні аб чым не думаць. Але хутка ён апамятаўся, прыгорбіўся і пайшоў хутка, ні на кога ўжо не гледзячы.

«Толькі сярод такіх людзей я сам адчуваю сябе чалавекам, — значыць, мне і трэба быць увесь час сярод іх, — думаў ён. — Але гэта даўно было зразумела. Не тое, нешта не тое...»

І Вінярскі паспрабаваў адпусціць у сабе тую струну, якая з самай раніцы, пасля расказа Стэльмаха, звінела ў ім і ўсё накручвалася, і накручвала на сябе нейкія пабочныя думкі і пачуцці, перашкаджаючы думаць пра галоўнае. Паспрабаваў адпусціць гэтую струну — і ўдалося, і выплыла: Стэльмах — грошы — замежная клініка — дзве цагліны ў «дыпламаце».

Але што яму, Вінярскаму, да гэтага?! І ён зноў захацеў «закруціць струну», не думаць пра Стэльмаха, а марыць пра самае сваё запаветнае — чым жыў з дня ў дзень вось ужо колькі гадоў, яшчэ з інстытута. Не, гісторыя Стэльмаха вельмі цесна на гэтыя мары накладвалася. Вінярскі мусіў прызнацца сабе, што гэтая гісторыя ўсхвалявала яго, выбіла з душэўнай раўнавагі. Вядома, не сваёй таннай меладраматычнасцю, Вінярскі сапраўды не помніў ніякай Стэльмахавай дачкі, увогуле, не верыў ніводнаму слову Івана Змітравіча, — але ж грошы былі! Былі ж дзве «цагліны» даляраў! Гісторыя ўсхвалявала Вінярскага тым, што ў ёй праглядвала ўпартая мэтанакіраванасць чалавека, які ў нешта моцна верыць і любымі сіламі і сродкамі стараецца дабіцца гэтага «нечага». Вінярскі раптам зразумеў, што яго непакоіць — зайздрасць. Яму было зайздросна і крыўдна, што, акрамя яго, ёсць яшчэ людзі, якія нечага ад жыцця хочуць. А тым больш такія, як Стэльмах. Гэта была інстынктыўная крыўда і, урэшце, злосць маладога самца, што вынайшаў спосаб

збіваць бананы з дрэва палкаю, і раўніва хаваў сваё вынаходніцтва, пакуль знянацку не ўбачыў, што і другі самец, слабы і ўжо непрыдатны для размнажэння, таксама карыстаецца такою ж палкаю.

Яшчэ ў час вучобы, некалькі гадоў назад, калі на адным з экзаменаў Вінярскаму ні за што паставілі тройку — толькі з-за асабістай непрыязнасці да яго выкладчыка, — ганарысты, крыўдлівы хлопец вырашыў, што жыць тут — гэта зажыва пахаваць сябе. Разумны, халодны, без комплексаў (такім лічыў сябе Вінярскі), ён мог праявіць сябе толькі там, дзе б яго паважалі і цанілі. Гэта была сапраўдная мэта, дзеля такой варта было жыць. І дзякаваць Богу, яна прыйшла яму ў галаву даволі маладому, калі быў яшчэ студэнтам. Час наперадзе ёсць. Некалькі гадоў — ды хоць дзесяць, і тады яму будзе толькі пад трыццаць — пажыць аскетам, назіраць усё, запамінаць, нікога не любіць — і збіраць грошы. Любымі спосабамі. Акупіцца і апраўдаецца ўсё. Ен разумеў, вельмі добра разумеў Стэльмаха, калі той расказваў пра сябе!..

Сам Вінярскі збіраць грошы пачаў яшчэ ў інстытуце, рублямі: фарцаваў, ездзіў у Прыбалтыку, дзе скупляў падробленыя пад «фірму» красоўкі і джынсы, у Мінску перапрадаваў... Потым, калі закруцілася перабудова і «адкрылі» Польшчу, пайшло лягчэй. Ён пачаў цікавіцца палітыкаю, радаваўся, як яно ўсё нечакана паварочваецца, і адначасова трывожыўся, што такіх, як ён, становіцца ўсё больш. Усіх такіх, як сам, яму трэба было ненавідзець з-за канкурэнцыі. Але сёе-тое перападала і на яго долю. І вечарамі, зачыніўшыся ў сваім пакоі, Вінярскі падоўгу пералічваў рознакупюравую «зеляніну», даляры, разглядваючы на святло, разгладжваючы пальцамі кожную купюру. Ен складаў даляр да даляра, па сотцы, перацягваў гумкаю, пералічваў яшчэ раз пачкі і замыкаў у шуфлядку на ключ, ведаючы, што гадзін праз колькі, калі ён пачытае газеты і паглядзіць тэлевізар, ён зноў зачыніцца, і зноў пачнецца ўсё спачатку... Ен разумеў Стэльмаха.

З кожным месяцам, пасля кожнай удалай паездкі — а ў яго амаль усе былі ўдалыя, — купюраў большала, і большала яго радасць, гонар за сябе, за сваю кемлівасць, спрыт, — большала і нянавісць да некага, хто таксама збірае грошы і пра нешта марыць. Вінярскаму гэта было можна, ім — нельга. Для іх грошы былі адзенне, ежа, у лепшым выпадку машына ці кватэра, а для яго — толькі віза і замежны пашпарт. Куды? Хоць у Аўстралію, хоць куды — толькі б далей ад усяго, што вакол, далей ад хамства, тупасці, жабрацтва... Проста не чапайце мяне, дайце спакойна купіць білет на самалёт ці на цягнік; я паеду ў любы еўрапейскі, амерыканскі, аўстралійскі

горад, у любое Богам забытае мястэчка (калі там ёсць такія). Я гатовы працаваць грузчыкам, парабкам, мыць посуд, падмятаць вуліцы, прыбіраць туалеты — і рана ці позна я дачакаюся свайго, дакажу, што я люблю і ўмею працаваць, напомню пра свой дыплом урача і пра свой вопыт... Хай мне даюць выпрабоўчы тэрмін — я ахвотна пайду санітарам, асістэнтам, прыбіральшчыкам, дакажу сваю адданасць, і мяне ацэняць. А там — свой домік, сад, прыслуга, машына. Больш нічога не трэба. Нідзе не трэба кідацца ў вочы. Мне і гэтага хопіць на ўсё жыццё. Галоўнае — будзе акуратны гарадок, дахі з чырвонай чарапіцы, клумбы з ружамі, чыстыя вуліцы, ціхі вечар і людзі, якія ўмеюць радасна смяяцца — як гэтыя, каля кіёска, — не баючыся, што на іх будуць азірацца і круціць пальцамі каля скроняў.

Яму нікога і нічога не шкада будзе тут пакідаць. Бацькі? Бедныя, затурканыя маралісты, маці, без пары ссівелая, напаўсляпая ад вечнага чытання чужых сшыткаў, з акладам настаўніцы, які больш нагадвае жабрацкую міластыню, чым плату за такую катаржную працу; бацька — будаўнік, які ўсё жыццё ляпіў тыпавыя, падобныя адна на адну, як васковыя ромбы ў сотах, цёмныя цесныя клеткі — так званыя «кватэры»... Што яны бачылі, што ведаюць? Для іх вяршыняй шчасця было тое, што ён скончыў медыцынскі інстытут, а найбольшая мара — каб ён гадоў да пяцідзесяці дабіўся таго, што ёсць цяпер Стэльмах... Але яны нават не здагадваюцца, якая старасць іх чакае! Вядома, ён забярэ іх адсюль, за імі будзе дагляд, лепшая медыцынская дапамога, лепшыя курорты, спакой, хоць пад канец жыцця яны павінны ўбачыць, што свет намнога шырэйшы і святлейшы за трохпакаёвую клетку панельнага дома ў Вяснянцы...

Вінярскі падумаў пра Жану. Не, і Жану шкада пакідаць тут. Шкада нават не столькі Жаны, колькі таго ўспаміну, што з ёю звязаны, — як яна, голая, выціралася ручніком у ванным пакоі, паставіўшы нагу на край ванны, нагнуўшыся...

Часта бывае, асабліва на гарадскіх людных вуліцах, што пра каго падумаеш, таго хутка і сустрэнеш. І неяк інтуітыўна Вінярскі пачаў пазіраць на сустрэчных дзяўчат: вось прайшла з такімі ж доўгімі, прыгожымі нагамі, але белая, а Жана чарнявая... Вось дзве чарнявыя, і такія ж высокія, з такімі ж нагамі, але ў адной — тонкія вусны, другая — зусім маладая, відаць, школьніца; а ў Жаны вялікі рот, поўныя вусны, і менш дваццаці гадоў ніяк не дасі...

Каля «Юбілейкі» ён спусціўся ў пераход, выйшаў на другім баку вуліцы, якраз на прыпынак, — і знянацку ўбачыў Жану. Яна сядала ў чырвоную «Мазду», каля якой стаялі мужчыны і курылі.

Кроў кінулася яму ў галаву. Але разам з тым яго ахапіла цікаўнасць, жаданне паглядзець, што ж будзе далей, — нібы ён атрымаў магчымасць паглядзець у шчылінку ў пакой, дзе паслалі маладым пасля вяселля. Ён спыніўся сярод людзей на прыпынку і пачаў назіраць за машынаю. Мужчыны курылі, пазіралі на другі бок вуліцы. Хутка з пераходу выйшлі дзве тыя самыя чарнявыя і высокія, і адна, падобная на школьніцу, праходзячы каля Вінярскага, сказала рэзка:

— Не магу, я так...

І далей не пачулася, але разанула па вушах і па нервах. Дзяўчаты селі ў «Мазду», якая адразу ж крануўлася і паехала, мужчыны прайшлі трохі ўперад, дзе каля тратуара стаяла яшчэ адна новенькая машына.

А ты не ведаў, што Жана — прастытутка, папытаў у сябе Вінярскі. Не, пакідаць яе тут нельга. Ён адпомсціць ёй. Калі ўсё наладзіцца, ён выпіша яе туды,да сябе, выкарыстае да апошняга, а тады проста выкіне на вуліцу, у яе родную стыхію...

Пад'ехаў тралейбус, Вінярскі механічна зайшоў у яго і неўзабаве ўжо сыходзіў на сваім прыпынку, каля фінскай запраўкі. Дома ён скінуў плашч, але пераапранацца не стаў, не стаў і есці, нават не зайшоў на кухню. Сеў у сваім пакоі ў крэсла і выдаўжыў ногі. Пастукала матка, зайшла.

— Будзеш есці на кухні ці прынесці сюды?

— Не, прынясі лепш кавы.

— Што-небудзь здарылася?

— Нічога, толькі галава баліць.

— Можа, не пі кавы? — яна падышла і пагладзіла сына па галаве, патрымала ў руцэ касу. Спытала проста так, ведаючы, што ён усё адно зробіць па-свойму.

...Доўга сядзеў, піў каву і ўсё пра нешта думаў у той вечар Вінярскі.

IV

Назаўтра зноў з самай ночы ўсю раніцу ішоў дождж. Вінярскі, ужо адзін, стаяў каля адчыненай форткі ў кабінеце, курыў, пазіраў на мокрыя клёны, але сёння ў яго вачах ужо не было ўчарашняй нуды. Нешта зусім іншае свяцілася ў іх. Ён раптам заўважыў, што курыць і міжволі кратае пальцамі ніжні шпінгалет на раме, спалохаўся нечага і адышоў ад акна.

Зрэшты, увесь ранак ён потым быў узбуджаны, вясёлы, нават спрабаваў жартаваць з хворымі — аднаму, з нагою ў гіпсе, сказаў: «Добра, што нага, а не шыя», — але ніхто не засмяяўся; а загадчык аддзялення Сцяпанаў чамусьці здзіўлена падняў вочы на маладога доктара. У абед Вінярскі пайшоў у другі корпус, спусціўся ў сталоўку, зазірнуў у маленькія паўпадвальныя вокны. Выйшаў на лесвічны марш і падняўся да апошняга, пятага паверха. Ні са сталовай, ні з паверхаў не было відаць не тое што акна іхняга кабінета, а і сам іхні корпус амаль увесь быў закрыты клёнамі. Ён вярнуўся ў кабінет. Стэльмах так і не прыходзіў. Вінярскі агледзеўся яшчэ раз. Ну, так: іхняе акно можна ўбачыць толькі з вуліцы і ніадкуль з бальнічных карпусоў. Пад акном, паміж сцяною і кусцікамі паўз тратуар— чыстая паласа асфальту з паўметра шырынёю. І гэта варта запомніць... На мокрым асфальце слядоў жа не застаецца...

Вінярскі ўзяўся за аконную ручку, моцна пацягнуў на сябе. Шпінгалеты і ўверсе і ўнізе сядзелі ў сваіх дзірках-гнёздах як улітыя. Але гэта былі ўжо дэталі.

Цяпер Вінярскі маліў Бога толькі аб тым, каб Іван Змітравіч не прыйшоў да канца рабочага дня.

Стэльмаха не было ў пяць, не было ў палове шостай, і без дваццаці шэсць Вінярскі, не могучы больш трываць, не зачыняючы дзверы ў кабінет («калі зойдзе хто-небудзь, скажу, што пакасілася рама, папраўляю»), дастаў з кішэні падрыхтаваную яшчэ дома веласіпедную адвёртку, падняў ніжні шпінгалет і хутка, каб адрэзаць шляхі да адступлення, вывернуў адвёрткаю гняздо. Трэснулі сухія бялілы, адкалоліся разам з трэскаю, лёгка вывернулася гняздо разам з іржавымі шурупчыкамі... І тады яго як аглушыла — ды што ж я раблю?! Хто ж, лезучы з вуліцы, будзе ламаць шпінгалеты на палавінках з пакоя?! Ламаць будуць толькі з двара, а потым проста стануць на падаконнік, прасунуць у фортку руку...

З адчаю ён ударыў далоняй па знадворнай раме, дзе сыходзіліся палавінкі — і здалося, гэты гук, трымценне шкла, пачула ўся клініка, уся вуліца, што Стэльмах ці яшчэ нехта нячутна зайшоў і стаіць за спіною. Але Вінярскі нават не азірнуўся. З мясам павыкалупваў з гнілаватай рамы гнёзды, апусціў назад шпінгалеты... Нечакана ўся яго выдумка здалася яму страшэнна арыгінальнай і праўдападобнай, выцягнулася ўся ў ланцужок — ён аж засмяяўся, закурыў, тады толькі агледзеўся, прыслухаўся. Нідзе нікога, звычайныя гукі бальніцы. «Проста націснулі на створкі з двара, створкі падаліся, трошкі адышлі, тады падсунулі знізу, у шчылінку, звычайную адвёртку, вывернулі гняздо, тое ж зрабілі зверху, залезлі

на падаконнік... не, не залезлі, а, стоячы знізу, нечым выламалі і ніжні шпінгалет унутраных палавінак... А потым схамянуліся, што фортка адчыненая і можна рукою дастаць... Тады залезлі на падаконнік — і ўсё. Чаго сюды лезлі? Гэта трэба пытацца ў тых, хто лез. Ці не думаеце вы, што гэта я зрабіў? Калі б я хацеў нешта тут украсці, я зрабіў бы гэта, не ламаючы рамы!..»

Самае дзіўнае, што гэты доказ — калі б ён, Вінярскі, краў, дык не ламаў бы рамы — здаваўся яму ў той момант абсалютна пераканаўчым.

Не стаў чапаць больш створкі («хай будуць прычыненыя, наўрад ці той, хто вылез бы праз акно, клапаціўся б зачыняць іх»), хуценька замкнуў дзверы, стаў на крэсла, выцягнуў з-пад папак «дыпламат» і толькі калі саскочыў на падлогу і паклаў яго на стол, падумаў: «А што, калі б яго не было тут? Вельмі проста, сто разоў Стэльмах учора мог бы забраць...» Але «дыпламат» быў, вось ён, ляжыць на стале. Вінярскі паспрабаваў адчыніць яго — нічога не выйшла. Божа мой — код!.. Ен зачынены на код! Ліхаманкава, дрыготкімі пальцамі Вінярскі пачаў круціць узад-уперад гранёныя кругліні пад ручкаю, пакуль не зразумеў, што проста марнуе час. Ні з таго ні з сяго ён ударыў раптам з усяе сілы адвёрткаю ў бок «дыпламата» і прабіў дзірку, потым апамятаўся і пачаў хапатліва заціраць яе рукою, але толькі падрапаў аб востры пластык далонь. Нейкі час ён стаяў і залізваў кроў, тады паставіў «дыпламат» пад стол Івана Змітравіча, доўга тыцкаўся ключом у замок. Выглянуў у калідор. Нікога не было.

Трэба было вяртацца і забіраць грошы. Прайсці па трох даўжэзных калідорах трох карпусоў, каля сталовай, праз вестыбюль з «дыпламатам», якіх ён зроду не насіў. Але рабіць не было чаго: Вінярскі вярнуўся, узяў «дыпламат» і, сабраўшы ўсю рашучасць, пайшоў. Ногі былі ватныя, а ўсярэдзіне ўсё трымцела. Калі б яго зараз паклікалі, ён, напэўна, выпусціў бы «дыпламат» з рукі. Але на калідоры нібы ўсё вымерла. Вось пачатак тэрапеўтычнага аддзялення, вось дзверы ў падвал. Нібы нехта падштурхнуў яго ў спіну — Вінярскі паслухмяна павярнуўся, спусціўся ў падвал... Вось дзверы на двор — і хоць бы дзе адзін чалавек! (Успамінаючы пасля той дзень, Вінярскі думаў, што чалавеку даволі ўсяго толькі захацець зрабіць якуюсьці гадасць, а там чорт сам давядзе ўсё да канца. Не магло ж так шэнціць яму тады само па сабе!)

Ужо на двары, ідучы паўз сваё акно, скасіў вочы. З дарожкі з адлегласці трох метраў не было відаць нічога падазронага. Хіба калі ўжо добра прыгледзецца, маленькая шчылінка...

Ён ехаў дамоў тралейбусам і думаў, што каля фінскай запраўкі яго ўжо чакаюць, каб арыштаваць, і трэба, як расказваў Стэльмах, ці пераехаць, ці недаехаць. Але сіл ужо не было ніякіх. Ніхто яго, вядома, не чакаў.

Дома ён запіхнуў нагою «дыпламат» пад ложак і бухнуўся ў любімае крэсла. Ён адчуваў сябе цяпер самым большым у свеце дурнем. Божа мой, ды нават калі дапусціць самае шчаслівае, самае неверагоднае — што ўсё абыдзецца: заўтра ён прыходзіць на працу, Стэльмаха не было і яшчэ няма, прыбіральшчыца ўжо выклікала міліцыю («забыў паставіць на месца крэсла! забыў зачыніць дзверцы антрэсоляў!»), тут прыходзіць Стэльмах, расказвае пра грошы, паказвае на Вінярскага; ён, Вінярскі, і слухаць не хоча — і яму вераць, што гэта не ён украў, а Стэльмаху не вераць — адкуль у цябе столькі грошай? Хто твае грошы бачыў? Чаму хаваў у кабінеце, а не ў банку, не дома? А калі хаваў, нашто расказаў пра гэта Вінярскаму, потым спакойна аставіў столькі грошай і пайшоў?..

Дык вось, калі нават дапусціць гэтае самае шчаслівае — дык будуць жа і допыты, і павесткі, завядзецца справа, узнікнуць следчыя, пачнуцца вочныя стаўкі, вобыск... За ім пачнуць сачыць. А галоўнае, хіба ён не ведае нашай міліцыі?! Не чытаў кніг, не глядзеў фільмаў? Ды ім варта толькі захацець, і яны дакажуць, што ён не толькі злодзей, а і забойца, маньяк, і так дакажуць, што ён сам паверыць і прызнаецца!

Галава проста трашчала, свярбелі скроні і шыя. Ён устаў, выйшаў у залю — бацькі толькі што павячэралі і глядзелі тэлевізар, — дастаў з аптэчкі ўпакоўку мепрабамата, вярнуўся і выпіў таблетку, пасядзеў трохі і выпіў другую. Каб лепш падзейнічала, пачаў чытаць на ўпакоўцы: «Здымае пачуццё страху, трывогі, супакойвае... Рэкамендуецца перад аперацыямі...»

«Дачцэ Стэльмаха патрэбна аперацыя», — падумаў ён і пачаў лічыць — марудна, заплюшчыўшы вочы: раз... два... Далічыў да 60, глянуў на гадзіннік — адна хвіліна прайшла. Такіх 60, і будзе гадзіна. А ўсіх гадзін — дваццаць чатыры. 60 памножыць на 24...

Раптам ясна падумалася, што ніколі не выбрацца яму ні за якую мяжу, а будзе ён проста хадзіць і ездзіць з дня ў дзень, з месяца ў месяц у сваю клініку, будзе не любіць сваіх пацыентаў і ўсіх вакол, слухаць Стэльмаха і злавацца на яго, будзе да канца жыцця марыць пра свой домік, гарадок з чарапічнымі дахамі, клумбы з ружамі, з часам зробіцца такім, як Стэльмах... Але вось жа! Цяпер такая перспектыва не толькі не спалохала яго, а здалася раптам проста шчасцем — ціхім, спакойным...

V

Белы, з сінімі плямамі на шчоках, трымаючыся за сэрца, Іван Змітравіч паўтараў і паўтараў сваімі адвіслымі дрыготкімі губамі:

— Ай-яй, што ж гэта я?.. Нашто ж я так?..

Яны з Вінярскім сядзелі побач на крэслах каля сцяны. За акном ізноў было цемнавата, церусіў дождж, у кабінеце ізноў гарэла лямпачка. Следчы — малады, прылізаны, ветліва-жорсткі капітан — сядзеў за сталом Вінярскага і пісаў. Тоўсты, як бочка, міліцыянер у фуражцы аглядаў падаконнік. Маленькі, спалоханы загадчык аддзялення Сцяпанаў стаяў каля дзвярэй, трымаючы рукі ў кішэнях халата, а за Сцяпанавым, у самым парозе, — санітарка, яшчэ ніжэйшая ростам за галоўнага хірурга. Пазіраючы на іх, асабліва на Сцяпанава, заўсёды такога ветлівага, ціхага, Вінярскі падумаў, што вось-вось не вытрымае ўсяго гэтага і прызнаецца — не ад таго, што так страшна бегала па паперы рука следчага, не ад рухаў каля акна тоўстага міліцыянера і нават не ад таго, што Стэльмах толькі што пры ўсіх расказаў сваю гісторыю і яму, безумоўна, паверылі, — Вінярскаму захацелася прызнацца ад жалю і скрухі, якія ён бачыў у вачах Сцяпанава і санітаркі, калі тыя на яго глядзелі...

— Вы можаце ісці, — сказаў капітан, не падымаючы галавы, але ўсе зразумелі, каго гэта тычыцца, і санітарка выйшла, а следам, спатыкнуўшыся, бокам вылез Сцяпанаў.

Міліцыянер скончыў агляд і павярнуў да следчага свой пляскаты, бы аладка, абыякавы твар.

— Што, з кабінета ламалі? — спытаў следчы.

— Адсюль. З сярэдзіны ўсё вывернута. На падаконніку нават следу няма.

Міліцыянер зняў фуражку, абапёрся шырокай задніцай на падаконнік.

— Стэльмах (Іван Змітравіч зрабіў спробу ўстаць, капітан кіўком далоні паказаў, што можна сядзець), я буду зараз чытаць, а вы папраўляйце. І так, сёння, каля сямі нуль-нуль гадзін раніцы, вы адначасова з санітаркай Зінько Марыяй Зыгмундаўнай, полькай, 37-га года нараджэння, беспартыйнай, несудзімай, зайшлі ў свой кабінет і ўбачылі, што акно прачыненае...

— Так. Я яшчэ з двара ўбачыў, што нешта не тое, сэрца торгнулася. Я ж тут кожную трэшчынку ў сцяне ведаю, кожнае акенца — усё ж трыццаць гадоў, як хаджу гэтым дваром...

— Вы падышлі да падаконніка і ўбачылі, што выламаныя шпінгалеты. У кабінеце вы хавалі грошы... у якой колькасці?

— Я называў ужо...

— Паўтарыце яшчэ раз. Якімі купюрамі і ў якой колькасці?

— Амерыканскімі далярамі.

— У якой колькасці?

Стэльмах чамусьці зірнуў на Вінярскага і другі раз за сённяшні ранак назваў суму. Вінярскі сядзеў, не ведаючы, на якім ён свеце. Галава балела і кружылася. Міліцыянер, пачуўшы суму, прысвіснуў.

— Перад гэтым вы расказвалі пра грошы Вінярскаму, хірургу-асістэнту, больш пра месца знаходжання грошай ніхто не ведаў.

— Ніхто...

— І ў вас ёсць падазрэнне, што грошы ўзяў менавіта Вінярскі. Вы хочаце ўзбудзіць супраць яго крымінальную справу?

— Так, — прашаптаў Стэльмах.

— Напішыце ўнізе — «з маіх слоў запісана правільна», і пастаўце аўтограф.

Рука ў Стэльмаха так дрыжэла, што следчы прамовіў:

— Спакойней, не вы ж укралі, а ў вас. Цудоўна... Вінярскі — імя, імя па бацьку. Год нараджэння, дата, месца. Нацыянальнасць. Хатні адрас. Ці былі судзімасці? Прыводы ў міліцыю?

Атрымаўшы адказы, запісаў і, ні пра што больш не пытаючыся, падняўся з-за стала.

— Пойдзеце з намі.

Вінярскі торгнуўся назад, да сцяны, і міліцыянер адразу ж зрэагаваў: выпраміўся, прайшоў і стаў каля дзвярэй, насмешліва пазіраючы на яго.

— Я прашу вас, таварыш... (абвостраная прага ратунку падказала Вінярскаму, што трэба спадабацца капітану) таварыш палкоўнік!.. Выслухайце мяне!

— Дзеля гэтага мы вас і забіраем. У нас будзе дастаткова часу, — следчы зрабіў паўзу, — каб выслухаць вас.

— Паслухайце цяпер, я прашу! — замаліўся Вінярскі, жадаючы толькі аднаго: каб не ў гэтую вось хвіліну, яго павялі праз увесь калідор. — Так, учора Іван Змітравіч расказваў мне пра нейкія грошы!.. Але я не слухаў яго, ніколі не слухаю, я не зразумеў нічога!..

— Ну? — суха сказаў капітан.

— Але чаму вы не пытаецеся, адкуль у такога чалавека такая сума? Паглядзіце на яго! Чаму вы яму верыце на слова?

— Ай-яй, што ж я нарабіў... — казаў Стэльмах, закрываючы далонямі вочы і нахіляючыся разам з крэслам наперад, нібы вось-вось збіраўся ўпасці.

— Таварыш палкоўнік, я прыпамінаю — учора Стэльмах казаў, што гатоў пайсці на любую подласць — украсці, абрабаваць — каб толькі зарабіць грошы!.. Было такое, Іван Змітравіч?

— Ай-я-яй... — казаў Стэльмах.

— Таварыш следчы — гэта звычайная правакацыя! — горача даказваў Вінярскі. У ім загарэлася надзея. — Выдумаць міфічную гісторыю пра даляры, падстроіць іхні крадзеж, зваліць на таго, каму гісторыя была расказана...

— Хадзем, хадзем, — сказаў капітан, гледзячы на гадзіннік.

Міліцыянер ступіў да Вінярскага.

— Але я не краў нічога!.. Іван Змітравіч, прызнайцеся хоць вы, скажыце, што ніякіх грошай не было!..

— Што ж я нарабіў... — як заведзены, паўтараў Стэль-мах.

— Тады забірайце і яго! — крычаў ужо абы-што Вінярскі: нашто яму трэба было, каб забіралі і Стэльмаха?

Вінярскі з усіх сіл ірвануўся з наручнікаў, якія невядома адкуль узяліся на яго руках, і прачнуўся — ён спаў апрануты, у крэсле, галавою на часопісным століку. Шыя і рукі пазацякалі і балелі.

Прачнуўшыся, яму захацелася прачнуцца яшчэ раз, каб і цяперашняе аказалася толькі страшным сном. Але зразумела было — усё, больш прачынацца няма куды.

Была гадзіна ночы. Сон не прынёс палёгкі, мепрабамат не зменшыў страх. Усё яго наркатычнае дзеянне пайшло на тое, каб у сне змадэляваць рэальную сітуацыю, якую перад гэтым абдумваў Вінярскім на яве. Наперадзе была цэлая ноч — са сваімі секундамі, хвілінамі і гадзінамі.

## VI

Вінярскі выцягнуў «дыпламат», глядзеў на яго, гладзіў прабіты бок, і слёзы цяклі ў яго па шчоках. Потым апрануў плашч, не забыў парасон, ціхенька выслізнуў з кватэры, прытрымаўшы замок, і подбегам кінуўся з двароў на вуліцу, да запраўкі. «Дыпламат» ён захапіў з сабою.

Таксіст, нахабны, як і ўсе яны начным часам, назваў проста неверагодна вялікую суму. Вінярскі моўчкі адлічыў грошы і адразу расплаціўся.

Толькі б ніхто не заўважыў! Толькі б не прыйшоў у клініку сённяшнім вечарам Стэльмах! Цяпер Вінярскі добра разумеў, што адзіны яго ратунак, калі нікога няма, — паставіць назад «дыпламат», выправіць шпінгалеты, нават пераначаваць у кабінеце, на кушэтцы. А там, раніцаю, усё выдумаецца. Галоўнае, грошы будуць цэлыя. Няхай Стэльмах пра ўсё здагадаецца — ну і што? Сорам вочы не выесць. Затое ён, Вінярскі, зможа зноў жыць, як і жыў.

Ён стрымліваў сябе, прасіў сябе не расслабляцца раней часу — мала што там цяпер можа быць у кабінеце! — але ў душы ўсё расла, усё шырылася няўрымслівая радасць ад таго, што ўсё скончана. Яму не здавалася ўжо ні дурной, ні смешнаю сама сітуацыя: столькі сіл было патрачана, каб грошы ўкрасці, і ўсё для таго, каб усімі сіламі старацца вярнуць іх назад...

Каля бальніцы ён выскачыў з машыны і хутка пайшоў у двор. Падняў галаву, спатыкнуўся і не паверыў сваім вачам — здалося, што той жывы, страшны сваёй будзённасцю сон працягваецца. У кабінеце гарэла святло.

У нейкім атупенні ён стаяў, глядзеў на светлае акно, на клёны, кусты, якія холадна свяціліся сваімі зялёнымі лістамі ў святле бальнічных ліхтароў. Падумаў чамусьці: «А што, калі я зусім не грошы ўкраў, я ж не паглядзеў нават». Трэба было неяк канчаць усё гэта. Трэба было ісці здавацца. Як здавацца, што казаць? Што знайшоў «дыпламат» у двары? Усё — дурнота, глупства... Хто яму паверыць?

Ледзь перастаўляючы ногі, Вінярскі пацёгся назад, на вуліцу, падняўся на ганак галоўнага корпуса і пазваніў. Адразу ж за ледзь асветленымі шклянымі дзвярыма праплыла постаць вахцёркі.

— І вы прыехалі? — расчыніўшы дзверы і прапускаючы яго, сказала яна і ўздыхнула.

— Што значыць — і вы?.. А хто... яшчэ прыехаў? — прамармытаў Вінярскі, заходзячы ў вестыбюль і азіраючыся.

Вахцёрка замкнула дзверы, зайшла следам і стала перад ім, гледзячы знізу ўверх, сцягваючы на грудзях накінутую на плечы хустку, — маленькая і нязграбная, як чарапаха.

— Дык хто прыехаў? — стараючыся быць развязным, паўтарыў Вінярскі. — Міліцыя... ці хто?

— Пры чым тут міліцыя? Жонцы трэба званіць, — строга сказала вахцёрка.

— Чыёй?

— Стэльмахавай.

— А... што такое?

— Іван Змітравіч у рэанімацыі цяпер. З сэрцам кепска. Я думала, вы таму і прыехалі...

Не верачы раптоўнай здагадцы, ад якой перахапіла дыханне і застукала ў скронях, баючыся распытваць далей, Вінярскі як быў — з «дыпламатам» у руцэ — павярнуўся, каб бегчы ў свой корпус.

— У кабінеце схапіла, — сказала яму ў спіну вахцёрка. — Прыйшоў сюды гадзін у сем, такі рады — а чаго прыйшоў?..

Дзверы ў кабінет былі адчыненыя. У дзвярах Вінярскі сутыкнуўся з медсястрою — яна саступіла, прапускаючы яго. Ён, задыханы, спыніўся ў парозе, аббег вачыма кабінет, стараючыся за раз не прапусціць нічога, усё зразумець з гэтага агляду. Кушэтка стаяла пасярод кабінета; барадаты тэрапеўт з суседняга аддзялення ў кутку мыў рукі і нават не зірнуў на Вінярскага, затое Сцяпанаў, які сядзеў за сталом Стэльмаха і нешта напаўголаса гаварыў, убачыўшы Вінярскага, змоўк і ўтаропіўся ў яго. Акрамя гэтых двух і сястры, што выйшла, не было нікога. Моцна пахла спіртам.

— А дзе... — прамовіў Вінярскі, паказваючы на кушэтку.

Сцяпанаў страсянуў галавою і перастаў глядзець так дзіўна.

— У рэанімацыі, наверсе, — адказаў ён.

— Ёсць надзея?

— Мала. Доўга ляжаў тут, позна знайшлі... Інфаркт!

— Нічога дзіўнага, з такой камплекцыяй, — адазваўся тэрапеўт, павярнуўшыся і выціраючы рукі аб кішэні халата.

Вінярскі прайшоў да акна — палавінкі былі прачынены, як ён і пакідаў. «Бачыў хто, ці не, што шпінгалеты зламаныя?! Сказаць зараз пра гэта? Ці зрабіць выгляд, што нічога не заўважаю і проста хачу прычыніць акно?..» Ён узяўся за ручку.

— Не трэба, — пачуўся ззаду голас Сцяпанава. — Хай праветрыцца.

— Я падымуся наверх, — сказаў тэрапеўт, — пазваню, калі што.

Сцяпанаў правёў яго да парога і ў парозе зноў пагаварыў з ім пра нешта; калі тэрапеўт пайшоў, павярнуўся да Вінярскага:

— А ты як тут сярод ночы?

— Выпадкова ехаў на таксі, з Жанаю... Убачыў з вуліцы, што святло гарыць... Жана, сяброўка, жыве ў Вяснянцы, можаце праверыць...

— Па мне — хоць у Серабранцы! — усміхнуўся Сцяпанаў. — Я проста гляджу — ты з чамаданчыкам.

— А, гэта так, браў з сабою, — Вінярскі асцярожна паклаў «дыпламат» на стол дзіркаю ўніз. — Але як тут Стэльмах апынуўся? Уночы… У яго ж адпачынак з учарашняга дня.

— Мала што. Забыў нешта, прыйшоў забраць.

— А як яго знайшлі?

— З суседняга корпуса ўбачылі, што святло гарыць.

— Адтуль жа не відаць нашага акна.

Вінярскі ведаў, што так гаварыць нельга, але спыніцца не мог.

Ізноў здзівіўся Сцяпанаў:

— Удзень, можа, і не відаць, а ўночы ўсё тут свеціцца… Ды і бачылі яго. Зайшоў — і няма, і няма.

— Ён… — Вінярскі сабраўся з духам, — нічога не казаў?

— Якое казаў. Сіні ўвесь. Вось страшная, дурная смерць — доктара ў бальніцы!

— Ды якая смерць? Нічога невядома яшчэ! Пакуль у рэанімацыі — нічога яшчэ невядома!

Сцяпанаў памаўчаў, сказаў:

— Я ў сябе буду, — і пайшоў.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Вінярскі зноў, на гэты раз добра, уважліва агледзеў кабінет. Дзверцы антрэсоляў у шафе былі зачынены, крэсла каля шафы не стаяла. Але гэтага не магло быць! Ну, няхай крэсла ў мітусні, у беганіне маглі адсунуць, але каму трэба было зачыняць дзверцы, да якіх не дацягнуцца з падлогі рукою нават высокаму чалавеку?! Няўжо…

Вінярскаму ўявілася, як прыходзіць шчаслівы Іван Змітравіч, блізарукі, нават не заўважае, што з акном нешта не тое, становіцца на крэсла, корпаецца пад папкамі… Пуста! Яму робіцца блага. Ён злазіць ці мо нават падае з крэсла… Не, не падае! У тым і справа, што ён адразу здагадаўся, хто злодзей! І, не жадаючы «падстаўляць» яго, злодзея Вінярскага, зачыняе дзверцы, знаходзіць сілы злезці, адсунуць ад шафы крэсла і толькі тады валіцца на кушэтку… Калі б ён пакінуў расчыненымі дзверцы ды крэсла каля шафы — маглі б западозрыць, што яму стала кепска пасля таго, як ён нешта ўбачыў — там, у шафе… Ці павінен быў убачыць і не ўбачыў… Пачаліся б разборкі, і рана ці позна выйшлі б на Вінярскага…

Выходзіла, што стары доктар свядома, смерцю сваёй ратаваў Вінярскаму жыццё.

«Ды што за смерцю?! — жахнуўся раптам Вінярскі. — А калі выжыве?! А калі нават памрэ, перад тым, як памерці, тысячу разоў усё расказаць можа!»

Ён сяк-так паправіў шпінгалеты, закрыў акно — хоць у вочы не так кідаецца, схапіў невядома чаму «дыпламат» і пабег да Сцяпанава.

Калі ён зайшоў, Сцяпанаў клаў на апарат тэлефонную трубку. Вінярскі глянуў яму ў вочы і ўсё зразумеў.

— Трэба жонцы званіць... — ціха сказаў Сцяпанаў.

Вінярскі прысеў на крэсла каля парога. У сківах у яго тахкала: «Гэта я — забойца, я — забойца, я — забойца...»

VII

Дождж на пахаванні — заўсёды натуральна; прырода нібы сама смуткуе па нябожчыку, плача, шкадуе яго... Рэдкі дождж, нізкія цёмныя хмары, крыжы, помнікі, пах сырой магілкавай цвілі, высокія, мокрыя, строгія дрэвы, кроны якіх абляпілі чорныя вароны і зрэдку крычаць, у тон ціхаму галашэнню... Усё гэта так падыходзіць да настрою людзей, што сабраліся разам, кінуўшы ўсе справы, на самую важную ў жыцці, самую страшную цырымонію — назаўсёды закапаць у зямлю аднаго з іх.

Зрэшты, людзей на пахаванне Стэльмаха прыйшло нямнога. Дождж, нібы разумеючы, што гэта на развітанне, шчодра крапіў труну, белы, мёртвы твар чалавека ў труне, церусіўся на жоўты, гліністы жвір каля ямкі, і жвір проста на вачах меншаў, асядаў і нібы сам прасіўся, каб яго хутчэй вярнулі дамоў — ссунулі назад у яму. Стоячы вакол ямы, людзі пераміналіся, пацепвалі плячыма, крадком пазіралі на нізкае неба, на гадзіннікі, перашэптваліся.

— Якое дажджлівае лета...

— Труну, хоць труну трэба было ўзяць пад плёнку...

— Яму ўжо ўсё роўна...

— Не разумею, чаму нельга раскрыць парасон?..

На пахаванні розныя прыкметы, розныя рытуальныя дзеянні набываюць асаблівае значэнне — нават самы зацяты які-небудзь нявернік міжволі пачынае сачыць за сабою і за іншымі і рабіць тое, што ўсе. Сапраўды, ніхто не раскрываў парасон, хоць наўрад ці хто ведаў, можна гэта ці не. Быццам нейкая ланцуговая рэакцыя ўзнікла паміж людзьмі, і адзін глядзеў на другога, і кожны баяўся першы зрабіць нешта будзённае, жыццёвае, што магло б парушыць цырымонію. Ніхто не курыў.

Вінярскі стаяў па другі ад труны бок ямы, утуліўшы галаву ў плечы, схаваўшы рукі ў кішэні курткі, пад густой акацыяй, з якой яшчэ больш, чым з неба, капала, і, як і ўсе, не раскрываў парасон,

хацеў курыць, але не асмельваўся. Ён толькі ў думках хваліў сябе, што, збіраючыся сюды, у апошні момант замест свайго заўсёднага белага плашча надзеў шырокую скураную куртку. Цяпер было і цяплей, і куртка была чорна-шэрая — не белы ж плашч на пахаванне! — а самае галоўнае, куртка была прасторная і ўнізе, на поясе, сцягвалася, таму пакунка з грашыма, што ляжаў за пазухай, зусім не было відаць. І рукі былі вольныя.

Вінярскі слухаў перашэптванні за спіною, не зводзіў вачэй з жанчыны ў чорным, што стаяла каля труны, і, як і ўсе, жадаў, каб гэта хутчэй скончылася. Тады ён падыдзе да жанчыны... Але пакуль трэба чакаць.

Так атрымалася, што Вінярскі, дажыўшы да дваццаці васьмі гадоў, ні разу не бачыў сапраўднага, «жывога» пахавання. Гэты працэс ён уяўляў сабе з кніг альбо з фільмаў, часцей за ўсё з кінакамедый, дзе вывальвалася з рук труна, разбівалася і аказвалася, што ў труне быў не нябожчык; альбо п’яныя музыкі замест жалобнага пачыналі раптам іграць вясёлы марш; альбо ў апошні момант высвятлялася, што хаваюць не таго, па кім плачуць удава і дзеці... Ён чамусьці нават не верыў, што ў сапраўдным жыцці каля труны бываюць прамовы з банальнымі словамі: «Вось і пайшоў ад нас...», галашэнні і развітанні, калі блізкія, перад тым як закрыць века, нагінаюцца і цалуюць нябожчыка ў лоб... Яму здавалася, што ўсё гэта адбываецца неяк прасцей, хутчэй, проста пастаяць трохі людзі каля труны, памаўчаць, закапаюць яе і разыдуцца.

Але была і прамова — Сцяпанаў, трымаючы ў руцэ мокры капялюш і гледзячы чамусьці не на нябожчыка, а ў яму, доўга гаварыў, што «коллектив клиники скорбит... и от лица всех тех, которых вернул к нормальной жизни Иван Дмитриевич...»; было развітанне — і ўдава, укленчыўшы над труною, доўга галасіла і не хацела ўставаць, і яшчэ людзі падыходзілі і схіляліся над тварам і складзенымі рукамі нябожчыка; і падобная на чарапаху вахцёрка, якая адчыняла Вінярскаму дзверы клінікі ў той вечар, гучна сказала: «Дай Бог кожнаму так жыць і так памерці!..»

Раптам Вінярскі насцярожыўся. Да труны ступіла маладая дзяўчына, таксама, як і ўдава, уся ў чорным, падобная на манашку з фільмаў, апусцілася на адно калена і ўпала тварам на нябожчыка, абхапіла рукамі труну, быццам хацела адцягнуць яе ад краю ямы... У той жа момант з натоўпу вылучыўся малады чалавек, падышоў да дзяўчыны, абняў за плечы, ледзь не сілаю адарваў ад труны і адвёў убок. «Тая самая, Міла», — падумаў Вінярскі, чамусьці злуючы на сябе, што так і не паспеў разгледзець дзяўчыну ў твар. Затое хлопца ён

разгледзеў добра. Хлопец быў высокі, з белымі доўгімі валасамі, якія, мокрыя, скручаныя, віселі ледзь не да плячэй і нагадвалі знарок завітыя буклі; ён быў у светлым касцюме, у стракатым гальштуку і, як для пахавання, выгляд меў даволі франтавы. Вінярскаму хлопец падаўся ганарыстым і самаўпэўненым. «А гэта жаніх, той самы, Васіль, паэт... Усё, я ўспомніў яго!»

Апошняю развітвалася дзяўчынка гадоў чатырнаццаці, у накінутай на плечы хустцы. «Міла, старэйшая мая, — прыгадаліся Вінярскаму словы Стэльмаха. — А гэта, значыць, меншая». Ён адступіў трохі ўбок, каб лепш разгледзець дзяўчынку, і незнарок стукнуўся аб акацыю. Халодныя кроплі пасыпаліся на галаву, за каўнер, і Вінярскі здрыгануўся — але невядома ад чаго: ад кропель ці ад таго, што ўбачыў твар дзяўчынкі. Абрамлены чорнай хусткай, белы тварык яе быў прыгожы да ненатуральнасці, як у анёлаў на маляваных абразках. «Хацеў бы я паглядзець, хто ён, каму такія жонкі дастаюцца», — падумаў Вінярскі і зараз жа зноў падумаў, што і старэйшая, Міла, відаць, такая ж, калі не большая, красуня, а дастаецца яна ў жонкі вось гэтаму, бяляваму. Так што глядзі, каму такія дастаюцца...

Між тым малады чалавек і дзяўчынку прыабняў за плечы і адвёў убок, да маці з сястрою. Было відаць, што ён у гэтай сям'і чалавек свой. Паводзіўся ён смела, упэўнена, увогуле было адчуванне, што ён на гэтым пахаванні — галоўны, адзін ведае, як, што і калі трэба рабіць. Вось ён шапнуў штосьці ўдаве, і тая закрыла твар рукамі, потым падышоў і шапнуў штосьці Сцяпанаву. Сцяпанаў махнуў рукою — і каля труны аднекуль з'явіліся рабочыя ў спяцоўках, хуценька наклалі века, застукалі малаткамі... Ударыў бубен, зазвінелі адна аб адну талеркі, і першы рэзкі гук трубы разарваў мокрую прыціхласць, ірвануўся некуды праз дождж, вышэй дрэў, вышэй хмар, некуды аж у неба...

Вінярскі, убачыўшы, што ўдава не глядзіць, як закопваюць, а стаіць адна, абапёршыся на агароджу чужой магілкі, пачаў асцярожна прабірацца туды. Раптам яму здалося, што нехта паклікаў яго: «Вінярскі, чакай!» Ён азірнуўся — нікога, але пакуль разглядаўся, удавы каля агароджы ўжо не было. Вінярскі, аднак, выйшаў на тое месца, пачаў абціраць аб траву каля агароджы чаравікі, запэцканыя ў гліну.

— Можна... вас?

Перад ім стаяла ўдава і працягвала руку, нібы хацела схапіць яго за куртку і не адважвалася.

— Я назірала за вамі... мне трэба пагаварыць... — Яна дастала з рукава насоўку і доўга смаркалася, але калі зноў загаварыла, голас быў такі ж прастуджаны. — Мне сказалі, вы працавалі з маім мужам?

— Так, — адказаў Вінярскі і, не вымаючы рук з кішэняў, правай прыціснуў да жывата пакунак.

— Я хачу вас папрасіць... Я вельмі прашу вас!.. — Яна зноў пачала смаркацца, заплакала, выціраючы насоўкай слёзы.

— Я вас слухаю, супакойцеся.

— Можа, вам Ваня нешта паспеў сказаць перад смерцю?

— Супакойцеся, я вас слухаю, — другі раз прамармытаў Вінярскі, быццам перад ім была адна з ягоных пацыентак. — Мне шкада вашага мужа... Я разумею вас, спачуваю, але мы... не былі сябрамі з Іванам Змітравічам... Так выйшла. У яго былі свае праблемы, у мяне — свае... Мы мала гаварылі.

— Ён так цёпла згадваў вас!

Вінярскі пацінуў плячыма, паказваючы, што і рад бы, ды памагчы не можа, і павярнуўся, каб ісці. Удава забегла наперад, схапіла яго за рукаў і нагнула блізка да свайго твару.

— Я прашу вас, малю на каленях!.. У Вані былі грошы, многа грошай!.. Ён не мог памерці, нікому не сказаўшы, дзе яны! Я абшукала кожны куточак вашага кабінета... Вы ведаеце, дзе грошы — я бачу па вас!..

На секунду Вінярскі нібы акамянеў. Нейкі голас крычаў у ім: «Аддай! Зараз жа дастань пакунак і аддай, ты ж і ўзяў яго сюды знарок, каб аддаць!» Другі голас ціха, але неяк і больш уладна шаптаў: «Аддаць?! Як? Вось тут, пры ўсіх, дастаць і аддаць? Вар’яцтва! Першае ж пытанне — адкуль у мяне гэтыя грошы? Адкуль у цябе грошы чалавека, які вунь ляжыць у зямлі, мёртвы? Ці не звязаны ты з яго смерцю? І ці ўсе тут грошы? Можа, аддаеш толькі частку? Адчэпнага?..»

За апошнія два дні — пасля смерці Івана Змітравіча — Вінярскі змяніўся моцна. Два дні і дзве бяссонныя ночы вымучылі яго. Гэта быў ужо не той Вінярскі — упэўнены ў сабе эгаіст, які ганарыцца сваім эгаізмам і ставіць яго вышэй за ўсё на свеце. Атручаны мепрабаматам, аслаблены бяссонніцай, яго мозг ужо не мог працаваць, як раней, лагічна. Вінярскі даходзіў да таго, што пераставаў пазнаваць самога сябе, не ведаў, што яму хочацца, што ён можа зрабіць праз хвіліну, не кажучы пра больш аддаленыя планы. Былі моманты, калі ён, бяссоннай ноччу седзячы ў крэсле, казаў сабе: «Зараз пайду пап’ю вады», — уставаў, ішоў на кухню, але замест вады даставаў з халадзільніка кавалак сыру і еў яго. Ад таго, што ён

перастаў пазнаваць сябе, Вінярскаму было страшна, але найбольшы страх узнікаў тады, калі ён набліжаўся да «дыпламата» з грашыма альбо калі нават проста думаў пра гэтыя даляры Стэльмаха, калі пачынаў прыкідваць, што з імі рабіць, як лепш імі распарадзіцца. Ён разрэзаў нажоўкаю «дыпламат» на часткі, выкінуў, — але нічога не змянілася, да пакунка з далярамі гэтак сама страшна было набліжацца і страшна было думаць пра іх. Мала-памалу ў ім выспела рашэнне — рашэнне бязглуздае: ад грошай трэба пазбавіцца.

Калі б яму тыдзень назад хтосьці сказаў, што ў яго будуць пачкі даляраў, а ён не знацьме, што з імі рабіць, будзе шукаць спосабу пазбавіцца ад іх — Вінярскі параіў бы такому «прароку» пайсці палячыцца. Але чалавек часта не ведае самога сябе. І выходзіла: як раней Вінярскаму было зразумела, што для таго, каб жыць, трэба любымі сродкамі здабываць больш грошай, так і цяпер ён яшчэ больш зразумеў — для таго, каб не звар’яцець, трэба пазбавіцца ад іх. І калі сёння пад раніцу ён зразумеў гэта, яму ўпершыню за гэтыя двое сутак стала лёгка, як некалі ў дзяцінстве, і слёзы радасці пацяклі па шчоках. Хай слабасць, бесхарактарнасць, труслівасць — жыццё даражэй. Усё навідавоку. Грошы ёсць, ляжаць — яны страшныя, жыцця няма. Падумаеш, як вяртаеш іх, выкідваеш, пазбаўляешся неяк ад іх — ёсць жыццё, ёсць ранейшы, дужы, ганарысты, упэўнены ў сабе Яўген Вінярскі.

І вось удава стаяла перад ім, і вочы яе малілі, крычалі, прасілі... Аддаць! Але як аддаць?..

Усё гэта, пакуль скамянелы Вінярскі стаяў і спалохана, зверху ўніз, глядзеў на жанчыну, на яе стаптаныя, у гліне, суконныя боцікі, пранеслася ў ім за лічаныя секунды.

— Што вы?.. — вымучыў ён з сябе, тузаючы рукою, каб вызваліцца. — Што вы кажаце? Першы раз чую... Мне трэба ісці, прабачце!..

Удава адпусціла рукаў.

— Калі так, — зусім іншым голасам сказала яна, — тады будзем спрабаваць інакш!

І яшчэ нешта казала ўслед, але Вінярскі ўжо не чуў; праклінаючы сябе, ён хутка, не азірнуўшыся, пайшоў па цэнтральнай дарожцы да выхаду з могілак. На вуліцы ён прыхінуўся спіною да мокрага бетоннага слупа, доўга прыкурваў адсырэлую цыгарэту — трэба ж было яшчэ локцем прытрымліваць пакунак за пазухай... «Зараз я яго выкіну! Вось сюды, у гэтую урну каля варот!» Поўны рашучасці, ён сунуўся да сметніцы, як раптам убачыў, што па

дарожцы да выхаду ідзе той самы малады чалавек у светлым касцюме, з белымі валасамі-буклямі, які быў галоўны на пахаванні.

— Што ж ты ўцёк, Вінярскі? — вельмі развязна, на беларускай мове, сказаў малады чалавек, падыходзячы. — Я ж табе казаў — пачакай. Дай закурыць.

Вінярскі хуценька дастаў з кішэні цыгарэты, малады чалавек працягнуў руку і забраў увесь пачак.

— Калі просяць закурыць, ніколі не тыркайся, — павучальна сказаў ён, — не даставай па адной. У чужой кампаніі такія рэчы заўважаюцца. Дзякую... На! — ён закурыў і аддаў пачак.

Тут Вінярскі зусім усё ўспомніў. Недзе год назад, сапраўды, гэты белы ляжаў у чацвёртай палаце, — здаецца, п'яны ўпаў з балкона, зламаў нагу... Тое, што п'яны, добра помніў Вінярскі, бо былі нейкія замарочкі з выпіскай бальнічнай даведкі. Дык вось якога жаніха для сваёй дачкі знайшоў Стэльмах!..

Вінярскі глянуў на яго больш уважліва і зразумеў ці не галоўную прычыну яго развязнасці — той і цяпер быў яўна на падпітку.

— Вінярскі, ты... — звузіўшы бровы, п'янаватымі сінімі вачыма (у бялявых заўсёды сінія альбо блакітныя вочы) зіркнуў на Вінярскага хлопец, хацеў штосьці сказаць, але не сказаў, толькі раптам ні з таго ні з сяго панібрацкі ляпнуў Вінярскага па плячы: — Добра, потым... Ты ж не йдзеш на памінкі?

Іншым разам Вінярскі анямеў бы ад такой фамільярнасці. Але цяпер не звярнуў ніякай увагі. Хлопец быў гадоў на пяць маладзейшы за яго, але, невядома чаму, Вінярскаму хацелася слухацца яго і падпарадкоўвацца яму, як старэйшаму.

— Не, не йду. А... ты?

— Ты ж бачыш... — І бялявы шчоўкнуў сабе па шыі і крутнуў указальным пальцам каля скроні, што, відаць, абазначала: п'яны — дурны. — Раз мы абодва не йдзем, паехалі, Вінярскі, са мною.

— Куды? — «Удава навяла, сказала, што грошы ў мяне. Што ж, так, можа, і лепш. Аддам, і ўсё», — вырашыў Вінярскі. — Можна і тут разабрацца, — сказаў ён, хоць хлопец пакуль і не прапаноўваў яму ніякіх разборак.

— Паехалі, не бойся. Тут недалёка. Я проста хачу з табою выпіць і пагаварыць.

— Паехалі дык паехалі...

У аўтобусе, што вёз іх у цэнтр, Вінярскаму было ніякавата. Ён пабойваўся, што ў аўтобусе бялявы будзе гучна гаварыць сваёй беларускай моваю, з п'янаватай смеласцю, і на іх пачнуць азірацца.

Усё амаль так і выйшла. Праўда, хлопец не гаварыў — ён спяваў. Глядзеў у акно, думаў пра сваё, потым даволі прыемным голасам, але гучна — так, што, сапраў-ды, людзі азіраліся, пачынаў:

Ці помніш ты, Жана, шчаслівы мамэнт...

Колькі хвілін маўчаў, і зноў:

Як граў раз у дудку нябожчык Вінцэнт...

І яшчэ праз колькі хвілін, думаючы пра сваё:

А Нёман спакойна, спакойна дрыжа-аў,
І месячык ясны на нас пазіраў.

Хвілін праз колькі ўсё паўтаралася. Ён і ў аўтобусе, як і на могілках, трымаў сябе свабодна, і, было відаць, што яму ўсё роўна — глядзяць на яго ці не.

Урэшце аўтобус спыніўся каля цырка; Вінярскі з хлопцам перабеглі на чырвонае святло праспект і пайшлі ўверх, да Дома афіцэраў. Не даходзячы да метро, бялявы павярнуў на прыступкі, што вялі да прыгожага невялікага доміка з вежай-шпілем над дахам па адзін бок і з купалам — па другі. Вінярскі, які ўвогуле ніколі не быў ахвотнікам цягацца па розных кавярнях і барах, не ведаў, што тут; думаў, калі глядзеў на гэты домік з акна тралейбуса, што гэта — нейкая старая царква, перарobленая, відаць, у музей.

— Гэта што: царква ці музей? — спытаў ён, калі бялявы ўжо браўся за ручку дзвярэй.

— «Мутнае вока», — коратка адказаў той.

Бялявы і ў гэтым «мутным воку», як і паўсюль, аказаўся чалавекам сваім. Пагаварыў з вахцёркаю, спытаў, ці працуе Тамара, куды знік нейкі Раман, урэшце кіўнуў Вінярскаму — пайшлі, туды, адкуль з-за дзвярэй чуўся гоман галасоў.

— Пачакай, — прытрымаў яго за руку Вінярскі. — Я доўга не буду. Можна тут... не скідаць куртку?

— Як хочаш. Табе ж горш— тут душна. А тое, што свіснуць могуць — дык гэта запраста...

У невялікай прадаўгаватай зале з маленькімі паўкруглымі акенцамі гарэла святло. Народу было шмат, некаторыя курылі, а гаварылі, здавалася, адразу ўсе, хто тут быў. Бялявы гаспадарскім вокам прабег па століках.

— Васіль! — пачуўся з кутка радасны, хрыплаваты голас. — Сюды!

З-за століка ў глухім кутку падняўся мужчына і шырока раскінуў рукі, нібы падрыхтаваўся для абдымкаў.

— А, Сымон, — сказаў бялявы, падышоў, але ў абдымкі не палез, проста падаў мужчыну руку.

Вінярскаму нічога не заставалася, як падысці і зрабіць тое ж самае. Мужчына, моцна сціскаючы яго пальцы, пільна і строга гледзячы яму прама ў вочы, робячы пасля кожнага слова паўзы, з паважнай урачыстасцю назваў сваё імя, імя па бацьку і прозвішча (Вінярскі запомніў толькі імя — Сымон; як і потым, згадваючы гэты дзіўны вечар, колькі ні сіліўся, так і не змог успомніць ні прозвішча, ні імя па бацьку гэтага чалавека).

Калі Вінярскі прамаўчаў, мужчына, усё не выпускаючы яго рукі, дадаў:

— Празаік, паэт, крытык. Магу эпіграмы і пародыі. Член Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.

— Не хваліся, — сказаў бялявы, які стаяў побач і пералічваў грошы.

Не дачакаўшыся ад Вінярскага ніякай рэакцыі, мужчына выпусціў яго змакрэлую далонь, сеў за столік і пакрыўджана сказаў:

— Магу паказаць пасведчанне.

— Я веру, што вы! — хуценька адказаў Вінярскі. Яму было няёмка ад таго, што ён не змог нечым дагадзіць чалавеку.

Бялявы пералічыў грошы, падняў вочы ў столь, падумаў і пабег да стойкі.

VIII

— З кім маю гонар сядзець за адным столікам? — з той жа строгай важнасцю, быццам кожнае яго слова мела надзвычайную вагу, спытаў мужчына, калі Вінярскі прысеў.

— З хірургам... Доктарам, — адказаў Вінярскі, здзіўлены і такім высокім стылем, ды і ўвогуле беларускай мовай, якую яму нязвыкла было чуць з вуснаў звычайных людзей. Ён спадцішка агледзеў мужчыну. Яшчэ з парога, калі мужчына паклікаў Васіля, ён падаўся Вінярскаму маладым — недзе сваім аднагодкам, ну, можа, гадоў пад трыццаць; цяпер ён бачыў, што мужчыну, бадай, удвая больш. На ім быў паношаны касцюмчык, кашуля ў блакітны гарошак, расшпіленая на два верхнія гузікі; і шыя, і худыя далоні з доўгімі пальцамі, у якіх Сымон круціў пустую шклянку, і круглы,

змаршчыністы, бы спечаны яблык, твар былі пакрыты цёмна-бурым загарам, быццам стары толькі што вярнуўся з паўднёвых пляжаў.

— Што ж, прыемна, калі і медыцына далучаецца да такой важнай справы, як культурны адпачынак, — пажартаваў Сымон і шчоўкнуў пальцам па вострым загарэлым кадыку — акурат як Васіль нядаўна, на могілках.

На стале стаяла пустая шклянка і ляжаў акрайчык хлеба, а на сурвэтцы — шчопаць солі. Сымон перахапіў позірк Вінярскага, уздыхнуў:

— Не ў пашане цяпер пісьменнікі... А калісь і я гудзеў. На адзін ганарар мог купіць паўмашыны або паўкватэры. А цяпер — паўшклянкі гэтай вось гадасці, — ён падманіў Вінярскага пальцам, і, калі той нагнуўся, прашаптаў яму ў вуха, дыхаючы гарэлкаю, паказваючы на бялявага, які каля стойкі гаварыў з барменам: — Васіль — во хто! Талент на мяжы з геніяльнасцю. Во хто верне нашай роднай літаратуры яе былую пашану і веліч! Я хоць намнога старэйшы, але я яму самы блізкі сябар...

Вінярскаму ўспомніўся нябожчык Стэльмах, які таксама яго, маладзейшага за сябе, лічыў самым блізкім сябрам, і на душы зрабілася неяк нудна, абыякава; захацелася хутчэй аддаць бяляваму гэтыя грошы і сысці адсюль...

Васіль між тым вярнуўся, паставіў на стол графін з гарэлкаю, талерку бутэрбродаў, пабег зноў, прынёс шклянкі, колу, мінералку... Стары хуценька ўхапіўся памагаць: разліў па шклянках гарэлку, расклаў перад кожным бутэрброд на сурвэтцы... Вочы ў яго адразу ж засвяціліся.

— Прапаную тост! — сказаў ён, высока падняўшы руку са шклянкаю, з захапленнем гледзячы на Васіля. — За будучы гонар нашай роднай літаратуры!..

— Перастань, — Васіль прафесійна выпіў, дастаў з пачкі цыгарэту і закурыў; цыгарэты навучаны Вінярскі адразу ж, як сеў, выклаў перад сабою на стол.

— Сціпласць — адзнака таленту, — сказаў стары, выцадзіў сваю порцыю паволі, урачыста; тады скалануўся ўвесь, уздыхнуў, узяў з бутэр-брода кавалачак салёнага агурка і з асалодай пачаў жаваць. Закусіўшы, звярнуўся зноў да Васіля:

— Як твая другая кніжка?

Бялявы скрывіўся і пацягнуў бокам рота паветра, быццам яму балеў зуб. Відаць, стары закрануў штосьці не вельмі прыемнае, але важнае для іх. Дакурыўшы, Васіль прытушыў аб сподак недакурак і пачаў гаварыць старому — хутка, так, што Вінярскі не разбіраў і

палавіны слоў — нешта пра паперу, мільёны, тыражы… Стары з усім згаджаўся.

Вінярскі глядзеў на іх і слухаў, ледзь не раскрыўшы рот. Гарэлка адразу расслабіла яго, усё вакол успрымалася як нейкая нерэальнасць; вельмі ўжо хутка і нечакана ён патрапіў з карабля на баль — з могілак у гэтае кафэ, у кампанію дзіўных людзей, якія — Вінярскі ўпершыню ў жыцці сутыкаўся з гэтым — і ў побыце, і ў час выпіўкі, і, відаць, паўсюль і заўсёды гаварылі па-беларуску. На яго вялікае здзіўленне, гэтая мова і людзі, што на ёй размаўлялі, нiколькі не раздражнялі яго. Ён прыслухоўваўся да свайго ўнутранага голасу, звыкла чакаў, калі голас скажа яму, што гэтыя людзі — «ніжэйшая раса», такія ж, як і любыя п’яніцы, і імі трэба пагарджаць; але нечакана голас сказаў яму, што людзі гэтыя — на дзесяць галоў вышэйшыя за яго, супермэна, чыстаплюя Вінярскага, што ёсць у іх за душою нешта такое, пра што Вінярскаму і не здагадацца, каля чаго ён не стаяў і блізка, і не пагарджаць яму імі трэба, а, самае разумнае, рабіць тое, што ён і робіць: слухаць, раскрыўшы рот, і старацца нешта зразумець.

Васіль з Сымонам замаўчалі. Яшчэ выпілі. Вінярскаму яшчэ больш паспакайнела.

— Васіль, а дзе можна прачытаць твае… праізведзенія? — упершыню ў жыцці па-беларуску, з натугай падбіраючы словы, спытаў Вінярскі. Ён не пазнаў свайго голасу — быццам нехта чужы спытаўся.

— Зайдзі ў любую кнігарню, стаіць кніжка, — неахвотна адказаў Васіль.

Сымон хіхікнуў, але ў той жа момант сагнаў усмешку, сказаў з прытворным жалем, уздыхнуўшы:

— Народ не цэніць сваіх прарокаў. Мала купляецца беларускіх кніжак!

— Дык ты ўспомніў мяне? — павярнуўся Васіль да Вінярскага, гледзячы на яго сваімі дзявоча-сінімі п’янаватымі вачыма; цяпер валасы ў яго абсохлі і ўжо не былі падобныя на буклі, а ляжалі акуратнай «футбольнай» прычоскай, зачэсаныя з ілба назад і з бакоў і з патыліцы падрэзаныя роўным «гаршком».

Вінярскі кіўнуў; ён адчуў, што зараз пачнецца тое, для чаго бялявы яго сюды і прывёў.

Сымон, відаць, ад таго, што так захацелася Васілю, таксама адразу ж пераключыўся на Вінярскага.

— Сябра твой, Васіль? — спытаў ён тым строгім, спаважным голасам, якім чамусьці лічыў патрэбным гаварыць кожны раз, калі звяртаўся да Вінярскага.

— Сябра. Блізкі. А ведаеш, Сымон, як мы пасябравалі? (Далей бялявы расказваў толькі Сымону і знарок ні разу не глянуў на Вінярскага.) Год назад, Сымон, у Мінску быў май месяц. Уяві сабе ціхі, цёплы, густы вечар канца мая, «шарую гадзіну», як піша Адамчык, зялёнае Завакзалле, бэз цвіце, і грушы, і вішні, уяві маладога чалавека, які нядаўна здаў апошні экзамен універсітэта, знайшоў сабе працу карэктара ў газеце, што давала яму магчымасць застацца ў любімым горадзе, наняў танна пакойчык у адной з хат у тым самым Завакзаллі... Акно нізкае, адчыняецца ў агарод, з агарода пахне расою, травой, бэзам, верабей у кусце бэзу шчабеча, жаба скача ў роснай траве пад самым акном... Столік, на якім стос белых, чыстых аркушыкаў, аловак, пачак цыгарэт; а за акном, за агародам, недзе далёка ў горадзе, у адным з інтэрнатаў чакае дзяўчынка-першакурсніца... Карацей, я палез, сарваўся з балкона і зламаў нагу. Апамятаўся толькі ў машыне, што везла мяне вось да іх, да гэтага Вінярскага... Да ночы праляжаў у прыёмным пакоі — то не маглі знайсці рэнтгенолага, то не было каму накласці гіпс, — але ўрэшце сяк-так наклалі, прывезлі ў палату, скінулі, як калоду, на ложак. І дзверы зачыніліся. Ні ўколу, ні таблеткі, і каго зваць, каго прасіць?.. Боль люты, вачэй не самкнуў да самай раніцы, трэсла ўсяго, як малярыйнага. Пад раніцу прачынаецца палата, — акрамя мяне, яшчэ сем чалавек, хто на выцяжках, хто трохі з мыліцамі соўгаецца. У палаце смурод, бруд, усе кураць. Заходзіць санітарка — маленькая, неахайная жанчынка гадоў пад семдзесят (пасля даведаўся, што ёй трыццаць), вітаецца: «Што, забулдыгі, прачнуліся?» Ёй адказваюць радасна: «Ага! Прынесла?» Прынесла. Літровую пляшку спірту. Тут жа адзін устае, клыпае да ўмывальніка, з-пад крана разбаўляе спірт, тут жа разам з санітаркаю пахмяляюцца, падносяць тым, хто ляжыць... Закурваюць і сядаюць гуляць у карты. Карты ляпаюць, спірт булькае, дым плыве, рогат стаіць — а я ляжу, галаву пад падушку. Перад абходам трохі прыбраліся, выкінулі «бычкі», схавалі шклянкі, леглі ў ложкі. Заходзіць вось гэты, з касічкаю, Вінярскі. Моўчкі запісвае нешта ў сшытак і паварочваецца ісці. Крычу ўслед: «Доктар, колькі мне ляжаць?!» — «Сколько нужно». Я рвуся, ледзь не падаю з ложка, каб хоць на секунду затрымаць: «Я не спаў ноч, дайце, калі ласка, укол!..» — «Папрасіце сястру». Дзе яна, тая сястра, хоць бы пабачыць яе!.. Не столькі хачу ўколу, колькі таго, каб чалавек з касічкаю хоць на міг прысеў побач, зразумеў, што яшчэ ўчора быў вечар і бэз пад

акном, стос белых лістоў і пахі расы — а сёння смурод ад невынесеных суднаў, страшная санітарка, спірт... Толькі б гэта неяк зразумеў чалавек у белым халаце і сказаў бы пару слоў: «Усё мінецца, праз дзень, ці праз тыдзень, ці праз месяц зноў будзе ў цябе і вечар, і бэз пад акном...» Але не прысеў, не сказаў — і след прастыў чалавека ў белым халаце, з касічкаю... Ажыўляецца палата. Скідваюць грошы. З'яўляецца санітарка: «Вот, б..., мая любімая палата!» Абед — і разводзіцца спірт пад кранам, карты, цыгарэты... Увечары ўпершыню ўбачыў сястру, прыйшла рабіць мне ўкол — злая, хамка, як і ўсе яны ў той клініцы; буркнула: «Больше уколов не будет» — «А як быць, я спаць не магу...» — «Ну и что?! Пусть родственники приносят уколы!» — «Скажыце, а хто можа судна вынесці?» — «У нас санитарок не хватает, приходят родственники и выносят!» І каму сказаць, што дзе ўзяць гэтых «родственников», калі іх проста няма ў Мінску?.. Толькі прыплюснуў вочы, задрамаў на міг — бух! праляцела мыліца, стукнула ў сцяну над галавою... Крыкнуў голас: «Нож, нож схавай...» — валтузня, крыкі... Нечага не падзялілі карцёжнікі. Але вось супакоіліся, памірыліся, заспявалі песню. Нехта ўпаў — загрымелі мыліцы... Другая бяссонная ноч. Другая раніца — з санітаркаю, пахмелкай спіртам, другі абход, Вінярскі — з касічкаю, у бялюткім халаце, чаравікі блішчаць, малады, свежы, недаступны... Ізноў ледзь не кідаюся з ложка, бо ізноў Вінярскі, ледзь спатыкнуўшыся на парог, паварочваецца сыходзіць, — прашу: «Доктар, пазваніце на працу, скажыце там, дзе я!» Просьба разбіваецца аб зачыненыя дзверы... Мною пачынаюць цікавіцца: чаму з імі не п'ю? Падсаджваецца да мяне на ложак сусед — былы зэк, цяпер бомж, ляжыць тут паўгода. Адседзеў пятнаццаць гадоў за згвалтаванне і забойства. Нажом забіў чалавека. Гэтая палата для яго, відаць, — камера, і ён тут — «пахан». Гэта на яго ўчора крычалі «схавай нож». Вось і нож, ляжыць зверху на тумбачцы. Шклянка разбаўленага спірту, прыкрытая лустачкай хлеба, стаіць побач, каля нажа. Жыві не хачу. «Будуць выпісваць, дык я сам сабе ўсе косці паламаю, — кажа мой сусед. — Начорта мне выпісвацца, што мне там, на вуліцы рабіць, зноў у турму сядаць?» Вечар, карты, санітарка прывяла сяброўку, ціскаюць іх, качаюць па ложку, перакулілі судна — смурод... Вінярскі, вось мы з табою сядзім, выпіваем, звычайныя, роўныя людзі. Вось цяпер скажы мне: няўжо табе цяжка было даць мне таблетку дымедролу? Пазваніць да мяне на працу? Няўжо гэта так цяжка?

Вінярскі маўчаў, сядзеў як аглушаны. Усё, што гаварыў бялявы, была праўда, але Вінярскі не чакаў, што гэтую праўду можна так падаць.

— Прабач, Васіль!.. — ледзь выціснуў ён з сябе.

— Ды што — я адходлівы. Усё перакіпела. А тады ратаваўся тым, што ляжаў і ўяўляў, як забіваю цябе, таплю ў прыбіральні, цаглінаю перабіваю табе нагу і кладу на сваё месца... Трохі памагала. Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, — пасля трох бяссонных начэй я быў на мяжы вар'яцтва (Вінярскі ўспомніў пра свае бяссонныя ночы і ўздрыгнуў) — калі б, на маё шчасце, не вярнуўся з адпачынку Стэльмах. Што ён убачыў у маіх вачах — не ведаю, бо я не казаў ані слова, ляжаў, да ўсяго атупелы, але мяне раптам перавялі ў палату на два месцы, прыбегла сястра, зрабіла ўкол, я праспаў цэлыя суткі, а тады, пад вечар, прыехалі хлопцы таксоўкаю і завезлі мяне дамоў. Гэта Стэльмах глянуў на запіс, зроблены ў прыёмным пакоі, даведаўся тэлефон рэдакцыі і пазваніў. Усяго толькі, Вінярскі, усе праблемы... Дома, я помню, хадзіць не мог, поўзаў па падлозе, як дзіця, але ніколі ў жыцці, здаецца, не быў больш шчаслівы, чым калі вырваўся ад вас.

— Скажы, Вінярскі, — зноў спытаў Васіль, — дык якія павінны быць дактары? Ды які б я ні быў: п'яны, дурны, несімпатычны табе — я ж перш за ўсё хворы, бездапаможны, аддаюся пад тваю ўладу! Ты ж даваў нейкую клятву Гіпакрата! Ды хоць зірні ты інакш, скажы хоць адно добрае слова, абнадзей — гэта будзе ў сто разоў лепш за любыя лекі. Я магу зразумець жорсткасць наглядчыкаў у турме, але жорсткасць, нелюдзімасць урачоў — вышэй усялякага разумення. Вашая клініка — гэта ж зона, турма, у якой няшчасныя людзі мучаюцца, самі не ведаючы за што, а вы — наглядчыкі — спакойна ходзіце па вуліцах, глядзіце тэлевізары, спакойна ядзіце, п'яце...

— Прабач, — паўтарыў Вінярскі, не падымаючы вачэй.

— Што ты апраўдваешся? Я ж сказаў, перакіпела. Я вось сяджу, выпіваю з табою, а сотні выпісаных з вашай клінікі так ніколі і не сустрэнуцца з Вінярскім, і не скажуць яму, што хацелі б сказаць, — як і тыя, што ляжаць у вас цяпер, на якіх ты ўвагі не звяртаеш...

Васіль памаўчаў, разліў па шклянках рэштку гарэлкі:

— Прапаную выпіць за светлую памяць Івана Змітравіча Стэльмаха. Якога толькі што пахавалі, — сказаў ён, гледзячы ў стол, ці то Сымону, ці то проста так, сам сабе.Усе ўтрох усталі і выпілі.

«ЁН не ведае! Нічога не ведае пра грошы! — падумаў Вінярскі. — Ён зацягнуў мяне сюды, толькі каб выгаварыцца!»

IX

— Жывым трэба думаць пра жывое, — уздыхнуў Сымон і паглядзеў на пусты графін.

Пасядзелі моўчкі — так заўсёды бывае, калі канчаецца першая пляшка і не клеіцца размова, але здаецца, што далёка не ўсё яшчэ сказана.

— Што ж, Васіль, паставіш другую? — нібы жартуючы, спытаўся стары.

— Дасі грошы, дык пастаўлю. Прывык...

І без таго буры, загарэлы Сымонаў твар яшчэ больш пачырванеў. Стары падхапіўся і крыкнуў на ўсю кавярню:

— Сынок! Упікаць?! Мяне?! Ты што ж думаеш, напісаў пару бяздарных апавяданняў, якіх ніхто не чытаў — і стаў пісьменнікам?! Многа на сябе бярэш!..

Васіль, на здзіўленне Вінярскага, аніяк на гэта не адрэагаваў. Стары, нават не кіўнуўшы на развітанне, пайшоў да выхаду, але ў дзвярах спыніўся, пачаў аглядаць залю. Ад аднаго століка яго аклікнулі. Ён ахвотна пайшоў туды, і хутка адтуль чуўся яго хрыплаваты, пакрыўджаны голас — відаць, скардзіўся. Васіль паглядзеў на свой гадзіннік, сказаў:

— Пасядзі, я зараз.

Вінярскі бачыў, як ён перакінуўся словам з бармэнам, той адмоўна хіснуў галавою, паказаў на дзверы за стойкаю, куды і накіраваўся Васіль. Неўзабаве выйшаў, паклаў нешта перад барменам... Хутка на стале з’явіўся той жа, што і першы раз, набор: графін гарэлкі, бутэрброды, мінералка і кола. Убачыўшы гэта, Сымон, як ні ў чым не бывала, вярнуўся, сеў на сваё месца. Васіль моўчкі разліў у тры шклянкі. Вінярскі здагадаўся, што такія сцэны паміж гэтымі дзіўнымі прыяцелямі адбываюцца не першы раз.

— Не крыўдуй ты, Васіль, на старога... — прамармы-таў Сымон, падняўшы шклянку, — у мяне літаратурны нюх, і я табе пры ўсіх скажу — ты будучы наш гонар... Э-э, ану пакажы!.. — Ён схапіў Васіля за левую руку, памацаў. — А дзе гадзіннік?

Васіль паморшчыўся, нічога не сказаў.

— Ну, як не любіць такога чалавека?! Нічога не пашкадуе для сяброў! Мы выкупім яго, Васіль, я атрымаю ганарар...

Выпіўшы яшчэ, Вінярскі адчуў, што ён таксама ўсё больш пачынае любіць гэтых людзей, іхнюю мову, іхні нязвыклы для яго свет... «Гадзінніка не пашкадаваў, каб мяне пачаставаць! Мяне,

забойцу... Ён ведае... А ў мяне за пазухай — пачкі даляраў, усё гэтае кафэ можна купіць! А я не магу іх дастаць, во смешна!..»

— Ці помніш ты, Жана, шчаслівы мамэнт... — завёў Васіль.

— Як граў раз на дудцы нябожчык Вінцэнт, — падхапіў стары.

Далей Васіль спяваць не стаў, сказаў:

— Што гадзіннік? Гадзіннікі былі і яшчэ будуць. Гэта не тое.

Сымон ахвотна кіўнуў: згодзен — не тое.

— Галоўнае — гэта душа, — сказаў ён.

— А што такое душа? — падняў на яго свае дзявочыя вочы Васіль.

— Душа — гэта камень, — з гатоўнасцю адказаў стары.

— А ты як думаеш?

Вінярскі схамянуўся, пацiснуў плячыма: яму ўжо ні пра што не хацелася думаць — ні пра душу, ні пра даляры за пазухай; яму проста добра было сядзець сярод новых знаемцаў і моўчкі слухаць.

— Душа, — сказаў Васіль, у каторы раз закурваючы, — гэта нешта супрацьлеглае, рэзка адваротнае розуму і логіцы. Гэта тое, што па-расейску называецца «совесть».

— Сумленне, — паправіў стары.

— Сумленне — мякчэй, бліжэй да дабрыні, шчырасці, а «совесть» — акурат тое, што трэба. У нашай мове яму адпаведніка няма, як няма і ў шмат якіх іншых мовах — дакладна ведаю, што ні ў французскай, ні ў англійскай... Тлумачу, што душа — «совесть» — адваротная логіцы і розуму на канкрэтным прыкладзе. Ты, — паказаў ён на Сымона, — знаходзіш партманет, у якім грошы і мае дакументы. Мы — сябры. Розум і логіка скажуць табе, што грошы трэба прысвоіць, партманет з дакументамі падкінуць мне, альбо выкінуць у сметніцу, альбо проста знішчыць. «Совесть» скажа, што трэба аддаць мне ўсё. Пачынаецца раздваенне, нейкае гайданне з боку ў бок: розум гайдане ў адзін, «совесть» — у другі. Вось амплітуда гайдання — велічыня размаху гэтага маятніка — якраз і ёсць душа. У адных гэты маятнік за ўсё жыццё можа нават не зварухнуцца, у другіх — гайдаецца больш, у трэціх — менш... Розныя велічыні душы.

«Ведае! — упэўніўся Вінярскі. — Не проста так гэты прыклад...»

— Помню, малога, матка ўзяла мяне ў горад, — сказаў Сымон, ажывіўшыся, — і я знайшоў на вуліцы кашалёк. Новенькі, пахучы... Сэрца ад радасці ледзь не выскачыла. Адчыняю — а там пуста. А, зрэшты, і пусты згадзіўся: служыў мне верай і праўдаю да — добра помню — 17 студзеня 1964 года.

І ён замоўк, задумаўся.

— А дзе потым кашалёк дзеўся? — спытаў Вінярскі.

— Згубіў. Але ўжо з грашыма! Такая ўжо наша беларуская доля — падбіраць пустое, а губляць поўнае...

— Не, усё не тое, — гнуў Васіль. — Галоўнае — не душа, а любоў да Радзімы і каханне да жанчыны...

— Вось, правільна! — адразу ж падтрымаў Сымон, але было відаць, што ён падтрымаў бы любыя Васілёвыя словы.

Вінярскі ўспомніў дзяўчыну на могілках, падобную на манашку, і другую дзяўчынку-красуню ў чорнай хустцы, і яму таксама, як і Сымону, захацелася неяк пахваліць бялявага, паддобрыцца да яго.

— Якая прыгожая ў цябе дзяўчына, Васіль, — сказаў ён. — Я бачыў там, на могілках...

— Міла — гэта цуд. Яна добрая, прыгожая, кахае мяне — а цяпер, пасля смерці бацькі, я зусім адзін у яе астаюся... Але, сябры мае, я ўсё ж — творчая натура!.. Мае нервы ўвесь час узвінчаны, мне трэба альбо цыгарэта, альбо гэтая вось чарка, альбо нешта яшчэ новае... Навая дзяўчына! Я разумею, што гэта спальвае мяне, як свечку, з двух канцоў, але і рады быць бы іншым, ды не магу. Мне хочацца быць паўсюль адначасова: то ў вёсцы, у хаце, жыць аднаму, то праз момант — апынуцца на ялцінскім пляжы, сярод людзей, нырнуць да самага дна, каб салёная вада зайшла ў нос, то хочацца пажыць у сям'і — жанатым, паважным, каб іншыя зайздросцілі, то праз міг хочацца стаць жабраком, гнаным бомжам, ад якога ўсе адварочваюцца, але ў якога на душы — ціха, спакойна, нічога ні ад кога не трэба, а яшчэ праз міг — хочацца быць самым багатым чалавекам зямлі, шахам, са сваім гарэмам... Міла — дзяўчына, якія, можа, нараджаюцца раз у сто гадоў, мне яе Бог паслаў... Чаму я, Вінярскі, і не вінавачу цябе — так выйшла, што сваім свінствам ты памог мне пазнаёміцца з яе бацькам, Стэльмахам Іванам Змітравічам-нябожчыкам... Такой дзяўчыны і жонкі пашукаць. Але...

«Ведае! — з незвычайнай яснасцю, якая бывае толькі ў п'яных, думаў Вінярскі. — Ведае і тое, што Міла хворая, і трэба аперацыя, і што грошы ў мяне...»

— Але Міла — гэта чыстае, нявіннае дзіцё. Вось ты, Вінярскі, спаў калі-небудзь з прастытуткаю?

— Я — спаў! — адазваўся Сымон.

Вінярскі прамаўчаў. Ён успомніў Жану.

— А я — ніколі, — сказаў Васіль. — Я здагадваюся, што гэта бруд, пошасць і пошласць, але мая дурная натура хоча і гэта паспрабаваць! З аднаго боку — чыстая, светлая Міла, як сама душа, з другога — якаясьці здаровая, цынічная, распусная...

— Дастаеўшчынка, — умяшаўся Сымон.

— Не ведаю, што гэта, але мяркуйце самі: калі такая дрэнь пасялілася і жыве ў мяне ў галаве, як я магу ажаніцца з Мілаю? І жыць потым, ірвацца некуды і невядома чаго хацець? Жаніцца я павінен чысты — у тым сэнсе, што ў мяне павінна быць чыстая душа; я павінен быць упэўнены, што ў бруд мяне больш не пацягне, я з уласнага вопыту ведаю, што па чым, і тады я змагу аддаць Міле ўсяго сябе, дарэшты... Пакуль жа мяне нешта мучае, я хачу знайсці прычыну і пазбавіцца ад яе.

— Фрэйдызм, — канстатаваў Сымон.

Ізноў выпілі, на гэты раз многа, амаль па поўнай шклянцы, ізноў пабег да стойкі Васіль...

Вінярскі нечакана для сябе раптам заспяваў:

— Ці помніш ты, Жана, шчаслівы мамэнт...

Стары адразу ж падцягнуў:

— Як граў раз на дудцы нябожчык Вінцэнт...

«Гэта проста нейкі гімн іхні... Ах, што за цікавыя людзі! Як добра, лёгка з імі!..»

Калі Васіль вярнуўся са звычайным сваім наборам, Вінярскага ўжо зусім развезла — і ад таго, што вопыту такога, як у сваіх новых кампаньёнаў, не меў, і ад духаты — ён так і не здымаў куртку. Колькі яшчэ пілі і пра што гаварылі Васіль з Сымонам, ён не ведаў, бо проста заснуў. Апамятаўся ён на вуліцы, у прыцемках. Васіль, трымаючы яго пад пахі, саджаў у машыну.

— Дзе ты жывеш?

— У... Вяснянцы, — ледзь прагаварыў Вінярскі.

— Ну і добра... Па дарозе.

Даехалі хутка, выбраліся з таксі каля нейкага пад'езда. Васіль паспрабаваў завесці Вінярскага ў гэты пад'езд, Вінярскі заўпарціўся.

— Я ведаю, куды ты мяне вядзеш! — упіраўся ён. — Але ўсё роўна люблю цябе... Гадзіннік прапіў... Ты — будучы наш гонар! — казаў ён Сымонавымі словамі і чамусьці ніякіх іншых не мог падабраць. — Н-на!.. — дастаў і пачаў піхаць у рукі Васілю пакунак з далярамі, — і адпусці мяне...

Той узяў пакунак, плюнуў:

— А, чорт з табою!.. Не хочаш, не трэба, — і пайшоў у пад'езд.

Вінярскі пастаяў, паазіраўся. Усе аднолькавыя вокны свяціліся, было халаднавата.

— Так — там кальцо, там — гастраном... Дык я недзе каля Жанінага дома! Значыць, мне туды.

Ён паплёўся на вуліцу і не паспеў выбрацца з-за дома, як ледзь не стукнуўся аб міліцэйскую «Волгу» з мігалкаю. Машына стаяла за вуглом, на тратуары. Яго заўважылі, дзверцы адчыніліся:

— Хадзі сюды!

Ён ступіў, стараючыся не хіснуцца, але, відаць, ад гэтага перабольшанага старання так хіснуўся, што ледзь не ўпаў.

— Што, паддаў? Дай закурыць, — папрасілі ў машыне. (Міліцыянеры заўсёды так робяць, каб праверыць, наколькі чалавек адэкватны.)

Вінярскі ляпнуў па кішэнях — пуста, якія там цыгарэты, усе скурылі ў кавярні. А мог бы аддаць пачак, як вучыў Васіль, і адмазацца...

— Я з пахавання... іду, — сказаў ён, нібы просячыся, замест таго, каб сказаць, што цыгарэт няма.

— Ну і што? Заблудзіўся?

— Не!

— Дзе ты жывеш?

— Каля фінскай запраўкі, — ён назваў дом і кватэру, але сам не быў упэўнены, што называе правільна.

— Добра, сядай.

Ён пакорліва залез на задняе месца, «Волга» развярнулася і паехала ў двары.

— Што вы пілі хоць? — спытаў міліцыянер за рулём, і ў яго голасе Вінярскаму пачулася зайздрасць.

— Гарэлку, — адказаў ён, цверазеючы з кожнай хвілінай, — водку, тоесть.

Ён сабе не паверыў, калі неўзабаве машына спынілася каля яго дома, доўга потым глядзеў у прахадны двор, куды, высадзіўшы яго, паехала «Волга». Затым няўмела перахрысціўся. «Хто ведае, што было б, калі б не аддаў Васілю даляры?!» — зусім ужо цвяроза падумаў ён.

Ў тую ноч Вінярскі спаў як забіты і прачнуўся з яснай, лёгкай галавою — радасны, дужы, адчуваючы ў сабе невядомую раней вольнасць; прачнуўшыся, успомніў учарашні вечар, як перадаў Васілю грошы, як яго адпусцілі, п’янага, міліцыянеры і як пасля таго нібы камень зваліўся з душы. Быццам не ад даляраў пазбавіўся, а ад жывой гадзюкі ў пакунку, якую вымушаны быў насіць за пазухай.

## X

Сюды, у Вяснянку, Васіль, які за два гады пасля ўніверсітэта стаміўся цягацца па чужых людзях, перабраўся не так даўно, і

перабраўся з вялікай радасцю. За кватэру трэба было плаціць большую частку яго карэктарскай зарплаты, затое — адзін, сам сабе гаспадар. Да таго ж у іх з Мілаю яшчэ пры жыцці Стэльмаха было вырашана, што ўвосень, калі Міла паступіць вучыцца, яны пажэняцца і ён пераедзе да Стэльмахаў (цяпер, пасля смерці Івана Змітравіча, гэтая жаніцьба, вядома, на пэўны час адкладвалася).

Кватэра была двухпакаёвая, і Васіль плаціў за яе як за двухпакаёвую, хоць на самай справе адзін пакой быў зачынены на ключ — там захоўваліся рэчы і мэбля гаспадароў. У другім, дзе ён жыў, абстаноўка была спартанская: ложак, два чамаданы ў адным кутку, звязкі кніжак, папкі з паперамі — у другім. Пісаў Васіль на падлозе, лежачы на жываце, альбо на кухні, дзе быў столік і табурэт. Сябры, калі заходзілі ў госці, хвалілі яго і называлі такую абстаноўку «нармальнай творчай», затое Міла заўсёды жахалася і кожны раз упрошвала яго забраць ад іх і перавезці сюды хоць бы стары стол, які, разабраны, ляжаў у Стэльмахаў на балконе — яго трэба было .толькі трошкі падрамантаваць. Васіль, смеючыся, адмахваўся, казаў, што на падлозе лепш пішацца...

На раніцу пасля пахавання Стэльмаха і п’янкі ў кавярні Васіль ачомаўся, як ад штуршка, яшчэ ў прыцемках. Не было шасці, маўчала ўключанае радыё на кухні. І першае, што ён адчуў, быў боль галавы — знаёмы, невыносна-нудны; і разам з гэтым болем закруцілася ў галаве з рэальнай, каляровай, выпуклай яснасцю ўсё адразу: абяцанне Міле быць разам з ёю ў гэтыя дні, яго бесталковая мітусня на могілках, як потым пацягнуў гэтага хірурга ў кавярню, як там балбатаў і піў, піў, бы гарэлкі ў вочы не бачыў... І гэта замест таго, каб пасядзець ціхенька з людзьмі на памінках, суцешыць Мілу!..

Ён застагнаў уголас, зашыўся галавой пад падушку, паспрабаваў перабіць уяўленні ўчарашняга дня. Лепш уяўляць зіму, сіні лёд, чырвонае неба на захадзе, шоргат канькоў, стук шайбы аб клюшку, прыцэльны пас праз усё лёдавае поле — і шайба ляціць роўна, чуць падскокваючы на трэшчынках... Не, лепш хай лета, цупкі выган, Васіль — лёгкі, малады, шчаслівы, у белай майцы з 11 нумарам — прабягае з мячом па самым краі поля, падае, але мяч так цудоўна кладзецца на нагу, і ён паспявае зрабіць апошні, прыцэльны, салодка-жаданы пас — паміж двух абаронцаў, туды, на пустое месца перад самымі варотамі...

«Гадзіннік прапіў!— раптам успомнілася. — Японскі, падарунак Мілы...»

Ах, каб хоць так не муціла, каб хоць галава не раскалвалася! Каб хоць трохі зменшыліся фізічныя пакуты, а з душэўнымі ён бы

тады як-небудзь разабраўся... А так — вось як цяпер жыць, падымацца, ісці на працу — на што ён такі варты?!

Няўжо гэта цяпер ён — той самы белагаловы ціхмяны хлопчык, які калісь трымаўся за руку маці, які любіў хадзіць у грыбы, у школе на кожнае пытанне цягнуў угару руку, умеў лавіць любую рыбу ў любой вадзе, зімою марыў, як добра было б цяпер у лёгкіх кедах на зялёнай траўцы падбіваць тугі паслухмяны мяч, а летам — як добра было б апынуцца ў зімовым заснежаным лесе, на лыжным следзе... І яшчэ шмат-шмат чаго іншага. І ён быў такім, любіў усё гэта, аказваецца, толькі для таго, каб раптам апынуцца на кватэры ў чужых людзей, на мулкім, вузкім ложку, з якога спаўзла на падлогу коўдра, прасціна скруцілася ў жгут і муляла бок, — апынуцца няшчасным, хворым, хаваць галаву пад збітую ў камень падушку...

Васіль — у каторы раз пасля такіх прачынанняў! — захацеў падмануць сябе, паспрабаваў марыць, як ён сёння ж звольніцца з працы, кіне тут усё, і Мілу, сяброў, паедзе ў вёску, у сваю хату, да маці, стане памагаць ёй, кіне піць... Гэта быў апошні сродак уратавацца ад пахмельнага раздзірання, і колькі разоў ужо гэты сродак яго выручаў!.. Здаралася, ён сапраўды не йшоў на працу, ехаў на вакзал, купляў білет (які потым здаваў назад); але часцей не даходзіла нават да білета — пакуль стаяў у чарзе, паступова «перахворваў», галава яснела, новыя думкі і пачуцці спачатку нясмела, а потым усё больш настойліва пачыналі даказваць яму, што нікуды не трэба ехаць, што маці сама не будзе рада яго вяртанню, што ў вёсцы ён элементарна не знойдзе нават капеечнай працы і яму не будзе за што купіць пачак цыгарэт — атрымаецца, ён прыедзе, каб сесці матцы на шыю.

Добра ведаючы, што планы пра ад’езд у вёску самападман, Васіль на гэты раз вырашыў цвёрда: «Сёння я зраблю гэта — як бы мне ні станавілася лягчэй!.» Ён падняўся, сціснуўшы зубы, пасядзеў на ложку, пачакаў, пакуль перастане кружыцца галава і ад сэрца не адступіць млоснасць; не засцілаючы ложка, не хочучы нават глядзець на яго, апрануў свой учарашні касцюм, які ў Васіля быў усяго адзін больш-менш прыстойны, і выйшаў на двор, стаў каля пад’езда. Шэры, пахмурны ранні ранак... Людзей амаль няма. Каля бака для смецця варона наскоквае на голуба, адганяе, вось вылез з-за бака блудны кот з нейкай кішкай у зубах, пачаў есці... Голуб з воронаю адышліся, пачціва пазіраюць...

Васіля ледзь не зблажыла. Ён хуценька выбраўся з двароў, да кальца, і пайшоў у цэнтр, да чыгуначнага вакзала — тралейбусам ехаць пабаяўся, каб не стала кепска. Тут, на вуліцы, на ранішнім

паветры, галава разбалелася люта — так, што ён ужо ні пра што не марыў, не думаў, а проста бег і бег уперад, нібы хтосьці гнаў яго, штурхаючы ў карак. Апамятаўся ён аж каля «чырвонага дома» на Танкавай, спыніўся, ляпнуў па кішэнях — а грошы?! Куды, у якую вёску ён сабраўся ехаць, калі ў яго няма нават на білет! Гадзіннік, дарагі, японскі, падарунак Мілы на дзень нараджэння, ён аддаў учора за чыста сімвалічную плату — два вечары яго павінны паіць бясплатна. Чортаў дурань! Творчая натура праклятая! Захацеў пакрасавацца перад Вінярскім!..

Ад гэтай раптоўнай злосці Васілю захацелася есці. Гэта быў добры сімптом. Няўжо, дзякуй Богу, і на гэты раз усё скончыцца? Ён перайшоў вуліцу, сеў у тралейбус, прыехаў назад; дома адразу ж кінуўся на кухню, паставіў на пліту чайнік, дастаў з халадзільніка (халадзільнік таксама быў чужы, гаспадарскі, і за карыстанне ім Васіль плаціў яшчэ, асобна) кубік сухога курынага булёну, у алюмініевым кубку зварыў яйка, накрышыў яго разам з цыбулінай у глыбокую міску, заліў кіпнем з чайніка і, заядаючы сухім батонам, апякаючы язык і горла, выхлебтаў усё гэта за лічаныя хвіліны — вострае, гарачае. Пот прабіў з галавы да ног. Зрабіў моцнай гарбаты, закурыў. Паступова ў галаве ўсё змякчалася, разгладжвалася... Нічога страшнага — жыць можна! Вунь, у акне, дзед паўзе ў магазін, ледзь ногі пасоўвае — з якой радасцю ён памяняўся б са мною здароўем! А мне — толькі дваццаць тры. Дзяўчына цудоўная любіць мяне. Сябры любяць. У часопісах друкуюся...

Ён пайшоў у пакой, каб хоць не заслаць, а трохі прыкінуць зверху коўдраю ложак, і тут раптам убачыў на чамаданах, якія служылі яму шафай, — распранаючыся, ён кідаў на іх адзенне — пакунак. Ён узяў, пачаў развязваць капронавыя ніткі, што крыжам апярэзвалі пакет, і пакуль развязваў, разгортваў шчыльную паперу, нешта цьмяна варушылася ў памяці... Ці то Вінярскі яму нешта перадаваў, ці то Сымон у кафэ, ці то ён выпадкова забраў гэты пакунак з таксоўкі... Заварушылася, ды так і не акрэслілася, не ўспомнілася. Разгарнуўшы паперу, у якой аказаўся цэлафанавы мяшэчак, Васіль зрабіў нязграбны рух, мяшэчак раскрыўся — і на падлогу ўпалі пачкі даляраў — па пяць, дзесяць, сто купюраў...

У Васіля закружылася і без таго ўсё яшчэ слабая галава. Ён сеў на падлогу. Не, гэта не сніцца. Вось ён, Васіль, вось ложак, там кнігі, тут чамаданы, вось даляры. Ён ускочыў, пабег, невядома чаму, на кухню, паглядзеў у акно. Вярнуўся ў пакой — грошы ляжалі, як і ляжалі. Сабраў іх, склаў у мяшэчак, прынёс на кухню, кінуў на стол, прысеў, паспрабаваў разважаць цвяроза.

Спачатку, вядома, горшае. Ясна, што грошы не яго. Ніхто яму іх даць не мог. Дапусцім, гэта пакунак Вінярскага, забыты ім у таксоўцы, а ён, Васіль, выпадкова, чыста машынальна, прыбраў яго сабе. Тады трэба чакаць Вінярскага — тым больш ён недзе таксама ў Вяснянцы жыве і павінен лёгка ўспомніць дом, да якога ўчора падвезла іх таксоўка. У крайнім выпадку па даведцы вызначыць рэдакцыі і патэлефануе Васілю на працу. Можа, ужо звоніць...

Калі гэта пакунак таксіста — тое самае. Трэба чакаць таксіста, гэты ўжо дакладна будзе ведаць дом. Праўда, ні Вінярскі, ні таксіст не ведаюць нумара кватэры, але, калі захочуць вярнуць такія грошы, абзвоняць кожную, знізу даверху...

Калі ж ён прыхапіў даляры ў кавярні— там яго ведаюць усе. Тады тым больш не трэба чакаць, пакуль там спахопяцца, а самаму спытаць, што ў іх прапала. Інакш падумаюць, чаго добрага, што ён гэты пакунак украў.

Гэта — горшае. Цяпер — лепшае. А калі дапусціць, што грошы... нічые? Што яны — «нячыстыя»? Што іх не будуць шукаць, каб не «засвяціцца»? Хіба не бывае так? Дык тады што, атрымліваецца, што даляры гэтыя яго, Васіля. І што з імі можна рабіць?

— Ды што хочаш! — уголас адказаў сабе Васіль.

Можна купіць кватэру, каб не залежаць ад Стэльмахаў. Можна машыну. Піць, гуляць — але на гэта доўга здароўя не хопіць... Паездзіць па замежжы? Гэта можна...

Успомнілася сённяшняя раніца, планы пра ад’езд у вёску, маці... Вось! Памажы маці! Купі ёй у горадзе кватэру, пакладзі ў бальніцу — прыстойную — на абследаванне, звазі на курорт... Гэта можна. Можна, але ці трэба?.. Ці зможа матка без зямлі, без працы?.. Ну, адарве ён яе ад гаспадаркі, свайго агародчыка, дзе кожная жменя зямлі перабрана, перасыпана між пальцаў, павязе купацца хоць у залаты басейн — і што? Ды яна праз некалькі дзён змарнее, засохне, захварэе яшчэ больш! Хіба не забірала яе да сябе ў Гомель, у сваю вялізную кватэру, старэйшая Васілёва сястра? — маці і слухаць не захацела. Пакуль Васіль вучыўся, а цяпер і працаваў у Мінску, яна нават ні разу не выбралася да яго прыехаць — не было на каго пакінуць гаспадарку.

Нічога: былі б грошы, а што з імі рабіць — прыдумаецца. Праз колькі.часу Васіль выйшаў на двор, дзе каля самага пад’езда быў таксафон, пазваніў у «Мутнае вока», папрасіў, каб паклікалі бармэна.

— Слухай, учора ў вас нічога не прападала?

— Здаецца, не. Пачакай, я спытаюся, — паклаў трубку, хутка вярнуўся. — Не, нічога. А што? Калі ты шукаеш свой гадзіннік, можаш не шукаць — яго ўжо ў нас няма. Яшчэ адзін вечар буду паіць цябе бясплатна.

— Ну і ўсё! — сказаў Васіль, націснуў на рычажок і набраў нумар рэдакцыі. — Як вы там? Шукалі мяне?

— Не, ніхто, — адказаў сябар.

— А якая зараз гадзіна?

— Дванаццаць хутка.

Васіль падняўся ў кватэру, сеў зноў на кухні, задумаўся. «Згубіўшы такія грошы, сапраўдны нармальны гаспадар іх апамятаўся б у шэсць-сем гадзін раніцы і да гэтага часу перавярнуў бы дагары нагамі паў-Мінска». Адно з двух: ці гэтыя даляры сапраўды, як ён і думаў нядаўна, баяцца шукаць, ці... Ці яму іх падкінулі.

І вельмі проста. Забілі чалавека, падчысцілі ўсё, што можна. Частку даляраў падкінулі яму, Васілю. Цяпер застаецца толькі патэлефанаваць у міліцыю, назваць яго адрас, прыедуць, закруцяць рукі — і даказвай, што ты быў учора на пахаванні, потым п’янстваваў на вачах дзесяткаў людзей...

Ён страсянуўся — ды што за глупства?! У яго жалезнае алібі! І потым: як яму маглі падкінуць, калі ён прынёс гэты пакунак у сваіх руках? Ён помніць, як нёс яго пад пахаю па прыступках...

Тым не менш ад усіх гэтых развага даляры неяк згубілі для Васіля нядаўнюю прыцягальнасць. Ад іх раптоўна павеяла нейкім неспакоем, няўтульнасцю... Нячыстыя яны, і думаць няма чаго!

«Зробім так, — падумаў Васіль і сам у сябе спытаў: — Як?»

XI

Васіль сядзеў на кухні, курыў, піў гарбату і глядзеў у акно. На двары ўсчынаўся вецер, ляпаў адчыненай форткай, матаў яе туды-сюды, шумеў у лісці дзвюх тапаляў, што раслі каля пад’езда, ганяў па двары і кружыў каля бака для смецця абрыўкі папер. Неба зноў зацягвалася хмарамі, цямнела. Як звычайна перад дажджом, хацелася спаць...

Раптам Васіль уздрыгнуў, схапіў, засунуў пад крысо пінжака пакунак з грашыма і стрымгалоў кінуўся з кватэры.

Калі ён выскачыў на двор, дзве дзяўчыны якраз перайшлі дарогу і параўняліся з яго пад’ездам.

— Жана! — паклікаў ён, і адна, чарнявая, з прыгожым вялікім ротам, павярнулася, заўсміхалася яму. — Пачакай... Можна на хвілінку?

Жана ахвотна падышла; сяброўка, зусім маладая, падобная на школьніцу, у лёгкай сукеначцы, з якой забаўляюся вецер, то задзіраючы яе, то абляпляючы вакол ног, спынілася пачакаць.

— Прывітанне. Што ты такі строгі?

Ён узяў яе за руку, адвёў да пад’езда, каб сяброўка не толькі не пачула, але каб і вуснаў іхніх не магла бачыць, ціха сказаў:

— Жана... Я даўно хачу... з табою.

— Ну, мала хто хоча са мною.

— Пачакай! — ён прытрымаў яе сілаю. — Глядзі, — хуценька дастаў грошы. — Усё забярэш.

— Што гэта? — прыжмурыла яна зеленаватыя вочы.

— Даляры.

— А колькі?

— Не ведаю.

Яна азірнулася на сяброўку, сказала:

— Заходзь, калі я буду адна. Толькі дачакайся, чуеш? Кватэру ведаеш? — і яна назвала кватэру.

Ён кіўнуў.

— Ну, пакуль, — яна пабегла да сяброўкі, што пакорліва чакала, прытрымліваючы на каленях сукенку, надзьмутую ззаду ветрам, як шар. Васіль яшчэ раз зірнуў ёй услед, каб запомніць гэтыя моцныя, доўгія ногі. Падумаў, здрыгануўшыся: «Усё правільна — вось тое, што варта любых багаццяў у свеце!»

— Хто гэта? — спытала сяброўка, калі яны адышліся.

— Так, журналіст адзін знаёмы.

— Журналіст? А што ён хацеў?

— Даляры прадае.

— Па колькі? — зацікавілася сяброўка.

— Я сама разбяруся... Слухай, я ўспомніла. Я не магу цяпер паехаць, пазней пад’еду.

Сяброўка з яшчэ большай цікавасцю зірнула на яе, але прамаўчала.

— Я толькі куртку забяру, — сказала яна.

Падняліся ў кватэру. Жана жыла ў маленькай аднапакаёўцы з маці, якая была цяпер на працы (яна працавала санітаркаю, толькі не ў той клініцы, дзе давялося адмучыцца Васілю). Жана вынесла скураную куртачку, сяброўка адразу ж апранула, сцепанула плячыма, саграваючыся. Папрасіла:

— Можна, я хуценька вып'ю кавы?

— Ну, ідзі на кухню.

Праз хвіліну забулькала кававарка, і хутка сяброўка, грэючы аб кубак далоні, з асалодаю цягнула духмяны напітак. Жана закурыла.

— А што ў цябе з Жэнькам Вінярскім?

— Так... Я яго не бачыла ўвесь апошні тыдзень.

— І не званіла?

— Не.

Жана хлусіла спакойна, як толькі жанчына можа хлусіць жанчыне. Калі ж напраўду, яна званіла Вінярскаму кожны дзень, раз нават уночы, але нехта падымаў трубку і адразу ж клаў назад. Жана думала, што гэта была Яўгенава маці, настаўніца, якая яшчэ са школы не любіла сваю гультаяватую, вострую на язык, распусную вучаніцу. З-за гэтага Жана не магла да Вінярскага заходзіць.

Сяброўка дапіла каву і пайшла, і Жанна ўздыхнула з палёгкаю, памыла кубачак, села і пачала чакаць. «Найперш глянуць, ці не фальшывыя, — думала яна, — калі не: няўжо такія аслы яшчэ жывуць на свеце?! Хоць што — журналіст, а журналісты ўсе прытыраныя». На міг яна пашкадавала, што згадзілася, — нейкае нядобрае прадчуванне не пакідала яе. Што яна ведае пра яго, акрамя таго, што журналіст і жыве блізка?.. Пазнаёміліся неяк у гастраноме, у яго не хапала грошай на выпіўку, ён прасіў прадаўшчыцу даць напавер. Жана ўжо выходзіла з магазіна, як раптам пашкадавала яго, вярнулася і даплаціла, колькі трэба. На другі дзень бялявы падпільнаваў яе і аддаў. Прайшліся побач, перакінуліся парай слоў. Ён сказаў, што працуе ў рэдакцыі. Імя не запомніла, затое добра запомнілася, якой пажадаю гарэлі ў яго вочы, калі ён пазіраў на яе ногі. Жане гэта спадабалася.

Прыгадала яна той позірк і цяпер, адмахнулася — чорт з ім! Галоўнае, каб даляры былі не фальшывыя; але калі і атрымаецца з усім гэтым пралёт, падкладзецца свіння — Бог з ім, мала з кім яна спала, спіць і будзе спаць... А гэты — не самы горшы.

Між тым сяброўка далёка ад Жанінага дома не адышла. Яна, азіраючыся, мінула пад'езд, каля якога перастрэў Жану гэты падазроны журналіст, завярнула за вугал, тады прахадным дваром вярнулася назад і зайшла ў гастраном, стала каля шырокага вітрыннага акна. Адсюль Жанін пад'езд быў відаць як на далоні. Чакаць давялося нядоўга. Хутка паказаўся журналіст, зайшоў у пад'езд... Сяброўка пахваліла сябе за кемлівасць. Неўзабаве яна здымала трубку таго самага таксафона, з якога Васіль званіў у бар і

да сябе ў рэдакцыю; трохі павагалася — усё ж Жана была ёй сяброўкаю. Але ўздыхнула і пачала набіраць нумар.

— Мне здаецца, Жанка падпольна прымае, — сказала яна ў трубку. — З журналістамі звязалася...

— А, ну добра, — адказалі ёй. — Прыязджай сама.

Пачуўшы званок, Жана выйшла ў пярэднюю рашучая, настроеная на злосць і рэзкасць, але, убачыўшы рашучы Васілёў твар, моцна сцятыя вусны, угледзеўшы ў яго вачах тую самую пажадлівасць, якая не магла ёй не падабацца, супакоілася: «Прытыраны, несумненна!»

— Дай, — адразу ж працягнула руку, забрала пакунак, вярнулася ў пакой.

Нямецкая машынка пішчала, як рацыя. Даляраў было многа, яны былі сапраўдныя. Што за чорт? Добра, галоўнае, пакуль яны ў маіх руках, а там я ўжо змагу разабрацца... Ну ж і прыдурак. Хай — на, калі так хочаш.

Яна выйшла да Васіля ласкавая, марудлівая, паманіла пальцам у пакой:

— Ну, распранай мяне, — і абняла за галаву, калі ён апусціўся на калені перад ёю...

Менш чым праз гадзіну Васіль выходзіў ад Жаны хістаючыся.

«Лёгкі, пусты і нікому не патрэбны»

Што гэта было?! І чаму было?! Ён плюнуў, пастукаў сябе па галаве, якая адразу ж адазвалася цягучым пахмельным болем.

«Чортавая творчая асоба! Ні гадзінніка, ні даляраў...» Каб хоць трохі супакоіцца, пачаў хадзіць узад-уперад каля свайго пад’езда, не зважаючы на моцны вецер і пакуль рэдкія, але буйныя кроплі дажджу, — хадзіў і думаў: «А-а, як прыйшло — так і пайшло. А лепш было б, калі б гэтыя грошы сапраўды аказаліся нячыстыя, калі б мне іх падкінулі?»

Успомніў Вавенарга—«Ніколі ў маладыя гады не будзь сквапным, ні ў якіх памерах — шчодрасць твая акупіцца табе тройчы!»

Зрэшты, даляраў усё роўна было шкада, як шкада было і загубленага яшчэ аднога дня. Без падоранага гадзінніка, без грошай, на працу не пайшоў... І пацягнула раптам Васіля, як толькі можа цягнуць стомленага пасля працы чалавека ў лазню, каб хутчэй змыць, адпарыць з сябе бруд, — так і яго пацягнула да Стэльмахаў, у траурную цішыню пакояў, пасядзець у паўзмроку з Мілаю, убачыць, як заіскрацца яе вочы, патрымаць яе далонь у сваёй...

Калі паўпусты тралейбус разам з Васілём не проста ехаў, а імчаўся разам у напрамку Паўднёвага Захаду, дождж пляжыў ужо ваўсю; і пад стук цяжкіх кропляў аб вокны ў Васілёвай галаве адбівалася кожнае слова, з усімі непаўторнымі «песняроўскімі» інтанацыямі:

«Ці помніш ты, Жана, шчаслівы мамэнт?..»

XII

У адрозненне ад Вінярскага і Васіля, якія не ведалі, як распарадзіцца сваім нечаканым багаццем, перад Жанаю такога пытання не стаяла. Гэта былі яе грошы, яна іх не ўкрала, не знайшла, а сумленна, як магла і ўмела, зарабіла.

Жана даўно і добра ведала Вінярскага — вучылася з ім у адной школе, была ўсяго на год маладзейшая, — ведала яго думкі, чым ён жыве; і цяпер, не паспелі зачыніцца дзверы за ненармальным журналістам, яна яшчэ раз пералічыла даляры і, машынальна пералічваючы, ужо прыкідвала свой план. Грошай было больш чым дастаткова, трохі знойдзецца ў яе, столькі ж, калі не больш— яна добра ведала — будзе ў Вінярскага. Аб'яд-наць — і атрымаецца някепскі капітал...

Яна паклала даляры ў пакет, села на падлогу каля секцыі, дзе быў тэлефон, перад люстэркам, у якім уся адбівалася, і набрала знаёмы нумар; набіраючы, адразу ж падрыхтавалася пакласці трубку, калі адкажа Яўгенава маці. Але, на яе шчасце, на гэты раз азваўся сам Вінярскі.

— Прывітанне, я хачу зайсці да цябе.Ты адзін?

— Адзін. Але... я выходжу, мне сёння на дзяжурства ў ноч...

— Дзяжурства адмяняецца! — засмяялася Жана. — Усё, чакай... Ідзе дождж? Чаго так цёмна?

— Ідзе, вялікі, парасон вазьмі...

Жана нейкі час глядзела на свой размыты прыцемкамі адбітак у люстэрку секцыі. Вось і ўсё... Няўжо ўсё?! Няўжо ўсё канчаецца і хутка пачнецца зусім іншае, новае, светлае і радаснае жыццё, пра якое можна толькі марыць?.. Ведаючы прагнасць Вінярскага да грошай, можна не сумнявацца — ён адразу ж прыме яе прапанову. Прапанова будзе такая: каб ён з ёю ажаніўся. І тады — можна з'язджаць разам за мяжу, як ён таго заўсёды хацеў, можна жыць і тут — на шырокую нагу...

Не было аніякай боязі пераходу да гэтага «новага жыцця», да новых умоў, але Жана прыслухоўвалася да сябе, да сваіх адчуванняў і

раптам са здзіўленнем зразумела, што ёсць маленечкая прычына, якая стрымлівае яе, і яна, замест таго каб ляцець цяпер да Вінярскага, сядзіць перад люстэркам і ўсё нечага марудзіць. Гэтай маленечкай прычынай было шкадаванне, што ёй давядзецца назаўсёды развітацца... са сваім заняткам.

Жана не лічыла свой занятак нечым заганным. Калі яна думала пра сябе, дык думала так, як было выведзена ў шматлікіх фільмах і кнігах пачатку перабудовы: яна — бедная ахвяра, безабаронная, якую Бог узнагародзіў прыгажосцю, розумам і пусціў у свет, каб быць нечай жонкаю, маці, любіць мужа, нараджаць дзяцей, але якую ўласная слабая натура і сацыяльныя абставіны вымусілі прадаваць душу і цела, зацягнулі ў вір, і няма каму яе з гэтага віру выцягнуць, і самахоць выбрацца немагчыма...

Любячы свой занятак і не лічачы яго заганным, Жана і не здагадвалася, што на самай справе яна была проста ненармальная, што гэта пра такіх, як яна, амаль сто гадоў назад было сказана: «Судовая і псіхіатрыяная медыцына даўно ведае і гэты (анёлападобы) тып сярод прыроджаных прастытутак».

Час ішоў, а яна па-ранейшаму сядзела на падлозе, глядзела ў люстэрка, думала... Ёй ужо 27, рана ці позна трэба будзе мяняць жыццё, колькі яна яшчэ зможа пратрымацца?.. Пры такой канкурэнцыі... Поўна маладых, школьніц, студэнтак, якія прадаюцца за бясцэнак... Яе, як дарагую валютную прафесіяналку, пакуль яшчэ трымаюць, знаходзяць кліентаў, але ўсё гэта да пары да часу... Яшчэ год-два — і каму яна будзе трэба, хто з ёю будзе цацкацца? Вядома, Вінярскаму яна не пара, нават і цяпер, калі яна яшчэ даволі маладая і прыгожая, ён можа знайсці і маладзейшую і, галоўнае, «чыстую», — але прагнасць яго да грошай павінна ўсё перамагчы. Усё, няма чаго думаць!

Выйшла на кухню, каб зачыніць фортку, — на кухні было яшчэ цямней, чым у зале, дождж сек па шыбах і барабаніў аб падаконнік; зачыніла — і раптам так жыва ўявіўся сонечны дзень, як сіняе мора зліваецца з белым небам, высокія, зялёныя кашлатыя пальмы паўз бераг, за пальмамі — зараснікі стройнага маладога бамбуку, парус у моры, дэльтаплан у небе... Да таго гэта было здорава, што яна аж уздрыгнула ад захаплення, да яе не адразу, а паступова толькі пачынала даходзіць — як жа ёй нечакана-негадана пашэнціла!..

Пакуль дабегла да Яўгенавага дома, касы дождж, што налятаў разам з парывамі ветру, вымачыў яе ўсю, не памог і парасон. У пярэдняй Вінярскі зняў з яе мокры пухавік, раскрыты парасон панёс сушыцца на кухню. Жана затрымалася перад люстрам, раскідала па

ілбе мокрыя валасы, знарок не стала прычэсвацца — так ёй было больш да твару. Успомніла раптам журналіста, падумала — лухта ўсё, я сімпатычная, маладая і жаданая мужчынам, — і яшчэ больш радасна зрабілася. Скінула туфелькі, прашмыгнула ва ўтульны Яўгенаў пакой, дзе на часопісным століку свяцілася зялёная лямпа, упала ў крэсла, трымаючы на каленях пакет з грашыма.

Вінярскі зайшоў, сеў насупраць, сказаў, не гледзячы на яе:

— Ты пахарашэла. Што так вочкі гараць?

За гэты тыдзень, пакуль яны не бачыліся, сам Вінярскі пахудзеў, адпусціў тонкія вусікі, нешта азіяцкае з’явілася ў твары — чарнявы, з касічкаю, з вусамі... Але вочы былі нейкія іншыя, чым да якіх прывыкла Жана, нешта разгубленае, нават добрае было ў іх. Такім ён падабаўся ёй яшчэ больш. «Няўжо хутка ён стане маім мужам?» — падумала яна і зноў, як у сябе на кухні, уздрыгнула ад захаплення.

— Ты не хочаш даць мне кавы ці чаго-небудзь?

— Магу, але я, праўда, спяшаюся... Вось, куры, калі хочаш, — ён пасунуў да яе цыгарэты і попелку.

— Можаш не спяшацца, — Жана ўзяла запальнічку, курыць не стала, пакуль гаварыла, проста гулялася з ёю. — Паслухай, Жэня... Я не буду цягнуць ката за хвост. Я прыйшла сказаць, што... Карацей, у мяне з’явіліся грошы. Шмат! — не вытрымала такога тону, засмяялася, прыўзнялася і пацалавала Вінярскага ў лоб. — Давай пажэнімся?

— Пачакай... — Вінярскі адвёў яе руку, пацёр лоб. — Што за грошы?

— Якая розніца? Жэня, гэта шанс! Дакладзеш свае, хочаш — паедзем за мяжу, не — застанемся ў Мінску, купім кватэру, машыну, дом за горадам — усе ахнуць!.. Мы маладыя, здаровыя, ты — таленавіты доктар, нідзе не прападзём! Я буду табе добрай жонкаю, нараджу табе дзіця...

Вінярскі ўсё паціраў лоб.

— Жана, пачакай, дай мне падумаць, разабрацца, — сказаў ён урэшце.

— Што думаць?! Што тут разбірацца?

— Многае змянілася за гэты час... Мне трэба супакоіцца... Я не ведаю пакуль, на якім я свеце...

Жана ўважліва глянула на яго, зняла з пляча руку. Гэтая яго ламаніна была для яе поўнай нечаканасцю. Не, так проста нельга выпускаць яго з рук! Толькі з-за нейкіх дурных яго капрызаў яна

павінна развітвацца з усімі сваімі надзеямі, з морам, дэльтапланам у белым небе, з лёгкім, бесклапотным жыццём багатай замужняй дамы?

— Я табе не падыходжу? — спытала яна. — Калі б мне было не дваццаць сем, а сямнаццаць?

— Глупства... Не кажы так, не люблю.

— Ах, не любіш? Такую? А хто мяне зрабіў такой? Успомні сёмы клас, вось гэты пакой, гэты ложак!.. Успомніў?

Жана сама не ведала, што гаварыла. Вінярскі не быў у яе першы, проста ёй заўсёды хацелася, каб так было, і яна выдумала для сябе гэтую легенду, што ён — галоўны вінаўнік яе падзення, выдумала і сама ў гэта верыла.

Зрэшты, Вінярскі не запярэчыў, сядзеў, прыгорбіўшыся. Жана прыпадняла яму за падбародак галаву, угледзелася ў вочы, папрасіла:

— Жэня, кінь дурыць... Ты ж яшчэ не ведаеш, якой я буду! Можа, я буду лепшая за якую-небудзь чыстую!..

— Гэта зусім не галоўнае.

— Тады што? Давай проста паспрабуем. І ўсё ў нас атрымаецца... Вось, толькі глянь!..

Жана выхапіла з пакета і кінула на столік перад Вінярскім цэлафанавы мяшэчак з далярамі.

— Што з табою?

Вінярскі ўвесь збялеў, адхіснуўся:

— Адкуль... гэта ў цябе?!

— Якая розніца? Зарабіла...

— Адкуль? Адкуль? — паўтараў Вінярскі, не зводзячы з мяшэчка вачэй.

— Добра — надумаешся, звані, — сказала Жана, забіраючы грошы назад. — З табою сёння сапраўды, я бачу, гаварыць без толку...

Адышла да дзвярэй, у парозе павярнулася — Вінярскі нават не падняўся, каб правесці, так і сядзеў, утаропіўшыся ў тое месца, дзе нядаўна ляжалі грошы. Жана не стрымалася:

— Давай, едзь на сваё дзяжурства... Хутчэй!

Толькі на вуліцы спахапілася, што забыла парасон, — падняла галаву, працягнула перад сабой далонь. Дождж перастаў. Ну і прыдурак! Нічога, падумаеш, апамятаешся — і сам прыбяжыш... Толькі цяпер мяне ўжо давядзецца ўпрошваць.

Жана ішла паўцёмнай вуліцай, абмінаючы калюжыны, і недзе паміж сваім домам і домам журналіста, каля аднаго з пад'ездаў, убачыла знаёмую чырвоную «мазду». Страх варухнуўся ў ёй, яна мацней прыціснула да грудзей пакет і спынілася, не даходзячы да

машыны некалькі крокаў. Але яе ўжо заўважылі, адчыніліся пярэднія дзверцы, і яе пазвалі.

Яна падышла і нават у цёмным салоне пазнала аднаго з траіх, што былі ў машыне, — маладога, які сядзеў на заднім сядзенні. Ён вылез і ўзяў яе за руку:

— Ты што ж, на хаце прымаеш?

— Пусці!..

— Што за журналіст?

— Ды пайшоў ты... — агрызнулася, вырвалася.

Не паспела павярнуцца, як малады даў ёй аплявуху, і, здалося, пошчак адбіўся аж недзе ў пад’ездзе. У машыне засмяяліся. Яна задыхнулася, не так ад болю, колькі ад крыўды, — за што?! Хлопец вырваў у яе з рук пакет, кінуў у машыну, там адразу ж засвяцілася лямпачка.

— Дай, сволач! — ірванулася Жанна і атрымала другую аплявуху, яшчэ мацнейшую, ад якой ледзь не ўпала. Правяла далонню па твары і перш адчула, а потым і ўбачыла на пальцах кроў.

— О, дык нармальна! — пачулася з машыны. — Усё, квіты...

Малады сеў у машыну, вылаяўся чамусьці, «мазда» кранулася і хутка знікла з вачэй.

Глытаючы слёзы, размазваючы па твары кроў, Жана званіла з таго ж таксафона каля Васілёвага пад’езда, крычала на ўвесь двор. Яна бачыла, як рэдкія прахожыя бокам абыходзяць яе, а прамінуўшы, азіраюцца. Яна дабівалася нейкага Юру, крычала, што ў яе забралі шмат даляраў, што таго, хто яе біў, яна ведае. На тым канцы яе супакойвалі, перапытвалі, абяцалі разабрацца... Але яна раптам кінула трубку і пайшла дамоў, хістаючыся, як п’яная.

Яна ўжо не верыла, што можа быць некаму патрэбна, што нехта захоча ёй у нечым памагаць, хоць пальцам паварушыць за яе, яна адчувала сябе адной-адзінюткай і такой няшчаснай у гэтым мокрым, халодным, цёмным свеце...

Але Жана памылялася.

Вядома, сама яна (як і яе праблемы) мала каго цікавіла. Але паміж групоўкаю, што апекавала Жану, і паміж тымі, хто здабываў з той жа Жаны частку даніны, даўно рыхтавалася вайна: тых, што адабралі ў яе грошы, трэба было паставіць на месца. Ім і так да гэтага шмат чаго сыходзіла з рук. Можна было «збіраць даніну», а тым больш з прастытутак, якія прымалі «на хаце», як зрабіла Жана. Але не трэба было зарывацца. Шукалася толькі прычына, і яна была знойдзена.

Гадзін каля дзесяці таго ж мокрага, цёмнага вечара, у раёне Кунцаўшчыны, на перасячэнні вуліц Адзінцова і Якубоўскага бэзавага

колеру «БМВ» дагнала чырвоную «мазду», падрэзала, «маздзе» нічога не заставалася, як прыціснуцца да тратуара і прытармазіць.

Разборкі былі доўгія. З адной машыны перасядалі ў другую, потым наадварот, галасы то прыціхалі, то зрызаліся на крык. З прачыненых дзверцаў «мазды» струменіўся цыгарэтны дым, быццам машына ўсярэдзіне гарэла; відаць, курылі ўсе адразу і не перастаючы. Затым адбылася кароткая сутычка, ускрыкнуў голас жаласліва, нібы прасіўся, і другі голас, уладны, узбуджаны, спытаў:

— Усё?! Яшчэ?..

— Усё!— адказаў нехта.

Адразу ж разбегліся па машынах, і машыны з месца, адна за адной, ірванулі ў цэнтр.

XIII

Вінярскі хадзіў па калідорах, шукаў рэнтгенолага (якога, як правільна заўважыў Васіль у «Мутным воку», вечна не было). Вырашыў яшчэ раз спусціцца ў прыёмны пакой і ў дзвярах, што вялі на лесвіцу, сутыкнуўся з двума мужчынамі, апранутымі ў спартыўныя касцюмы.

— Дзе тут у вас. Хірург, — спытаў адзін, старэйшы, з барадою, дакранаючыся пальцам да белага халата Вінярскага.

— Я хірург, — адказаў Вінярскі.

Барадаты ўзяў яго за локаць, запрашаючы ісці за сабою, і звёў Вінярскага на некалькі прыступак уніз, на лесвічны марш; другі, зусім малады хлопец, таксама спусціўся следам і стаў побач з барадатым, чвякаючы жвачкай проста Вінярскаму ў твар. Вінярскі апынуўся заціснутым у кутку. Ён глядзеў і не мог адарваць вачэй ад учэпістай, сіняй ад татуіроўкі далоні, якая па-ранейшаму трымала яго за локаць.

— Слухай, выйдзі, — сказаў барадач. — Глянь. Там аднаго. Нажом.

— У прыёмным ляжыць?

— На вуліцы. У машыне. Не трэба. Прыёмнага, — барадаты дзяліў на часткі нават самыя простыя сказы. — Глянеш?

— Можна... Хоць я сам траўматолаг, — пачаў тлумачыць Вінярскі, а яго ўжо не слухалі: барадаты адпусціў яго локаць і пайшоў уніз, да прыёмнага пакоя, наступны павінен быў ісці Вінярскі, а малады — апошнім, замыкаць.

— У нас хірург памёр нядаўна, Стэльмах, — казаў Вінярскі, даганяючы барадатага. Той нават не павярнуў галавы. — Можа,

пазваніць Сцяпанаву, загадчыку? — азірнуўся Вінярскі ўжо на маладога, але і той нічога не адказаў, толькі выдзьмуў з рота белы шарык жвачкі і забраў яго назад у рот.

Выйшлі, сталі на ганку каля прыёмнага, барадаты некуды пабег, малады застаўся з Вінярскім. Неўзабаве да ганка падрулілі дзве машыны, малады моўчкі падштурхнуў Вінярскага да пярэдняй, да задніх дзверцаў, адчыніў іх і адступіў убок. Вінярскі нагнуўся, глянуў — нехта ляжаў на сядзенні і ціха стагнаў.

— Ну, і што я тут убачу? — сказаў Вінярскі барадатаму, які выскачыў з другой машыны і падбег сюды. — Трэба несці ў прыёмны!

— Не трэба, — азваўся барадач.

Ізноў, адчуваючы нейкую сілу ў яго скупых словах, Вінярскі вымушаны быў скарыцца. Ён бачыў, што з гэтага часу павінен рабіць не тое, што яму хочацца, а тое, што яму скажуць.

— Тады можна да... нас, у перавязачную.

— А хто там?

— Ну, я... Сястра... Ардынатар... Усё.

Барадаты махнуў рукою, і з задняй машыны вылезлі яшчэ чалавек пяць — былі сярод іх маладыя, былі з барадамі, і ўсе ў спартыўных касцюмах, і ўсе чаўкалі жвачку — усе здаліся Вінярскаму роднымі братамі. Хто за рукі, хто за ногі, выцягнулі параненага з машыны. Той, убачыўшы чалавека ў белым халаце, апрытомнеў і гучна спытаў:

— Доктар, я памру?

Вінярскі нічога не адказаў, пайшоў першы, за ім панеслі параненага, які раптам пачаў так стагнаць і крычаць, што на ўсіх калідорах — а нясці трэба было ад прыёмнага па лесвіцы, потым праз усё тэрапеўтычнае аддзяленне, праз усё іхняе, хірургічнае, — адчыняліся дзверы і выглядвалі і сёстры, і санітаркі, і хворыя з палат. У перавязачнай сядзела сястра каля акна за шкляным столікам, згортвала і складала ў слоік марлевыя тампоны. Параненага паклалі на стол, усе выйшлі, толькі малады з барадачом, якія, мабыць, былі прыстаўлены апекаваць Вінярскага, засталіся, ціхенька прыселі на кушэтку каля парога. Вінярскі пакасіўся на іх, але прапанаваць і ім выйсці не асмеліўся, ды і быў упэўнены, што не выйдуць. Ён хутка спаласнуў рукі, на хаду буркнуў сястры:

— Не стой, рыхтуй пінцэт, спірт, ёд і набяры кубік навакаіну, — сам нацягнуў пальчаткі, узяў перш марлевую павязку для твару, потым скамечыў яе і запіхнуў у кішэню халата — гэта ж зноў трэба адрываць сястру, прасіць, каб завязала матузкі на патыліцы.

Нагнуўся над хлопцам — на тым зверху была толькі чырвоная майка з кароткімі рукавамі, вызваліў з-пад спартыўных штаноў ніз майкі, задраў яе ўверх. Рана — парэз даўжынёю сантыметраў пяць, была ў жываце, злева ад пупа. Патрошку Вінярскі пачаў мацаць вакол раны. Хлопец, што быў заціх, калі апынуўся на стале, пад святлом моцных лямпаў, цяпер зноў ажыў і пачаў стагнаць і дрыгацца ўсім целам ад кожнага дотыку.

— Доктар! Доктар! — ныў ён. — Я ж не памру, праўда? Я выжыву?

Вінярскі маўчаў, каб не раздражняцца. Абмыў, выцер змочаным у спірце тампонам кроў вакол раны — зандзіраваць без наркозу пабаяўся, ды і так відаць было — хлопцу моцна пашэнціла. Быў толькі парэз жыравай тканкі; з раны двума белымі шарыкамі, — накшталт тых, што выдзімаў са сваёй жвачкі малады маўчун — выпіраліся кішкі, але яны былі цэлыя. Не хапіла якога міліметра.

Вінярскі зрабіў укол, пакуль чакаў, калі возьмецца замарозка, моцна захацеў курыць.

— Доктар! Доктар!!! — крычаў парэзаны.

У гэтай клініцы Вінярскі нагледзеўся ўсяго, але каб здаровы малады чалавек з даволі лёгкай — у параўнанні з тым, што магло б быць, калі б былі зачэплены кішкі, — ранаю так не ўмеў цярпець, так калаціўся, — такога яму яшчэ не даводзілася бачыць.

Калі накладваў швы, хлопец умудрыўся некалькі разоў страціць прытомнасць, і сястра замест таго каб памагаць Вінярскаму, хоць бы выціраць кроў з-пад іголкі, вымушана была стаяць каля гэтага слабака з нашатырам. Урэшце Вінярскі густа змазаў зашытую рану ёдам, сястра пачала накладаць павязку, Вінярскі, сцягваючы пальчаткі, падышоў да кушэткі. Барадач і малады падняліся.

— Проста глыбокая драпіна, — сказаў Вінярскі з той лёгкай пагардаю, якая ўласціва кожнаму доктару, з тым пачуццём перавагі над «простымі смяротнымі», для якіх зашыць парэзаны кавалак скуры ёсць нейкі патаемны, ледзь не цудадзейны акт (ён і ўбачыў, і адчуў, што пасля гэтай прымітыўнай аперацыі ён адразу ж узвялічыўся ў вачах сваіх апекуноў). — Крыві страчана мала, можаце забіраць. Калі будзе макрата — нічога страшнага. Праз дзень у паліклініку, на перавязкі, праз сем дзён здымуць швы, і будзе бегаць. Усё.

— Так, — прамовіў барадаты. — А тут калі паляжыць? У вас. Адну ноч. Мала што.

— Ты ў накладзе не будзеш! — умяшаўся малады.

— Тады трэба афармляць праз прыёмны, — зноў увярнуў Вінярскі, выдатна разумеючы, што ніякія прыёмныя, ніякія запісы,

якія будуць там зроблены, гэтым нязваным гасцям непажаданыя — кожны такі выпадак рэгіструецца ў асобным сшытку, і адразу ж ідзе паведамленне ў міліцыю. Сапраўды, барадач зноў узяў яго за локаць, нібы паказваючы гэтым, што цяпер Вінярскі павінен менш гаварыць, а больш слухаць.

— Свае людзі. Нашто свяціцца? Не бойся. Не пашкадуеш.

Вінярскі зірнуў на сястру, якая стаяла каля параненага з акрываўленым тампонам у руцэ, глядзела на ўсё шырока раскрытымі вачыма і не разумела, што тут адбываецца.

— Хіба што ў сёмую... Каця, давай у сёмую!

Сястра выйшла, вярнулася, штурхаючы папярэдзе ложак-каталку, барадач з маладым памаглі сябру перабрацца на яе — ён ужо не стагнаў, маўчаў, прыслухоўваўся, што пра яго гаварылі. Вінярскі пачаў мыць рукі, і праз цурчанне вады да яго данеслася, як малады сказаў рэзка і гучна:

— Дай ты яму гэтыя даляры!

Барадаты нешта перапытаў, і малады зноў адказаў рэзка:

— Ну, вядома, усе!

Калі Вінярскі з ручніком у руках павярнуўся, — ён ледзь не ўскрыкнуў, адступіў назад і моцна стукнуўся бокам аб чыгунны ўмывальнік. Барадаты, азіраючыся на сястру, працягваў яму да болю знаёмы цэлафанавы пакет, набіты долярамі нябожчыка Стэльмаха.

XIV

Апошнім часам дажджы, відаць, палюбілі Беларусь, узяўшы за моду колькі гадоў запар кожнае лета па цэлых днях паліваць і паліваць гэтую зямлю, быццам ёй і без таго мала выпрабаванняў.

Таксама, як і год назад, ішоў дождж, таксама стаяў у сваім кабінеце каля расчыненай форткі Яўген Вінярскі, глядзеў на мокрыя клёны ў дворыку, трымаў у пальцах цыгарэту, але не прыкурваў — збіраўся кідаць курыць.

Вось толькі Стэльмаха ўжо не было, за сталом Івана Змітравіча сядзеў малады хірург, асістэнт, і, пазяхаючы, разглядаў на святле лямпачкі рэнтгенаўскія здымкі.

Вінярскі глядзеў на дворык, потым пераводзіў вочы на пацямнелыя адкоціны вакол гнёздаў, у якія заходзілі шпінгалеты, пазіраў на шафу, на кушэтку, на маладога асістэнта — і яму ўжо самому не верылася, што год назад было з ім нейкае зацямненне і ён чамусьці ламаў акно, краў і, хоць не хочучы, але несумненна быў вінаваты ў смерці чалавека... Гісторыя, што здарылася з ім у тым

годзе і так рэзка памяняла яго псіхалогію, думкі, жыццё, ужо здавалася яму чужою, бы вычытанаю ў кнізе ці ўбачанаю ў кінафільме. Ён ужо даўно выкінуў з галавы мары пра замежжа, грошы .больш не копіць, днямі прападае ў клініцы. Яго хваляць; ходзяць чуткі, што Сцяпанава, якому ў гэтым годзе на пенсію, павінен замяніць не хто іншы, як Вінярскі.

Але вядома, што найбольш яркія ўспаміны звычайна абуджаюцца ў чалавеку цыклічна, і патрэбна для гэтага абуджэння, як правільна сказана ў школьным падручніку па літаратуры, толькі «адзінства часу, абставін і месца дзеяння».

Мокрыя клёны за акном, святло ў кабінеце, шум вады, сцякаючай у люк, халодная зморась, што залятала ў адчыненую фортку, — усё.гэта раптам так жвава нагадала Вінярскаму мінулы год, Стэльмаха, сябе... І чамусьці асабліва востра ўспомніўся той вечар, калі ён зашываў нажавы парэз і калі яму як узнагароду перадалі даляры. Вінярскі і цяпер не ведаў, дзе, па якіх людзях гэтыя даляры павандравалі, перш чым зноў вярнуцца да яго. Успомніў, як тады, адвёзшы парэзанага ў палату і развітаўшыся з барадачом і маладым, ён тэлефанаваў Сцяпанаву, прасіў падмяніць яго... Як потым пехам, уночы, пад дажджом ішоў амаль праз увесь горад на Паўднёвы Захад, як шукаў праспект Любімава і не было ніводнага чалавека, хто б паказаў, дзе гэты праспект, не кажучы пра патрэбны дом... Як ужо, бадай, пад раніцу знайшоў, доўга званіў і яму чамусьці не адчынялі, усё распытвалі праз дзверы, хто ды што, але ўрэшце ўдава Стэльмаха адчыніла, і ён моўчкі працягнуў ёй пакунак, павярнуўся і пабег уніз па лесвіцы, не азіраючыся... Як потым глушыў памяць працаю, сілай прымушаў сябе забыцца, не думаць больш пра гэтую гісторыю — і ўдавалася не думаць, калі б яшчэ зрэдзьчас гісторыя сама пра сябе не нагадвала. Недзе ў канцы вясны, калі ўжо добра пякло сонца, а на газонах паўз тратуары ўсё яшчэ не маглі растаць гурбы бруднага снегу, на праспекце Машэрава ён выпадкова сутыкнуўся з бялявым Васілём, прычым Вінярскі нават не пазнаў яго, прайшоў бы моўчкі, каб Васіль сам не абазваўся. Каб хто сказаў Вінярскаму, што чалавек за адзін год можа так змяніцца знешне, ён нізавошта не паверыў бы. Перад ім стаяў не той сімпатычны, нават элегантны, трохі без цара ў галаве малады хлопец з добрымі, сінімі, п'янаватымі вачыма, які ўмеў быць такім кампанейскім, любіў выпіць і пагаварыць, і паспяваць пра «Жану», з якім так цікава і лёгка было, — цяпер гэта быў мужчына, ён папаўнеў, акруглеў тварам, коратка падстрыгся, і брушка ўжо ледзь заўважна круглiла .яго шыкоўны румынскі плашч... Нават рухі ў яго змяніліся, знікла ранейшая

парывістасць, і калі ён вітаўся з Вінярскім, дык далонь працягнуў марудна, бы рабіў абавязак. Вінярскі ўбачыў у яго на пальцы шлюбны пярсцёнак, спытаў, з кім Васіль ажаніўся — ці не з Мілаю? Так, з ёю. Пастаялі, не ведалі пра што гаварыць. Вінярскі прапанаваў пайсці ў «Мутнае вока», — балазе, недалёка — выпіць па сто грам, Васіль неяк спалохана адмахнуўся, сказаў, што даўно ўжо зусім не п’е («Лепш бы ты піў», — чамусьці з сумам падумаў Вінярскі), як і не піша больш: пустое, не тыя цяпер часы, каб убухваць здароўе ў нікому непатрэбную пісаніну.

— А помніш, як ты здорава расказваў, што галоўнае — любоў да Айчыны і каханне? — спытаў Вінярскі.

— Галоўнае — гэта во, — і Васіль пацёр перад яго тварам пальцамі, нібы паміж імі была паперка.

Між іншым, Васіль пахваліўся, што не так даўно быў у Германіі.

— Як ты туды патрапіў?

Аказваецца, у Мілы была нейкая хвароба, ён, Васіль, нават не здагадваўся, як, здаецца, не здагадвалася і сама Міла. У цешчы знайшліся неабходныя грошы, Мілу павезлі за мяжу на аперацыю, і ён, Васіль, ездзіў. Усё прайшло цудоўна, цяпер жонка дома, чакае дзіця.

— А помніш Сымона? — ажывіўся раптам Васіль. — Таго старога, з кавярні? — Ён дастаў з унутранай кішэні плашча газету, разгарнуў і паказаў Вінярскаму Сымонаў партрэт на першай старонцы. — Уяўляеш, яго новы гістарычны раман будуць экранізаваць, вылучылі на Дзяржаўную прэмію. Усё падлізваўся да мяне — маўляў, гонар літаратуры... А вось хто сапраўдны гонар. Я, калі шчыра, ніколі ўсур’ёз яго не ўспрымаў, а ён сядзеў сабе ў куточку, падтакваў, піў за чужыя грошы, а сам пісаў такую рэч! Вось як яно бывае...

Калі ўжо развітваліся, Васіль, нечакана пачырванеўшы, спытаў, ці не ведае Вінярскі такой Жаны — таксама жыве ў Вяснянцы.

— Толькі не жыве, а жыла, — адказаў Вінярскі. — Ведаў, канечне, яе ўся Вяснянка ведала...

І ён у сваю чаргу дастаў з партфеля тоўсты канверт, падаў Васілю, і пакуль той разглядаў прыгожыя, вельмі якасныя фотаздымкі, на кожным з якіх была Жанна — то ў купальніку, пад пальмамі, то ў строгай, абшытай нявіннымі карункамі сукенцы на нейкім афіцыйным банкеце за сталом сярод мноства людзей з чаркамі ў руках, то ў нейкім персідскім дворыку, каля басейна, у

шэзлонгу, сядзіць, чамусьці апранутая ва ўсё чорнае і, здаецца, адкінуўшы на плечы паранджу... Пакуль Васіль разглядаў усё гэта, Вінярскі расказаў, што Жана выйшла замуж за студэнта-араба з Іарданіі і паехала туды. Пісала, што ўсё цудоўна і яна шчаслівая...

Пайшоў спахмурнелы Васіль, і тая сустрэча такасама пачала забывацца...

Вінярскі зламаў цыгарэту, павярнуўся да асістэнта.

— Так, абход!

І асістэнт паслухмяна падскочыў, замітусіўся...

Асістэнт пабойваецца Вінярскага, паважае, але разам з тым лічыць яго трошкі «з заскокамі». Справа ў тым, што ў Вінярскага ёсць дзіўная звычка: на ранішніх абходах звычайна абыякавы, строгі, нават грубы з хворымі, ён адразу ж змяняецца, калі ўбачыць у якойсьці палаце маладога, бялявага чалавека. Тады ён робіцца ўвесь лагода, мяккасць; падсаджваецца да хворага на ложак, доўга гаворыць з ім, распытвае — і, самае дзіўнае, чамусьці стараецца гаварыць па-беларуску. І асістэнт, і сястра, і Сцяпанаў (калі бывае на абходзе Сцяпанаў), і нават іншыя хворыя ў палаце за спінаю ў Вінярскага пераглядваюцца, перасмейваюцца, але калі Вінярскі ўстае, усе робяць выгляд, што нічога не заўважаюць.

1994 г.

# Пра аднаго пісьменніка

**Светлай памяці М.П. Луферава**

ЧАСТКА І. Кароткае лета

І.

Ён прыехаў у вёску дзённым аўтобусам, вылез апошні, трымаючыся за дзверы, — грузны, успацелы, замучаны дарогаю і перажываннямі, — і стаў там, дзе злез, каля самага аўтобуса, аддыхваючыся, апіраючыся на кіёк, апусціўшы ў прыдарожны пыл каля ног новую сумку. Стаяў прыгорблены, лысы, у акулярах, у белых пакамечаных штанах, у белай шырокай тэнісцы, нідзе нават не кранутым загарам, быццам першы раз за лета выбраўся на сонца, і было, відаць, у яго выглядзе і ў паставе нешта бездапаможнае, жаласлівае, бо адзін з пасажыраў, што ехалі разам з ім і якіх ён нікога не пазнаў, мужчына ў трыко і з вядром у руцэ, ужо адышоўшы, раптам вярнуўся і спытаў, ці не трэба памагчы. Ён адказаў — не, не трэба, і падумаў, што ён не намнога старэйшы за гэтага мужчыну.

Ён аддыхаў, узяў сумку і пакульгаў патроху, шоркаючы па запыленым вясковым асфальце падэшвамі новых сандаляў з пакрыўленымі заднікамі, — клыпаў па вуліцы, якая помніла яго зусім іншага, якую і ён помніў іншаю і якую ўздоўж і ўпоперак апісаў у сваіх аповесцях і апавяданнях. Вуліца была роўная, доўгая і ўся зялёная, хаты стаялі блізка адна ад адной. Калі ён прыязджаў у пазатое лета, яшчэ здаровы, сям-там стаялі кінутыя, напаўразваленыя хаты — цяпер не было відаць ні адной такой. Новыя платы, у агародах — парнікі, замест кінутых развалюх — цагляныя дамкі, з балконамі, верандамі, мансардамі, вынштукаваныя як цацкі. Вёска, пра якую ім столькі было панапісана з жалем расстання, як пра не сёння-заўтра нябожчыцу, раптам засялілася — хоць і чужымі людзьмі, ажыла, памаладзела, папрыгажэла, а ён, аплакаўшы яе ў сваіх творах, і не заўважыў, як сам апынуўся на краю магілы. Яшчэ са школы яго смяшыла, здавалася нейкай недарэчнай, дурною загадка: «раніцаю — на чатырох, удзень — на двух, увечары — на трох»; колькі б разоў ён гэтую загадку ні чуў, столькі яго смяшыла, што адказ — чалавек. І вось жыццё помсціла яму за той смех, правёўшы па гэтай вуліцы перш малога, калі поўзаў-гуляўся пад плотам у пяску, потым маладога і шчаслівага, калі хадзіў і бегаў, не чуючы пад сабою ног, і вось урэшце «ўвечары» ён клыпаў па ёй на трох — з кійком.

Ад прыпынку асфальт вёў уніз, да рэчкі, якая падзяляла вёску на дзве часткі. Там, каля рэчкі, у завулачку была яго колішняя хата, цяпер перарobleная чужымі людзьмі і чужая яму. Можна было ісці асфальтам да рэчкі і там павярнуць, а можна цяпер, каля калодзежа, сысці і дабірацца да вулічкі наўпрасткі сцежкаю між сотак. З гэтага калодзежа яны заўсёды бралі ваду — у іх, у нізіне, была нясмачная — і ён з двума поўнымі вёдрамі даходзіў гэтай сцежкаю да дому за пяць хвілін. Каля калодзежа на лаўцы сядзелі людзі; ён блізарука ўглядзеўся і не пазнаў нікога, але, не даходзячы да лаўкі, калі трэба было паварочваць на сцежку, раптам павітаўся. Яму гучна, на розныя галасы адказалі, і нехта спытаў: «Што, прыехалі ў радные места?» Ён адказаў — вось, прыехаў, і пакульгаў па сцежцы, чуючы, што сціх гоман, і ведаючы, што яму глядзяць у спіну. Машынальна, па прафесійнай звычцы ён падумаў, што трэба запомніць гэта на ўсялякі выпадак — як глядзелі ў спіну хвораму чалавеку (не забыць, што хворыя, пакуль прывыкнуць да сваёй хваробы, цураюцца людзей, якія помняць іх здаровымі), — падумаў і схамянуўся: нашвошта?! Для чаго і для каго яму цяпер гэта трэба запамінаць, дзе яно ўжо можа спатрэбіцца?

Сцежка выводзіла на вулічку з усяго трох хат — яны стаялі па адзін бок; па другі быў паплоўчык, потым рэчка і зарэчная частка вёскі. Бліжэй да асфальту стаяла кінутая хата, пасярэдзіне — іхняя (цяпер чужая дача), і апошняя, у самым канцы вулічкі, у алешніку — Лідзіная. Лідзіным дваром яму было ісці сама бліжэй. Звычайна, калі прыязджаў у тыя гады, ён так і хадзіў. Але цяпер ён баяўся сустрэчы і гаворкі з любым знаёмым чалавекам, тым больш з Лідаю. Хацелася толькі цішком дабрацца да ценю, да ложка, разуцца, прылегчы і проста паплакаць.

Ён прайшоў сваім колішнім дваром — як чужым, нічога вакол не пазнаючы і радуючыся толькі, што нідзе не відаць дачнікаў; потым, разораю, дабраўся ў самы канец сотак, дзе на чыстым месцы, на паплоўчыку, стаяла «сцёбка». «Сцёбкамі» ў іх зваліся маленькія хаткі, пабудаваныя пасля вайны, у якіх туліліся цэлымі сем'ямі, пакуль не перабіраліся ў новую хату. У каторы раз ён пахваліў сам сябе, што хапіла розуму не раскідаць, не прадаць гэтую хатку, у якую можна было прыехаць у любую пару года, дзе яму заўсёды так добра думалася і пісалася. І вось, як старога сабаку, што чуе смерць і сыходзіць з воч людскіх, і яго прыгнала не куды-небудзь, а сюды.

Паплоўчык вакол сцёбкі быў скошаны, і ён па маладой атаве даклыпаў да нізенькіх дзвярэй, пабіў кійком па іржавым замку, адамкнуў і ледзь адчыніў дзверы, якія аселі і ўпіраліся нізам у дол. У

сцёбцы — невялічкай, тры на тры метры хатцы з адным акном, дзе неяк уціснуліся ложак, шафа, стол, табурэт і пасярэдзіне яшчэ астаўся кавалачак чыстай падлогі — было даволі светла, толькі моцна цягнула затхласцю. Ён не стаў зачыняць дзверы, апусціў каля парога сумку і цяжка прысеў на ложак, які зарыпеў пад ім усімі старымі спружынамі. Трэба было б праветрыць пасцель ці хоць бы вынесці на двор і выбіць капу з ложка, але ў яго ўжо не было сіл нават на гэта.

Ён скінуў сандалі, зняў шкарпэткі, паспрабаваў паварушыць пальцамі — ногі былі апухлыя, сінія, з раздутымі венамі, — потым прылёг на бок і адчуў страшную палёгку. Як заўсёды апошнімі часамі ў хвіліны палёгкі, слёзы падступілі да горла, але ён стрымаўся; чакаючы яшчэ больш моцнага прыступу шкадавання сябе, пачаў глядзець на столь, у акенца на сіняе неба, на сцены, на падлогу з квадратнай, закладзенай цаглінамі адтулінай, дзе калісьці стаяла іхняя маленькая печ, — паспрабаваў думаць пра тое, на што глядзеў. Сцены і столь былі акуратна абабітыя кардонам і пафарбаваныя бяліламі — ён у кожны свой прыезд падфарбоўваў, паднаўляў іх, і нават цяпер, запыленыя, пацямнелыя на швах, яны выглядалі сімпатычна. Што ён тады думаў, калі фарбаваў іх? Чаму не радаваўся, не бег у лес, на рэчку, не качаўся па траве?

У тым і справа, што радаваўся!

Ён падцягнуў кійком сумку, падняў на ложак, пачаў распакоўвацца. Дастаў складзены брызентавы плашч, пакунак з бялізнаю, пакуначак з ежаю, некалькі агульных сшыткаў, папку, маленечкае Евангелле; калі даставаў цэлафанавы мяшэчак з зубной пастай, шчоткай, электрабрытваю і сваім любімым крэмам, урэшце не ўтрымаўся і заплакаў — горка, упаўшы галавою на гэтыя пакункі. Усё жыццё, перад любымі зборамі кудысьці яму звычайна рабілася неяк трывожна, сумна, задоўга да ад’езду ён пачынаў пакавацца, ніколі нічога не забываў, перад тым як загарнуць і пакласці ў сумку, кожную рэч нейкі час трымаў у руках, пагладжваў, — але гэтым разам, збіраючыся сюды, ён адчуваў ужо не проста звычайную разбэрсаную трывогу — цяпер гэтыя рэчы было адзінае, што заставалася ў яго ад ранейшага жыцця, ад ранейшага сябе, рэчы, якія будуць з ім да канца, нават калі ён прыехаў сюды на смерць.

Выцершы мокрыя вочы і шчокі, ён устаў, адчуваючы, як зноў наліваюцца цяжарам ногі, перасеў за стол, разаслаў газету і паеў каўбасы з хлебам і з памідорам, мачаючы памідор у запалкавы карабок з соллю; астаткі ежы загарнуў у газету і паклаў у шафу на верхнюю паліцу, уніз паставіў сумку, на адзіныя плечкі павесіў плашч, на стале акуратна расклаў сшыткі, папку, чысты аркуш

паперы, ручку. Цяпер трэба было паспаць. На міг яму стала страшна — за акном стаяў такі сонечны дзень, якіх у яго, відаць, не многа ўжо засталося, і трэба было б гэтым днём неяк пакарыстацца, хоць бы выйсці на двор пасядзець пад сцёбкаю, — але стома змагла страх. Ён пракаўтнуў таблетку, запіў астаткамі цёплага ліманаду і лёг, не распранаючыся.

Прачнуўся ён ад сонца, якое заходзіла і праз адчыненыя дзверы свяціла на падушку і яму ў твар. Было восем гадзін вечара. Пасля сну — хоць і ненатуральнага, з дымедролам, стала лягчэй. Ногі адтухлі і амаль не балелі. Ён пераапрануўся ў свой ношаны чорны спартыўны касцюм, усунуў ногі ў звыклыя лёгкія тапкі, узяў кіёк і пайшоў на двор, паўз Лідзін плот, і патрапіў у канец вулачкі. Адсюль, у прасвет паміж алешынамі, добра была відаць вілюжная рачулка, сенажаць, зарэчныя хаты, раскіданыя ў зяляніне, і далей куды ні глянь — лес і лес; толькі ў адзін бок, дзе асфальт, жаўцее жыта, сярод якога — зялёны астравок могілак, а за жытам і могілкамі — зноў лес.

Праходзячы пад вокнамі, ён убачыў, што Ліда сядзіць за сталом. А калі ён зайшоў у хату і спыніўся ў парозе, яна ўжо стаяла каля печы і выцірала ручніком рот, саромеючыся есці пры чужым.

— А я думаю: кот мыецца, а тады глянь — ідзе нехта! — гучна, як любая вясковая жанчына, загаварыла яна ў адказ на яго «добрыдзень». — Гэта такая прыкмета: як кот мыецца лапаю, значыць, намывае гасцей, — патлумачыла яна. — От так людзі прыдумалі — а можа, і праўда? Сядай, праходзь, не стой...

Яна выцягнула з-пад стала табурэт, абмахнула ручніком, якім выцірала рот, і кінулася ў большую хату.

II

Ён сеў, агледзеўся, ізноў чыста машынальна адзначаючы тое, што магло б спатрэбіцца для новага апавядання (ізноў думаючы — навошта?!): хата як хата, чыстая, печ завешаная, каля печы — абярэмак дроў, кашэль, кош, ад печы да сцяны — полік, разабраны да палавіны, пад полікам — горка бульбы, пахне зямлёй і мышамі, на стале — міска з варанай бульбаю, слоік кіслага малака, гурок, памідор...

— Рана капаеш, — сказаў ён, паказваючы на бульбу пад полікам; Ліда ўжо вярнулася з пачатай пляшкай куплёнай гарэлкі і даставала з тумбачкі шклянкі і сподачкі.

— А хто мяне гоніць? Я кожны год на Іллю пачынаю капаць, людзі навек смяюцца, што я раней скапаю, чым жыта пажну... Ужо

як яна не вырасла, дык большая і не вырасце. Прыйшоў Ілля — нарабіў гнілля, — дадала яна, пазірнуўшы на яго.

Ліда, як і ўсе вяскоўцы, думала, што праца пісьменнікаў у тым, каб запамінаць розныя народныя прыкметы, загадкі, забаўкі; яна думала, што ён у горадзе гэта забывае і знарок прыязджае, каб наслухацца, і хацела шчыра памагчы яму, нагадваючы штораз як малому дзіцяці: Спас — рукавіцы ў запас, на Пакрову — зіма гатова, кепска, калі дарогу перабягае чорны кот, пераходзяць з пустым вядром і гэтак далей. Яна толькі здзіўлялася, чаму ён не перапытвае і не запісвае следам.

З Лідаю яны былі аднагодкі, жылі побач, хадзілі разам у школу, гулялі, быў час, калі нават трохі кахаліся. Усе, у тым ліку і настаўнікі, і яго і яе бацькі, думалі, што яны пажэняцца. Але ён добра вучыўся, ужо друкаваўся ў раёнцы; захвалены настаўнікамі, трызніў горадам, філфакам, рэдакцыямі, літаратураю... Пазней, ужо жанаты, наязджаючы з горада, заходзячы да Ліды, асабліва пасля таго, як у яе памёр муж, ён заўсёды стараўся выглядаць перад ёю вясёлым, здаровым, шчаслівым, хацелася, каб яна шкадавала, што не ён ёй дастаўся, — і яна, ведаючы, што яму хочацца гэтага, шкадавала, казала: «Не ўсім такое шчасце, як тваёй жонцы». Ён ведаў яе малою, школьніцай, потым нявестаю, маладой маці, цаніў і бярог сяброўства з ёю. Неяк міжволі станоўчыя жанчыны ў яго творах паўтаралі адна адну, выходзілі ўсе «зеленавокія, з усмешлівымі куточкамі тонкіх вуснаў» — як у Ліды, хадзілі «акуратна ступаючы, маленькімі хуткімі крокамі, трохі касалапячы» — як хадзіла Ліда.

Цяпер гэта была ўдава, на пенсіі, звычайная адзінокая вясковая жанчына, якая капае ўлетку бульбу — у выцвілым ад мыцця і сонца сарафане, загарэлая, басаногая, з парэпанымі ад зямлі вялікімі далонямі, і здавалася б — што яму цяпер, ужо на любыя вочы не здароваму, не вясёламу, не шчасліваму, да гэтай жанчыны? Якія тут ужо могуць быць паказы сябе? Аднак ён, панурыўшыся, сядзеў за сталом і ўвесь час баяўся, што Ліда загаворыць зараз пра тое, як ён змяніўся, пастарэў, і ўжо не будзе зайздросціць яго жонцы.

— Ты, Ліда, мне нічога тут не кладзі і не рэж, я есці не буду, — апамятаўся ён, калі Ліда ўжо наставіла перад ім у сподачках, па-культурнаму, парэзаныя гуркі, сыр, сала, сырыя яйкі, нават хлеб на сподачку. — І гарэлкі не лі. Глядзець на яе не магу.

— А што ж гэта з табою?! Ці дома што?

Ён махнуў рукою. Дома ўсё было як заўсёды.

— Нейкі ты, праўда, абы-які, — з жалем разглядаючы яго, сказала яна тое, што ён чакаў і баяўся пачуць. — А я вып’ю.

Яна выпіла і запіла кіслым малаком са слоіка.

— Ты надоўга?

Ён пацíснуў плячыма, хацеў сказаць — пакуль не памру, і не вытрымаў, гучна ўсхліпнуў і закрыў вочы рукою.

— Ну, яшчэ што… Як дзіця малое!..

— Інфаркт быў нядаўна… І чаго я толькі не перажыў!.. Як адмучыўся!..

Яму хацелася расказваць усё: як жыў, ні пра што не дбаючы, не хварэў, на добрай чыстай працы, дажыў амаль да пенсіі, аднойчы вяртаўся дамоў, а тут насунулася хмара, пацямнела ў аўтобусе, і ў яго ў вачах таксама раптам пацямнела, сціснула сэрца, як ён выграбся на прыпынку з аўтобуса і лёг на мокры тратуар, і хацеў паклікаць каго, а ўсе прабягалі побач, ратаваліся ад дажджу, і на яго ніхто нават не глянуў, як ён у залеву дагробся дадому, як везлі потым яго на «хуткай» у бальніцу, і чаго толькі ён там, у бальніцы, набачыўся і наслухаўся!..

Хацеў расказваць, але падняў галаву, глянуў Лідзе ў вочы і зразумеў, што не зразумее яна. І не трэба ёй гэта. Гэта можна расказваць доктару, жонцы, дачцэ, сябрам на рабоце, толькі не Лідзе. Лідзе трэба проста сказаць, што ў яго баліць і чаго ён баіцца.

— А я бачу — з кійком, думаю, так узяў ці нага баліць… Ну, годзе, не плач!..

Ён паслухмяна выцер вочы.

— Тут галоўнае, Ліда, што? Нечаканасць, непадрыхтаванасць… Вось так жыве чалавек, і думае, што вечна… А душа тлушчам заплывае. А потым трах-бах… Я, можа, Ліда, паміраць сюды прыехаў…

— А яшчэ куды? Ты мне тут трэба?! У яго сям’я, жонка, а ён прыехаў да мяне паміраць! Хто табе тут труну выпіша, ямку выкапае?! Тут жа ні «хуткай», ні бальніцы, ні, як той казаў, трупярні!..

Ён, пакорліва апусціўшы галаву, слухаў, і — дзіўна — словы гэтыя, што неслі ў сабе самы страшны сэнс, якія не выклікалі сумнення, што ён так кепска выглядае, што ні для кога ніякага дзіва не будзе, калі сапраўды не сёння-заўтра памрэ, — словы гэтыя яго супакойвалі больш за абнадзейванні ўрачоў, спачуванні знаёмых, больш за жончыну асцярожную клапатлівасць.

— Чаго табе паміраць? — выгаворвала Ліда на ўсю хату. — Сям’я, кварціра, работа, пенсія хутка — што табе яшчэ трэба? Ты ж не стары, як той казаў, мужчына! Сядзі сабе ды глядзі ў тэлевізар: дровы не трэба, картоплі капаць не трэба, ні касіць, ні араць…

— Ага… Смерці гэта скажы.

— Ну а што ж у цябе баліць? Ты з Мінска сам прыехаў, сядзіш,

пазіраеш, ногі цэлыя, рукі... Хворы той, хто пад сябе ходзіць — як мой бацька некалі... Тры гады адлежаў во на гэтым поліку! А табе што?

— На, паглядзі, — ён задзёр калашыны, паказаў ногі.

— Мая матка век пражыла з такімі нагамі! Заварвала бярозавае лісце, парыла ногі і жыла.

— У мяне ж не ногі, а ад сэрца...

— А ты пар, а на сэрца халоднае кладзі. Людзі ж нешта ведаюць, нездарма так робяць...

Яму раптам падумалася, а сапраўды — калі адкінуць розныя душэўныя пакуты, паглядзець збоку, чужымі вачыма, уся яго трагедыя — хворыя ногі. Ну, самае горшае — можа адабраць ногі, але ж не самае страшнае, не смерць...

— Я цябе, Ліда, папрашу, — сказаў ён, — я не ведаю, колькі тут буду і, праўда, я нікому тут не трэба, але ты заглядай хоць калі ў сцёбку, добра? Як пабачыш, што мяне на дварэ няма...

— Хаця б ты не памер! Буду заглядаць, не бойся... А ты сядзі сабе ціхенька на сваёй дачы і менш думай, галавы не дуры. Бо ты проста надумаўся нешта. Пасядзі пад плотам, у лес схадзі, напішы, як мы тут трудзімся, картоплі капаем, што хлеба не возяць... Увечары будзеш прыходзіць тэлевізар глядзець, а ранкам я буду прыносіць якога картопля з малаком...

— Дзякую табе...

Выходзячы, ён спахапіўся:

— Ліда, дай маю кніжку. Тую, надпісаную...

Ліда, з кашалём на плячы і з кашом у руцэ, вярнулася ў большую хату і вынесла кніжку, акуратна абгорнутую ў газету, — яго «Выбранае».

Яна пайшла на агарод, а ён, амаль супакоены, пасунуўся да сябе ў сцёбку, і па дарозе думаў, што будуць яшчэ наперадзе вечары каля тэлевізара з гэтай жанчынаю — ратункам яго, і шмат пра што трэба будзе з ёю пагаварыць: пра смерць, пра сваю жонку, дачку, пра тое, як паміралі яе бацькі, муж, прызнацца і папрасіць прабачэння, што скланяў яе ў сваіх творах на ўсе лады — хоць і ведаў, што яна наўрад ці нават разгарнула яго кніжку.

І ў сцёбцы здалося ўжо не так адзінока — калі ведаеш, што блізка на агародзе чалавек, які думае пра цябе і, калі што, паможа. Праз акенца свяціла чырвонае вячэрняе сонца. Ён, пакуль не зайшло сонца, чытаў Евангелле, потым, калі стала цямнець, уключыў святло і пачаў пісаць.

Калі ёсць талент верыць, прага да ісціны, гэтыя веру і ісціну можна адшукаць не тое што ў Евангеллі, а ў маіх апавяданнях пра

калгасы і пра паліцаяў. Ёсць, хто не ўмее іграць на скрыпцы, не ўмее араць, касіць, танцаваць балет, пісаць апавяданні, — а я не ўмею верыць; дык у чым мой грэх?

«И приводили к Нему всех немощных, одержимых различными болезнями и припадками, и бесноватых, и лунатиков, и расслабленых, и Он исцелял их»; «воскрешает дочь Иаира, дарует зрение двум слепым, исцеляет немого бесноватого, дает апостолам власть творить чудеса, исцеляет сухорукого, исцеляет одержимого слепого и немого, исцеляет дочь Хананеяки и множество других, семью хлебами и пятью рыбками насыщает 4 тысячи человек, идет по воде к своим ученикам, воскресший, является ученикам на горе»...

І што ж?

«И, увидевши Его, поклонились Ему; а иные усумнились».

Езус Свенты! Пасля ўсяго — усумніліся?! А мне, чалавеку канца XX — пачатку XXI стагоддзя, які нават уявіць сабе не можа ніводнага з гэтых дзівосаў, трэба верыць на слова!

Калі б Бог сапраўды быў Дабро, калі б ён хоць трохі любіў людзей, яму трэба было б рабіць пагулянкі па вадзе перад кожным новым пакаленнем. Здавалася б — чаго прасцей: спусціцца летнім днём у вобразе анёла на Камсамольскае возера, на Фінскі заліў, Гудзон, даць сябе сфатаграфаваць і знікнуць, растварыцца — больш нічога. І чалавецтва выратавана навечна. Шчаслівыя, як дзеці, людзі радасна жывуць, радасна паміраюць, радасна хварэюць, адчуваюць сябе зброяю ў нечых добрых руках, нічога і нікога не баяцца, мозг не забіты, каго б абдурыць, абакрасці, абрабаваць, хутчэй усім насалодзіцца, войнаў няма, гора няма, фізічная праца робіцца неабходная, як ежа, культура, літаратура, мастацтва ствараюцца ў часы найвышэйшага экстазу захаплення перад веліччу Вечнасці...

Як сонца, што толькі што свяціла ў акно, і вось знікла, і следу няма.

III

Жнівень быў добры — ціхі, сонечны.

Ён пачаў жыць у сцёбцы. Рана клаўся спаць, рана ўставаў — ішоў у блізкі лес, нарываў бярозавага лісця, пакуль вяртаўся, Ліда прыносіла ўжо ў сцёбку чыгун кіпетню, слоік сцюдзёнай вады з калодзежа, заварвала лісце ў тазе, ён парыў ногі, трымаючы на сэрцы слоік з холадам, і здавалася, што лягчэла. Схадзіў на могілкі, на магілы бацькі, маці, прапалоў, высек акацыі, пасадзіў па бярозцы. Асабліва добра было вечарамі, калі Ліда, падаіўшы карову, звала яго вячэраць і

глядзець тэлевізар. Яны перагаварылі пра многае. Сама яна зусім не баялася смерці, не верыла ні ў Бога, ні ў чорта, адно, чаго баялася — памерці зімою, у марозы, і грубавата смяялася з яго: «Не бойся, сканаеш, як-небудзь пахаваем!»

Ён усё хацеў расплаціцца за тое, што Ліда яго корміць. Яна перш не брала грошы, а тады стала браць, і зусім пачала глядзець яго, як дзіця.

Удзень ці ўвечары, прыходзячы ад Ліды, ён перачытваў свае дзённікі, якія вёў да 32 гадоў, перагортваў «Выбранае» — і патроху пісаў: адзін-два абзац у дзень, пра што папала.

*

Вось лета за акном: раніцамі — белая ад расы атава, бярэзнік, жоўты скурчаны лісток вісіць на павуціне, ababак у траве пад бярозаю, удзень — сіняе неба і людзі гарбацяцца на агародах, увечары — туман, каровы рыкаюць, камары звіняць, пахне бульбоўнікам і мокрай травою...

Божа, як я баюся і ненавіджу ўсё гэта!

Гэта тое ж самае, як перачытваць мае дзённікі-запісы амаль трыццацігадовай даўнасці — страшныя запісы, — не сэнсам, бо ў іх якраз самыя звычайныя словы, а цэлым сваім страшныя — тым, што пісаліся рукой здаровага шчаслівага чалавека. Нібы малады заснуў летаргічным сном на дзесяцігоддзі, спаў і старэў, прачнуўся дзедам і нікога і нічога вакол не пазнаеш, і сябе таксама, а бачыш і разумееш толькі, што вось быў малады, лёг спаць, прачнуўся — а адной нагою ў магіле.

Вось запіс у 25 гадоў: «Калі станеш стары, успомні гэты дзень!

Марозны, снежны; у заінелым кіёску часопіс з жаданым нумарам на вокладцы, і соладка і страшна сціскаецца сэрца, і б’е па вачах тваё імя і прозвішча над першым у жыцці апавяданнем. Амаль да ночы блукаў па мілым Мінску, расцягваючы гэты дзень, не жадаючы з ім развітвацца, здагадваючыся, што мала такіх будзе наперадзе. Да таго ж, падаў коса снег, дробны і зіхоткі каля ліхтароў, і іскрыўся пад нагамі...»

Што значыць гэты запіс? Значыць, калі ўдумацца, самую простую, жудасную сваім непазбежным поступам, смерць — і больш нічога. Калі б я тады запісаў: «Выйшла маё першае апавяданне, і снег іскрыцца, — пайду нап’юся, ці зарэжу каго-небудзь», — я мог бы цяпер выць і біцца галавою аб сцяну турэмнай камеры. Але я пражыў той дзень, выпіў яго да дна — як і я цяперашні, калі б вярнуўся ў тыя свае 25, пражыў бы таксама.

Гэта значыць: я і тады ўпустую сябе не траціў, разумеў, цаніў жыццё. Калі б зараз з'явіўся чараўнік і перанёс мяне ў той час, я нічога б не паправіў, мне не было б чаго змяняць.

Любіў жыццё, цаніў, піў маленькімі глыткамі... Пакуль яно не ўзяло ды не прайшло!

*

Ніколі не верыў і не веру цяпер у гаданні, прыкметы, у ведзьмароў, экстрасенсаў, не снілася ніколі двух аднолькавых сноў, не было за ўсё жыццё ніводнага шчаслівага супадзення, збегу абставін, у якім можна было б западозрыць умяшанне «Некага» ці нечага. Але вось учора пісаў пра летаргічны сон, а сёння знайшоў нешта падобнае ў дзённіку, ужо не выдуманае.

30 гадоў: «Сніцца, што мне 60, я стары дзед, з барадою, ляжу ў ложку, вакол людзі, і я ведаю, што даўно ляжу і ўжо час паміраць, — а я нічога не магу зразумець: як я дакаціўся да гэтага?! Як жыў, што рабіў? Сілюся нешта сказаць, а вусны ледзь варушацца, хачу ўстаць — не слухаюцца ногі... І раптам — прачынанне, радасць, ад якой захлынаешся. Жывы, здаровы, і столькі гадоў наперадзе!»

І вось сон паўтарыўся, толькі на яве. Калі мяне вязлі ў бальніцу: ноч, залева, бура, патокі вады, па дарозе скрозь стаяць машыны і «хуткая» не едзе, а плыве, абганяючы іх... І раптам час спыніўся і ўспомніўся той даўні сон. І так ясна стала: ну, хай гэтым разам не памру — усё ж бальніца, неяк адкачаюць, — але праз месяц, год, 5, 10 гадоў усё будзе тое ж самае: так сама будзе паўзці ўночы «хуткая», і я — такі ж самы! — буду глядзець у акно і адчуваць тое ж самае, што і цяпер, яшчэ горшае, бо ўжо буду ведаць, што гэтая дарога да бальніцы — мая апошняя дарога.

І як бы тады ні сіліўся, ужо не прачнуцца маладым.

Урач сказаў, што гэта звычайны пасляінфарктавы шок. Ён можа цягнуцца ад некалькіх дзён да некалькіх гадоў. Гэты шок можа зацягнуцца ад таго, сказаў урач, што прыступ здарыўся нечакана, я не быў да яго падрыхтаваны: ніколі раней на сэрца не скардзіўся, увогуле рэдка хварэў, усе аналізы, кардыяграмы былі ў норме.

«Здарылася нечакана» — так, але яшчэ ўчора, у каторы раз праглядаючы свае запіскі, стараючыся разабраць хоць нешта ў радках ці між радкоў, зрабіў раптам цэлае для сябе адкрыццё. Дзіўна, як не бачыў гэтага раней!

Адзін з першых запісаў — 22 гады: «У паліклініцы. Камісія. Мы шумна перагаворваемся, штурхаемся, рагочам. Жанчына-ўрач, здзіўлена: «Чаго яны?» Другая, спакойна: «Баяцца».

23 гады: «Лета, якога раней так чакаў. Чым далей ад дзяцінства, тым больш чалавек траціць нешта такое важнае, што не выказаць ніякімі словамі. Да нейкага перыяду (рознага ва ўсіх) чалавек чакае ад будучыні толькі светлага, ён нібы падымаецца; пасля гэтага перыяду чакае толькі горшага і апускаецца».

24: «Тэма: малады настаўнік утапіўся ў канцы мая. Лінейка. Дырэктар выступіў і сэнс выступлення звёў да таго, што не трэба купацца...»

І далей, і далей — і ўсё палікдінікі, бальніцы, смерці... І гэта малады чалавек, студэнт, жыве ў вялікім горадзе, вакол столькі дзяўчат...

25, 26, 27 гадоў — скончыў універсітэт, гуляў з дзяўчынаю, працаваў, пісаў, друкаваўся, — а запісы тыя ж — пра бальніцы і хворых... Акуратна, часта іншым колерам чарнілаў, прастаўлена дата над кожным запісам.

28, 29, 30 — ажаніўся, нарадзілася Алеся, атрымалі кватэру, выйшла першая кніжка, перайшоў на працу ў выдавецтва — і што ж? Пра ўсё гэта адным штрышком, як пра нешта другаснае. Затое цэлыя абзацы, старонкі ідуць пад апісанні пораў года:

«Скончылася зіма...»

«Заўтра — першы дзень восені...»

«Ідзе вясна ўжо, дзякуй Богу, — згінуў сьнег з сырой зямлі! (Якуб Колас)...»

Усе назвы месяцаў узяты ў рамкі. Новы год абводзіцца сінім, зялёным, а тады яшчэ і чырвоным чарнілам. Але пры такой пунктуальнасці — ані згадкі пра дні нараджэння.

31 год. Даты, дні, месяцы перастаюць праставляцца зусім, старонкі запоўнены мноствам нейкіх літаратурных планаў, з якіх ніводзін не быў рэалізаваны...

Урэшце пасля 32 гадоў запісы робяцца з перапынкамі ў месяц, год, і тычацца выключна літаратуры: тэмы, героі, дзе што друкавалася, дзе будзе друкавацца.

*

У 32 гады памёр мой бацька. Ад сэрца. Я зусім не помню яго, помню трохі пахаванне: зіма, страшная завіруха, труну вязуць коні, на санях, мы з братам сядзім у перадку і плачам, напужаныя свістам ветру і снегу і галашэннем людзей, што ідуць за санямі. Матка не шкадавала яго, расказвала, што «піў, біўся, баяўся смерці, аж пішчаў, усё цягаўся па паліклініках, але граматны быў, любіў пісаць у Маскву нейкія пісьмы, каб на аперацыю паклалі...»

Сапраўды, гэта магло адбіцца ў малой галаве: у 2—3 гады даведацца, што смерць страшная штука, ад якой можна пішчаць, што яна прыходзіць пасля 30 гадоў, што для таго, каб яе адцягнуць, трэба быць гатоваму хадзіць па паліклініках, бальніцах, пажадана быць «граматным», каб пры выпадку напісаць у Маскву наконт аперацыі... Сапраўды — цалкам можа быць, я чакаў і адначасова баяўся гэтай лічбы — 32 — як агню.

З патаемнай, падсвядомай радасцю рука абводзіла чырвоным ці зялёным чарнілам назву месяца: вось, дзякуй Богу, і снежань прайшоў — а я жыву, і быццам нічога, здаровы. А вось цэлы Новы год — а я жыву... Дзень нараджэння — гэта ўжо непрыемнасць, гэта бліжэй да 32-х, — лепш не заўважыць, прапусціць...

І каля самых 32-х, на «перавале» — спроба падмануць нешта ці Некага, нагрузіць сябе планамі: ну, не будзеш жа паміраць, не зрабіўшы яшчэ столькі ўсяго!..

Характэрны запіс, зроблены адразу ж пасля «перавалу» 32-х:

«Чалавекам у жыцці рухае толькі ірацыянальнае, інстынкт, «выпирающая сила жизни». Наколькі моцнае ў чалавеку гэтае ірацыянальнае, няўлоўнае, настолькі доўга, здарова, прадукцыйна ён і пражыве. Бо калі ёсць здароўе і душэўны спакой, тады праясняецца і ўсё іншае: навошта жыць, для чаго пісаць, і як паміраць, і нашто паміраць.

Не высвятленне гэтых пытанняў дае душэўны спакой, а наадварот.

Таму што высвятленне пытанняў Жыцця і Смерці можа памагчы толькі тады, калі на пару гадзін застаешся ў адзіноце ў чатырох сценах. Але вакол — жыццё, і ў сутках — 24 гадзіны.

Можа, у кагосьці інакш, а ў мяне так. Я даражу сваім душэўным спакоем і баюся і не хачу, каб што б там ні было (у тым ліку і вера ў Бога, якая вымагае дзеянняў) парушала гэты спакой».

Карацей, «у здаровым целе здаровы дух». Так я амаль трыццаць гадоў пасля гэтага запісу і жыў, і, можа, правільна жыў... пакуль было здаровае цела.

*

Лекі, якія хоць раз памаглі, запамінаеш, любіш іх, стараешся ашчаджаць, беражэш на крайні выпадак. А што мне (ва ўсялякім разе я так лічыў) памагло? Загружванне ў крытычны момант сябе працаю. А праца мая — заняткі літаратураю, выдумванне мастацкіх твораў. Літаратура памагла мне.

Яшчэ пераглядаючы сваю першую невялічкую кніжку,

перачытваючы адну-адзіную дзяжурную рэцэнзію на яе, я з горыччу вымушаны быў прызнацца: мне ў літаратуры мала дадзена. Параўноўваючы, супастаўляючы сваё з чужыя, я бачыў, што чужыя апавяданні неяк іскрыліся, дыхалі, аўтары не баяліся нязграбнасцей, паўтораў, адступленняў, неабавязковых, на маю думку, дыялогаў кшталту «Га?», ды «Ну?», ды «Вось як!», шчодра, па цэлых старонках апісвалі прыроду, не звязаную з адчуваннямі герояў, не рабілі ў канцоўках ніякіх абагульненняў, — але ў цэлым, калі чытаць іх, не думаючы пра тэхніку, гэта былі жывыя творы жывых людзей...

Але ў мяне былі і свае плюсы. Для маіх больш таленавітых сучаснікаў літаратура была — ва ўсялякім разе, напачатку — проста заняткам, хобі, а для мяне — лекамі, самім жыццём. Я, як тая жаба, кінутая ў смятану, вымушаны быў валтузіцца і таптацца, каб збіць цупкае масла і не патонуць. Я мог перапісваць аповесць ці апавяданне па чатырнаццаць разоў і, камбінуючы, шляхам спробаў і памылак, чыста матэматычна дабіваўся таго ж, чаго іншыя дабіваліся на адным дыханні, у хвіліны натхнення.

Вышэй згадваў, што ніводзін з планаў, запісаных перад чаканнем 32 гадоў, не быў рэалізаваны, — гэта няпраўда. Сёе-тое рэалізавалася, але як? Я абдумваў усё халоднай галавою, вывяраў кожны сказ, дабіваўся, каб у абзацы не было двух аднолькавых слоў, — але не ведаў натхнення, ні разу не было, каб старонкі з-пад рукі ляцелі...

Апавяданні, як сталі казаць, пачалі атрымлівацца «густыя», з ідэалагічнага і граматычнага боку вывераныя; апошняе — уменне пісаць без граматычных памылак, — відаць, найбольш і паслужыла таму, што мяне ў хуткім часе запрасілі на працу ў выдавецтва рэдактарам.

У параўнанні з газетнай рэдакцыяй тут быў проста рай. Самае галоўнае, усталяваўся рэжым. Раніцай — слабая кава, прагулка па блізкім лесапарку, аўтобус у цэнтр на працу, у выдавецтве — размовы, анекдоцікі, сустрэчы з аўтарамі, рэдагаванне чужога, увечары, дома, адна-дзве гадзіны матэматыкі-творчасці перад сном. Заўсёды перад сном, ніколі не больш двух старонак. Выхадныя, святы, асабліва адпачынкі — непажаданасць, бо гэта ж трэба думаць, для чаго жыву, ды нашто пішу, ды падбіваць «бабкі» — чаго ў жыцці дасягнуў у параўнанні з іншымі...

Сябры здзіўляліся, чаму я так марудна і мала пішу, калі ёсць такія магчымасці друкавацца. І сапраўды, у год я друкаваў адно апавяданне, рэдка два. За трыццаць гадоў ледзь набралася 10 аркушаў «Выбранага».

Дык што?

Пачатак лета. Хмарнага, дажджлівага, з перападамі ціску. Толькі што выйшла маё «Выбранае», нібы падвёўшы рыску пад пэўным адрэзкам жыцця. Апошні год я жыў, як па інерцыі, але вось-вось павінен быў быць адпачынак. А адпачынак — гэта час шчырасці перад самім сабою. У вольныя дні адпачынку я проста вымушаны быў бы прызнавацца сабе ў тым, пра што здагадваўся, але, закручаны ў рэжым, не хацеў думаць. А менавіта — маё «Выбранае», плён усяго жыцця, у параўнанні з тым, што вакол апошнім часам адбываецца і адбылося, нікому не патрэбнае. Ні чытачам, ні крытыкам, ні прадаўцам кнігарань, ні бібліятэкарам, — нікому ў свеце, і лепш было б і для мяне, і для ўсіх, каб гэтае «Выбранае» ўвогуле не выбіралася.

У такім настроі, з такім багажом я вяртаўся тады з працы. А хмара паўзе, а наперадзе — «маленькі адпачынак», выхадныя, а вось-вось сапраўдны адпачынак, а галоўнае — дома чакае новая аповесць, пра сучаснасць, ляжыць на стале чарнавік з героямі, якіх я не ведаю і баюся, і не люблю: нейкія бізнэсмены, прастытуткі, мафія, міліцыя... Чарнавік, за які я кожны вечар кідаю сябе сілаю...

Арганізм не захацеў цярпець гэтага.

*

Атрымліваецца, мой інфаркт — ад «Выбранага»? Якое паказала мне маю мізэрнасць? І калі б не выдаваў яго, калупаўся патроху, нічога б не было, жыў бы па інерцыі, як і раней?

Ох, гэтае «Выбранае»... 1987—1991. Гады, у якія ўсе ранейшыя крытэрыі, ідэалы перавярнуліся на 180 градусаў. «Выбранае» выбіралася, а час усё бег, усё змяняўся, і мае сакратары парткамаў, калгаснікі і партызаны аніяк за ім не паспявалі...

Дапускаю, што я ўсё жыццё сумленна, як умеў, стараўся кляпаць у мастацкіх вобразах тое, што не магло быць вечна, верыў у тое, у што нельга было верыць: у сацыялізм, у калгасы, у грамадства вышэйшай справядлівасці, у партыю камуністаў; таму і выйшла маё «Выбранае» эталонам таго, што нікому не трэба.

Дапускаю — я ўпарта і сумленна будаваў вось такую сцёбку, у якой цяпер сяджу, і сцёбка атрымалася цёплая, у ёй можна жыць, — але пабудавана яна не на цвёрдым грунце, а на ільдзіне. Ільдзіна растала.

Дапускаю — але што такое я? Акрамя таго, што сумленны рамеснік і добры рэдактар? Хто мяне дзе ведае? Мне мала дадзена, таму і мала з мяне можна ўзяць. Я пабудаваў на ільдзіне сцёбку, а нехта ж — цэлыя дамы, палацы! Ды па гэтай логіцы павінна была

пачацца проста эпідэмія пісьменніцкіх інфарктаў, і чым больш таленавіты пісьменнік, тым больш яго павінна была аглушыць перамена веры!

*

Учора ўзяў у Ліды томік апавяданняў Шукшына, знайшоў апавяданне «Верую». У што ж?

«У авіяцыю, у хімізацыю, у механізацыю сельскай гаспадаркі, у навуковую рэвалюцыю, у космас і бязважкасць, у барсучынае сала, у стаячую аглоблю — бо ўсё гэта аб’ектыўна!»

Калі ў гэта верылі лепшыя з лепшых, дык што казаць пра «масы»? Вось гэтая «аб’ектыўнасць» і звязвала, як раствор цагліны, эпізоды ваенныя, калгасныя, партыйныя, гістарычныя, палюбоўныя ў апавяданнях, аповесцях і раманах.

Але не перастаю здзіўляцца, чытаючы цяперашнія выступленні пісьменнікаў і цяперашнюю крытыку. Аказваецца, усе заўсёды разумелі, што тая вера была лухта, творы таго часу трэба лічыць несур’ёзнымі, лепш іх увогуле не згадваць, а калі згадваць, ацэньваць з пазіцыі апазітыўнасці: гультая, які не хацеў ісці ў калгас, трэба лічыць цяпер не за гультая, тым больш не за ворага, як ранейшая крытыка лічыла, а за станоўчага героя; у апавяданнях пра вайну паліцая цяпер трэба лічыць як асобу трагічную, чалавека, які апынуўся паміж двух агнёў...

Зрэшты, усё можа быць, і тая вера магла быць несур’ёзнаю. Але тады якая сур’ёзная? Якая, урэшце, заняла сваё законнае месца, калі адпала патрэба маскіравацца і гаварыць эзопавай моваю? У рыначную эканоміку, у малы і вялікі бізнэс, у шкоду авіяцыі, механізацыі, хімізацыі, у добрага паліцая, у кепскага партызана, у самадура-парторга, у Бога, сатану, у «Храм-хам», «Адраджэнне-абуджэнне»?

*

У прэтэнзіях цяперашніх маладых да нашага пакалення больш праўды, чым позы і задзірыстасці. Асноўная думка гэтых, мякка кажучы, прэтэнзій тая, што нашаму пакаленню, перш чым прэтэндаваць хоць на нейкае месца ў літаратуры, трэба пакаяцца. Проста растлумачыць, чаму адбылася (ці не адбылася) перамена веры.

Бо інакш як можа верыць нам малады чалавек? Што ён ад нас чуе?

Ён чуе ад нас — наменклатура, саветы, рынак, незалежнасць; гэтак сама, як раней чуў — буржуазная прапаганда, станоўчы герой,

чалавек працы, вытворчая тэма, подзвіг народа...

Міжволі засумняваешся: ды ці ёсць у такіх «настаўнікаў» нешта важнае, запаветнае, не звязанае з палітычным момантам? А самае галоўнае, ці было хоць калі? Міжволі пачнеш касіць пад корань што трэба і што не трэба...

Альбо як не згадзіцца з цяперашнімі маладымі, што чым больш таленавіты пісьменнік (які памяняў цяпер веру), тым больш яму трэба «пакаяцца», бо тым больш у параўнанні з графаманам яго творы служылі той сістэме, якая панавала?

У маім «Выбраным» ёсць апавяданне. Там калгасніца з малым сынам позна ўвечары перакопваюць — па скапаным — калгасную бульбу. За гэта ганялі. Нарваўся брыгадзір і павёў іх у сельсавет складаць акт. Потым, па дарозе, глянуўшы на хлопчыка, які плакаў, адпусціў іх. У апавяданні атрымаліся жывыя героі, а ў цэлым іх «жывасць» даказвала толькі тое, што ў калгасах — адпаведна, і пры тым дзяржаўным ладзе, які выдумаў калгасы — чалавек застаецца чалавекам. Але крытык, рэцэнзуючы «Выбранае», напісаў: людзі ўжо тады разумелі, што калгасы — зло, і таму вяскоўцы вымушаны былі памагаць адно аднаму, каб дажыць да часоў лепшых, фермерскіх...

Пераконваць, «запальваць» могуць толькі жывыя героі. Героі жывыя тады, калі сумняваюцца. Чым больш сумняваюцца, тым глыбейшы (нібыта) канфлікт, тым лепшы мастацкі твор у дэталях і тым больш ён служыць пануючай ідэі ў цэлым; і тым больш ён даўгавечны, бо пры змене пануючай ідэі сумненне можна разглядаць як асноўную думку.

Асаблівыя нараканні на маладых за тое, што яны замахваюцца на святое святых — ваенную тэму! Ужо за эксплуатацыю гэтай тэмы, нават за слабыя творы, нельга вінаваціць. Як ні напішы, сам пафас твора будзе гуманістычны: вайна — зло, чалавек перастае належаць сам сабе, ставіцца ў жорсткія ўмовы выбару; з іншага боку, вайна — пробны камень: не будзь вайны, ні сам чалавек, ні іншыя маглі б і не даведацца, які ён на самай справе, што жыве ў яго душы. Калі ж яшчэ рэалістычна, падрабязна выпісаны дэталі сітуацый, у якія трапляе чалавек на вайне, калі чытач зліваецца з псіхалогіяй героя, думкамі, словам, калі твор высокамастацкі, ён яшчэ больш, чым твор слабы, павінен адбіць у чытача любую ахвоту да вайны.

Даўно, калі я яшчэ працаваў у газеце і ездзіў у вясковыя камандзіроўкі, мне давялося заначаваць у адной вёсцы, у хаце настаўніцы. Вечар быў восеньскі, доўгі, і я папрасіў у настаўніцы пачытаць сачыненні дзевяцікласнікаў, якія яна правярала. Тэмай сачыненняў былі сучасныя ваенныя творы — як бы ты паступіў на

месцы… не помню, скажам, Матросава? Усе пісалі, што таксама аддалі б жыццё за Радзіму; адно сачыненне было яўна лепшае, разгорнутае, шчырае. Нейкі хлопец распавядаў, што ісці яму да школы пяць кіламетраў туды і назад, ходзіць ён адзін і, каб не сцягвалася дарога, часта, пакуль ідзе, уяўляе сябе на месцы Матросава, Касмадзям’янскай, Кашавога, Гастэлы, Сотнікава, Мерэсьева, спрабуе перажыць разам з імі катаванні, уяўляе сябе з пятлёй на шыі, як плюе ў твар ворагам і выціскае з сябе апошняе «гады»… Тады мяне гэта зусім не ўразіла, я адзначыў толькі добры стыль і хлопцаву начытанасць…

Але цяпер!..

Цяпер, услед за маладымі, таксама хачу папытацца: дык што ж такое нашая славутая гуманістычная ваенная проза? Гэта ж проста нейкае глумленне, калецтва маладых розумаў, нейкі ўвесьчасны злавесны набат: рыхтуйся! Будзь гатовы выцерпець катаванні і памерці! Помні, што калі не захочаш памерці, як герой, памрэш іншай, здрадніцкай смерцю! Не верыш? Вось табе прыклад: высокамастацкі твор, напісаны дэталёва, з падрабязнасцямі; пачытай і пераканайся, што чакае тых, хто даражыць сваім жыццём і не хоча быць павешаным альбо закатаваным…

*

Зноў разгортваю наўзгад Шукшына і чытаю:

«З аднога краю неба пасвятлела, стала блакітным, і блізка недзе было сонейка», — чытаю і бачу не неба і сонейка, а тое, што Шукшына няма. Ён памёр. Ад сэрца. Смерць на ўсім, і на тых маладых, пра якіх пісаў учора.

Вядома, яны дакажуць (раз мы самі не хочам гэтага рабіць), якія былі мы, якой была наша проза, каму і чаму мы служылі, — дакажуць і нават не заўважаць, што на гэтыя доказы патраціўся ўвесь імпэт, лепшы час, і, азірнуўшыся, убачаць, што нічога хоць бы ў мастацкіх адносінах лепшага за нашае і не створана, што і яны служылі не Літаратуры, а барацьбе з намі, і што ім ужо наступаюць на хвост, і смяюцца з іх, і пішуць пра іх, як пра згубленае пакаленне, якое з’ела зубы ў нікому непатрэбным змаганні з «прыкарытнымі» пісьменнікамі — з намі. Як бацька сына не за тое біў, што п’е, а за тое, што пахмяляецца, так бы і ім сказаць: не ў тым ваша няпраўда, што змагаецеся, а ў тым, што змаганне для вас — мэта.

*

Вось цяпер, дзякуючы гэтым адступленням, як тое

шукшыноўскае неба, збольшага праясняецца, чаму я жыў-быў, і раптам інфаркт, і страх, і смерць.

Я многа верыў. Вера была — у патрэбнасць сваёй працы, у сваё ўменне выдумляць гуманістычныя мастацкія вобразы з дамінуючай ідэяй — пабудова шчаслівага сацыялістычнага грамадства, са станоўчым героем, з сітуацыямі, дзе дабро перамагае зло, духоўнасць — практыцызм і г.д. І раптам перастаў у гэта верыць. Але жыць трэба. А жыць я магу тады, калі пішу.

Трэба альбо «перакуліцца» накшталт пясочнага гадзінніка і пачынаць — следам за многімі — перасыпаць з твора ў твор рэпрэсіі, рэкет, палітыку, прастытутак, «Бога — Храмы — Адраджэнне», альбо адстойваць сваю ранейшую «сацрэалістычную» веру і ў мастацкіх вобразах даказваць людзям, што той лад, якому мы, асмеяныя цяпер пісьменнікі, служылі, быў не горшы, а ў многім і лепшы за тое, што ёсць і што чакае наперадзе, альбо паспрабаваць напісаць пра нешта вечнае, што б не залежала ад пераменаў у грамадстве... Любая з гэтых вераў павінна вярнуць мяне да жыцця, да яснасці, да сябе ранейшага, і зноў можна будзе патрошку жыць, патрошку пісаць, шліфуючы кожны сказ, і пражыць спакойна яшчэ гадоў 10—20.

Астаецца драбяза: якую ж веру выбраць? Якая — калі не праўдзівая, дык хоць больш-менш аб'ектыўная?

*

Тады ўжо ідзі далей, да канца: а што ж гэта такое за сама Літаратура? У якую можна так верыць і так любіць яе, што яна робіцца ўся — жыццё? Не як кніжкі тлумачаць, а як ты сам для сябе тлумачыш?

Так тлумачу: ёсць уласна літаратура, 1-га гатунку, якая заўсёды ствараецца ў апазіцыі да пануючага ладу, пануючых густаў, і літаратура 2-га гатунку — пазітыўная, літаратура абслугі. Мэтай «уласна літаратуры» заўсёды было змаганне: з рабаўладальніцтвам, феадалізмам, імперыяй, хрысціянствам, паганствам, аскетызмам, распустай, атэізмам, рэлігіяй, рэвалюцыяй, контррэвалюцыяй, камунізмам, капіталізмам і да т.п. — з тым, што ўзаконена і пануе; акрамя таго, і са сваёй названай сястрою — «літаратурай абслугі», мэта якой была (і ёсць) — падтрымліваць пануючы лад і пануючыя густы.

Змаганню супрацьстаяла цэнзура. Паступова задача літаратуры 1-ай звялася да барацьбы не супраць пануючага ладу і густаў у цэлым, а супраць уласна цэнзуры. Хоць само гэтае супрацьстаянне нібыта апраўдвала літаратурны працэс, даказвала яго

неабходнасць, адбывалася тое, што забываўся галоўны аб’ект літаратуры — чытач. Каб абдурыць цэнзуру, трэба было ствараць новыя формы — як правіла, больш складаныя ў параўнанні з папярэднімі, ужываць эзопавую мову, хаваць асноўныя думкі ў апісанні прыроды і ў любыя іншыя апісанні; паступова забывалася першае і «залатое» літаратурнае правіла: толькі тыя формы, стыль, мова, апісанні апраўданы і з’яўляюцца мастацкімі, якія найкарацейшым шляхам, проста і ясна, даносяць асноўную думку да сэрца і розуму аб’екта — чытача.

Гэта першае, а другое — гармонія. Пажадана, каб чытач, чытаючы (менавіта так: чытач чытаючы), мурлыкаў ад задавальнення.

Са знікненнем цэнзуры атрымалася, што аўтаматычна знікае і «ўласна літаратура», літаратура змагання. Магільшчык апынуўся ў адной яме з тым, для каго яе капаў, і цяпер застаецца толькі чакаць, пакуль зверху не пачнуць ляцець першыя жмені пяску.

Але літаратура 2-ая з адменай цэнзуры застаецца, і мэты ў яе застаюцца тыя ж: усялякімі спосабамі закалыхваць людзей. Вось тут — стоп.

Мая літаратура, якую я сумленна ствараў амаль 20 гадоў, якраз жа і была літаратура абслугі. Яна абслугоўвала, апраўдвала, усяляк ухваляла пануючы лад і змагалася толькі з дробнымі скажэннямі асноўнай лініі. Дык працягвай абслугоўваць далей і жыві.

Уся справа ў тым, што пры змяненні пануючага ладу, той самай «асноўнай лініі», змяніліся не мэты, а формы літаратуры абслугі. З апісальна-рэалістычнай яна цяпер павінна стаць забаўляльнай. (...)

І калі ўспомніць, што на маім стале перад інфарктам якраз і ляжала аповесць дэтэктыўна-забаўляльная, з усімі атрыбутамі новага (якое раніцай новае, а ўвечары ўжо старое): рэкетам, прастытуткамі, суперменамі, далярамі — карацей, нешта абы-што, а я адчуваю, што толькі такое цяпер і трэба...

Тады многае, калі не ўсё, робіцца ясна.

Я зразумеў, што ў гэтай новай якасці абслугі мая творчасць не вытрымае канкурэнцыі... Мабыць.

IV

Ішлі дні.

Ён патроху пісаў, хадзіў у лес, на рэчку, на могілкі, увечары глядзеў з Лідаю тэлевізар, раніцаю парыў ногі ў бярозавым лісці. Ці то гэтае лісце памагала, ці Лідзіная вясковая ежа, чыстае паветра, ці

гэтае спакойнае роўнае жыццё, калі не трэба некуды рвацца, нечага ўвесь час хацець, калі можна спакойна, у адзіноце, пасядзець, паляжаць, прывесці ў парадак думкі і настрой, — але яму сапраўды рабілася з кожным днём лягчэй, сэрца ўжо амаль не балела, ногі пакрысе зусім перасталі ацякаць.

Ён мог хадзіць ужо без кійка, далёка. Прайшлі дажджы, кінуліся расці грыбы, знайшоўся новы занятак.

Ён абышоў усе знаёмыя з малых гадоў мясціны, многае ўспомніў, перажыў па-новаму. Раз выбраўся ў суседнюю вёску, дзе была пошта, і заказаў тэлефонную размову з Мінскам, пагаварыў з жонкаю. Усе навіны былі добрыя. Жонка прасіла прабачэння, што не пісала, турбавалася, як ён там, шкадавала, што адпусціла яго аднога такога, прасіла ўжо прыязджаць дамоў. Алесін (дачкі) кавалер сабраўся ўрэшце жаніцца. Званілі сябры, пыталіся, куды ён знік, цікавіліся, ці піша што-небудзь новенькае. Выйшла яшчэ адна рэцэнзія на яго «Выбранае». Па дарозе назад ён успамінаў Мінск, думаў, як прыедзе і будзе расказваць сябрам, што нездарма чалавека ў цяжкія хвіліны цягне на радзіму, праўда, што родная зямля ратуе. І яго вось уратавала...

Самаму было дзіўна, што больш за ўсё яго ўзрадвала ў гэтай размове тое, што выйшла рэцэнзія і сябры чакаюць ад яго яшчэ новых твораў. Хоць ён добра ведаў рэцэнзента, напярод мог сказаць, што там будзе напісана, усё роўна прыемна было прадбачваць чытанне той рэцэнзіі — як і ў ранейшыя, да хваробы, часы.

У той вечар, седзячы з Лідай каля тэлевізара, яму стала сорамна, калі ўспомніў, як плакаў перад ёю, пытаўся пра смерць... Упершыню падумалася, што вяскоўцы і дачнікі, відаць, абгаварылі Ліду з ног да галавы — і яго, вядома, — за тое, што жывуць ледзь не ў адной хаце...

І гэты сорам і нейкае раскаянне ў нечым былі першым пробліскам вяртання да сябе ранейшага. Адбылося акурат тое, аб чым ён пісаў у сваім дзённіку 30 гадоў назад: паздаравела цела, патроху пачало вяртацца здароўе — і дух паздаравеў, і пытанні, якія раней так палохалі, даводзілі да жаху, цяпер здаваліся не такімі ўжо і безадказнымі. Іх можна і трэба было цяпер вырашыць. Каб жыць, як і жыў.

Змяняўся дух — змяняліся і думкі яго, і матыў запісак.

*

Я не столькі жыў літаратураю, колькі прывык жыць ёю. Дык чалавек прывыкае і да сваёй правай рукі, а калі яе можа адрэзаць,

прывыкае і жыве без рукі. Прывыкну і я жыць без літаратуры. Нічога ад гэтага ў свеце не зменіцца. Малады хлопец недзе ў глухой вёсцы, які хоча вырвацца на шырокае жыццё, не знойдзе ў тваіх творах адказу на пытанне «як жыць?», і маладая дзяўчына не заплача над лёсам тваёй гераіні; яна, дзяўчына, наўрад ці нават разгорне часопіс з тваёй новай аповесцю. І стары чалавек, паважаны пенсіянер, не напіша табе — вось, я так люблю Вашыя творы, а цяпер чуў, што Вы сабраліся кінуць пісаць, дык вельмі — ад імя чытачоў — прашу Вас гэтага не рабіць. І крытыка не ўзбунтуецца, што літаратура, страціўшы мяне, нешта страціць.

З другога боку, калі прыспічыць — пішы. Раз пакуль яшчэ выходзяць часопісы, трэба ж, каб нехта іх напаўняў. На мой век хопіць. Раз сябры просяць, а ў мяне ёсць вольны час, дык з чыстай ветлівасці можна напісаць і даць...

Можна пісаць, можна не пісаць, а свет вакол будзе рабіцца ўсё меншы і меншы, пакуль не звядзецца да года, месяца, дня, гадзіны. А чорныя сцены і зверху, і з бакоў ціснуць і ціснуць, і ўсё да меншага звужаюцца... І што ўспомніцца, лежачы ў тыя апошнія гадзіны, гледзячы ў чорную жудасную столь? Аповесць пра старшыню калгаса? Ці пра рэкет?

На працягу ўсяго існавання чалавецтва тысячы лепшых, разумнейшых людзей — геніяў — прысвячалі жыцці, біліся над вырашэннем аднога-адзінага пытання; і рана ці позна прыходзілі да высновы, што жыццё не канчаецца смерцю, што смерці проста няма. Я не магу ахапіць розумам ход іхніх доказаў, не магу паверыць і ў самыя доказы — у мяне не было ні вялікіх здольнасцей, ні, урэшце, часу, магчымасцей, каб пазнаваць вялікія мудрасці, — але якое я маю права не верыць людзям, у якіх былі і час, і здольнасці, і магчымасці пазнаць усё гэта?

Калі чалавек ніколі не бачыў, як расце ананас, бо ніколі далей Самахвалавічаў нідзе не быў, дык якое ён мае права не верыць таму, хто абышоў цэлы свет і бачыў не толькі ананас, а і яшчэ сёе-тое?

Успомні, як ты паміраў. Самае жудаснае адчуванне было не страх памерці, а страх страціць прытомнасць на вуліцы. Трэба было любымі сіламі дапаўзці да кватэры. Я зрабіў гэта, дапоўз і на ганку страціў прытомнасць. Я не ведаў, як і хто мяне будзе ратаваць, зусім не думаў пра гэта, гэта было не галоўнае.

Так і цяпер. Галоўнае для чалавека — дапаўзці да ганка, г.зн. пражыць фізічна як мага даўжэй, пажадана да глыбокай старасці, калі прытупяцца адчуванні — і спакойна, без лішніх жаханняў страціць прытомнасць — памерці. А хто і як мяне будзе пасля

ратаваць, гэта ўжо не мая справа.

Не ведаю, што гэта будзе за ратунак, але ніякага права не маю думаць, што ратунка не будзе зусім.

І хто ведае: можа, калі б Нехта захацеў не як у Бібліі, а проста і зразумела выказаць сваю волю, чаго Ён ад нас хоча, тое і атрымалася б: кожнае пакаленне павінна гаціць шлях для саміх сябе будучых. Змагайся з любым насіллем — і ўратуеш сябе будучага? І тады шматлікія смерці — пераліванні ва ўсё новыя і новыя праявы — стануць такія ж нястрашныя і будзённыя, як і засынанне кожным вечарам?..

У канцы лета ён сабраўся, спакаваў сумку і зайшоў да Ліды развітацца.

— Ну, акрыяў? А помніш, які прыехаў?

— Памятаю...

— Едзь з Богам! І глядзі... Мала што... Калі зноў скруціць, дык прыязджай, буду глядзець! Хай людзі смяяцца, што дзве жонкі займеў...

Выходзячы з двара, ён азірнуўся. Ліда стаяла на ганку — босая, у тым жа выцвілым сарафане, папраўляла завязаную на патыліцы хустку. Ранішняя вясковая вуліца зноў была такой, як заўсёды, сваёй, знаёмай, і ён — без кійка, ажывелы, зусім звычайны мужчына, ішоў па ёй і зазіраў зверху праз платы ў двары. Жыццё зноў зжалілася з яго, на невядомы тэрмін вярнуўшы сякое-такое здароўе. Ён адчуваў усю хісткасць гэтага свайго спакою, здагадваўся, што, можа быць, дастаткова любой драбязы — хоць галаўнога болю, перабояў у сэрцы, насмарку — і ён зноў спалохаецца, і ўвесь спакой яго разляціцца ў дым.

Але цяпер, такім ранкам, яму, як дзіцяці, хацелася радавацца хоць гэтай маленькай, часовай перадышцы, маленькай перамозе самога сябе, перамозе, якая давала яму надзею зноў забыцца, увайсці у сваю каляіну, есці, спаць, чытаць газеты, глядзець тэлевізар, ездзіць на працу і рэдагаваць чужыя рукапісы, спрачацца з жонкаю, радавацца за дачку, чакаць унукаў...

І пісаць новую рэч. Чарнавы рукапіс ужо ляжаў у сумцы, называўся ён проста — «Повесьць».

На прыпынку, збоку ад пасажыраў, стаялі дзеці, хлопчык з дзяўчынкаю, з вялікімі букетамі астраў і вяргінь, і ён не адразу зразумеў, чаго дзеці і што, пакуль не ўспомніў: сёння ж 1-га верасня. Восень, вось дзеці і едуць у школу, у суседнюю вёску, дзе васьмігодка. Рана было, а цёпла, чырвонае сонца біла ў вочы з-за лесу, адкуль павінен быў паказацца аўтобус. Лес быў зусім зялёны, і ў зялёных

садах ціўкалі птушкі, і пасажыры шумна гаварылі, і гэтыя дзеці з кветкамі смяяліся — усё радавалася, жыло і ніяк не хацела разумець, што прайшло цэлае лета.

VI

У Мінску Мікола Пятровіч (так яго звалі) найперш пайшоў у паліклініку. Доктар, агледзеўшы, абстукаўшы, распытаўшы яго, заключыў, што ўсё добра і можна выходзіць на працу, «толькі, вядома ж, і думаць забыць пра каву, моцную гарбату, пазбягаць розных эмоцый...»

«Можа, я напісаў у вёсцы свае запіскі і псіхалагічна разгрузіўся, зняў шок?» — узрадаваны, думаў Мікола Пятровіч.

Дома ён выцягнуў з тумбачкі пісьмовага стала тоненькую папку, сеў на падлогу, засланую новым мяккім паласам, і пачаў пераглядаць чарнавікі. «Калі ўжо табе зноў закарцела пісаць, — сказаў сабе Мікола Пятровіч, — жыць без гэтага не можаш, дык прыдумай нейкую іншую форму. Якая ўключала б у сябе і ўсё нерэалізаванае, і тое, да чаго дадумаўся ў вёсцы». Ён знарок так казаў, падманваючы сябе, каб адцягнуць прыемны момант. На самой справе ён ведаў, што такая форма ў яго ўжо ёсць. Гэта — «Повесьць». Перапісаць яе начыста, зверыць цытаты, набраць на машынцы...

Тут Мікола Пятровіч ціха засмяяўся. Ён усё забываў, што машынка цяпер — учарашні дзень, бо адразу пасля яго вяртання з вёскі будучы зяць прэзетаваў яму камп’ютар. Маленькі, прымітыўны, але да чаго ж мілая, зручная штучка! І так прыемна проста думаць, што вось ты пісьменнік і ў цябе ёсць камп’ютар... А ён памятаў часы, калі і машынка была рэдкасцю. Ды пра што казаць, калі яму ў выдавецтва дасюль носяць і дасылаюць школьныя сшыткі, спісаныя нават не шарыкавай ручкаю, а атрамантам з чарнільніцы! — ледзь не гусіным пяром.

Мікола Пятровіч і не чакаў, што зможа так захапіцца гэтай новай аповесцю, зусім непадобнай на ўсё сваё ранейшае. Часу хапала. Пасля інфаркту жонка ўжо не цыкала на яго, не пíліла, як раней, — па-першае, баялася, а па-другое, не хацела псаваць настрой сабе і яму перад хуткім вяселлем дачкі.

Мікола Пятровіч карыстаўся момантам зацішша. Пісаць пачаў не вечарамі, а раніцамі, калі галава была яснейшая. Такі пунктуальны раней, цяпер дазваляў сабе спазніцца на працу, сысці раней. Нават на даччыным вяселлі, якое неўзабаве, у канцы верасня, згулялі, ён, пасядзеўшы трохі з гасцямі, павіншаваўшы маладых, неўпрыкмет

выбраўся з кватэры, пайшоў у свой блізкі лясок, зусім яшчэ летні, зялёны, толькі не па-летняму ціхі, хадзіў, час ад часу прыкладаючы да сэрца далонь і слухаючы, як яно б'ецца, — а думаў не пра хваробу, не пра вяселле, а пра сваю аповесць, як яе лепш «афармляць».

Пасля вяселля дачка часова пераехала да маладога, і ў трохпакаёўцы зусім апусцела. Мікола Пятровіч толькі радаваўся гэтаму. Пра размен — кватэру збіраліся разменьваць — ён адразу сказаў: мяне не чапайце. Яго і не чапалі. Зяць, наадварот, яшчэ дзякаваў яму за давер і хваліўся сваімі сувязямі з нейкімі разменнымі фірмамі.

Калі раніцаю, нашча, чысты, апрануўшы свежую кашулю ці белую тэніску, Мікола Пятровіч сядаў за пісьмовы стол, нібы нешта таксама светлае і чыстае сыходзіла на душу. Бадай, упершыню ў жыцці ён зведаў, што такое натхненне. Нарэшце скончыў рукапіс, набраў на камп'ютары, ізноў падзівіўся, да чаго ж разумная, прыемная тэхніка. Усё гэта было неяк нова, нязвыкла, лёгка і эстэтычна.

Дачка на працы раздрукавала тэкст. Перад тым, як несці яго ў рэдакцыю, Міколу Пятровічу раптам прыйшла ў галаву блазнаватая думка: узяць усе свае слоўнікі і выкасаваць у іх тры словы: чытач, крытык, ганарар. І да канца жыцця не карыстацца імі, забыць пра іх існаванне.

Але астыў, адхрысціўся. Пры чым тут словы. Калі на тое пайшло, дык вінаваты «стан рэчаў», ці як хочаш называй — «першародны грэх», ці той факт, што ніколі, ні пры якіх абставінах адзін чалавек не зразумее цалкам другога. Ты самотным прыходзіш у гэты свет — і самотным павінен яго пакінуць.

ЧАСТКА II. «Повесьць»

## І. Рукапісны ліст

*«Паважаная Рэдакцыя! Вось, пасля доўгіх пакутных ваганняў і бяссонных роздумаў наважылася...»*

Шаноўныя. Дарагія. Лепш бы вы паважалі не рэдакцыю, а нас, рэдактараў, і дасылалі тэксты, набраныя на камп'ютары. Цяпер жа гэта не праблема — не цяжэй, чым некалі знайсці машыністку. Хіба ў нас вочы казённыя, або запасная пара іх ляжыць у футарале?

*«...38 гадоў. Адна выхоўваю дваіх дзяцей: дарослы сын Юрый... Цяпер на руках пяцігадовая Галінка. Хочацца даказаць, што не толькі ў Амерыцы, але і ў нас у Беларусі маці-адзіночка можа*

*рэалізаваць свае літаратурныя магчымасці. Працую дыспечарам пуці на невялікай станцыі-раз'ездзе, у вельмі маляўнічым месцы сярод сасновага бору… Праца — суткі праз двое… вольны час… многа чытаю — асабліва доўгімі зімовымі і нуднымі восеньскімі вечарамі. Вырашыла паспрабаваць і сваё пяро… Повесьць амаль біяграфічная, пра самае дарагое, што было, ёсць і будзе ў жыцці кожнага чалавека на Зямлі — першае і (як высветліцца пазней) апошняе сапраўднае каханне… Амаль няма выдумкі… адбывалася з маёй гераіняй Ганнай-Ганулькай… перажыта… прапушчана праз сэрца… З нецярпеннем… хваляваннем… прысуду…*

*З бясконцай… Людміла Аляксееўна.*

*P. S. Назвы прыдумаць не змагла — сказваецца яшчэ літаратурная нявопытнасць. «Палёт белага матылька»? «Белага лета крыло»? Цягне на штосьці летняе, летуценнае. А ўвогуле цалкам давяраю густу Паважанай Рэдакцыі».*

**II. Рэдактар**

Дзякую. І — можна шчырасцю на шчырасць?

Пахвальна, што Вы нарадзілі і выхоўваеце дваіх дзяцей, што Вас не засмактала жыццёвая багна, у душы захавалася прага самарэалізацыі і ўсё такое. Але дазвольце спытаць: што перашкаджае Вам самарэалізоўвацца непасрэдна па сваёй дыспечарска-чыгуначнай лініі? У якой Вы напэўна разбіраецеся не горш, чым у літаратуры? Можна ж вучыцца завочна, тым больш часу хапае…

Зрэшты, чытанне маралі не мой абавязак. Мой — усяго толькі азнаёміцца з рукапісам і выказаць заўвагі. Далібог, не ментарства, Людміла Аляксееўна, ва мне гаворыць, а, калі хочаце, сімпатыя да Вас, жаданне падаслаць Вам саломкі, каб не надта балючым было падзенне. А ў падзенні асабіста я не сумняваюся, нават яшчэ і не пачаўшы чытаць Ваш твор. Не сумняваюся і ў тым, што літаратура для Вас (як і для любога дылетанта) — гэта розныя знешнія атрыбуцікі: «шматлікія» публікацыі, «удзячныя» чытачы, «шалёныя» ганарары, прэміі, тытулы, папулярнасць, урэшце — Слава!

Мушу Вас расчараваць, Людміла Аляксееўна. Не верце. Усё падман, міраж, флёр! Старая карга ў вобліку маладой дзяўчыны з арфаю — вось што такое літаратура! Усё прыбярэ да рук: будні і святы, успаміны і сон, здароўе і вольны час… усе сокі з цябе высмакча, а потым выплюне, як вінаградную скурку — і не паморшчыцца!

Паверце чалавеку, які са сваіх пяцідзесяці роўна палову (лепшую) ахвяраваў гэтай самай літаратуры, які некалі закахаўся ў яе, пайшоў за ёю, закалыханы яе салодка-фальшывай музыкай, асляплены яе зіхотка-падманным бляскам, нырнуў у яе, як у вір, з галавою — і атрымаў лысіну, акуляры, жывот, букет хваробаў, беднасць, шчырасць, адсутнасць сям'і і нават уласнага жытла — так і туляюся па інтэрнатах і чужых кватэрах (калі Вам цікава гэта, Людміла Аляксееўна). Вось адваротны бок літаратуры, вось яе сапраўднае аблічча — мой партрэт.

Аднак не трэба мяне шкадаваць, Людміла Аляксееўна! Папярэджваю — я яшчэ цвёрды арэшак. У мяне апломб, упартасць, вопыт. І хоць фінал, канечне, на жаль, мне даўно вядомы, я яшчэ як мінімум паспрабую...

Вось так, Людміла Аляксееўна!

### III. «Повесьцъ»

*«— Ганулька! Ну дзе зноў запрапала гэта шкадлівае дзяўчо!*

*Густы бацькаў голас разносіцца па наваколлі.*

*Але 15-гадовая Ганулька нібыта і не чуе. Яна сядзіць у задуменні, падабраўшы ногі (як на карціне Васняцова), на стромкім беразе не надта вялікай, але хуткаплыннай лясной рачулкі Змейкі. Дзяўчынка не зводзіць вачэй са свайго адлюстравання ў чыстай, люстраной вадзе. Ейныя рукі заплятаюць доўгія, чорныя, смаляныя валасы ў касу. Чымсьці яна цяпер падобная на маладзенькую круглатварую русалку. У вадзе адбіваюцца ейныя пушыстыя павекі, румяныя шчокі, пунсовыя пульхныя вусны, кірпаты нос і сінія, нябеснага колеру вочы. Грудкі ейныя значна адскочылі з таго часу, калі яна апошні раз мацала іх, і ўжо запатрабавалі станіка. Удзень, калі Ганулька вырашыла пакупацца, яна, аглядаючы сябе, заўважыла і іншыя прыкметы свайго раптоўнага сталення (але аб тым пазней).*

*— Дачушка! — ужо голас маці. — Колькі цябе можна клікаць! Вячэра стыне!*

*Добра тут, каля рэчкі, летнім духмяным надвячоркам. Здаецца, так бы і сядзела! Неахвота адрываць сябе ад мяккай шаўкавістай траўкі, а пагляд — ад чароўнага рачнога люстэрка. Ды думкі пра сняданак усё ж мацней за прыгажосць роднай навакольнай прыроды. Сёння будзе: смажаная свойская кілбаса з яечняй, рыба, вараная маладая бульбачка з маласольнымі гурочкамі, аладкі, цёплы сырадой і халодная, густая, як бацькаў голас, смятана.*

*Уявіўшы гэта, дзяўчынка борздзенька ўскочыла на ногі і*

*заспяшалася дамоў. Адсюль рукой падаць. Вузенькая сцежачка праз маляўнічы кляновы гай (чамусьці ён завецца Барбарысаў Гай) выведзе проста да ейнай сядзібы, ці, лепш сказаць, да старой казармы. Такія яшчэ пры царызме будавалі паўсюль пры самай чыгунцы. Пражывалі ў іх у асноўным сем'і чыгуначнікаў. А цяпер у такой казарме, удалечыні ад людзей і дабротаў цывілізацыі (да бліжэйшай вёскі, дзе крама, клуб і школа, у якую ходзіць дзевяцікласніца Ганна, ажно чатыры кіламетры) сам-насам з прыродай існуе невялікая, дружная семейка: яна — Ганулька, тата, мама і старэйшы брат Янка. Амаль як у вельмі цікавай кнізе Янкі Маўра «Міколка-паравоз». Тутэйшыя людзі называюць гэта іхняе месцажыхарства хто як: Хутар, Казарма, Дванаццаты Кіламетр або проста Раз'езд.*

*Ганульчыну сям'ю па праву можна лічыць патомнымі чыгуначнікамі. На пуцях у адной брыгадзе працуюць тата, мама, а год назад да іх далучыўся і Янка, які нядаўна скончыў школу.*

*...Маладыя спрытныя ногі шпарка нясуць Ганульку па сцежцы. Падабаецца ёй тут! Сябруе яна з прыродай, надта любіць свае краявіды. А трэба зазначыць, яны і праўда маляўнічыя. Ніколі не прамяняла б іх ні на якія іншыя! Яна нават не ўяўляе, што недзе людзі могуць жыць іначай, не так, як жыве ейная сям'я. Але ж свет вялікі! Мабыць, недзе жывуць і па-ейнаму. Аб тым нагадвае блізкасць чыгуначнага палатна ды зрэдку рытмічны перастук цягніковых колаў на стыках.*

*— Ганначка! Колькі цябе можна клікаць?*

*— Іду, мамачка! — адклікваецца дачка і дадае хады.*

*Сцежка выводзіць на агарод, а затым — на невялікі, ладны ў памерах, утульны дворык. У хляве стогне-рохкае сытая свіння Марта з 12-цю парасяткамі. Іім пакуль імёнаў яшчэ не прыдумал). На ланцугу каля будкі брэша і адначасова вартуе сядзібу сабака Валет, каля суседняй будкі — сучка Глаша, гладкая і ільсцістая. Яшчэ ў гаспадарцы бык Мікіта, каровы Стрэлка і Кветка, цялушка Зорачка, а таксама кот Мацвей у белых панчошках, вялікі аматар свежага малачка.*

*Пасярод двара брат Янка. Корпаецца ў сваім матацыкле. Матацыкл завецца «Мінск». Рукі выпэцканыя па локці, чорныя плямы на носе і на шчацэ. Ганулька не вытрымлівае і пырскае смехам. Аднак Янка на яе — нуль увагі. Вядома — дарослы, у армію хутка, вунь нават вусікі ўжо цёмнай нітачкай прабіліся на твары, якія зусім яму не да твару. А паспрабуй скажы — бяды не абярэшся! Задавака!*

*...Павячэраўшы, Ганна з кнігай у руцэ выходзіць на двор і ўладкоўваецца ў падвешаным на густым, раскідзітым таполі ейным*

*гамаку. Сутонне ахутвае абшары. Сонца амаль схавалася за вершаліны Старога Лесу. А чаму ён так завецца? Ніхто і не скажа. Суцэльныя тайны, загадкі... У тым баку яшчэ знаходзяцца Воўчыя Горы, пра якія ў народзе столькі складзена легенд і паданняў. Туды Ганулька ні нагой — страшна!*

*У вокнах казармы гарыць святло. Увогуле, казарма вялікая, на іх чатыры чалавекі ажно восем пакояў! У адным з пакояў працуе тэлевізар — бацька, як заўсёды, глядзіць кіно. Маці, як звычайна, завіхаецца па гаспадарцы. Янка па звычцы патарахцеў на матацыкле «гуляць» у суседнія вёскі... Словам, усё ў іх ладна і складна.*

*Вечаровыя гукі заціхаюць. Калі-нікалі прагрукоча цягнік, абдасць гарачым ветрыкам, пахам мазуту і цеплавознага дыму. Затым яшчэ доўга ў вушах будзе стаяць перастук колаў і ціхі звон рэек.*

*Ужо нельга разабраць літар, і ад таго Ганульцы не зусім да канца ясна, што меў на ўвазе аўтар пад сваёй думкай. Дзяўчына з жалем загортвае гэту надта цікавую кнігу. Час ісці ўкладвацца спаць. Заўтра апошні дзень школы, апошні дзень Ганульчынага дзевятага класа.*

*— А ці ўсё ты падрыхтавала на заўтра, дачушка? — пытае маці, якая падышла нячутна. — Не забудзь, што заўтра апошні дзень школы, а таксама апошні дзень твайго дзевятага класа.*

*Мама магла б і не нагадваць. Ганулька і без яе памятае. Туфлікі на абцасах, новенькая адпрасаваная спаднічка, беленькі фартушок, калготкі... Усё даўно падрыхтавана і толькі таго і чакае, каб узлезці на сваю гаспадыню і разам з ёю паказацца на людзях.*

*— Падумаць толькі, як няўмольна хутка ляціць-пралятае час!-- уздыхае маці. — Як зараз, здаецца, стаіць перад вачыма той момант, калі ты была зусім малечай, а цяпер вунь якая...*

*Голас у маці задрыжэў. Адвярнуўшыся, яна хусткай выцірае набрынялыя вочы... Відаць, успомніла сваю маладосць.*

*Нейкі час дзяўчынка ходзіць па двары. Чысціць зубы, доўга мые ногі... Потым тушыць святло і ўкладваецца ў пахнучую свежасцю пасцель. Ёсць у Ганулькі свая невялікая тайна — перад сном яна любіць хвілін 20 -30 аддацца марам. Дарагі ёй гэты ейны патаемны час! Яна не разумее, як іншыя, напрыклад, Янка, могуць, ледзь толькі дакрануўшыся да падушкі, адразу задаваць храпака без задніх ног.*

*Ганулька сцішылася пад коўдраю. Але — душна, і яна адкінула яе. Ляжала голенькая, залітая месячным святлом, з шырока расплюшчанымі вачыма, крыху падобная на Данаю з вядомай*

*карціны Урубеля. І вось дайгачаканыя сябры, ейныя маpы-летуценні, стукаюцца ў госці. Дзіўна, думае дзяўчына, чаму ніхто не заўважае перамен, што з ёю апошнім часам адбываюцца? Бо тым непаўторным маем Ганулька расцвітала на вачах — як іхняя груша-дзічка, што расла пры дарозе на вёску. Двойчы, а то і больш разоў у дзень, ідучы ў школу ці вяртаючыся з яе, або ў вясковую краму і назад, дзяўчынка зусім не звяртала на яе ўвагі. Ды нечакана спынілася перад ёю ў нямым захапленні! За адну ноч груша закіпела бела-ружовай квецэнню! Ад радасці дзяўчынка нават запляскала ў ладкі.*

*« Як у гэтым дрэве, так і ва мне абуджаюцца драмаўшыя дасюль сокі, — пранеслася з хуткасцю маланкі думка, — і пачынаюць свой нястрымны рух аднекуль з глыбіні душы, з самага сэрца!»*

*Дзяўчына не хацела прызнацца нават самой сабе, што прычынай раптоўнага ейнага зацвітання, віной патаемных дзявочых мар, надзей, спадзяванняў і — забягаючы наперад — няшчасця стаў ён, Валянцін...»*

## IV. Разбор

Аб чым я Вас і папярэджваў.

Добра: апусцім усе гэтыя, на горкі яблык збітыя імёны хатніх жывёл і «каларытныя» назвы мясцін. Заплюшчым вочы на маладую бульбачку і гурочкі ў маі. Даруем дэбютантцы іншыя сэнсавыя, моўныя і стылёвыя хібы — як, напрыклад, да раздражнення не беларускае (ды, здаецца, і нічыё) «ейнічанне», частае «наперад забяганне», блытаніна з аўтарамі... Не станем прыдзірацца да мележаўскай Ганны, коласаўскай грушы-дзічкі (хоць наконт апошняй і варта было б удакладніць: не адна, а дзве тоўстыя грушы раслі паабапал дарогі, нібы абазначаючы вароты пры ўездзе ў якісь старадаўні, а цяпер занядбаны маёнтак; і была яшчэ трэцяя — маладая, якую Вы, мабыць, і мелі на ўвазе, толькі яна хавалася ў лесе, пры калодзежы, і з дарогі яе не ўбачыш).

Усё гэта драбяза! Пярэйдзем да больш істотнага. Да «рэчкі Змейкі са стромкімі берагамі». Не назіралася такой у радыусе 10 — 15 кіламетраў, а быў непадалёку ад Казармы звычайны гравійны кар’ер — з, і праўда, вельмі чыстай вадою, з карасямі і маладымі карпікамі...

Ганульчын бацька — дзядзька Ляксей, пры ўсім жаданні не змог бы нікога клікаць, бо яшчэ ці не ў вайну, зусім малым, на ўсё жыццё застудзіў горла.

Накладка і з маці — цёткай Тэрэзай — ганарыстай, пародзіста-

прыгожай знешне і з паганенькім характарам полькаю. Хто-хто, а ўжо яна выдатна ведала, у якім перыядзе знаходзіцца дачка-падлетак, што з ёю можа тварыцца, якія «мары-летуценні» ў яе гасцююць... Таму таксама наўрад ці з Ганулькай сюсюкалася б.

Брат — Валодзя, перахрышчаны Вамі ў паэтычнага Янку, пачаў галіцца толькі ў арміі, і то на другім годзе. Адпаведна, на час дзеяння «повесьці» вусікаў мець не мог, тым больш чорненых: быў ён светла-кучаравы, з рабым тварам, скуласценькі, мардасценькі — копія Ульянава-Леніна з «акцябронскай» значкі.

І, нарэшце — апісанне гераіні.

Тут многа няпраўды!

Ніякай доўгай, «смаляной» касы Ганна заплятаць не магла. У яе была кароткая стрыжка, валасы — пшанічнага колеру. Твар не «русалкава-круглы», а наадварот, крыху выцягнуты, я б сказаў — балцкага тыпу, чысты, беленькі, без радзімачак, без прышчыкаў (уласцівых гэтаму ўзросту). Нос — не кірпаты, а роўны, вусны не шаблонна «пульхна-пунсовыя», а проста маленькі рот з сімпатычнымі, яшчэ не сапсаванымі памадаю губкамі. Вочы (адно з нямногіх месц, дзе Вы не схібілі) сапраўды сінія, мяккія, спакойныя; толькі вопытны знаўца, вялікі спецыяліст па такіх справах мог тады разгледзець на дне іх той самы вір, у якім...

Роўная, зграбная — у маці — постаць. Рослая. Некаторая замаруджанасць — у бацьку — рухаў. Частае пакусванне ніжняй губкі. Да недахопаў можна аднесці крыху шыракаватыя, як для дзяўчынкі, плечы і лёгкую шапялявасць (зрэшты, такую сэксуальна-мілую, што гэта плюс, а не мінус)...

Што да апісання двара і «адскочыўшых грудак», тут яшчэ нішто. Мірыцца можна.

## Раздзел V. Рамэо з Джульетай і Дантэ з Беатрычэ

*«...Стаў ён, Валянцін.*

*Каханне да яго ўспыхнула раптоўна і асвяціла сваім чароўным... Дасюль небагатае на падзеі... зайграла колерамі і фарбамі... Калі прырода абудзілася... і адцвіла сіняя махнатая сон-трава, а таксама чаромха, — затое ў лясных нізінах пад хвоямі з'явіліся белыя званочкі ландышаў, а пад вокнамі зашугалі ружовым і белым полымем кусты бэзу. Салаўі ў прырэчных вербалозах цёхкалі начамі, як ашалелыя, радасна і звонка, заглушаючы грукат цягніковых колаў.*

*Распукнутая нападобе ландышаў ці бэзу, адкрытая ўсяму*

*свету, вясне і людзям Ганульчына душа прагнула-чакала — як кветка чакае сваёй пчалы, як княжна Мэры свайго Анегіна…*

*Аднойчы пасля працоўнага дня Янка з вечара, але яшчэ завідна, пачаў некуды збірацца. Перш вымыўся сам, тады ўзяўся мыць матацыкл.*

*— Куды гэта ты збіраешся? — падазрона запытала сястра.*

*— Табе яшчэ не хапала ведаць, — скасавурыўся ў яе бок Янка. — На вяселле запрошаны! — не вытрымаў і пахваліўся ён.*

*— Вазьмі мяне з сабой, Яначка, — умольна папрасіла Ганна.*

*— Рана табе яшчэ па вяселлях, — незадаволена кінуў Янка.*

*— А скажы хоць, хто жэніцца? — выявіла зацікаўленасць яна.*

*Аднак з гэтага Янкі слова і абцугамі не выцягнеш!*

*— Жэніцца старэйшы брат майго лепшага сябрука і аднакласніка Валянціна, — неахвотна адказаў юнак, заводзячы матацыкл. — Валянцін якраз дзеля гэтага выпадку і прыехаў з Мінска, дзе вучыцца на апошнім курсе універсітэта на факультэце…*

*Далей дзяўчынцы разабраць не ўдалося — словы брата заглушыў матор. Матацыкл узвыў і пачаў аддаляцца. Але і таго, што пачута, аказалася дастаткова. Вось гэта навіна-а-а! Ганулька крыху ведала Валянціна раней. Іх з Янкам было не разліць вадой. Даходзіла да таго, што сядзелі ў школе за адной партай… Але пасля васьмігодкі Валянцін ад’ехаў у сталіцу на філфак і сяброўства крыху разладзілася. Толькі пад час канікулаў пачынала ўспыхваць з новай сілай.*

*Акрамя рэдкага, прыгожага імені — Валянцін, гэты хлапец раней не зусім цікавіў Ганульку. Яшчэ б! На цэлых пяць гадоў старэйшы. У яго з Янкам заўсёды былі нейкія свае справы — футбол, хакей, рыбалка… Грыбное паляванне таксама. А ў іх, малых дзевак, свае — «класікі», скакалкі, даганялкі…»*

Пачакайце.

На які філфак можна паступіць пасля васьмігодкі? І чаму, калі Валянцін сядзеў з Янкам за адной партаю, дык Янку 18, а Валянціну, на пяць гадоў за Ганну старэйшаму — 20? Павінна ж атрымацца 23.

Людміла Аляксееўна! Аўтар пра сваіх герояў павінен ведаць усё. Як Ойча наш. Пралічыць і памятаць кожную драбязу: ад даты нараджэння да, выбачайце, частаты паходаў у туалет. Усё гэта, само сабой, зусім не абавязкова перці ў тэкст, але калі гэта ведаць, дык адразу будзе бачна, што ў галаве і за душою ў аўтара больш, чым у тэксце.

Расставім кропкі над і.

«Валянцін» пасля васьмі класаў паступіў не ў сталічны

ўніверсітэт, а ўсяго толькі ў будаўнічы тэхнікум у раённым цэнтры. Той вясною вучыўся ён на трэцім курсе. Гадоў ім з Янкам было па 18, Ганульцы, адпаведна — 15.

*«...Такая значная розніца ва ўзросце не на жарт адпалохвала Ганульку. Ёй прыгадваліся падобныя выпадкі з гісторыі. Напрыклад, як апісана ў таленавітай трагедыі Бернарда Шоў «Рамэо і Джульета»...»*

Люда мая Аляксееўна... Што мне Вам сказаць? Хіба што параіць пацікавіцца як-небудзь пра нагодзе, якога ўзросту была, напрыклад, натхняльніца Пятраркі — Лаура. Ці Дантава Беатрычэ. А заадно і тая самая Джульетка.

Ды Бог з ім, далей!

**Раздзел VI. Знаёмства**

*«...У клубе людзей — яблыку недзе ўпасці! Гучыць вясёлая музыка, танцуюць пары. Ганулька з сяброўкамі-аднагодкамі збіліся чародкаю ў куток. З зайздрасцю яна назірае за старэйшымі дзяўчатамі. Іх адну за адной запрашаюць хлапцы на танец. Аб'явілі вальс для маладых. Паліліся павольныя акорды. Твару маладой Ганулька не запомніла, кінуўся ў вочы толькі белы празрысты вэлюм... Некалі праб'е і яе час, і яна закружыцца ў імклівым... і ўжо іншыя дзяўчаткі будуць шырока расплюшчанымі, ззяючымі вачыма пазіраць на яе, нявесту Ганну...*

*Потым пачалі абносіць каравай. Сваты — асабліва смешны адзін, з даўгімі вусамі, у саламяным капелюшы... Цэлы тузін дружкоў маладога... Таварышкі маладой з кветкамі ў валасах... Усё гэта з працяглымі вясёлымі жартачкамі, прыпеўкамі, прыказкамі...*

*— Можна вас? — пачуўся раптам мяккі, прыемны голас.*

*Ганна ўскінула галаву. Перад ёю стаяў Валянцін. Росту крыху вышэй за сярэдні, поўнага целаскладу, прыгожа падстрыжаны, у касцюме з белай кашуляй і чорным гальштукам-»матыльком». Ад яго распаўсюджваўся пах нейкага надзвычай дарагога адэкалону.*

*— Можна запрасіць на танец? — паўтарыў Валянцін і ў невялікім паклоне схіліў галаву. Валасы льняной чупрыны ўпалі на высокі лоб. Ён адкінуў іх прыгожым рухам далоні.*

*Сяброўкі прыціхлі. Ганна лавіла на сабе іх позіркі.*

*«Прыняць запрашэнне ці не?» — ліхаманкава разважала дзяўчына... Нічога нельга сказаць, хлапец адразу спадабаўся ёй сваёй весялосцю, раскаванасцю, далікатнасцю. Разам з тым адчувалася ў ім крыху разгубленасць. Нібыта трымаў ён далёка на дне душы*

*тайну, якую жадаў бы раскрыць толькі самаму блізкаму па духу чалавеку пры больш шчыльным знаёмстве — забягаючы наперад, так яно потым і адбылося.*

*...Дзяўчына задумалася — у радасным здранцвенні — навошта яму яна? Калі вакол хапае вялікіх дзяўчат?! Ці не ад яго прыроднай дабрыні йшло тое жаданне? Ці не пашкадаваў ён яе, заўважыўшы бляск у ейных вачах і зразумеўшы, як ёй хочацца танцаваць? Так некалі зрабіў дарослы, надзвычай добры, хоць і тоўсты, П'ер Бязухаў (у хрэстаматыйным творы Дастаеўскага), калі неўсур'ёз запрасіў на танец малую Растову...*

*— Дык я запрашаю вас, — трэці раз паўтарыў Валянцін.*

*І, пакуль дзяўчына ўсё яшчэ вагалася, яго рука сама легла ёй на плячо. Валянцін пяшчотна, разам з тым даволі ўпэўнена абняў яе гнуткі стан. Яны закружыліся ў салодкіх рухах павольнага танца...»*

**Раздзел VII. Валянцін**

Пакінем — так і быць — каравai, сватоў, падпяразаных ручнікамі, дружкоў у вышыванках і іншыя этнаграфічна-карнавальныя атрыбуты, хоць усё гэта прыцягнута ў тэкст за вушы.

На самой справе, і Вы гэта выдатна ведаеце, ніякае не вяселле «стрыечнага брата Валянціна Леаніда» (трэба — Валянцінавага брата) было, а провады яго ў армію.

Спускайцеся хоць зрэдку на зямлю, Людміла Аляксееўна. Вучыцеся шукаць і знаходзіць незвычайнае ў простым. Хаця разумею — гэта зусім не проста, гэта Вам не высмактаны з пальца саладжавы Валянцін...

Ды і не Валянцін ён будзе па-беларуску, а Валік. Не Леанід, а Лявон. Не Людміла — а Людзьвіна, Людзьвіга, Людзьвіся...

І ні ў якім герой быў не ў «смокінгу», а ў лінялых джынсах і ў клятчатай байкавай кашулі навыпуск.

І паводзіны яго, весялосць, і «загадкавая тайна» ў вачах тлумачыліся зусім не арыстакратычнай элегантнасцю, а лёгкім алкагольным ап'яненнем, а яшчэ больш — стомаю, бо што такое, калі ў цябе, ці ў тваёй радні падобныя вечарыны? Як каню свята: галава ў кветках, спіна ў мыле... Беганіна, замотанасць, невысыпанне... Увесь час на падхваце: таго запрасі, гэтага выведзі, аднаго накармі, другога пахмялі... Ды не забудзем, што на вуліцы росквіт не толькі веснавой прыроды, а яшчэ і брэжнеўскага застою — паспрабуй купі без чаргі ці без блату звычайнай каўбасы, рыбы, таго ж зялёнага гарошку з маянэзам — чамусьці абавязковых для любога застолля...

Але вернемся ў клуб, да П'ера Бязухава нашага. Якое няўдалае параўнанне!

Калі свежанькая, харошанькая Ганулька, канечне, цягнула на Растову, дык Валянцін на мажнога, таўстога князя Бязвухага — ну ніяк!

З усяго Вашага апісання варта пакінуць адзін чуб, ды і той не настолькі доўгі, каб падаць на лоб, — так, чупрынка... Худы, шчуплы, ростам аднолькавы з запрошанай дамаю, хутчэй сарамлівы, чым развязны (нягледзячы на «паддатасць»)... Звычайны вясковы хлапчук, што прыехаў з тэхнікума правесці ў армію брата, — вось такі Валянцін.

Хаця — пэўнае рацыю Вы маеце... Усё было тым хлапчуком ўгледжана, адзначана, запомнена: і свежасць, і мілата, і наструненае чаканне, і бляск вачэй, і — як узнагарода, калі ён падыйшоў — уважлівы, удзячны пагляд; так пазірае кошка, выгінаючы з насалодай спіну, калі яе пагладзіць незнаёмы. І тая мелодыя... І раптоўна перарваны, сутаргавы твой уздых... І цеплыня твайго цела, якая і цяпер, здаецца, грэе руку, што выводзіць гэтыя радкі...

Так, мая «Ганулька», Людачка мая — не цяперашні лысы, пакамечаны жыццём дзядзька мучае цябе і паперу, а ён, той далёкі белагаловы хлапчук з нязвыклай лёгкасцю спісвае з абодвух бакоў старонкі, і яны, кружачыся, засцілаюць падлогу вакол стала...

## Раздзел VIII. Герой

Добры дзень, Люда!

Як бачыш, твой «шчыры, амаль біяграфічны» твор прыйшоў па адрасе. «Валянцін» — гэта я.

Гэта я, твой першы хлопец, першае тваё каханне па іроніі лёсу трапіў табе ў рэдактары. Вось як яно ў жыцці бывае! Увогуле, супадзенні не рэдкасць, праўда? Не здзіўляе ж нас, напрыклад, эпізод з «Міміно» — памятаеш? — калі грузінскі лётчык звоніць у сваё Тэлаві, патрапляе ў Тэль-Авіў, але і там натыкаецца на земляка-грузіна...

У нашым выпадку яшчэ прасцей, звычайная арыфметыка. Колькі ў Беларусі літаратурна-мастацкіх часопісаў? Правільна — мала. А рэдактараў у іх? Уяві піраміду, аснова якой — шматлікія наяўныя і патэнцыяльныя аўтары, а вострая вяршыня — мы, некалькі рэдактараў; як ні круці, а рух твораў толькі ў адным напрамку — знізу ўверх, ад падэшвы да піка. Так што тваё патрапленае да мяне пасланне хутчэй заканамернасць, чым выпадковасць; запозненае рэха на маё перыядычнае, амаль безнадзейнае гуканне мінулага... Хто

з нас хоць раз у жыцці, цвярозы ці на падпітку, з сябрам або ў малазнаёмай кампаніі — хто хоць аднойчы, скарыстаўшы момант, не паніжаў да інтымнага голас:

— Гэта што!.. А вось са мною было! — і пайшла-паехала задушэўная цягамоціна пра самае «запаветнае», самае «лепшае», самае «нешчаслівае»...

Але ўсё адно — выгаварыўшыся, апаражніўшы душу, можна супакоіцца, выцерці смаркачы, затушыць недакурак і з больш-менш спакойным сумленнем ісці ў «начнік» па дабаўку. А наперадзе яшчэ другая серыя, пад назваю «Суцяшэнне»:

— Ды яна пакутуе цяпер! Каецца, слёзы лье, локці кусае, месца сабе не знаходзіць... Чакай неўзабаве пісьма ці званка...

Так і чакаем. Хаваючы дзесь на самым донцы горкую здагадку, што абанент ці адрасат наш даўным-даўно забыў на наша існаванне, не тое што будзе памятаць нашы адрасы ці тэлефонныя нумары.

І вось — мне пашэнціла! Я, можа, адзін на сотню, хто сваго рэха з мінулага дачакаўся, свой ліст атрымаў. Ды яшчэ які! Канечне, першым пачуццём была радасць... Заслужаная (так нам здаецца)... І жаданне хутчэй даць адказ... Горача падзякаваць... Прызнацца, што таксама захаваў у памяці і тое лета, і запрашэнне на танец, і сваю Людку...

У тым і справа — Людку. А не Людмілу Аляксееўну. Пра якую што я ведаю? Ці — што хачу даведацца? Пра яе фізічныя перамяшчэнні ў прасторы і ў часе? Дык дзеля гэтага зусім неабавязкова, як пры запаўненні анкеты, наяўнасць суб’екта і зверка пашпартных дадзеных. Не трэба быць вялікім фантазёрам, каб і так усё ўявіць: ранняе замуства (калі не выходзяць, а «выскакваюць»), дзіця, развод, другі муж, другі развод і etc. Пераходы-перагрузкі-пераездкі... Вынік — глухая лясная станцыя, напаленая да духаты дзяжурка, бачок з вадой на табурэце, кубічны сейф у кутку, чыгунны кампосцер на стале... Фуражка на падаконніку. Ногі ў хатніх пантофлях. Казённыя пінжак і сукенка. Скручаныя чырвоны і жоўты сцяжкі. Спецыяльная драўляная палачка — каб можна было, не ўстаючы з месца, дацягвацца да самай дальняй кнопкі на стэндзе-рэле. На вуліцы — прастуджаны станцыйны рупар:

«Дзяжурная слушае! Чацвёрты на трэцюю пуць! (Шчоўк, бульк, трэсь.) Паўтараю!..»

Так і я — паўтараю, што не аматар «сустрэч праз гады», усіх гэтых «вечарын аднакласнікаў», ды «каму за трыццаць»... Баюся разачаравання. Ёсць, ведаю (сам бачыў), жанчыны, што з гадамі

толькі спраўнеюць, расцвітаюць і да 40 наліваюцца раскошнай-млявай, упэўненай у сабе і небяспечнай для іншых прыгажосцю; ні на хвілю не сумняваюся, што ты — з такіх (твая шляхетная парода)...

І ўсё ж не буду рызыкаваць. У мяне ёсць мая Людка, а Людміла Аляксееўна хай застаецца каму іншаму.

Другі момант — ад чыйго імя пісаць? У якой перад табою аб'явіцца іпастасі? Я ж не проста твой былы хлопец з далёкага лета, я ж яшчэ і афіцыйны рэдактар, зануда, які павінен чытаць тэкст не як асабістае, інтымнае пісьмо, а як чужы мастацкі твор, з усімі выцякаючымі...

Задачку задала ты мне!..

### Раздзел IX. Дарога

*« — Янка, раскажы пра Валянціна, — не раз дапытвала брата Ганулля пасля таго вечара ў клубе.*

*Але маўчун — ён і ёсць маўчун. Ды Ганна так настойліва пачынала дакучаць яму, што Янка ўрэшце не вытрымліваў.*

*— Што пра яго многа расказваць, — хмурыўся ён. — Хлапец як хлапец. Ты б лепш на сваіх аднагодкаў заглядалася, а не на майго сябра, старэйшага за цябе, ужо дарослага Валянціна. Ці ты лічыш, што калі ён выпадкова запрасіў цябе на танец, дык гэта можа даваць табе нейкія спадзяванні на будучае? Раю табе выкінуць яго з галавы і заняцца лепш якою-небудзь карыснай справаю. Сям'я ў іх нешматлікая, — неахвотна працягваў ён свае скупыя словы, — сам Валянцін, маці, бацька, дзве сястры, старэйшая і малодшая, абедзве замужам і жывуць у горадзе, маці працуе ў калгасе, бацька — на ферме... Акрамя таго ў іх шмат радні — цётка Акуліна, баба Параска, дзядзька Стахвей — бацька таго самага стрыечнага брата Валянціна — Леаніда, якога нядаўна забралі ў армію і на провадах якога ты прысутнічала... Таксама з іхняй радні цётка Маланка, дзед Яцук і дзед Яўстрат...*

*Так, выцягваючы з маўчуна па слоўку, Ганна сёе-тое пра Валянціна даведалася. Аказваецца, ён яшчэ і піша вершы! Ніч-о-ога сабе-е! Гэта навіна значна падагрэла яе цікавасць.*

*Вось каб апынуліся яны разам! Хоць на тым жа мурожным беражку рэчкі Змейкі... Ён бы чытаў ёй вершы, яна — ...*

*Але як пабачыцца? Шмат разоў дакарала Янку, чаму не запрашае свайго сябрука ў госці? Ды таму і клопату мала: удзень на чыгунцы, а ўвечары — пайшоў гайсаць па вёсках, толькі яго і бачылі!*

*Дзяўчына то гуляла-забаўлялася з сабакам Валетам,*

*валтузіла яго за вушы... То карміла свежай травой трусікаў... Бавіла час на рэчцы, лузе і ў полі... І з нецярпеннем чакала вечара, калі прыдзе з працы ў поўным складзе яе сямейка. Тады яна няспешна паесць, хуценька пераапранецца, возьме сумку і павандруе ў вясковую краму. Туды праставала яна штодня. Тым больш, толькі там і можна было мець спадзеў хоць выпадкова сустрэцца з Валянцінам позіркамі, а калі пашэнціць, дык і словамі.*

*І ў той вечар, не паспела яна сабрацца, як Янка пачаў заводзіць матацыкл.*

*— Я з табой, — рашуча выказала свой намер дзяўчына.*

*— Што ж, калі ўзнікла такая патрэба — магу падкінуць да крамы, — нечакана буркнуў юнак. — Якраз туды і накіроўваюся. Там мяне ўжо чакаюць два таварышы па рабоце, Міхаіл і Віталій. Яны хоць і нашмат старэйшыя, але ў прыязных адносінах. Едзем?*

*— Не хачу! — сказала, як адрэзала.*

*І ў той жа момант пашкадавала аб сваім рашэнні. Што ж, не паехала — трэба ісці пехам. Ганна добра перакусіла, апранула на сябе* <u>*адкрытую*</u> *летнюю сукенку, белыя туфлі на шпільках і выправілася спачатку дарогай лясной, потым пачалася сцежка палявая. З боку яе расла грэчка. З другога боку квітнеў авёс. А сама крама ўзвышалася ў пачатку вёскі. Была яна прыгожая, двухпавярховая, крытая чарапіцай. Гануля падыйшла да саменькіх дзвярэй. Узялася за ручку рукою, штосілы тузанула... І толькі тут заўважыла* <u>*прысланёны*</u> *да сцяны Янкаў матацыкл. Ну і шпаркі! Нічога сабе хуткасць!*

*Ганулька ўпіхнулася ў крыху цемнаватае, але светлае памяшканне, ветліва павіталася з прадаўшчыцай* <u>*цёцяй*</u> *Валяй...*

*І тут...»*

## Раздзел X. Раздваенне

Па-ранейшаму два чалавекі ва мне. Адзін прагне задаць табе, Люда, такога перцу, каб ты зараклася нават дакранацца да паперы; другі ж... Другі — да немалога свайго здзіўлення мусіць прызнаць, што ты сваім дрымучым графаманствам практычна дабіваешся таго самага, чаго іншыя дабіваюцца майстэрствам. Бо якая, па вялікім рахунку, розніца, пры дапамозе чаго дасягаць суперажывання — асноўнай мастакоўскай мэты: вастрынёй і навізной сюжэта, вытанчанымі дэталямі, карункамі тонкіх апісанняў або бессаромнай калькай, грудай штампаў і кучай банальнасцей? Мэта апраўдвае сродкі: не важна — як, важна — што. І самы бяздарны пісьменнік

можа быць зразуметы і рэабілітаваны таленавітым чытачом…

Не ведаю, які чытач я, але, прынамсі, калі прабягаю па дыяганалі тваю пісаніну — два-тры словы на сказ, мне хапае, каб ажыла ў памяці і тая сцежка праз грэчкавае пахкае поле, аблітае сонцам і акружанае звонам пчол і званочкамі жаўранкаў, і дарога лясная, па якой аднойчы вяртаўся ад цябе, ведучы ў руках «веласіпеду» — сяброўку, куды больш за цябе надзейную, і такое стаяла цямноцце, так нічога не было відаць, што ісці можна было толькі задраўшы галаву, пазіраючы ўверх, на прасвет паміж вершалінамі хвояў, які святлейшай палоскай абазначаў дарогу…

Каб у жыцці не заблукаць,
І з мэты каб не збіцца —
Глядзі не на разоры,
Лепш — на зоры!

Карацей, сваёй слабізной ты, сама не здагадваючыся, як на чароўных крылах пераносіш мяне ў маё лета, у маю маладосць, нарэшце — у маю краму, у нашу ніякую не цагляную, як у цябе, не двухпавярховую, а маленькую — на два вакны, старэнькую хатку, нешаляваную, з плямамі сівенькага лішайніку бярвеннямі, урослую ў зямлю ледзь не па вокны… Маленькая-маленькая, а ўсяго хапала, па што чалавек ішоў, тое і купляў… (Самарэдактура. Не без шкадавання выкідваю кавалак раздзела, каб паспець за табою; што ж ты там у той краме ўбачыла?)

*«…Убачыла Валянціна ў коле сваіх сяброў за крайнім столікам. На століку — віно, цукеркі, фрукты… На Валянціне — адпрасаваныя штаны і беласнежная кашуля-апаш, з-пад якой выглядваў на смуглява-загарэлай грудзіне нейкі прыгожы медальён.*

*Убачыўшы дзяўчыну і адразу пазнаўшы яе, Валянцін перапыніў вясёлы смех. Хутка падняўся з месца, падыйшоў і, з галантным паклонам пацалаваўшы Ганне ручку, ветліва запрасіў яе скласці ім кампанію.*

*— Справа ў тым, — працягваў ён, — што ў адным сталічным папулярным часопісе з'явілася мая падборка паэзіі, за якую мне па пошце прыйшоў грашовы ганарар, і вось цяпер я адзначаю гэту падзею з блізкімі мне па духу таварышамі, сярод якіх, самі можаце пераканацца, на ганаровым месцы прысутнічае ваш брат Янка.*

*Усё гэта было прамоўлена вельмі добразычлівым тонам. Павагаўшыся, дзяўчына ў знак згоды кіўнула галавой. Падумаўшы, як добра, што яна адзелася ў святочныя строі адпаведна ўрачыстасці выпадку…»*

## Раздзел XI. Дэбют

На мне былі тыя самыя, што і ў клубе, любімыя старыя джынсы і тая ж клетчатая кашуля.

Што да цябе... «Адкрытая летняя сукенка» пры больш пільным разглядзе лёгка ператвараецца ў закасанае да каленяў трыко і адтапыраную на грудках, сінюю, з кароткімі рукавамі маечку, на шыі крыху расцягнутай, і таму ледзь не пры кожным тваім руху з-пад яе ў раёне пляча і ключыцы — з правага боку — выглядвала цнатлівая белата станіка...

Дарэмна ты так упарта і, на жаль, свядома выбіраеш падробку замест арыгінала. Табе ёсць чым ганарыцца, у цябе скарб, роўных якому няма: гэта маладосць, свежасць, здароўе, абаяльнасць — іх і выстаўляй на паказ, імі і карыстайся! Ну, навошта табе «бальныя туфлі на шпільках»? Калі твае босыя запыленыя ножкі, твае роўныя, зграбныя лытачкі — хай у драпінах, пісягах, у расчэсаных плямках камарыных укусаў, сваёй дарэчнасцю не саступаюць якім-небудзь (ты любіш аналогіі), ну, не ведаю, гогалеўска-»Оксаніным», абутым у абсыпаныя дыяментамі «черевічкі» з царыцынай нагі...

Далей па тэксце.

За адзіным у краме сталом мы не сядзелі, бо і не было на чым, а стаялі. Адна на ўсіх шклянка хадзіла па крузе. «Фрукты, віны і закускі» замяняліся ў нас дзвюма пляшкамі па нуль-сем «Агдама», івасінаю і паўбуханкаю хлеба, які ламалі і адшчыквалі пальцамі (нож цётка Валя не давала). Стол засланы быў газеткай — віноўніцай урачыстасці, раёнкай, у якой і быў змешчаны мой дэбют — селькораўскі допіс пра, дарэчы, той самы клуб, дзе мы з табою танцавалі.

«...Дыхтоўная будыніна з трывалага дрэва, на высокім старадаўнім падмурку выкарыстоўваецца безгаспадарліва, на вачах прыходзіць у заняпад, а калі падысці да справы з толкам (страчыў селькор) — у гэтым гмаху можна было б адчыніць медпункт, бібліятэку, гурткі «па інтарэсах», паказваць кіно, ладзіць дыскатэкі, бо моладзі, асабліва ў летні час, няма чым заняцца...»

Цяпер думаю: а не дай Бог узялі б ды паслухаліся? Ды па «слядах публікацыі» адрэагавалі на сігнал? Адкрылі б дыскатэку, на якую спаўзаліся б з усёй ваколіцы. І танцы да ўпаду, і буханне электроннай музыкі, і — «не будут больше надо мной смеяться из твоего подъезда пацаны»... А па вуліцы як было б прайсці? А духмяныя летнія ночы на дваіх куды б падзеліся? А цішыня? А нашая

лавачка пад ліпаю? А пах яблыкаў у жніўні? Мне тая дыскатэка трэба была? Ці ўсяго толькі карцела ўбачыць сваё імя і прозвішча, набранае тыпаграфскім шрыфтам?..

**Раздзел XII. Кампанія**

*«...Акрамя Янкі, за столікам прысутнічала яшчэ двое сяброў Валянціна. Калі ён, далікатна прытрымліваючы за локаць, падвёў дзяўчыну, яны падняліся. Янка застаўся сядзець. Пануры і прыгнечаны, ён не прымаў актыўнага ўдзелу ва ўсеагульным ажыўленні, выкліканым з'яўленнем Ганны... «*

І чым цябе твой брат прагнявіў? За што ты яго атакуеш па ўсім тэксце? Ці гэта такі «літаратурны прыём» — падкрэсліваць прывабнасць і без таго станоўчага Валянціна ў параўнанні з тугадумам Янкам, маўчуном, у якога рот не закрываецца?

А між тым твой брат, а мой сябра быў во такі хлопец. У школе і вучні, і настаўнікі дражнілі яго Паэт — за ўменне рыфмаваць словы, іншы раз даволі нечакана:

Геаметрыі не будзе!
Як гавораць — быць бядзе:
Хоць ты памаліся Будзе!

*«...Валянцін прадставіў Ганне сваіх старэйшых сяброў. Яны былі ў строгіх цёмных касцюмах пры гальштуках... Па чарзе пацалаваўшы дзяўчыне руку, адрэкамендаваліся як Міхаіл і Віталій...»*

Звалі іх Віця Чарняк і Колька Гаўрыла. Два бабылі-абармоты, аднаму пад 30, другому пад 40, два таварышы, два паплечнікі па змаганні на віна-гарэлачных франтах, падобныя тварамі і характарамі, без пары састарэлыя, абношаныя, апушчаныя, трохі блазны, трохі мацюкальшчыкі, трохі цынікі — і разам з тым амаль святыя (даволі распаўсюджаны тып мінулых 80-х); ні адзін, ні другі ніколі не паднялі рукі на жывёлінку, на ката, не тое што на чалавека. Гэта іх білі, як катоў, цвярозых і п'яных, у горадзе і ў роднай вёсцы, і з працы іх звальнялі, і замуж за іх ніхто не йшоў, а толькі насміхаліся з іх і за людзей не лічылі — не за п'янку, а менавіта за «добрасць», за няўменне на агрэсію адказваць агрэсіяй...

Абодва цяпер ашываліся на чыгунцы, «манцёрамі пуці» — усё на той жа вечнай чыгунцы, гэтай перавалачнай базе, гэтым чалавечым адстойніку, дзе знаходзілі прытулак розныя спітыя, пакрыўджаныя лёсам, абдзеленыя недарэкі і няўдачнікі; нікім не

грэбавала добрая «пуць», усіх прымала ў сваё матчына лона, даючы блудным сынам хоць нейкі час на перадых і залізванне ранаў.

Чарняка ўпіхнулі туды сілком, праз суд — тады яшчэ быў артыкул за тунеядства. З Гаўрылам — цэлы анекдот. Замешаны на тапаграфіі, геалогіі, педагогіцы і фізіялогіі, акрамя таго на крыміналістыцы. Ты ж памятаеш, што непадалёк ад нашай вёскі геолагі нешта знайшлі: соль, ці нафту, ці мінеральную ваду; нават казалі, што і золата. Пакуль там тырчэла адна вышка і ў вагончыках жылі бураўшчыкі. Коля Гаўрыла неяк з імі знюхаўся і яго ўзялі на працу. Хадзіць блізка, аванс, палучка, надбаўкі, прэміі, галоўнае — гарачы абед, у вёсцы ж хто яму наварыць. Стаў наш Коля «тыпа чалавекам»! Пры пасадзе — хоць «пасада» вядома якая: забяры-падай. Нават піць менш пачаў. Нават улетку купіў цёплыя рукавіцы, каб зімою ў мароз пальцы да жалеза не ліплі.

Аднак не спатрэбіліся рукавіцы. На Кольчыну бяду, «Буравая-Палеская» ляжала амаль на самым крыжаванні дарог, якімі хадзілі і ездзілі школьнікі з вакольных вёсак і хутароў у местачковую дзесяцігодку. (Гэта тапаграфія з геалогіяй.) Пачалі заўважаць, што две старшакласніцы з дому выходзяць, а да школы як бы і не даходзяць. І наадварот: пасля школы не дамоў, урокі зубрыць, бягуць, а растварающца на паўдарозе... Шпіёністая класная кіраўніца не паленавалася, крадком, крадком — за дзеўкамі датэпала да «Буравой-Палескай», колькі трэба счакала, у вакенца вагончыка асцярожна заглянула... (Абяцаная фізіялогія.) «У самой унукі, але тако-о-га, што там выраблялі, дык гэта прабачце мяне!.. Карацей, дзевак ціхенька са школы павыганялі, з бураўшчыкамі — цяжэй; не яны ж — да іх бегалі. А меры прымаць трэба. Ахвяруюць «стрэлачнікам» — самым бязвінным Колькам Гаўрылам, звальняюць яго і ледзь не заводзяць на яго крымінальную справу.

«За оргіі», — адказваў ён на пытанне, за што цябе звольнілі.

## Раздзел XIII. Банкет

*«...Новыя знаёмцы прыйшліся да душы Ганне. Віталій пачаў спрабаваць аказваць ёй розныя знакі ўвагі. Не паспела яна...»*

Не паспела ты падысці, як Віталій... цьфу! — Віцька Чарняк палез цябе лапаць, абдымаць, а ты пішчэла, вылузвалася — зноў белая шлеечка з-пад ссунутай на плячы майкі, смеючыся, біла яго па руках... Звычайны рытуал сустрэчы вясковых дзеўкі з хлопцам, ледзь не абавязковая цырымонія, тое самае, як у «вышэйшым свеце» цалаванне ручак дамам і галантнае падсоўванне крэсла.

— Купілі б ёй шакаладку лепш, п’янтосы! — крычыць цётка Валя. Ад прылаўка да століка чатыры метры, але ў краме ўсе заўсёды гавораць толькі крыкам, тым больш радыё заўсёды ўключана. — А не рукі распускай! Трэба, каб свая ўжо такая бегала!

— Мо дзе і бегае, — лагодна адказвае Чарняк.

— У вас пабегае! Замест таго, каб дзяцей рабіць, дык яны... Да вас жа дама падышла!

— Дама, што табе купіць? — пытае Гаўрыла і дастае кашалёк. — Ці «чарнільца» вып’еш?

Аднак якраз з «чарнільцам» праблема. Пляшкі нашыя апусцелі. Вова-Янка бярэ адну, глядзіць на святло і кажа:

Не наліць лі нашай даме
Хоць з паўшкляначкі «Агдама»?..

— Я табе наллю! — крычыць цётка Валя — Што вам тут за кафэ-бар! Дзяцей мне тут спайваць будзеце? Оргіяў мне тут яшчэ не хапала, ці якой міліцыі! Цяпер не мароз — (*нецэнз.*) на вуліцу!..

*«Ганульцы дасталося месца каля вакна. Перад тым Валянцін прапанаваў ёй крэсла і толькі тады, калі дзяўчына, падабраўшы сукенку, уладкавалася ямчэй, сеў сам. Вакно выходзіла на вуліцу. Уздоўж яе раслі магноліі. Яны акурат распускалі свае белыя, буйныя, ск сподкі, кветкі... Заходзячае сонца залаціла аблокі... А за сталом вялася лёгкая, непрымушаная гутарка... Звінелі фужэры, гучала прыемная музыка... Валянцін зрабіў знак і ўсе прыціхлі. Адкінуўшы сваім любімым жэстам валасы з лба...*

*— А цяпер прапаноўваю тост за... «*

Люда, паслухай мяне. Каб ты не думала, што я паставіў перад сабой мэту ўвесь час лавіць цябе на словах, іранізаваць, з’едлічаць, раз за разам сцягваць за нагу з рамантычнай ружовай гары да празаічна-вульгарнага падножжа.

Зусім не!

Я не настолькі кашчунны, каб высмейваць гэта. Больш таго — у глыбіні душы я твой саюзнік, я выдатна разумею, што рухае тваім пяром. Табе хочацца, ці хацелася некалі, каб так было: культурна, прыгожа, узвышана... Іскрыстае дарагое віно, «фрукты і закускі», дасціпныя тосты, крышталёвы звон фужэраў, прыемная музыка, ветлівыя, дасціпныя людзі...

Дык вось — каб ты трохі менш камплексавала, паслухай, што я табе скажу. Пазнейшае жыццё, трохі пакідаўшы мяне па свеце, нібы знарок, як па заказе падаравала мне цудоўную магчымасць

параўнаня. І давялося, шчасце маё, набачыцца мне яшчэ і не такога, як ты апісваеш. Дзе і сталы ад заморскіх закусак ламаліся, і крышталь звінеў, і тосты гучалі, і музыка не такая, як нашае радыё, іграла; дзе плавалі дамы ў сваіх строях і дзе не толькі іх пінгвінападобныя кавалеры, а нават лёкаі-афіцыянты былі ў смокінгах.

І вось што я з гэтых параўнаняў вынес:

Там усё такое ж, як у нас:
Толькі... горш у дзесяць раз!

І крама нашая была большая за іхнія палацы, бо ўбірала ў сябе тады ўвесь Сусвет, і «Агдам» наш лепшы, і закуска смачнейшая, і словы шчырэйшыя, а галоўнае, ты, наша дама, мая дзяўчынка, у трыко і ў маечцы, босая — была ў мільён разоў прыгажэйшая, чысцейшая, лепшая... Вось.

Было ў нас з табою ў тыя гады ўсё наперадзе, а ў іх, каму ты падсвядома зайздросціш, — даўно... безнадзейна... ззаду... ззаду...

## Раздзел XIV. Працяг банкета

Выварочваем кашалькі, кішэні, скідваемся. Вова-Янка падлічвае пакамечаныя рублі і белыя і жоўтыя капейкі: абавязкова трапіцца адна гнутая, страшная, чорная, дарма што аб пясок шараваная; і вартасць ёй — капейка, а клопату — на рубель: прымаць не хочуць, крык, гвалт, але збыць якую — справа гонару. Усё падлічана, усяго хапае — і на закуску, і на тыя ж шакаладкі. Вова ідзе да прылаўка:

— Нешта галава баліць. Як бы выпіць, закусіць... — рыфмамі пачынае ён.

— Маёй галавы не дуры, купляй хутчэй, — злуецца цётка Валя. Але, атрымаўшы шакаладку, лагаднее.

Ізноў пайшла шклянка па крузе... Гармідарчык... Музыка з радыё... Усе гавораць, і ўсіх стараецца перакрычаць цётка Валя. Ты грызеш, трымаючы, як вавёрка, аберуч шакаладку. Банкет наш у поўным разгары.

— Не, а калі... дапусцім? — чапляецца да Вовы-Янкі Чарняк. — Проста дапусцім?!

— Дапусцім, мы прапусцім...

— ...Гэта мая дзяўчына, — мой голас. — Праўда, Людка? Калі ты паспела вырасці?

— А ты і не заўважыў, — падлізваецца да мяне Гаўрыла.

— ...Надта ж спрытна наш Чарняк залівае ў гарляк, — Вова-Янка ківае на акно, за якім не так далёка, пад дубамі, могілкі. — Каб у тым вунь дубняку не паслалі Чарняку...

— Можа, табе яшчэ раней за мяне пасцелюць, — крыўдзіцца Чарняк. — Дапусцім...

— Дапусцім — мы прапусцім...

Колька Гаўрыла, узбадзёраны тым, што хоць на міг, хоць частачку ўвагі атрымаў, падсунуўся да мяне, шморгае за рукаво і мармыча штосьці. Я падстаўляю вуха.

— ... Дык мо хоць ты... У нас мазгі адпітыя, языкі конскія... А ты — пішы, нікога не слухай... Пра маю бяду напішы... Хай ведаюць, што і мы жылі такія на свеце... Мы нічога не бачылі, дык хоць ты пажыві заместа нас...

Коля, Коля. Тут за сябе не ведаеш, як дажыць, не тое што за кагосьці!..

Не адзавецца больш Коля. І ніхто ўжо з той кампаніі не адзавецца, не скажа, ці апраўдаў я хоць мізэрам авансы, што так шчодра раздавалі вы мне ў той чэрвеньскі вечар. Разаб'ецца насмерць на сваім матацыкле Вова, у першы ж дзень вяртання з арміі — так у форме яго і пахаваюць. Замерзне пад сцяною гэтай самай крамы ў лужыне ўласнай мачы Коля Гаўрыла. Віця Чарняк нядаўна таксама памёр. І ад крамы нашай каменя на камяні на засталося, нават узгорка, крапівай парослага, — нічога! — роўнае месца пад плотам. І клуб, гістарычны помнік наш, апошняе дажывае... І ў цябе, Людка, сын ужо большы, чым мы былі тады...

Вось жа свалачны час! Бульдозерам зраўняў, асфальтавым катком пад сябе падабраў і добрае, і кепскае, і якое хочаш! Адно зларадное суцяшэнне ад смерці — тое, што не будзе нарэшце гэтай пачвары — Часу. Ну і ўсё! Паміраць дык паміраць!

...Акаселых сяброў — многа ім трэба? — выводзілі па чарзе пад рукі Вова-Янка з аднаго боку, я — з другога. Пасадзілі побач пад плотам на траўку, прыхінулі плячамі. Валодзя адкінуў падножку, патармасіў матацыкл — ці плёхае ў баку бензін.

Праз расчыненыя, завешаныя ад мух гардзінаю дзверы крычыць цётка Валя:

— Забірайце іх адсюль! Яны мне тут трэба, каб плот падпіралі? Хіба ён без іх упадзе?

— Вось бывае часам як, як дамоў ідзе Чарняк! — крыкнуў ёй Вова-Янка, заводзячы матацыкл.

**Раздзел XV. Провады**

*«...А потым была дарога — адна на дваіх у цэлым свеце, па якой Валянцін з Ганнай крочылі няспешна, як па жыцці... Ён трымаў ейную руку ў сваёй...*

*Поўня аблівала іх сваім незямным сяйвом...»*

*Па-першае, не крочылі, а ехалі. А што такое язда ўтрох на матацыкле? У прыцемках, па лясной, карэннямі перасечанай дарозе, калі гарыць фара і адчуванне, нібы ты ў калідоры: дзве цёмныя сцяны па баках і ўперадзе — мітуслівы сноп святла... Калі дзяўчына пасярэдзіне — сціснутая да таго, што ўсю яе адчуваеш — нагамі, грудзьмі, усім целам, ледзь не зліваешся з ёю, ды яшчэ калі матацыкліст — чалавек свой, і то набірае хуткасць, разганяецца, то рэзка прытармажвае...*

*«...Час ад часу зоркі падалі.*

*— Ёсць адна прыкмета, — глыбокадумна прамовіў Валянцін. — Калі зорка падае, звычайна людзі кажуць, што трэба загадваць жаданне. Якое жаданне маеце вы?*

*— Ёсць адно, — прашаптала Ганна.*

*— У мяне таксама маецца вельмі запаветнае жаданне. Але не ведаю, як вы да яго паставіцеся?*

*— Калі яно не нейкае надзвычайнае, дык чаму б не? — кранутая яго словамі да глыбіні душы, адказала Ганулька.*

*Пакрысе набліжаліся яны да грушы, якая (забягаючы наперад) стане іхнім любімым месцам спатканняў... Рука Валянціна ўжо ляжала на яе плячы. «Ці не шмат я яму дазваляю з першага разу?! — пакутліва разважала ў думках сама з сабою Ганна. — Ці не складзецца ў яго адчуванне пра маю лёгкадаступнасць?» З іншага боку, — думала яна, гледзячы ў бок Валянціна, — ёсць небяспека выглядаць занадта строгай, халоднай, як егіпецкая мумія, або суровай, як сярэднявечная рымская статуя. Сваім маўчаннем ці не адпалохваю я яго?!»*

Калі Валодзя-Янка спыніўся і ссадзіў нас ля грушы, калі святло яго фары растала між дрэў і мы засталіся адныя — так хмель мой прапаў, а разам з ім і смеласць; не ты, а я ператварыўся ў маўклівую статую.

Толькі і прыдумаў, што закурыць. Ты шумна ўдыхнула мой дым.

— Холадна... Чаму ты не носіш пінжак? Тады накінуў бы мне на плечы — так звычайна робяць. Давай сядзем? — вось сюды...

Мы селі на зруб нізенькага калодзежыка, што быў пад грушаю.

Ты падсунулася бліжэй, адной рукой мяне абняла, другой намацала маю руку і прасунула яе сабе пад маечку, на гладкі атлас станіка... (Гэта было, Людміла Аляксееўна, і бутафорскія Ганна з Валянцінам могуць пакуль адпачыць пад сваім «сяйвом».)

— А дай мне зацягнуцца... Не, не хачу — яшчэ прывыкну, лепш выкінь зусім.

Я паслухаўся, недакурак паляцеў у траву, як трасіруючая куля.

— Ну?

— Што... ну?

— Расказвай што-небудзь. Я мала гавару, няма з кім, адна і адна ў гэтым лесе... Ты помніш, як ты мяне запрасіў? Не?! Я дык калі-небудзь успамінаю. Хоць і не часта. Ну і сям'я ў нас будзе, жонка ўсё помніць, а муж — нічога! Слухай, а ты мяне моцна кахаеш, ці так сабе? Я дык не ведаю, — тараторыла ты, сама пыталася, сама адказвала, спяшаючыся і дыханнем, і словамі, але рукой я адчуваў роўныя, як ход гадзінніка, удары — сэрца тваё было спакойнае, не кахала ты мяне, Люда.

— Скажы, а табе Гаўрыла нічога не расказваў? Не?! Як тако-о-га можна не ведаць?! Хочаш, я табе раскажу, чым бураўшчыкі ў сваіх вагончыках займаюцца? Оргіямі. А што з тымі дзеўкамі будзе? Іх са школы выганяць, як ты думаеш? Адна з пузам, ух ты... Шкада іх, праўда? Мне дык шкада... Толькі не вельмі — не люблю старэйшых дзевак, яны задаюцца... Давай пацалуемся? Толькі чур я першая, ты не ўмееш... Ад цябе віном пахне — фу! Вучыць мне цябе яшчэ ўсяму і вучыць... А дасі мне цыгарэту? Я заўтра таксама пачну курыць вучыцца, тады нам цікавей будзе, а то сумна... А ты не будзеш біцца, калі мы пажэнімся, за тое, што я куру? І сварыцца мы ніколі не будзем, праўда? Так агідна, калі муж з жонкаю сварацца... Ты на ўсё лета прыехаў?

— Не, — усё ж удалося ўшчаміцца ў частакол тваіх слоў, — заўтра ў горад. Потым — сена касіць ад тэхнікума...

— Касіць? А ты ўмееш? Я таксама папрашу тату, каб навучыў. А надоўга? Чаму ты раней не сказаў? Нехарошы ты! Вось як я цяпер адна буду? Хіба можна хлопцу так надоўга кідаць дзяўчыну? Прыцісніся мацней, мне холадна... Пагладзь мяне... А — не так, хітранькі! Вам, хлопцам, толькі папусці, вы рады старацца... Ну, не з першага ж разу! З якога? Так я табе і сказала! Ніколі ў жыцці не скажу! Добра — скажу. Хай будзе... з трэцяга. Жанчына спачатку павінна сказаць — не, і толькі потым — так... Чуеш, матацыкл? Па цябе едзе... Як хутка! І пагаварыць не паспелі. А з табой цікава. Ты мне падабаешся — столькі ўсяго ведаеш! Толькі гаворыш многа...

Святло фары выхапіла нас з цемры. Мы асляплі на міг. Заглух матор. Валодзя, якога мы не бачылі, а ён нас — бачыў, весела запытаўся:

— Паспелі?

— У цябе не папыталі, — яго тонам адказала ты, рашуча, як свайму, паклала мне рукі на плечы, пацалавала і знікла ў цемры.

**Раздзел XVI. Адцяжка**

*«...Ганулея пазнаёміла Валянціна з бацькамі. Ён пачаў бываць у ейным доме. З бацькам пілі гарачую гарбату з духмяным ліпавым мёдам... Вялі нетаропкія мужчынскія гутаркі. Валянцін дзяліўся планамі на бліжэйшую і больш аддаленую будучыню. Ганулька і маці ў гэты самы час турбаваліся на кухні.*

*Бадай, дня не мінала... Спатканні іх сталі рэгулярнымі...»*

Хочаш параду?

Надалей, калі будзеш пісаць пра каханне, ніколі не зводзь героя з гераіняй адразу пасля першай сустрэчы. Трэба час на роздум і адзіноту.

Тым больш, што ў нас з табой так і адбылося.

Ужо на наступны дзень пасля матацыкла, грушы і абдыманняў-цалаванняў я паехаў у тэхнікум, адтуль — у другі канец Беларусі, адбываць «працоўны семестр». Калі ж у канцы ліпеня вярнуўся — ужо ты была ў гасцях у цёткі ў Жытоміры і аб'явілася толькі на пачатку жніўня.

Значыць, перапынак паміж дзвюма сустрэчамі склаў без малога два месяцы.

Не ведаю, чым займалася ў сваім Жытоміры ты; я дык — калі ласка, ніякіх сакрэтаў, магу пералічыць. Лета. Веранда. Канапа-»бегемот» з выпуклым пасярэдзіне, цвёрдым, як дошка, матрасам, на якім спалася мякчэй і саладчэй, чым на пуховых пярынах. З вечара — чарвякоў капанне і вудак прывязванне да веласіпеднай рамы, з раніцы — кар'ер з аерам, з клубамі малочнага туману паўз берагі, з камарынай музыкай і танцамі паплаўкоў... Пасля абеду — лес, цішыня, прахалода, грыбы. Няцяжка ўгадаць, куды кожны раз самі вялі ногі — да чыгункі, да Казармы, да тваіх мясцінаў, тым больш гэты курс супадаў з найлепшымі грыбовішчамі...

Энергія. Здароўе. Спакойная прыемнасць ад маладосці сваёй і «Маладосці» куплёнай, што чакае дома непрачытаная. Няўдалыя, але настырныя спробы у нечым разабрацца, нешта ўхапіць, запомніць, зразумець ды яшчэ і зафіксаваць на паперы; напрыклад, тое ж

чарвякоў капанне, які гэта цуд — пах вечаровай летняй свежай зямлі, і якая прыкрасць — выкалупваць потым гэтую зямлю з-пад пазногцяў!..

І — чаканне цябе.

**Раздзел XVII. Другое спатканне**

*«Неяк аднойчы неяк пасля асабліва падоўжанага перапынку ў адносінах Ганулька вярталася з агарода, дзе займалася гаспадарчымі справамі. Да яе слыху данёсся шум матора. Затым — цішыня. І толькі тады яна пачула знаёмы голас... Валянцін!!! Сэрца яе моцна затукала, кроў прыліла да скроняў. Адначасова ёю апанаваў неадольны сорам за тое, што яна павінна зараз прадстаць перад каханым у такім непрыглядным стане. Ейныя некалі румяныя, як наліўныя яблыкі, шчокі апалі, скулы выпнуліся, яна мала ела, амаль не спала і нават пачала чэзнуць і марнець, як свечка...»*

Ды нічога падобнага.

Калі ты ў канцы жніўня вярнулася са свайго Жытоміра, і мы з Вовам-Янкам прыехалі, і ты ўпырхнула праз веснічкі з агарода ў двор, з бярэмкам канюшыны — для трусікаў, як з вялізным бела-ружовым букетам, я сапраўды ледзь пазнаў цябе. Ты ператварылася ў зусім дарослую дзяўчыну... але каб толькі знешнія былі змены!

На маю прапанову «як наконт прагуляцца?», бо вечар ужо быў, ты спытала:

— А куды?

Што з табой здарылася, Люда?!

*«З вялікай, непадробнай радасцю і ахвотай ГанулЯ адгукнулася на выказванне прапановы жадання каханага пайсці пагуляць. Само сабою — да іхняй Грушы!*

*...У той незабыўны вечар яны вельмі шчыльна наблізіліся <u>сябар да сябра</u>... Духоўна. Адчуваючы, як коціцца ў невядомую, ды надта салодкую бездань яе душа, Ганна зрабіла слабую спробу выратаваць сітуацыю:*

*— Відаць, вы лічыце мяне адной з тых, з кім прывыклі мець справу ў сталіцы. Хай буду выглядаць у вашых вачах старамоднай, несучаснай, але я так выхавана традыцыямі сваёй сям'і, што для мяне не пусты гук такія паняцці, як гонар, годнасць, сумленне і цнота...*

*— Ні на хвілю не сумняваюся, ГанулЯ! — палымяна ўсклікнуў Валянцін.*

*— Не! — спыніла яго парыванне дзяўчына. — Мне здаецца, вы*

*не кахаеце мяне...»*

З гэтай ахінеі можна вылушчыць хіба тое, што гуляць мы ўсё ж такі пайшлі. «Толькі доўга я не змагу», — папярэдзіла ты, зірнуўшы на новенькі залаты гадзіннік.

І ўсё было такім самым, як і ў першы раз: ноч, груша, калодзежны зруб, пахі і гукі лесу і чыгункі... І зноў мы сядзелі побач — вось толькі ты больш не прыціскалася да мяне, не брала маю руку і не клала сабе на сэрца, недаступнае цяпер, закрытае цяпер ад мяне не адным толькі станікам...

Замест наіўнай, мілай балбатухі я бачыў цяпер зусім іншую дзяўчыну, незнаёмую, незразумелую, з нейкай, да таго ж, задняй думкаю!

— Я пайду, — паднялася ты. — Добра?

Гадзіннік залаты... Чые гэта словы? Чые паводзіны? Адкуль ты гэтага нахапалася? Житомірскі след? Узрост, у якім чалавек, тым больш дзяўчына, можа змяняцца на працягу дзвюх гадзін, калі не хвілін, не тое што двух летніх месяцаў?

Ці ты проста ўбачыла, адчула, што я ўжо ў тваёй уладзе? Што я, як тыя трусікі, закормленыя тваёй канюшынай, прыручаны?

## Раздзел XVIII. «Палеская-Буравая»

Спакуса ўзяць зараз ды замест цябе ўсё апісаць — падрабязна, па-мележаўску густа: нашы сустрэчы, цёплыя доўгія дні з павуцінкамі восені, жнівеньскія вечаровыя туманы, зусім ужо зябкія ночы (крык птушкі, рэха цягніка), калі даводзілася нам грэцца пацалункамі-прыцісканнямі, бо спакваля ты ўсё ж адышла, скінула з сябе post-жытомірскае здранцвенне і зноў пачала мне сёе-тое дазваляць.

Але ніяк не магу адарвацца ад твайго дубовага тэксту, я прывязаны да яго, як вол, вяроўкаю і вымушаны хадзіць толькі па крузе, таптацца толькі па тых эпізодах, якія ты, невядома чым кіруючыся, адбіраеш, і карміцца той паслядоўнасцю, якую ты прапаноўваеш.

*«... — Ці кахалі вы? — спытаў неяк Валянцін. Ночы былі ўжо халаднаватыя, на ім была куртка-»аляска», на ёй — таксама джынсавая куртка з башлыкам-капюшонам...*

*Ганулька спынілася і, глыбока ўздыхнуўшы, падняла на яго свае сінія, як пралескі, вочы. Ёй было нясцерпна балюча ад уяўлення, што сваім прызнаннем яна можа зрабіць яму таксама вельмі балюча... Але і маніць не магла, бо ён стаяў перад ёй духоўна чысты,*

*высакародны, разумны...*

*— Толькі вас, — прашаптала дзяўчына, пакорна схіляючы галаву яму на плячо...*

*— А я вас...*

*Закаханыя палюбілі шпацыраваць да Геалагічнага Пасёлка і назад. Там жылі ў вагончыках вясёлыя, бестурботныя — сёння тут, заўтра там — рамантыкі-геолагі... Іхняму лёсу Гануля калі-нікалі нават па-светламу зайздросціла.*

*Часта, узяўшыся за рукі, закаханыя выпраўляліся любімай дарогай...»*

Я цярпець не мог тую дарогу.

Мне хацелася ў лес, на бераг кар'ера, дзе можна было палюбавацца вячэрняй вадою і паслухаць, як яна шапоча ў берагах, на крайні выпадак прайсціся полем — хоць і зжатым даўно, нецікавым — да вёскі. Ты ж нязменна выбірала свой шлях, толькі да гэтай і буравой цягнула цябе нячыстая сіла.

Глыбокія, выбітыя «Мазамі» каляіны... Спуск у лагчыну. Кладка — я пераходзіў па ёй, працягваў табе руку і ты саскоквала, трапляючы ў мае кароткія абдымкі. Даходзілі да бярэзніку. Праз дрэвы, калі яшчэ светла было, віднеліся вагончыкі, чуліся галасы і музыка. Спыняліся на паляне — вытаптанай, скрозь у чорных падпалінах, паўсюль акуркі, аб'едкі, папера, коркі пластмасавыя з-пад «чарніла» і гарэлачныя «касынкі»... Што цябе туды цягнула?!.

— Вось ўсё табе трэба ведаць, — крыўлялася ты, пакусваючы губку, страляючы вочкамі, зацягваючыся цыгарэтным дымам; стрымала-такі абяцанне, навучылася гэтаму шчасцю лепш за мяне. — І так разумны, разумныя старэюць хутка... Вось паедзеш, знойдзеш сабе новую Людку, а я буду прыходзіць сюды і ўспамінаць.

Стаялі, выкурвалі па цыгарэце, заварочвалі назад — ішлі ўжо ў прыцемках, сапраўды за рукі ўзяўшыся. Шчаслівы, што аддаляемся ад праклятага месца, я ўслых разважаў, што вось праз год, усяго! — скончу тэхнікум, станем мы жыць у лесе, можа нават у той жа казарме, ці пабудуем церам-катэдж — няважна; я буду хадзіць на паляванне, па рыбу ў кар'ер, па грыбы, чытаць кнігі і пісаць «літаратуру», ты — чакаць мяне, радавацца маім поспехам, завіхацца па гаспадарцы, гатаваць мне абеды, вячэры і сняданкі...

Ты адзін раз толькі перабіла, сказала — неяк ціха, да таго пяшчотна, што я пачырванеў у цемры.

— А армія? — спытала ты ціха.

— Што армія? Ну, армія...

Вярталіся ў свой ад усяго свету зацішны куточак, да нашага

калодзежа пад грушай. Пілі з кансервавай бляшанкі на палцы смачную, зубаломную ваду. Моцна пахла грыбным жніўнем і калодзежнай нізіннай сырасцю. Недзе далёка гул цягніка ці то прыбліжаўся, ці то аддаляўся.

Мы сядалі на зруб. Ты абдымала мяне за плечы — не як дзяўчына хлопца, а як «сябар сябра» (ты так пішаш).

— Дык табе Гаўрыла нічога не расказвае пра оргіі? — шаптала ты, садыстка мая малая. — Так брыдка, праўда? Фу, як нецікава... Нейкія оргіі, — а галасок твой дрыжэў, а слова гэтае смакавалася, сліна зглытвалася... І бляск тваіх вачэй у месячным святле, і дыханне, і міжвольнае, рэфлексіўнае, як падрыгванне жабінай лапкі, сціскванне маіх пальцаў выдавалі цябе з галавой. — Ты не слухаеш? Табе нецікава?

— Мне брыдка, — шчыра адказваў я.

— Тады што табе цікава?

— Мне? Толькі пра нас з табою. Пра наша будучае жыццё ў адзіноце. Пра футбол, кнігі, пра зіму, кар’ер, пра лес, пра зжатае поле, калодзеж, грыбы... Пра чыгунку... Пра розныя краіны заморскія, якія мы з табою абавязкова ўсе аб’ездзім — каб пераканацца, што лепш за Беларусь усе адно няма...

Менавіта так я і казаў, і яшчэ сабраўся многа чаго пералічваць. Твой пацалунак закрыў мне рот.

— Ты многа любіш... Хіба можна так многа любіць?

## Раздзел XX. «Белага лета крыло»

*«Заўтра Валянціну трэба ад’язджаць у горад.*

*Сёння іх апошняя сустрэча. Невыносна цяжка пісаць гэтае слова — апошняя! Ганулю ўся ў прадчуванні чагосьці значнага, але непапраўнага, важнага і разам з тым наканаванага.*

*Кранутае агнём рабін лета саступае настырнай, няўмольнай восені. Хутка дажджы, халады, адзінота... Ці вытрымае Ганна? Яна нават не ўяўляе свайго існавання без каханага. Трывога, непакой, тужлівы гнёткі сум навальваўся на дзяўчыну і золкім туманом агортваў душу.*

*Задоўга да прызначанага часу яна чакала каханага на іхнім улюбёным месцы. Вось і знаёмыя, родныя крокі на вузкай сцяжынцы, і між дрэў замільгала яго куртка...*

*— Мой дарагі, любы!»*

Усё гатовы дараваць табе за гэтыя словы, за інтанацыю іх, нават калі яны выскачылі ў цябе выпадкова — ведаеш, бывае, палец

выб'е на камп'ютэрнай клавіятуры не тую літару, захочаш паправіць, прыгледзішся, а, аказваецца, з такой нібыта «памылкай»слова якраз-такі ажывае... Усё б дараваў, каб не:

*«... — Няўжо мы больш не ўбачымся, Валянцін?!*

*— Не кажы так, Ганна! Не ўяўляю будучыні без цябе!*

*— Я таксама, Валянцін!*

*Гарачы шэпат закаханых заглушыў шум акружаючага лесу. Вусны іх зліліся ў доўгім, гарачым пацалунку. Дзяўчына не магла высіліцца з нечакана ўчэпістых абдымкаў хлапца. Ды і не мела намеру вызваляцца...*

*І калыхалася, як на нябесных арэлях, спелая поўня над імі... Невыказна-салодкі віхур закружыў, падхапіў іх і панёс, панёс туды, да зор... Поўня наблізіла свой круглы, цікаўны твар і схілілася над імі... Зоркі гайдаліся, целы спляліся, у вушах гучала сімфонія кахання!!!*

*...А потым радасныя, ашаломленыя, уражаныя незямным адчуваннем, развіталіся яны, і давалі клятву не жыць адно без аднога...*

*Паехаў! Усё асірацела без яго. Ганна вырашыла, чаго б ёй тое ні каштавала, чакаць. Колькі спатрэбіцца, хоць цэлую...*

*А яшчэ праз месяц дзяўчына даведалася, што неўзабаве ў Валянціна вяселле з нейкай там гарадской. Якая вераломная здрада! Гэтага Ганулька нават не чакала.*

*Плач пад ігрушай...»*

Канец.

Вось так.

Значыць, так яно ўсё адбывалася? Тым скончылася? А я і не ведаў. Лясная краска, дзікая архідэя ахвяравала ўсю сваю прыгажосць, маладосць і цноту легкадумнаму донжуаністаму прайдзісвету — мне, які толькі і трымаў у галаве пакарыстацца нявіннай дзяўчынай, а потым спакойна адчаліць на ўласнае вяселле, пакінуўшы бедную плакаць? Некалі адна матрона, паважаная маці сямейства, гартаючы альбом, тыцнула пальцам у выцвілую фотакартку ваеннага пад засвечанай пальмаю і пры мне — маладым тады яшчэ чалавеку, пры мужы, пры дарослым сыне, пры 10-гадовай унучцы і 80-гадовай сваёй матцы — задуменна, гулліва працягнула:

— Гэта ж быў час, адмірал да мяне заляцаўся... Не давала, дурная... А цяпер і рада, ды не трэба нікому...

Так і ты, даруй.

Было — і прайшло! Усё, забудзь! Не трэба гэтых падтасовак у памяці, гэтых раскаянняў, не трэба заднім розумам ні перад сабой, ні перад кім апраўданняў! Гісторыя з матронай табе нічога не нагадвае,

Люда? Напрыклад, люстэрка? Паглядзі ў яго ўважліва — і ты не ўбачыш там, як ні напружвай зрок, ні поўні, ні салодкай віхуры, ні гайдання неба, ні зліцця вуснаў і целаў... Словам — нічога. Табе не разгледзець там дэталяў нашай апошняй сустрэчы, бо яе проста не было. Ты на яе не прыйшла.

Наконт слёз... Былі слёзы. Толькі не пад нашай — пад другой грушаю, гарадской, чэзлай, даўно абляцелай, што адзінока тулілася ў кутку двара райваенваенкамата, куды нас у канцы кастрычніка прыгналі на камісію і адкуль у гэты час павінна была адправіцца партыя навабранцаў. Сярод іх быў і твой брат — мой сябар. У старой ватоўцы, са спартыўнай сумкай на плячы, пад нуль падстрыжаны ён ужо не нагадваў маладога Ульянава. Вова ўзрадваўся сустрэчы, а я — не. Да таго часу я ўжо быў у курсе тваіх апошніх прыгод, ведаў, што аднойчы ты ўсё-такі пераступіла мяжу бярозавай паляны, дайшла-такі да вагончыкаў з музыкай і «вясёлымі, бестурботнымі рамантыкамі»... Не здарма цябе так цікавіла тое слова... Не ведаю далей, і ведаць не хачу. Мне хапае ўяўленняў. А яны да таго кашмарна-дзікія, што я з таго часу проста пачаў баяцца людзей — усіх, любых, без разбору, асабліва калі іх многа, як вось цяпер на ваенкаматаўскім дворыку...

Таму мне было цяжка з тваім братам. Але менавіта ён аказаўся адзіным чалавекам, які мяне зразумеў і пашкадаваў. Мы прыселі на лаўцы ў дальнім кутку дворыка. Побач расла крывая груша. Я пагладзіў шурпатую, патрэсканую, нечакана цёплую для восеньскага стылага дня кару. Вова дастаў з сумкі пачатую пляшку «Агдама», зубамі са шпоканнем выцягнуў папяровую затычку.

— Адслужу, Канада, і вярнусь, — сказаў ён, падміргнуў мне, адпіў з рыльца, выдыхнуў. — Спяваюць «адслужу, как нада», а чуецца — Канада...

Потым паклаў мне руку на калена.

— Не трэба... Яна не вартая цябе... Хіба ты не бачыў, што на ёй аж шкура гарыць...

Я ўсунуў у рот цыгарэту, адвярнуўся да грушы і пачаў чыркаць запалкамі, якія не хацелі гарэць, ламаліся... А тут яшчэ вецер у вочы, расплываецца двор, і груша, і цыгарэта... Давялося некалькі разоў зміргнуць, каб вярнулася рэзкасць зроку. Запалка ўспыхнула, я прыкурыў і павярнуўся да сябра. Ён, з выглядам, што нічога не заўважае, ужо весела чытаў мне верш:

...Прыйшла павестка  
На паперцы туалетнай:

З’явіцца ў райваенкамат...

Ад ганка яму крыкнулі. Ён заспяшаўся, затараторыў, не выпускаючы маёй рукі:

...Падходзіць ротны камандзір —
Аць-два!
Здарова, братцы-навабранцы,
Мацер вашу!
Давай ў атаку пабяжым!

І, адыходзячы назаўсёды, добры, лысы, смешны ў сваёй ватоўцы і з недарэчнай сумкаю на плячы, азірнуўся і махнуў мне рукою:

— Давай у атаку пабяжым!

**ЧАСТКА III. Чытачы**

Аповесць выйшла, канула ў Лету, і Мікола Пятровіч забыўся на яе.

Аднойчы яму патэлефанавалі і запрасілі ў бібліятэку на выступленне. Ён здуру згадзіўся. Здуру, бо якія цяпер чытачы і якія выступленні? Цяпер усе выдатна ведаюць, як жыць, навошта жыць, як пісаць і што чытаць, і самі любога навучаць.

Але пайшоў.

Бібліятэкарка, каб зрабіць яму прыемнае, паказала нумар часопіса з «Повесьцю», зачытаны, зашмальцаваны да таго, што на фальцах быў заклеены скотчам. Мікола Пятровіч машынальна пачаў гартаць — і раптам між старонак знайшоў аркушык паперы. Рознымі почыркамі, рознымі чарніламі там было 9 запісаў. Відаць, часопіс перадавалі ў класе, ці ў студэнцкай групе, і кожны пакінуў свой маленькі водгук, міні-рэцэнзію. Атрымалася нешта накшталт чэхаўскай «Кнігі скаргаў». Мікола Пятровіч вырашыў захаваць аркушык на памяць. Вось ён.

1) Аўтар не баіцца, што хтосьці ў сваю чаргу разбярэ яго таксама?

2) ПА-МЕЛЕЖАЎСКУ густа — дык так і трэба было пісаць па-мележаўску.

3) здорава! гэты абвал пошласці і штампаў у курсіўнай частцы! і тлумачэнняў не трэба!

4) Сябры, я яго раскусіў: ён не з **Л**ідай і не з **Л**юдай

развітваецца, а з сваёй ***Л***ітаратурай!

5) Вось (*нецэнз.*)...

6) Як не сорамна?! Гэта мой любімы пісьменнік, а не (*нецэнз.*)! Хачу, каб ён назваў якую-небудзь сваю гераіню маім іменем. А маё імя — сакрэт.

7) Сівы лішайнік на сцяне — можа, трэба сівы мох? Ці я памыляюся?

8) Дас іст фантасціш!

9) Абсалютна нічога такога смешнага не знайшла ў той частцы, што курсівам. Цалкам кранальная гісторыя зараджаючагася кахання на фоне непаўторнай беларускай прыроды. Хацелася б больш даведацца пра дальнейшы лёс гераіні... Анюта С.

# САЛДАТ

1.

Кастрычніцкім вечарам 1983 года ў глухім лесе адной з цэнтральных расійскіх абласцей, дзе размяшчаліся склады Н-скай вайсковай часці (сама часць была ў горадзе, кіламетраў за пятнаццаць), адбывалася чарговая змена каравульных.

Калі салдаты новай змены выйшлі з цёплай каравулкі на халодны двор і адзін за адным патэпалі за разводным, з лесу пацягнула сырым восеньскім ветрам. Вецер прабег па іх, абмацаў, астудзіў патыліцы, рукі, раздзьмухнуў крысы шынялёў, бы настырны старшына, які хоча пераканацца, ці ўсе ў яго падначаленых як след, ці не адубеюць яны за гэтыя дзве гадзіны стаяння на пасту.

Радавы Ласіца, што ішоў адразу за разводным, міжволі павярнуў галаву ў той бок, адкуль вецер, дзе плот, лес і ледзь бачная назіральная вышка. Потым моцна, аж пальцы хруснулі, сціснуў ложу аўтамата і раптам спалохаўся. Яму стала страшна, што ён зусім малады, няма яшчэ дваццаці, а ён, хутчэй за ўсё, неўзабаве памрэ. Ён убачыў перад сабой (апошнім часам яму такое лёгка давалася: ён мог у любую хвіліну жыва, выпукла ўявіць сабе ўсё, што хацеў) твары бацькоў, сястры, настаўніка, Ніны... І сам сабе ён убачыў, Алёшку Лісіцу, які сядзіць за школьнай партаю і думаць не думае, што менш чым праз два гады апынецца за тысячы кіламетраў ад Беларусі, каб тут, на чужыне, так страшна, незразумела захварэць.

«Сёння, вось цяпер, твой адзіны і апошні шанс!» — сказаў сабе Ласіца, усё яшчэ да болю ў пальцах сціскаючы аўтамат. Узгадалася, як апошнімі бяссоннымі начамі ён маліў Бога, каб той паслаў яму гэты вечар, вецер, спіну ўперадзе, АКМ у рукі і два магазіны патронаў. І вось Бог памог. А ўсё далейшае справа тэхнікі.

Каля бліжняга склада з цемры вырасла постаць, і пачуўся вокліч: «Кто идёт, стоять на месте!» — «Разводящий со сменою!» — адказаў сяржант, сібірак Болтус.

— Ко мне, остальные — на месте!

Болтус пайшоў. Блізка быў слуп з ліхтаром, але туркмен-каравульны гучна, каб усе чулі, загадаў разводнаму знізу асвятліць ліхтарыкам твар. Болтус падпарадкаваўся. Туркмен, каверкаючы словы, пачаў дакладваць, што за час нясення ім службы па ахове такога і такога аб’екта нічога не адбылося; урэшце скончыў — «пост нумар чатыры здаў».

— Рядовой Ласиц***о***, приказываю заступить на пост номер

четыре по охране... — і Болтус пералічыў аб’екты, своеасабліва, як умеюць толькі рускія, раскатваючы зычныя «ря», «ри», «ре»...

— Есть принять пост номер четыре...

Ласіца завучана, бы робат, паўтарыў тым строгім, не сваім, дзеравяна-салдафонскім голасам, які выпрацаваў у сябе эа апошнія тыдні; голасам, якім на занятках адказваў параграфы вызубранага статута, адзываўся на каманды, якім пачаў гаварыць з іншымі салдатамі і нават сам з сабою ў думках; голасам, што так памог яму дабрацца да гэтага каравула.

Болтус кіўнуў задаволена, эагадаў туркмену стаць ззаду ўсіх, і працэсія паўз склады пацягнулася да іншых пастоў. Ласіца глядзеў ім услед. Метраў праз пяцьдзесят, дзе быў другі слуп з ліхтаром, чарада павярнула, усе ўпяцёх — асветленыя, марудлівыя... У Ласіцы, аднаго з лепшых стралкоў роты, аж здрыгануліся калені, рука сашмаргнула э пляча аўтамат, а палец падняў «сабачку» засцерагальніка. Дужа прывабнай, на самай лепшай для стральбы чаргою адлегласці была мішэнь. Чыркнуць разы два, кароткімі... Салдаты павярнулі за склады, схаваліся, зніклі. Ласіца шчоўкнуў «сабачку» назад, на нейтралку. Чорт з вамі, жывіце і помніце маю добрасць. Як усё ж змяняе чалавека зброя ў руках! Як у ім адразу прачынаецца штосьці звярынае, першабытнае і разам з тым — найвышэйшае! Ты — уладар, звышчалавек, няма табе роўні; нездарма ў некаторых рэлігіях за страшны грэх лічыцца нават дакранацца да зброі, да гэтага д’ябла...

Ласіца пагладзіў рабрысты ражок, потым пацалаваў халодную, прапахлую потам і змазкаю ложу. І гэты нячутны, толькі ўяўны гук пацалунка, проста рух вуснамі, ізноў, як хвілін колькі таму, вярнуў яго ў школьныя гады, нагадаў Ніну, якую яму ўжо ніколі не цалаваць... Ніколі! Як жа так выйшла, адкуль да яго прычапілася гэтая пошасць, што, нібы ракавая пухліна, з’ела яго літаральна за чатыры месяцы!..

Ён напаўголаса абазваў сябе брудным, гадкім у адносінах да мужчын словам. Памагло. Разнюніўся! Нібыта ёсць у яго варыянты. Ужо спакойна, халоднай галавою Ласіца зноў хуценька перабраў дэталі абдуманага тысячу разоў плана. Што і казаць — яму моцна пашэнціла. Галоўнае, патрапіў у каравул і цяпер у руках АКМ. Другое — выпаў чацвёрты пост, далёкі ад каравулкі і КПП і блізкі да лесу. Трэба было пачынаць. Ласіца прыслухаўся, падышоў да цёмнага плота, што быў крокаў за дваццаць ад складоў, пайшоў паўз яго. Вось першая дзірка — дошка знізу выламаная; вось яшчэ дзірка, хоць два чалавекі разам пралазь... Успомнілася, як яшчэ ў вучэбцы сяржант Салдатаў расказваў: «Пойдзеце ў каравул, там ёсць такі чацвёрты

пост, каля самага плота. Ідзеш каля тых дзірак у плоце і чакаеш, што вось-вось завостраны дроцік ці страла ў шыю ўвап’юцца». Дроцік ці страла... Ды тут лёгкую зенітку можна працягнуць на тэрыторыю і рабіць з гэтымі складамі што хочаш...

Ласіца дайшоў да канца свайго паста. На слупе пад цынкавай накрыўкай, сагнутай у выглядзе таксафона, бялела кнопка званка і вісеў навушнік. Ласіца націснуў кнопку, адпусціў; пачуўшы голас памочніка начальніка каравула, строга адрапартаваў у навушнік, што на яго чацвёртым пасту ўсё ў парадку. Зноў паазіраўся, пайшоў, потым пабег назад, да знаёмай дзіркі. Апусціўся на карачкі, палез, раптам штосьці тузанула назад. Штык-нож чапляўся за абломкі верхніх дошак. Дурань, ну як на такое можна забывацца?! Забудзеш маленькую драбязу, а з-за яе ўсё паляціць к чорту... Пралез, хуценька адамкнуў штык-нож, размахнуўся, каб шпурлянуць яго ў лес, але пашкадаваў, схаваў у ножны.

Моцна пахла восеньскім сырым лесам. Вецер біў у твар, падсвістваў у вушах, быццам таксама радаваўся за чалавека, вольнага цяпер, як і ён сам, вецер. Ласіца бег паўз самы плот, прыціснуўшы да бакоў локці, рытмічна, бы на вучэбным кросе, удыхаў паветра носам і выпускаў ротам. Вось назіральная вышка, пустая ў цёмны час. Вунь агні КПП. Ласіца спыніўся, аддыхаўся, пайшоў у лес у напрамку дарогі. Раптам з КПП данесліся галасы, завёўся матор машыны. Ён зноў пабег і хутка апынуўся пры самай дарозе, стаіўся за тоўстай ялінаю. Марудна калываючыся на ямах разбітай дарогі, свецячы бліжнім святлом фар то ўверх, то ўніз, з-за павароту паказаўся «ЗіЛ». Прывозілі каравульным вячэру. Ласіца сцягнуў з галавы шапку, запіхнуў пад рэмень, паправіў аўтамат, падрыхтаваўся. Цяпер ім кіраваў толькі інстынкт, ён падказваў, што трэба рабіць, ён даваў надзею, што ўсё атрымаецца. Да горада яму, вядома, на гэтым «ЗіЛе» наўрад ці дабрацца, а вось да шашы... Машына параўнялася з елкаю. Адсюль пачыналася раўнейшая дарога. Злавіўшы момант, калі «ЗіЛ» амаль прыпыніўся для перагазоўкі і ўключэчэння перадачы, Ласіца, сагнуўшыся, сігануў на дарогу, ухапіўся за задні борт, з самага краю, завешанага брызентам, падцягнуўся і ўпёрся нагамі ў запаснoе кола знізу кузава. Машына рванула з месца, пайшла, пайшла... Ласіца асцярожна зірнуў увсрх. З кузава за брызентам яго рук не відаць, нічога не ўбачыць і шафёр. Днявальны і салдат з нарада па кухні, якія прывозілі ежу (Ласіца ведаў іх), маўчалі. Адзін, седзячы з таго ж боку, амаль ушчыльную да борта, за які ўчапіўся Ласіца, курыў, раз за разам выцягваючы руку з цыгарэтаю за борт і збіваючы попел Ласіцы на плячо.

«Штык-нож тырчэў бы зараз над бортам, і шапка, адразу ўбачылі б! Вось што такое драбяза!» — пахваліў сябе ў думках Ласіца.

Машына ехала даволі хутка. Ласіца вісеў, скурчыўшыся, яго гайдала з боку ў бок. Пакрысе ён перастаў асцерагацца і ўжо не дужа хаваўся, калі яго падкідвала і маглі заўважыць з кузава ці калі заносіла набок і ў люстэрка мог убачыць шафёр. Кепска было яшчэ тое, што ён перастаў арыентавацца, яму здавалася, вось-вось павінна быць шаша, але машына ехала, вакол чарнеў лес і лес. Зацякалі не так рукі, як ногі, сагнутыя ў каленях. Ласіца, зусім забыўшы асцярогу, высунуўся, глянуў уперад і ўбачыў прасвет між дрэў — то была шаша. Ён хацеў саскокваць. У гэты момант «ЗіЛ» трасянула на яме, пакаціліся, зазвінелі ў кузаве парожнія флягі, гучна вылаяўся на шафёра днявальны... У Ласіцы расшчапіліся пальцы, яго падкінула ўверх, зацеклыя ногі не паспелі як след спрацаваць, і ён грымнуўся вобземлю. З гарачкі падхапіўся, абмацаў перш аўтамат, потым сябе, — здаецца, нічога, цэлы, толькі ўвесь у гразі і гразёю забіла рулю. Паспрабаваў пайсці за машынаю, якая ўжо ўзбіралася на шашу, і, гучна войкнуўшы ад болю, прысеў. Адразу чрабілася млосна і захацелася піць. Нага!.. Умудрыўся падвярнуць ці зламаць нагу! Каля саменькай шашы!

Войкаючы, ён даклыпаў да бліжэйшай елкі, зваліўся. Паспрабаваў сцягнуць бот, не змог ад болю. Паляжаў трохі на халоднай зямлі, счакаў, пакуль перастане калаціцца сэрца, пройдзе млоснасць, адламаў шурпатую яловую галінку, старанна вычысціў, выкалупаў гразь з рулі. Стала холадна галаве. Ён надзеў шапку, на адной назе прыўстаў і, дзе трымаючыся за галіны і ствалы елак, дзе памагаючы сабе аўтаматам, абапіраючыся на яго, як на кавеньку, пацёгся да шашы.

Цяпер толькі звярыны адчай штурхаў яго ў спіну, гнаў уперад, патрабаваў хоць якога дзеяння... Дачакацца і спыняць машыну? Як? Сграляць па колах? І што потым, калі машына спыніцца? Паўзці да яе? Так, паўзці! Не ляжаць жа пад хвояю, не чакаць, пакуль прыедуць і абложаць, бы ваўка!..

Метраў за трыццаць ад шашы ён спыніўся аддыхацца і раптам насцярожыўся. Яго чуйнае вуха вясковага хлопца ўлавіла знаёмыя гукі: скрып колаў, стукат іх аб карані, пырханне каня. Гукі набліжаліся. Нехта ехаў дарогаю паўз шашу ў напрамку горада.

2.

— Стаяць! — хрыплым, злым голасам скамандаваў ён, калі воз

параўняўся з ім, і шчоўкнуў затворам. Тады адразу ж, каб не ўпасці, ступіў бліжэй і схапіўся за ручку драбіны.

У перадку воза ён разгледзеў жанчыну, у куфайцы, хустцы. Ззаду ў возе ляжалі некалькі поўных мяхоў.

— Хто такая? — усё так жа гучна, злосна сказаў ён. — Куды едзеш? Адкуль?

— Ты што, сынок? — спалохана азвалася жанчына. — Салдацік, Бог з табою! — і яна затараторыла сваім мясцовым вымаўленнем, да якога за цэлы год службы ў гэтым краі ніяк не мог прывыкнуць Ласіца. — Местная я, из Тейково, ездила вот в село овса взять, да кладовщика не было, вот и припозднилась...

— Памаўчы! — абарваў яе Ласіца, мацаючы мяхі, раздумваючы, загадаць ёй скінуць іх або не губляць на гэта часу. Ён ведаў Тэйкава, маленькую вёсачку пры шашы, прыкладна пасярэдзіне паміж горадам і месцам, дзе яны цяпер стаялі.

— Так, — сказаў ён. — Паедзеш, як і ехала, лесам. Гоніш як мага, — і, не чакаючы адказу, са стогнам уваліўся ў задок, пачаў зручней уладкоўвацца сярод мяхоў.

— Ды ты чё, салдат? — жанчына ўсё не магла дапяць, што ж адбываецца.

— Ясна табе?! — крыкнуў Ласіца і раптам ускінуў аўтамат і націснуў на курок.:

Куля весела ціўкнула ў вяршаліне блізкай хвоі, зразаючы лапкі, збіваючы ігліцу. Ахнула жанчына, ірвануў з месца спалоханы конь. Сыры, густы лес прыглушыў стрэл, адразу растварыў яго сярод іншых сваіх гукаў. Жанчына не азіралася. Воз трэсла, калывала з боку ў бок. Ласіца ўсё ніяк не мог уладкаваць нагу, яна балела і не давала думаць. Праклятая нага! Ён расшпіліў на два верхнія гузікі шынель, пацёр мокрую, гарачую шыю пад гімнасцёркаю. Хацелася піць, аж язык зашэрх. Яго, канечне, спахапіліся ўжо, шукаюць каля складоў... Нічога, шукайце. Вось дабярэцца да Тэйкава, там будзе ў каго-небудзь матацыкл ці машына... А можа, гэтай падводай дабірацца да горада? Можа, так яшчэ лепш?..

— У цябе дзеці малыя ёсць? — спытаў ён.

Не азіраючыся, жанчына ўсхліпнула:

— Няма ў мяне! Ні мужа, ні дзяцей, адна!

— Баішся смерці?

— Баюся, сынок!

— Чаго ж баішся, калі няма нікога?

— Таму і баюся! Бо і не жыла яшчэ! Адпусці!.. — узмалілася яна.

— А ты хоць здагадваешся, хто я?

— Ох, здагадваюся, сынок!..

— Прыедзем у горад — адпушчу. Не бойся.

— Як... у горад?! — аж ускінулася яна. — Сынок, салдацік, паглядзі, конь мокры ўвесь, авёс жа...

— Памаўчы! — прыкрыкнуў ён. Потым дадаў: — Мне ўсё адно канец.

Яны ехалі доўга. Было відаць, як па шашы зрэдчас то ў горад, то з горада праносяцца светлыя плямы машын. Вакол быў усё той жа хваёвы густы лес; Ласіца ведаў, што ён не скончыцца да самага горада. Хоць гэта крыху супакойвала. Ехалі моўчкі. Ласіца хацеў паглядзець, каторая цяпер гадзіна, але паленаваўся. Якая розніца... Гімнасцёрка на шыі і на грудзях па-ранейшаму была мокрая ад поту; шыі і грудзям было горача, а спіне — холадна. Час ад часу яго праціналі дрыжыкі. Ён ляжаў бокам на мяккім мяху, воз гайдала, ледзь чутна скрыпелі колы, конь аднастайна чвякаў капытамі. Пахла мукою, аўсом, лесам, вёскаю... Ласіца ледзь не задрамаў.

Ён пачаў варушыць нагою, каб балела і не давала драмаць. Не, кепска так... Ён хацеў загадаць: «Падгані каня!» — і зноў паленаваўся. Жанчына сядзіць, не варушыцца, не азіраецца... Баіцца. Правільна, яго трэба баяцца. Маці нагнулася над ім... Якая маці?!

Ён уздрыгнуў, агледзеўся — усё тое ж вакол: лес, рып колаў, спіна ўперадзе... Бацька едзе на луг касіць, новенькая каса ляжыць упоперак воза, ён, малы Алёша, сядзіць разам з маткаю ззаду... Адкляпанае вострае лязо блішчыць зусім блізка, адбівае сонца, і ён усё баіцца парэзацца, баіцца касы, прыціскаецца да маці... Вось бацька паварочваецца да іх, смяецца радасна, і яму, Лёшу, таксама робіцца спакойна і радасна, толькі хочацца, каб бацька здагадаўся і прыбраў далей касу... А той ніяк не здагадваецца, толькі ўсё смяецца, падсоўваецца бліжэй і ўсё гаворыць, гаворыць штось доўга, і так, што не разабраць ніводнага слова...

Ласіца ачомаўся ад цішыні — колы больш не рыпелі — і адразу схапіўся за аўтамат. Воз стаяў каля нейкай цёмнай хаты, воддаль сям-там свяціліся агні іншых хат. Жанчына сядзела ў перадку, не варушачыся, і глядзела на яго. Ён зразумеў, што яны ў вёсцы; пакуль ён спаў, жанчына пад'ехала да сваёй хаты, непадалёк ад шашы, і стаяла, чакала... Забыўшы пра нагу, Лісіцкі, каб саскочыць з воза, зрабіў на яе ўпор — і ўскрыкнуў; нага аж хруснула, аж пачуў, як церануліся адна аб адну абломкі костачак там, усярэдзіне... Зноў зрабілася млосна, як тады, на дарозе. Ён са стогнам пераваліўся цераз драбіны, паспрабаваў стаць і тут жа, каля воза, лёг на зямлю.

Жанчына моўчкі глядзела на яго. Ён ледзь не сказаў, ці можна ўрача, і схамянуўся. Урача!.. І раптам увесь план яго падаўся яму кашмарам, вар'яцтвам. На што ён спадзявася?! Ну, а калі б нават не нага?! Ах, як бязглузда, непатрэбна ўсё!.. Праклятая хвароба!.. Жанчына злезла з воза і асцярожна наблізілася да яго.

— Я зламаў нагу, — сказаў ён, выціраючы рукавом шыняля нос і шчокі.

3.

У цёплай каравулцы тры «духі» мылі падлогу: двое намыльвалі шчоткамі, трэці сцягваў анучай ваду. Яшчэ двое сядзелі побач за сталом, унурыўшыся ў кніжкі статута. За суседнім сталом сяржант Болтус з разводным старой змены гулялі ў шашкі. Праз нізенькае акенца ў дзвярах насупраць было відаць, як спіць начальнік каравула, — проста за сталом, у фуражцы, паклаўшы галаву на рукі. На адным з тапчаноў ляжаў, укруціўшыся з галавою ў шынель, адвярнуўшыся да сцяны, салдат старой змены. На другім сядзеў «дзед» Дзямідаў і не даваў маладым вучыць статут.

— Цяпер ты, — казаў ён. — На якой мове гавораць у Аўстраліі?

— На аўстралійскай, — падумаўшы, адказваў «дух».

— Адставіць! Ты каму сказаў?

— Таварышу малодшаму сяржанту. У Аўстраліі гавораць на аўстралійскай мове, таварыш малодшы сяржант.

— А ў Амерыцы на амерыканскай?

— Не чапай хлопцаў, — сказаў Болтус, не падымаючы галавы.

Дзямідаў узяў шахматную дошку, пачаў перабіраць на ёй знізу пальцамі, нібы на гітары браў акорды, і спяваць ціха:

Дз, дз, дз — дз'евушка с распущенной кос, ко-сой,
Мо, мо, мо — мои губы трогала губ, губа-ами...

Шырока расчыніліся дзверы з двара, упусціўшы ў памяшканне перш свежага ветру, тады — устрывожанага памочніка начальніка каравула, які хадзіў правяраць пасты.

— Дзе Ласіца?! — крыкнуў ён, падбег да акенца і забарабаніў у яго.

Начкаравула прачнуўся і адчыніў дзверы. Памочнік заскочыў да яго, пачаў дакладваць. Праз хвілін колькі памочнік выглянуў у дзверы і крыкнуў дзіка:

— Трывога!!!

Салдаты, на хаду зрываючы з вешалак шынялі, выхоплівалі з піраміды аўтаматы і выбягалі на двор строіцца.

Праз дзесяць хвілін паведамленне пра ЧП выслухаў дзяжурны па палку.

Яшчэ праз дзесяць хвілін па трывозе быў падняты ўвесь полк. Па пляцы, бы мурашы, мітусіліся людзі, чуліся каманды, каля казармаў строіліся роты, узводы, аддзяленні. Яшчэ праз дваццаць хвілін з размяшчэння часці выехалі адзін за адным тры крытыя брызентам «Уралы» і паляцелі, напаўняючы гулам вячэрні горад, не зважаючы на чырвоныя светлафоры, у напрамку лясных складоў.

Праз паўтадзіны ўзвод Ласіцы быў зняты з усіх нарадаў — з кухні, КПП; замяняліся іншымі салдатамі дзяжурныя і днявальныя.

У штабе перад камандзірам палка палкоўнікам Гардзеевым стаялі «смірна» зампаліт — капітан Атаманчук, камандзір «дэзерцірскай» роты маёр Сілін, камандзір узвода лейтэнант Шаўчэнка, старшына роты Быкаў. Трохі воддаль ад стала ў крэсле сядзеў начштаба падпалкоўнік Мішчук і гартаў папку з асабістай справаю радавога Аляксея Ласіцы.

Гардзееў, выслухаўшы кароткія даклады, якія нічога не высветлілі, маўчаў. Начштаба загарнуў папку, кінуў на столік перад сабою; прамовіў:

— Адукацыя сярэдняя, характарыстыкі выдатныя, амаль год адслужыў... Вось-вось мог бы атрымаць лычкі малодшага сяржанта і з’ездзіць у адпачынак. Бацька, маці, сястра... Добра страляе з аўтамата, — дадаў ён.

— Вольна, што вы выцягнуліся тут, — сказаў афіцэрам Гардзееў. — Добра страляе... Лепш бы ён кепска страляў.

За ўсю гісторыю палка было толькі два падобныя выпадкі. Гады тры назад з КПП тых жа лясных складоў знік каравульны. Яго шукалі двое сутак, прачасалі ўвесь лес, а знайшлі пад вечар другога дня за сто метраў ад КПП, — ён соладка спаў сабе на ігліцы пад елкаю. «Дзяды» не давалі выспацца, і небарака не прыдумаў нічога лепшага, як дачакацца каравула і ўволю «падавііць на масу». Друті выпадак: гадоў дзесяць назад, улетку, салдат адпрасіўся ў горад сфатаграфавацца і не вярнуўся. Ён быў сіратою, дзетдомавец; трохі яго пашукалі і кінулі — няма, ну і няма; галоўнае, што без зброі. Аб’явіўся ён месяцы праз тры, брудны, барадаты, у лахманах, галодны. Увесь гэты час, як высветлілася, ён жыў непадалёк ад горада, у бетоннай, зарослай травою сухой грубе пад шашою. Карміўся здабычаю з вакольных агародаў, а ўвосень, калі пахаладала, апусцелі агароды, пайшлі дажджы і ў трубу пачала зацякаць вада,

вырашыў здацца. А чаму ўцякаў, чаго хаваўся? — і сам не ведаў.

— Можа, спіць дзе пад хвояю, — прачытаў думкі Гардзеева начштаба.

— Можа, і спіць, — Гардзееў пабарабаніў пальцамі па стале, тады ўперыўся паглядам у старшыну: — Калі вы разберацеся з тымі дзіркамі ў плоце?!

Адказу не дачакаўся.

— Мо і спіць, — зноў паўтарыў ён. — Страляе добра... Аўтамат і два магазіны патронаў, шэсцьдзесят штук... Карацей, так, таварышы-грамадзяне афіцэры-прапаршчыкі, праз паўгадзіны, ні секундаю больш, стаіце тут як штыкі і дакладваеце: хто, што, дзе, як. Усё зразумела?

Афіцэры і старшына адказалі «так точна!», прыклалі далоні да фуражак і выйшлі.

4.

Тры дні пошукаў нічога не далі. Узброены дэзерцір знік без следу.

Як на зло, праклятыя склады знаходзіліся ў такім месцы, што ў які бок ні ўцякай, усё добра. Да таго ж ніхто не ведаў планаў дээерціра. Будзе спрабаваць выйсці ў горад, да часці? Ці вырашыць дабірацца дамоў, у Беларусь? Былі перакрыты шэсць асноўных дарог, што вялі ў горад, правяралася кожная машына. Круглыя суткі патруляваліся чыгуначны і аўтобусны вакзалы, а таксама рачны вакзал у недалёкай Кінешме. Папярэджваліся ўсе шафёры-»дальнабойшчыкі». На трасах Маскоўская, Кастрама — Яраслаўль — Балагое — Віцебск, а таксама Горкі — Уладзімір — Мурам — Бранск былі выстаўлены пасты. У радыусе дваццаці кіламетраў ад складоў прачасалі, агледзелі, здавалася, кожнае дрэва, кожную магчымую схованку. Апыталі сотні гараджан і жыхароў блізкіх да горада вёсак. Аж тройчы прыязджалі ў Тэйкава да ўдавы Пятровай Марыі, якой акурат у той дзень, калі знік салдат, брыгадзір наказаў з’ездзіць падводаю ў суседняе сяло па авёс і камбікорм, бо кладаўшчык напіўся і не мог сам, і яна з радасцю згадзілася — у тым сяле жылі бацькі і можна было заадно праведаць іх — і вярталася ўвечары, галоўнае, тою ж дарогаю, амаль паўз склады. Жанчына бажылася, што нічога не бачыла, яна задрамала і нават не заўважыла, як апынулася дома. Разумны стары конь сам давёз, не першы ж раз на ім ездзяць у тое сяло і назад. Усё ж агледзелі хату, падпол, хлявы — пуста.

Нібыта аціраўся нейкі салдацік у Кінешме каля лодачнай станцыі; адзін шафёр нібыта бачыў уночы падазронага чалавека, які

лесам паўз шашу ішоў у напрамку Мурама. Гэтыя скупыя звесткі толькі пацверджвалі — дэзерцір будзе спрабаваць дабрацца да дому.

Пад вечар чацвёртага дня ў далёкай Беларусі, у невялікай палескай вёсцы каля хаты Ласіцаў спыніўся ваенкамаўскі «газік», з якога выйшлі два чалавекі ў форме і адзін у цывільным. Гаспадары былі дома. Бацька дэзерціра глядзеў тэлевізар, сястра вучыла ўрокі, у меншай хаце маці выбірала з разрэзанага гарбуза зярняты і раскладала на засланай саломаю блясе. Чалавек у цывільным папрасіў гаспадароў не хваляваюцца, растлумачыў, што іхні сын Аляксей часова прапаў з размяшчэння часці, але армія ёсць армія, бывае і не такое... Маці адразу ж пачала плакаць, бацька прыкрыкнуў на яе. Госці доўга не затрымліваліся. Чалавек у форме пагартаў Алёшаў школьны альбом, папрасіў паказаць яго пісьмы з войска. Чалавек у цывільным пацікавіўся ў бацькоў, як іхні сын вучыўся, ці не паводзіў ён сябе часамі дзіўна — скажам, ці не сыходзіў з дому, калі на яго сварыліся? Ці не білі яго бацькі? І калі білі, дык як ён рэагаваў? Не, нічога такога. Вядома, усяляк бывала: бывае, і пасварышся, і стукнеш пад гарачую руку, на тое бацька... Ён тады зацінаўся, мог не гаварыць дзень, потым адыходзіў. Вучыўся, як і ўсе, вершы добра на памяць ведаў. Усё.

Госці папрасілі з сабою альбом і пісьмы.

Пабывалі яны яшчэ ў некалькіх хатах. Нічога новага. Такі ж, як усе, хлопец, казалі аднавяскоўцы, у сады, праўда, лазіў, — а хто з малых не лазіць? Не піў, не курыў, вітаўся першы. І толькі ў апошняй хаце ад старой настаўніцы-пенсіянеркі госці нарэшце сёе-тое дабралі. Спачатку яна пачала хваліць былога вучня (тыя ж «вершы на памяць добра ведаў»), пасля, зразумеўшы, што трэба гасцям, расказала. Ласіца гэты, аказваецца, быў ганарысты і страшэнны забіяка, з ім пабойваліся звязвацца нават старэйшыя хлбпцы. Казалі, «яго пачнеш біць, ён прытомнасць страціць і ўсё адно, нават непрытомны, будзе кусацца!». Аднойчы ў сёмым класе Аляксей чамусьці разгуляўся на ўроку, шумеў, валтузіўся з суседам па парце. Малады настаўнік не вытрымаў, ці то ўшчыкнуў яго, ці то ўзяў за вуха. Ласіца, нядоўга думаючы, заляпіў росламу настаўніку аплявуху. На настаўніка не пабаяўся падняць руку! Той збялеў, але стрымаўся, толькі выйшаў з класа. Праз нейкі час вярнуўся і пры ўсіх папрасіў у вучня прабачэння.

— Дык ён, відаць, добрая цаца, — паківаў галавою чалавек у цывільньгм.

Яшчэ ў настаўніцы спыталі, як Ласіца ведаў замежную мову, ці не вяла іхняя школа, па цяперашняй модзе, перапіскі з замежнымі

аднагодкамі? Не, перапіскі ніякай не вялі, а мову нямецкую Аляксей ведаў, як і ўсе, на ўзроўні вясковай школы.

Госці падзякавалі, сёе-тое запісалі, развіталіся і паехалі ў горад. На другі дзень на школьным перапынку дзесяцікласніца Ніна адшукала Аляксееву сястру і, чырванеючы, падала ёй пачак пісьмаў:

— Забяры. І яшчэ — калі Алёша... ну, знойдзецца, напішы, хай не піша мне больш.

На ўроку сястра крадком дастала адно пісьмо, прачытала: «Мілая мая дзяўчынка!..» — і ледзь не расплакалася, не змагла чытаць далей. Яна шкадавала брата. Аніяк не верылася, што з ім магло здарыцца штосьці страшнае. З галавы не ішла сённяшняя ноч: сама дзяўчынка амаль не спала, бацькі зусім не клаліся, маці то галасіла, то бралася сварыцца на бацьку, што крыўдзіў калісь сына, то прасіла рады, як цяпер быць... Бацька маўчаў і толькі курыў адну за адной папяросы.

Вяртаючыся са школы, дзяўчынка ўбачыла бацьку, які выходзіў з будынка пошты. Моўчкі пайшлі разам. Дома, у большай хаце, стаяла дарожная сумка, шафа была расчыненая, на канапе, на ложку ляжала адзенне. Маці, супакоеная, нават павесялелая, збіралася некуды. Бацька паклаў на стол зберкніжку і грошы. Маці пачала пералічваць іх і раптам апусціла рукі:

— Збіраюся, а сама думаю — трэба ж гасцінца не забыць... А тады — які гасцінец? Каму?.. — яна ўсхліпнула.

Тым жа вечарам бацька правёў яе, пасадзіў на рэйсавы аўтобус да райцэнтра, адкуль уночы быў цягнік на Маскву.

5.

Хата і хлеў стаялі ў адзіноце, воддаль ад іншых сядзіб, на ўзгорку, адкуль добра праглядалася амаль уся невялікая вёска і блізкая, за які кіламетр, шаша. У хляве, у пустым цёмным катуху Ласіца жыў ужо пяты дзень. Ён не ведаў, чаго жыве тут, чаго чакае. Побач, за сцяною, рохкала свіння, чухалася аб бярвенні, шастала саломаю. Калі Ласіцу прыходзілі шукаць, ён хаваўся ў свіным карыце, з аўтаматам уціскваўся туды і ляжаў не варушачыся. Свіння абнюхвала яго і не чапала. Нікому і ў галаву не магло прыйсці, што ў карыце, над якім лычам водзіць свіння, можа ляжаць чалавек. У эагарадцы перад хлявом перагаворваліся куры. Недзе на вёсцы брахаў сабака. Калі надакучвала ляжаць і слухаць, Ласіца падбіраўся да дзверцаў, прачыняў іх на шчыліну і дыхаў, глядзеў, прыжмурваючы вочы ад рэзкай белаты свежага снегу. Надворак быў,

як і ўсе 1 тутэйшыя надворкі, беэ платоў. Ад хлява да хаты і да пакрыўленай нізенькай прыбіральні на агародзе — дзве шырокія сцежкі, старанна вымеценыя (гаспадыня знарок два разы на дні падмятала, каб ён, клыпаючы ў прыбіральню і назад, не пакідаў слядоў). Замок на дзвярах хаты. Паўзіраўшыся, падыхаўшы, Ласіца поўэ назад у куток і валіўся на засланыя дэяругаю акалоткі.

— Ого! — гучна, так, што свіння пераставала рохкаць і прыслухоўвалася, час ад часу казаў ён. — Ну, радавы Ласіца! Ого!..

Пасля палудня, калі на двары ўжо цямнела, ён насцярожваўся, браў аўтамат і лавіў кожны падазроны гук. Урэшце крокі, бразганне замком, гучнае «кіс-кіс» —гаспадыня вярнулася з працы і давала яму знак, што яна адна, што сёння яму няма чаго баяцца. Завішчала галодная свіння, пачалі пералятаць цераз загарадку і бегчы да ганка куры. Весела, гучна размаўляючы з курамі, гаспадыня зайшла ў хату.

Пацягнула дымам з коміна. Праз нейкі час зноў крокі, да хлява. Лісіцкі выглянуў, гаспадыня ішла з двума вёдрамі. Перш выліла свінні ў карыта, тады асцярожна, нерашуча пастукала ў вушак дзвярэй катуха.

— Ды заходзьце, — азваўся Ласіца. — Што стукаць?

У катуху пасля двара было зусім цёмна. Яна паставіла вёдры ля парога, прысела на коленцы.

— Я ліхтарык прынесла. У суседкі батарэйку папрасіла.

Уключыўшы ліхтарык, не гледзячы на Ласіцу, пачала выстаўляць з вядра прыкрыты ручніком чыгунок з гарачай бульбаю, яечню ў місцы, сала, хлеб, гляк з вадою. Уздыхнула:

— Шкада, малака няма...

— Малака! — раздражнёна перабіў Ласіца. Ён ляжаў у сваім кутку, не варушачыся, з аўтаматам у руцэ, толькі вочы, як у труса, блішчэлі ў святле ліхтарыка. — Колькі разоў казаў, што не магу есці. Не насіце нічога.

— Можа, пазней захочаш? Хай пастаіць?

— Забірайце. Вось вада — добра, — падпоўз, узяў гляк, напіўся. — Каб гарбаты гарачай.

— Дык я прынясу. Я з мятаю завару!

— Пачакай, — спыніў ён яе, — выцерплю. — І, памаўчаўшы, паскардзіўся: — Спаць не магу, аж вочы рэжа. Хочацца, а не магу.

— Дык, можа, гарэлкі трохі?

— Зараз! Толькі віна і гарэлкі не хапае. Сесці, піць і закусваць бульбай з яечняю.

Яна бачыла, што сёння яму асабліва цяжка, не хочацца, каб яна пайшла. Узяў бульбіну, падзьмухаў, пачаў жаваць, спытаў:

— Нічога новага?

Было новае, але яна вырашыла не казаць пакуль. Сёння на працы, перабіраючы бульбу ў калгасным хляве, яна выпадкова пачула гамонку мужчын, насцярожылася, вычула — салдата, аказваецца, ужо не шукаюць, нават знялі пасты. Салдат, аказваецца, «тармазнуў» машыну-фургон і цяпер ужо адсюль далёка. Пасля працы, калі пазычала батарэйку, яна знарок разгаварылася з суседкаю, у якой дачка працавала буфетчыцаю ў горадзе ў ваеннай часці. Суседка нічога не ведала.

— Цябе не шукаюць ужо, — усё ж не ўтрымалася яна. — Думаюць, ты на радзіму паехаў.

— Як жа, не шукаюць! Ды толькі з-за гэтага (ён паказаў на аўтамат) яны яшчэ доўга спаць не будуць, — і засмяяўся зларадна.

Паклаў у чыгунок недаедзеную бульбіну, схапіўся за бот, сцягнуў, стогнучы, абмацаў нагу, паспрабаваў устаць і не змог:

— Не зрастаецца, пухне! Куды я з такой калодкаю?!

— Пачакай, рана яшчэ.

— І што чакаць? — крыкнуў ён са злосцю. — Што я вычакаю тут?!

— Цішэй, увечары чуваць усё.

Ён прыціх, зноў узяўся піць ваду. Жанчына сабралася ісці.

— Марыя, — папрасіў услед ён, ужо ціха, нібы выбачаўся за сваю злосць, — гарбаты не забудзьце, калі ласка.

Уночы яна выйшла на двор. Асцярожна, каб снег не рыпнуў пад валёнкамі, ледзь пасоўваючы ногі, наблізілася да хлява. Прыслухалася. Было ціха, салдат, відаць, спаў. Яна падалася назад і раптам, ужо каля ганка, пачула, як суха і холадна шчоўкнуў затвор.

Раніцою, у прыцемках, яна зноў панесла ў катух гарачую гарбату. Салдат сядзеў у кутку і пры святле ліхтарыка, схіліўшыся, абмацваў голую нагу.

— Здаецца, праходзіць, — сказаў ён неяк узрадавана, узбуджана. — А? Паглядзі, Марыя.

Яна таксама памацала, паглядзела. І праўда, пухліна нібыта спала. Нага каля костачкі з чорнай зрабілася сіне-жоўтай.

— А свярбіць! — пахваліўся ён.

— Зажывае... Ты цяпер менш трывож яе, менш мацай.

Марыя хуценька ўправілася з гаспадаркаю і, калі трохі развіднела, пайшла на працу. У вялікім доўгім хляве з адчыненымі насцеж варотамі, каля цэлай гары прыкрытай зверху саломаю бульбы ўжо сядзелі таварышкі. Марыя ўзяла кош, прымасцілася побач, падаслаўшы пад калені старую куфайку, і, механічна, думаючы пра

сваё, амаль не гледзячы на рукі, пачала разам з усімі перабіраць бульбу: у адзін кош — семянную, для калгаса, у другі — лепшую, большую, якую потым запакуюць у сеткі і адправяць у горад. Звыкла выцірала заскарузлыя пальцы аб куфайку, калі траплялася гнілая бульбіна. Перабіралі моўчкі, зацята, хутка — за тыдзень працы было амаль усё перагаворана. Толькі суседка, скоса зірнуўшы на яе раз і другі, спытала:

— Што ты, выпіла з раніцы?

— А што?

— Вясёлая.

— Мне з маёй доляю толькі весяліцца, — уздыхнула Марыя, адразу ж, аднак, насцярожыўшыся, напускаючы на твар заўсёдную сваю заклапочанасць.

Увечары, калі вярталася з працы з кашом бясплатнай добрай бульбы, Марыя павагалася — ці не забегчы яшчэ ў краму? Вырашыла не рызыкаваць, бо і так ужо тры дні запар купляла то батон, то каўбасу, то селядзец... Для вёскі гэта падазрона. Тым больш, заўтра нядзеля, выхадны, лепш з’ездзіць у горад і хам спакойна набраць, што трэба. Яна звярнула з бітай дарогі на сваю вузкую, у адзін след сцежку, якую добра было відаць у цемры на белым снезе.

У двары ўсё было ціха. Марыя найперш узяла венік і прайшлася ад хлява да прыбіральні, нізка нагінаючыся, — ці не відаць слядоў? Тады ўжо няспешна, гучна аббіваючы на ганку снег з валёнак, кашляючы, грукаючы дзвярыма, зайшла ў хату, прыгатавала вячэру і з двума вёдрамі накіравалася да хлява. На гэты раз салдат не стаў аднеквацца, прагна накінуўся на бульбу з салам, заядаў яечняю... Марыя, седзячы збоку, падсвечваючы яму ліхтарыкам, глядзела на яго схуднелы, зусім дзіцячы твар, на брудны падкаўнерык, што выглядаў з-пад шыняля і расшпіленай на верхнія гузікі гімнасцёркі, на тонкія рухавыя пальцы з чорнымі абадкамі адрослых пазногцяў... У яе раптам скаланулася ўсё ўсярэдзіне — трэба ж, дзіця дзіцём, а такое надумаўся!..

— Дзякую, — сказаў ён, даеўшы апошнюю бульбіну. Выцер далоні аб шынель, зірнуў на жанчыну і засмяяўся. — Выцерыце сажу на шчацэ!

— Гэта не сажа, — неахвотна адказала яна, дакранаючыся да шчакі. Яна думала, ён даўно гэта заўважыў. — Пляма, радзімка.

— А-а. Прабачце. Як цябе зваць, дарэчы: на «ты» ці на «вы»?

— Як завецца, так і заві.

— Колькі вам гадоў?

— Разы ў два больш, чым табе.

— Ну і што? — зазлаваў ён чамусьці. — У нас на «вы» толькі з чужымі ці з настаўнікамі! А са сваімі, з блізкімі — на «ты». Дзядзька Іван, цётка Маня... — І зноў, як і ўчора, яна адчула, што яму хочацца, каб яна пабыла з ім, паслухала. — Марыя, а ты даўно адна жывеш?

— Зараз скажу... Раз, два... пяты год.

— Развялася?

— Не, памёр муж.

— Ад чаго?

— Забілі, — проста адказала яна.

— Як гэта?

— Так. Калкамі з плота. У нас ніводнага свята, лічы, не бывае без бою. Пусцяць адзін аднаму кроў, а тады п'юць разам. А майго вось забілі.

— П'яны быў?

— Няўжо ж цвярозы.

— І дзяцей не было ў вас?

— Былі, дзяўчынкі-двайняткі, Аня і Ліда. Памерлі ў адзін год. Аня хварэла, Ліда — не, а як адна памерла, дык і другая...

— Так і жывеш адна?

Не бярэ ніхто, — усміхнулася яна. — З такой мецінай...

— Што, сапраўды, ніхто не сватаўся?

— Ды не, прыходзілі... І цяпер яшчэ ходзяць, сватаюцца. Такія, як мой быў. Ну іх усіх. Як успомніш тое жыццё, дык лепш адной.

— А радня ёсць?

— Бацька, маці, брат. Я ж тады ад бацькоў якраз ехала, калі ты мяне застрэліць хацеў. Застрэліў бы? — спытала яна.

— Не ведаю, Марыя. У мяне бываюць такія заскокі, што сам сябе не помню...

Памаўчаўшы, яна спытала:

— Што думаеш рабіць, калі нага зажыве?

Ён адразу ажыў, відаць, даўно хацелася падзяліцца з кімсьці, падсунуўся бліжэй, зашаптаў горача:

— Я, Марыя, вось што надумаў... Нага зажыве хутка, гэта драбяза... Я пакуль тут перабуду. Хай шукаюць! — засмяяўся ён, злосна бліскаючы вачыма, — а я ў іх пад носам пераседжу! А потым, Марыя, хачу паспрабаваць прабрацца на радзіму, дахаты. Як ты думаеш? Хоць бы бацькоў пабачыць, сястру... Вёску. А там, чорт з імі, і здацца можна...

— І як ты туды дабярэшся?

— Ды як-небудзь. Як пашэнціць. Дзе пехам, дзе на папутках. Людзі памогуць. Ты ж памагла? Цяпер я веру ў людзей. Я ж так і

хацеў, так і задумваў... Дабрацца да вакзала, ці фуру тармазнуць... А яно во як здорава атрымлася! Яшчэ лепш!

— Ды што ж тут лепшага?! — не вытрымала яна. — Уцякаў чаго?

— Чым ты слухаеш? Кажу ж — спаць не мог! Галасы ў галаве...

— Можа... цяпер здайся? — адважылася яна сказаць тое, пра што ўвесь час думала.

— Ты што, увогуле — во?! Здайся! Каб я мог, дык я не ўцякаў бы! Разумееш ты... Мне пабачыць гэта трэба, вёску, хаты... Можа, апошні раз. — І звыкла, як чалавек закурвае цыгарэту, падцягнуў да сябе аўтамат і механічна пачаў разбіраць яго. — Вось калі пабачу — адразу вылечуся. Разумееш ты, — паўтарыў ён паблажліва. — Тут у вас іншае ўсё. Ты была хоць раз на Беларусі, ведаеш, што там?

— Не. Блізка была, на Смаленшчыне, у брата стрыечнага, потым яны пераехалі.

— Пераехалі? Шкада. А ў цябе, можа, яшчэ сваякі ці знаёмыя ёсць дзе-небудзь паблізу Беларусі?

— Няма больш.

— Смаленшчына... — ён за якія паўхвіліны разабраў, сабраў аўтамат, «утапіў» у прыклад пенал, прышчоўкнуў магазін, дзьмухнуў у ствол. — Смаленшчына — тая ж самая Беларусь. «Бульбашы» — чула такое слова? Я ніколі не крыўдаваў, калі бульбашом абзывалі, мне падабалася. Украінцы, тыя злуюцца, калі хахламі дражняць... Або прыбалтаў — лабусамі... А рускіх — маскалямі, само сабою...

Ёй і страшнавата было ад гэтай яго раптоўнай узбуджанасці і словаахвотнасці, і радасна адначасова. Ясна было, што ён акрыяў, што цяпер яго можна і трэба ратаваць. Ды раптам ён змоўк, спахмурнеў, правёў далонню па шчацэ.

— У вас, можа, памазок і брытва ёсць?

— Ёсць, ад мужа. Прынесці? І вады нагрэць?

— Прынясіце. І паркалю кавалак, калі можна, на падкаўнерык. Іголка-нітка ў мяне ёсць.

Пакуль грэла ваду, кіпяціла станок і памазок, у Марыі не ішло ч галавы сказанае ў мінулым часе: «быў», «не крыўдаваў»...

«Я ўратую яго, угавару эдацца!» — думала яна.

7.

У горадзе Марыя схадзіла ў лазню; выходзячы, яшчэ патапталася каля дзвярэй цырульні, што была тут жа, у гэтым будынку, але зайсці не адважылася. І ў вёсцы засмяюць, і так —

лішняе. Дамоў, нагружаная пакупкамі, вярнулася рана, чатырох не было, між тым ужо цямнела — які восеньскі дэень? Пераапраналася, адчуваючы ва ўсім целе лёгкасць, маладую сілу, дзівячыся, ці пасля лазні гэта, ці ад таго, што яе хоць хтосьці чакае?

— Ну, як з'ездзіла? — сустрэў яе пытаннем Ласіца, паголены, з падшытым новым падкаўнерыкам. Адразу кінуўся да вядра, пачаў выцягваць пакупкі: — Так... каўбаса... пляшка, ого! А ў мяне... — адкусіўшы кус каўбасы, жуючы, пахваліўся ён, — нага яшчэ больш адлягла. Жоўтая стала. Я жывучы! Ну, узялі мяне? — папытаў ён у некага, нібы пацыкаўся, і засмяяўся злосна. — Сядай і ты, бяры! — эапрасіў яе. — Ну, многа ў горадзе патрулёў?

— Я так дужа не прыглядалася... Як звычайна, здаецца.

— Шукайце! — падцягнуў да сябе рэмень, што валяўся ў кутку, дастаў штык-нож, абрэзаў-скалупнуў бляшаную «касынку» з рыльца пляшкі.

Марыя падала чарачку. Наліў перш ёй, сам прыклаўся да рыльца, каўтнуў трохі:

— Не, не піў яе ніколі, — сказаў праз кашаль, — не навучыўся... Можа, і дарэмна, што не вучыўся. Вунь хлопцы, якія пілі і курылі, спакойныя былі, а я, ледзь што, у бойку... І не курыў ніколі.

— Дык гэта ж добра. А то дым чуваць было б. Ды і сена тут. Ды і купляць трэба было б.

Ён адразу ж перастаў жаваць, натапырыўся:

— Што «купляць»? Пры чым тут «купляць»? Я тут што, думаеш, надоўга?

— Алёша, Бог з табою! — шчыра ўсклікнула яна. — Ды жыві, колькі хочаш!

— Я яшчэ каўбасы вазьму, — сказаў ён, па сваёй звычцы ўмомант успыхнуўшы і гэтак жа хутка астыўшы. — Марыя, паслухай, гэта лухта, што я ўчора казаў... Мне ў шпіталь трэба... У мяне з галавою нешта. Захварэў тут... Дома ніколі не было такога. Вось паглядзець хату — і ўсё. Заплюшчу вочы — стаяць загоны нейкія, без канца-краю, і бульба на іх цвіце, усё сіне-белае, куды ні глянь... Вясною арэшнік зазелянее, і возера там у нас за хатаю... Потым, улетку, сена, грыбы... Мова, не тое што ваша... Які дурань раней быў, не цаніў... упасці б у траву, у сена свежае, закапацца з галавою, і больш нічога... Перабыць дзе-небудзь — хоць бы ў цябе тут. А потым — на Беларусь!.. Вось з ім, — пагладзіў аўтамат. — І хай толькі наблізіцца хто...

Яна слухала са страхам, закрыўшы далонню рот. Ён пацягнуўся да пляшкі, яна не дала.

— Алёша, што ты кажаш?! Адумайся!

— Позна, — прамовіў ён з нейкай дзіцячай пахвальбою, але не зусім упэўнена.

— Ты ж хворы!

— Нічога, нага зажыве...

— Ты інакш хворы!

У яго вачах бліснуў спалох. Ён, відаць, ужо забыў, што толькі што казаў.

— З чаго ты ўзяла?

— Хіба можа ў маладога хлопца такое быць у галаве?!

— Ну дык і што?! Я і без цябе ведаю! — абарваў, але адразу ж згадзіўся, зноў загаварыў, як і раней, бязладна і горача: — Кажу ж, пагляджу хату і здамся. Лягу ў шпіталь... Мне «вышку» могуць і не даць. А пятнаццаць гадоў адсяджу, у трыццаць чатыры выйду... Або зноў уцяку...

— Алёша, — асцярожна спытала яна. — А дзе ты да арміі быў? Куды выязджаў далёка?

— Нідзе. Адзін раз у абласным цэнтры, у планетарый вазілі ад школы.

— Нашто яны набіраюць вас, каб мучыць?! — вырвалася ў яе. — У цябе ніякая не хвароба! Гэта ж вазьмі жывёліну адарві ад дому, дык і тая нудзіцца, перастае есці і памірае! Хіба ж гэта так можна — на два гады адрываць?!

Ён маўчаў. Яна падсунулася бліжэй і нясмела паклала руку яму на галаву, пагладзіла. Ён не зварухнуўся. Падбадзёраная, яна прашаптала:

— А можа, ты хочаш, Алёша? Тое, што пляма — не глядзі, я закрыюся... Я як хочаш лягу. Я чыстая, у лазні была, і бялізна новая.

— Ты... што?! — адштурхнуў ён яе. — У мяне ж Ніна там, а ты!.. Разумееш ты, — і адвярнуўся. — Лухта ўсё, ні ў якую Беларусь не змагу дабрацца... А калі дабяруся, не паможа! І ў шпіталь мяне ніхто не пакладзе! У псіхушку запруць, залечаць... Як страшна! Я смяротнік, я нежывы ўжо...

Ён лёг ніц. Яна пасядзела, зноў падсунулася, доўга не адважвалася, тады паклала яго галаву сабе на калені. Ён маўчаў, не расплюшчваў вачэй. Яна падумала: хай бы нага ў яго не зрасталася і ён жыў бы тут. Доўга-доўга, заўсёды. Яна б яго карміла, глядзела. Лажылася б з думкамі пра яго і прачыналася і ўдзень думала... Жыла б ім. А аўтамат можна было б схаваць, ці ўтапіць, навошта ён, гэты аўтамат?..

8.

На КПП маці прысела з краечку лаўкі і, пакуль дзяжурны сяржант перш званіў некуды, а тады паслаў у штаб салдата, прыплюснула вочы. Натомленае цела гуло, балелі, адыходзілі ад марозу ногі, абутыя ў лёгкія, восеньскія боцікі. Перад вачыма мільгацелі, зліваючыся ў адзін яркі малюнак-эпізод доўгай дарогі, заснежаныя лясы і палі перад Масквою, сам горад, бяздоннае метро, перасадкі, скразнякі цягнікоў і электрычак і, галоўнае, твары, незлічонае мноства твараў — мужчынскіх і жаночых, старых і маладых, незнаёмых і такіх, што, здавалася, ужо бачыла некалі... Схамянуўшыся, маці падумала, што нядобра вось так сядзець маўчком, звярнулася да сяржанта:

— Як вам служыцца, сынок?

— Нармальна, — неахвотна адказаў той.

Паказаліся салдат і малады афіцэр. Маці хуценька паднялася. Яна чамусьці чакала ўбачыць самага галоўнага начальніка, таму здзівілася, што сяржант пры іх з'яўленні толькі лена прыўзняўся з табурэта і адразу ж сеў зноў.

— Лейтэнант Шаўчэнка, — абыякавым голасам адрэкамендаваўся афіцэр.

Маці без слоў, трывожна-запытальна глядзела на яго.

— Вашага сына мы не знайшлі, — сказаў ён.

У яе сціснулася сэрца. Усё дарэмна! Яшчэ калі ехала сюды, вядома, не дужа чакала, што яе будуць сустракаць тут з музыкаю, на руках насіць, аднак у душы жыло спадзяванне, што яе прыезд патрэбен, што да яе кінуцца, пачнуць распытваць, самі расказваць. Цяпер бачыла, разумела — каму яна трэба тут.

— Сынок, я ж столькі ехала! — узмалілася яна. (Сяржант гмыкнуў на слове «сынок».) — Вы ж хоць раскажыце! Хоць ложак яго паглядзець...

— Ну, хадзем, — пацiснуў плячыма Шаўчэнка, лёгка падняў яе немалую сумку і пайшоў першы. Маці патрусіла следам.

Па чыста падмеценым пляцы падышлі да двухпавярховай, старой пабудовы казармы, падняліся па сцёртых да бляску жалезных сходах на другі паверх. Днявальны ля тумбачкі выцягнуўся, казырнуў, лейтэнант не стаў яго слухаць. Правёў маці ў куток да акна, паказаў на акуратна засланы, такі, як і ўсе, ложак верхняга яруса.

— Вось тут. Сядайце. — А сам, калі маці апусцілася на табурэт з прадаўгаватай, выразанай для пальцаў дзіркай пасярэдзіне, застаўся стаяць, нібы даючы зразумець, што ў яго поўна клопатаў і

доўга тут быць ён не збіраецца.

— Як жа, раскажыце, з ім такое гора? — загаварыла яна, выціраючы набрынялыя слязамі вочы.

— Знік з паста.

— Не мог ён уцячы! Мацярынскае ж сэрца чуе!..

Не дачакаўшыся адказу, спытала:

— А вы якім начальнікам яму будзеце?

— Узводным быў, — адказаў Шаўчэнка, робячы націск на «быў».

— Скажыце, а можна пагаварыць яшчэ з якім начальствам? — нясмела папрасіла яна.

— Калі ласка. Можна з замапалітам. Толькі... паслухайце. Едзьце вы лепш назад, дамоў. Калі што высветліцца, вам паведамяць адразу.

— Сынок, хіба ў цябе няма сваёй маці? Я ж такую дарогу выцерпела, куды ж назад? Я ж хачу хоць што даведацца!..

Ён уздыхнуў:

— Ну, хадземце, спытаю.

На калідоры, ля першых ад тумбачкі днявальнага дзвярэй Шаўчэнка папрасіў яе пачакаць, сам пастукаў, увайшоў.

Атаманчук быў адзін, сядзеў за сталом, пісаў штосьці.

— Коля, там маці Ласіцы прыехала, — без цырымоній пачаў узводны. — Пагаворыш з ёю?

— Пачакай. — Атаманчук дапісаў, што трэба было, прабег вачыма напісанае. — Карту яго медыцынскую глядзеў, з дактарамі гаварыў... Ён здаровы, як конь. А вось псіхіятр мне ведаеш што сказаў? Ёсць такая хвароба — абвастрэнне настальгіі. Чалавек сам не ведае, што робіць, на ўсё ідзе, нават на забойства, каб толькі радзіму паглядзець. Маладыя нянькі з правінцыі душылі дзяцей, бо ў галаве клініла, і ім здавалася, што яны адразу вернуцца дамоў, калі няньчыць больш не будзе каго. Вось гэта любоў да радзімы! Ты як думаеш, Шаўчэнка?

— Я не разумею, — сказаў Шаўчэнка. — У мяне не было радзімы. Я ж сын ваенных, нарадзіўся ў цягніку, потым — па гарнізонах, абы-дзе... Карацей, перакаці-поле.

— А я разумею. Ох, якая гэта цяга! Я нават гатовы паверыць псіхіятру, хоць яны, калі шчыра, ўсе самі псіхі, прызнаць настальгію асноўным матывам пабегу... Каб не чортаў АКМ! Каб не два магазіны! Ды каб не гэта, я б тую Ласіцу сам, на плячах да бальніцы данёс, і ля палаты дзяжурыў бы, пакуль ён не вылечыцца!..

— Перастань, — сказаў Шаўчэнка. — Можа, яго яшчэ злавіць ды на курорт пуцёўку выпісаць. Людзі ў Афгане, такія ж як ён, пад

кулі кладуцца, а ён да мамачкі цыцку смактаць... Яслі.

— І праўда, — схамянуўся Атаманчук. — Прысядзь, паслухай... Настальгія настальгіяй, усё гэта добра, і маці — добра, я пагавару з ёю, вядома... Але вось што я ўспомніў. У нас некалі ў Прыморску знік лейтэнант. Праўда, без зброі. Мы ўвесь гарадок паднялі, з ног збіліся — граніца ж блізка! — хоць ты што. Знік. І вось праз тыдзень, ужо без ніякай надзеі, толькі для праформы даём мы абвестку па мясцовым радыё і ў раённай газеце...

— Ну, там граніца блізка. А нам хто дазволіць?

— Гардзееў, вось хто. Ды з яго заслужанасцю Маскву можна навылет тараніць! Карацей — на другі ж дзень пасля абвестак нашага лейтэнанта спакойна здаюць. Ён, галубок, загуляў, забухаў і прытуліўся у адной дамачкі, у самым цэнтры горада, пад носам у камендатуры. А яна карміла, паіла яго і таму падобнае. І павер, мог бы так прасядзець у яе не тыдзень, а год! Калі б не нашы родныя «стукачы». Ну, што ты думаеш?

— Ты ж начальнік...

— Нехта з мясцовых яго хавае! Нутром чую, хоць расстраляй ты мяне тут — не мог ён прасачыцца. Слота, холад, ужо і снег, ён у форме, з аўтаматам... Тут! — цвёрда сказаў зампаліт, прыціснуўшы кулаком паперы на стале. — Ага, дзе маці, блізка дзе? — спытаў ён.

— Стаіць пад дзвярыма.

— Пакліч.

Гэты невысокі, жвавенькі, уважны афіцэр спадабаўся маці куды больш за маўклівага, панурага, маладога ўзводнага. Ён яе і распытаў, як ёй таго хацелася, і выслухаў, і абнадзеіў. Пацікавіўся між іншым, ці няма ў іх радні з гэтых мясцін Расіі. Суцяшальна, з разуменнем ківаў галавою на яе словы, што «мацярынскае сэрца чуе — недзе блізка ён!», і, было відаць, верыў ёй.

— Давайце так зробім, — сказаў, пагаварыўшы. — Тут на рагу, каля самай часці, гасцініца. Там, праўда, рэстаран, але акурат у доме насупраць, на першым паверсе, танная сталоўка. Шаўчэнка вось правядзе вас і ўладкуе. Пажывіце дзён колькі — можа, што і выясніцца...

— Дзякую, дзякую вам! — абнадзееная, усё паўтарала яна, з дакорам пазіраючы на Шаўчэнку.

Тым жа вечарам, пасля дазволу адпаведных органаў, па абласным канале тэлебачання прайшло паведамленне, што вядуцца пошукі ўзброенага салдата, таму мясцовае, асабліва прыгараднае насельніцтва павінна праявіць павышаную пільнасць. Раніцаю абласная газета змясціла на апошняй старонцы аналагічную абвестку

з фотакарткай Ласіцы, з прыпіскаю ў канцы, што ў гасцініцы пасялілася і чакае звестак аб зніклым сыне маці.

9.

Перачытаўшы не раз гэтае «...ждёт мать», Марыя адарвалася ад газеты. У хаце былі прыцемкі. У грубцы агонь злосна і ўладна распраўляўся з дровамі, патрэскваў, пастрэльваў, мітусіўся светлымі ценямі па сценах і падлозе. Марыі зрабілася страшна. Яна падышла і хацела зачыніць дзверцы грубкі, але, прысеўшы, як заварожаная ўставілася на агонь, не змагла адвесці вочы.

Ёй расказвалі, што яна нарадзілася з плямаю на шчацэ, бо маці, цяжарная ёю, хадзіла глядзець пажар. І яе, Марыі, дзяўчынкі-двайняткі памерлі «ад агню» — згарэлі ў тэмпературы шкарлятыны... І тады, калі мужа пабітага ўнеслі ў хату, яна таксама стаяла каля печы... І вось цяпер зноў гэты агонь і гэтая газета — прадвеснікі хуткага няшчасця...

Успомніўшы мужа, дзяўчынак, яна чамусьці згадала, як тады, калі яны былі яшчэ жывыя, у яе раптам прапала малако з аднае цыцкі, а за другую малыя біліся і адштурхоўвалі адна адну... Смешна было...

Салдат, калі Марыя са складзенай газетай у кішэні зайшла да яго, сядзеў у кутку. Адразу ж рвануўся да яе:

— Дзе аўтамат?!

— Ляжыць ён, Лёшачка... Не бойся, я аддам! Нашто ён табе цяпер? Перазімуй, перабудзь тут, а ўвесну знойдзем табе, можа, нават дакументы якія, і зможаш дабрацца дадому...

— Дурніца! — крыкнуў ён і заскрыгітаў зубамі. — Дадумацца: напаіла, каб я заснуў, і забрала аўтамат! Калі я змагу хадзіць, ты... ты пашкадуеш аб гэтым!

Ёй разанула па жывым. Але стрымала сябе, прысела, сказала суха, строга:

— Цябе зноў шукаюць. Тым больш аўтамат табе не патрэбен, каб сабе ж горш не нарабіў.

— Шукаюць? — ён ускінуўся ўстрывожана. — Адкуль вядома?

Яна працягнула яму газету. Ён ступіў да дзвярэй, але ўсё адно не ўбачыў нічога, папрасіў:

— Падай ліхтарык, там, у кутку.

Пасвяціў, прачытаў.

— Маці? Матка тут! — аж ускрыкнуў. — Слухай, Маша, — кінуўся, прыабняў яе за плечы, — яна ў гасцініцы, гэта блізка, каля

пошты, — ведаеш? Ты знайдзі яе, Ласіца Алена Пятроўна, скажы, што я... Скажы... А, не трэба нічога! — І скамечыў газету, кінуў у куток. — Ты прынясеш аўтамат?! Ці я пайду... папаўзу адсюль!

— Не папаўзеш, — яна падабрала газету. — Нікуды ты без яго не дзенешся.

— Колькі ты мяне яшчэ будзеш мучыць?!

Каб адцягнуць час і супакоіць яго, яна сказала:

— Добра, заўтра раніцаю аддам... Я далёка схавала, баюся, не знайду цяпер у цемры...

— Дурань... Сам вінаваты, — ён, праўда, пацішэў, сеў, прыхшуўшыся да сцяны, абхапіў галаву рукамі.

Раным-рана, не заходзячы да яго, Марыя прыбралася ў гарадское і выйшла да шашы. Доўга не стаяла, пашэнціла — першая ж машына, ваенны «ЗіЛ», падабрала яе. Жанчына села, скоса пазіраючы на салдаціка за рулём. Той маўчаў увесь час, толькі на ўездзе ў горад спытаў, куды ёй трэба? Яна ледзь не сказала: «У часць», — але апамяталася, папрасіла спыніць у цэнтры. Ад цэнтра пайшла ў той бок, куды паехаў «ЗіЛ». Вось пошта, дзе ён, яе Алёша, відаць, атрымліваў пераводы і пасылкі... Вось вароты КПП, у якія ўваходзіў... Прамтаварны магазін насупраць гасцініцы быў ужо адчынены. Яна зайшла, купіла пачак лёзаў, памазок, зубную пасту, расчоску, склала ў сумку. «Хай бы ён так і жыў у мяне», — думала ўвесь час. Ногі не хацелі вясці да гасцініцы, усё бунтавала ў ёй, крычала: «Не аддавай яго нікому! Ён памрэ, яго заб'юць, калі ты адпусціш яго!» Але не ісці нельга было. У гэтым вось доме, усяго за некалькі крокаў адсюль, таксама, як і яна, пакутавала яшчэ адна жанчына.

Асцярога падказала Марыі, што ў гасцініцу адразу лепш не заходзіць, трэба нейкі час пакруціцца тут блізка. Бо, вядома, адміністратар папярэджаны, запомніць таго, хто будзе цікавіцца той жанчынаю. Можа, нават чалавек спецыяльны сядзіць збоку, прыслухоўваецца і аглядае ўсіх, і яе, Марыю, адразу ж арыштуюць. Не ўвесь жа час Алёшава маці будзе ў гасцініцы, выходзіць жа яна некуды. Трэба толькі дачакацца яе, пазнаць і пагаварыць. Яна стала з краю тратуара, каля лаўкі, так, каб з акна вестыбюля не было яе відаць. Чакала доўга, гадзіны дзве, пільна прыглядаючыся да ўсіх, хто заходзіў і выходзіў. Прытупвала, змерзлыя нават у рукавіцах рукі хавала ў рукавы паліто, але ў гасцініцу не ішла. Разы два, калі з дзвярэй выходзілі адзінокія жанчыны, яна ступала бліжэй і акліквала ціха: «Елена!» (Яна забылася, як па-бацьку.) Жанчыны не адзываліся. Ужо надумала зайсці, проста сказаць, што замёрзла і просіць пастаяць пагрэцца, як перавяла вочы на другі бок вуліцы і ўбачыла: з

КПП афіцэр выводзіць пад руку жанчыну. Давёў да прамтаварнага, сказаў ёй нешта, нахіляючыся, потым кіўнуў на гасцініцу і хутка пайшоў назад, да КПП, расціраючы пачырванелыя далоні.

Жанчына перайшла вуліцу, Марыя кінулася да яе:

— Елена!

Жанчына нібы не пачула, пачала падымацца па прыступках.

— Алена! — успомніла Марыя і вымавіла па-чужому, так, як Алёша вымаўляў.

Жанчына аэірнулася. Марыя ўзяла яе эа локаць, адвяла на сваё «закрытае» месца і сказала задыхаючыся:

— Ціха, ніяк не выдайце сябе. Я ведаю, дзе ваш сын. Ён жывы, жывы — самае галоўнае!

Недзе праз гадзіну Марыя рэйсавым аўтобусам вярталася ў вёску і ўспамінала кожнае слова нядаўняй размовы. На душы было неспакойна, трывожна. І ўсё ж яна ні на хвілю не раскайвалася, што адважылася на гэтую сустрэчу. Горш яна зрабіла для Алёшы і для сябе, ці лепш — невядома, але і маўчаць яна не мела права. «Калі вы любіце яго, вы ўсё эразумееце, — пераконвала яе Марыя. — Ён ні ў чым не вінаваты. Вы проста павінны паверыць, што цяпер самае лепшае для яго — калі вы будзеце маўчаць. Маўчыце тут, маўчыце дома, нікому ні слова! Маўчыце і чакайце, і тады ўсё наладзіцца, усё будзе добра, будзе ваш сын жывы, яшчэ і ўнукаў паняньчыце...» Жанчына ў адказ прымалася то горача дзякаваць, то плакала, прыгаворваючы словы, якія Марыя проста фізічна, ад таго, што мова чужая, разумела з пятага на дзесятае... Відаць, гэтак сама і жанчына разумела яе. Адно суцяшала, што жанчына цвёрда паклялася маўчаць і з’ехаць адсюль сёння ж, у крайнім выпадку заўтра.

Дома Марыя адразу ж пакіравалася ў хлеў, да салдата.

— Аўтамат! — сустрэў ён яе злым, звыклым ужо за апошнія суткі воклічам.

— Зараз прынясу, дай перадыхнуць, — яна прысела. — Алёша, прабач, я не магла інакш... Ды не бойся! — сказала паспешліва, убачыўшы, як ён уздрыгнуў. — Я бачылася і гаварыла з тваёй маці.

— Сёння?! Дзе?! — падаўся ён да яе. — Як яна? Ну, кажы хутчэй!

— Дачакалася каля гасцініцы і расказала ўсё. Яна такая радая была!.. Яна паклялася, што будзе маўчаць і паедзе дамоў.

— Хто цябе прасіў, — прамовіў ён без аніякай інтанацыі.

— Я не магла інакш, — паўтарыла яна вінавата. — Што ж цяпер рабіць, Алёша? Няўжо ты думаеш, яна можа...

— Ну, нясі, — загадаў ён такім голасам, што яна не пасмела на

гэты раз аслухацца.

Кінулася ў хату, выцягнула з-пад ложка аўтамат, прынесла, працягнула, як дзіцяці цацку:

— Вось, вазьмі, Лёша, толькі не будзь такім... Усё ж добра будзе!.. Я веру ёй!

—Нашто ты звячалася са мною? — сказаў ён, аглядаючы аўтамат. Потым зірнуў ёй у вочы: — Ты, калі што, даруй мне, Маша... Я ж і забіць цябе мог тады.

— Ды што ты развітваешся?!

— Усё ад пачатку па-дурному было, так і закончыцца... Завезла б гы мяне, як сцямнее, куды. Не хачу цябе падстаўляць.

— Нікуды цябе не адпушчу, сядзі тут!

— Прапала ты са мною, — сказаў ён са смехам, але было ў яго голасе і чыталася ў вачах штосьці адчайна-зацкаванае, безнадзейнае, як у тыя першыя дні, калі ён не спаў начамі і ўздрыгваў, і клацаў затворам ад кожнага падазронага гуку.

10.

— Чаму ж вы адразу не прыйшлі?! — усклікнуў зампаліт Атаманчук, выслухаўшы маці, якую пад вечар прывёў да яго ў кабінет лейтэнант Шаўчэнка. — Куды ў такую ноч паедзеш?!

— Баялася адразу... Вы ж хаця, сыночкі, не зрабіце яму нічога!..

— Баяцца не трэба. Галоўнае, знайшоўся. Не плачце, не бойцеся, даслужыць ваш сын, як і ўсе, як паложана, арлом вернецца! — няўмела суцяшаў яе ўзбуджаны, вясёлы зампаліт. — Дык яшчэ раз апішыце тую жанчыну...

— Рукі ў яе, як у мяне, рабочыя... Жанчына такая...

— Успомніце, вось тут, на шчацэ, у яе нічога не было?

— Было, было — пляма такая чырвоная!

Атаманчук запытальна паглядзеў на ўкраінца Шаўчэнку, той пераклаў:

— Родинка красная. Родимый знак.

— Даўно я здагадваўся! Даўно думаў на тую бабу з Тэйкава! Ехала адна, час цёмны... Адраэу трэба было ператрэсці ў яе ўсё. Вам — дзякуем. Ідзіце ў гасцініцу, заўтра пабачыцеся з сынам. — І, не чакаючы, пакуль за жанчынаю зачыняцца дзверы, Атаманчук павярнуўся да ўзводнага: — Вось колькі заракаўся не верыць людзям, усё адно забудзешся, возьмеш ды і паверыш. Век жыві, век вучыся!..

Уранні, ледзь-ледзь на ўсходзе танюткай палоскай загарэўся

пагодны лістападаўскі дзень, з шашы каля вёскі Тэйкава звярнулі і, не выбіраючы дарогі, па неглыбокім снезе папаўзлі да крайняй хаты два «Уралы» і два «газікі». Метраў за трыста ад хаты спыніліся, з «Уралаў» па камандзе «к машыне!» пачалі саскокваць узброеныя салдаты. Адзін «газік» застаўся каля «Уралаў», другі пад'ехаў да хаты. Марыя, якая не спала амаль усю ноч, прыслухоўвалася, не адыходзіла ад акна, неяк прапусціла ўсё гэта, не ўчула ні гуку матораў, ні камандаў. Яна сабралася па ваду, з вядром выйшла на ганак, і ў гэты момант два чалавекі ў цывільных кажушках і ў шапках, узяўшыся невядома адкуль, з двух бакоў моцна схапілі яе за рукі. Яна ўскрыкнула. Грукнула аб ганак парожняе вядро, хтосьці адфутболіў яго з дарогі. Жанчыну ўпіхнулі ў хату.

— Дзе ён?!

Яна маўчала. Павярнуўшы галаву, убачыла, што ў хату ўбеглі яшчэ двое, у форме.

— Азваўся, у хляве!

Жанчыну адпусцілі. Яна памкнулася на двор, чалавек у кажушку затрымаў:

— Сядзь спакойна і сядзі. З табою яшчэ будзе размова.

У гэты час на двары капітан Атаманчук, прызначаны кіравац усёй аперацыяй, стаіўшыся за сцяной хаты, аглядаў наваколле. Хата, хлеў, у хляве двое дзвярэй, каля адных — невысокая загародка, другія, адкуль азваўся Ласіца, адчыненыя насцеж... Паміж хатай і хлявом —двор, метраў пяцьдзесят голай плошчы. Капітан глядзеў і пераконваўся, што калі Ласіца ўздумае абараняцца, у яго пазіцыя лепш не прыдумаеш. Акрамя таго, што двор голы, прастрэльваецца практычна ўсё поле вакол надворка. Хаця калі падабрацца з тыльнага боку хлява, паўз сцяну абагнуць яго, то апынешся каля самых дзвярэй катуха... На крайні выпадак можна будзе скарыстаць снайпераў, — калі ўдасца загаварыць яму зубы і ён высунецца... Атаманчук склаў далоні рупарам і закрычаў:

— Ласіца, адзавіся!

Прайшла хвіліна, і дзве, і тры, у адказ — ні гуку. Ад «Уралаў» пад сцяну да Атаманчука, прыгінаючыся, падбег Шаўчэнка:

— Ну, што рабіць?

— Акружаць трэба і падбірацца да дзвярэй.

Шаўчэнка павярнуўся да «Уралаў» і махнуў рукою. Сярод салдатаў пачаўся рух, яны рассыпаліся ў няроўны ланцуг, кароткімі перабежкамі пачалі набліжацца да двара, прычым з тыльнага боку хлява дабраліся амаль да самай сцяны. І раптам кароткая аўтаматная чарга татахнула з дзвярэй. Салдаты пападалі ў снег, потым пачалі

адпаўзаць, нават тыя за хлявом, што былі ў яўнай бяспецы. Атаманчук вылаяўся.

— Ну што, спаліць яго к чорту разам з гэтым хлявом? Ці снайпераў выклікаць?

— Пачакай, — Шаўчэнка памяняўся з капітанам месцамі, высунуўся трохі з-за сцяны і крыкнуў: — Ласіца, не дуры! Твая маці прыехала, падумай пра яе!

У адказ нарэшце пачуўся голас — глухі, які ішоў з сярэдзіны хлява і які было чуць гэтак сама дзіка, як нядаўнюю аўтаматную чаргу па сваіх.

— А, узводны! Што ж твае салдаты носам у снег закапаліся?

— Весела яму, — сказаў Атаманчук. — Ну, я яму пакажу настальгію...

— Не дуры! — зноў крыкнуў Шаўчэнка. — Выкідвай аўтамат і рэмень з падсумкам і выходзь! Нам усё вядома! У цябе хвароба... Не бойся! Табе нічога не будзе!

— Сам выходзь! — пацяшаўся Ласіца. — Страшна? Што ж вы забіліся насамі ў снег?

Шаўчэнка раптам загнаў у кабуру «ТТ», рашуча, пругка падхапіўся і выйшаў з-за сцяны, трымаючы рукі ўзроўні плячэй. «Назад! Ён жа ненармальны!» — засіпеў ззаду Атаманчук, але ўзводны не павярнуўся, марудна, як па лёдзе, пайшоў да хлява. Ен маўчаў, і з хлява не адзываліся.

— Стаяць! — пачулася, калі да дзвярэй засталося ўсяго крокаў дваццаць. Шаўчэнка спыніўся. — Ну што, узводны? Зняць цябе зараз? Ты ведаеш, як я страляю. Чаго пабялеў, як снег?

Атаманчук са свайго месца прыслухоўваўся, але Лісіцкі гаварыў цяпер ціха, і ні слова нельга было разабраць.

— Ідзі назад, Шаўчэнка, і сядзі за сцяною. Не даводзь да граху. У мяне на цябе зла няма. Ідзі. І паглядзіш, як я адзін ад вас усіх суткі буду адбівацца. Не верыш?

Шаўчэнка не крануўся з месца.

— Аляксей, — сказаў ён, не адводзячы погляду ад цёмнага праёма дзвярэй, адкуль у любы момант магла вылецець смерць. — З кім ты сабраўся ваяваць? Ад каго адбівацца? Тут няма ворагаў! Чым табе людзі вінаватыя?

— А я чым вінаваты?!

— Ты кінуў пост, — цвёрда адказаў Шаўчэнка. Ён ужо апусціў рукі і патрошку, маленькімі крокамі, падыходзіў бліжэй. — Гэта ўся твая віна! Больш не будзеш служыць, паляжыш у шпіталі, камісуюць цябе, паедзеш спакойна дамоў, на цягніку...

— Ага, пад калёсны перастук! — са злосным адчаем перадражніў Лісіцкі. — Камісуюць! Ты ведаеш, што гэта такое, як жыць з гэтым?! Ды і не дойдзе да гэтага, вы мяне праз два дні там затаўчэце, ці ўколамі даканаеце! Дык лепш ужо тут... Хоць нацешыцца напаследак... Каб ты ведаў, узводны, як гэта соладка!.. АКМ, і вы насамі ў снезе... Стаяць! — крыкнуў ён зноў, калі ўзводны быў крокаў за дзесяць.

Шаўчэнка злавіў вухам шчоўкат засцерагальніка, які перавялі на адзіночныя. Па інерцыі ён зрабіў яшчэ крок — толькі таму, што корпус быў пахілены ўперад і нага патрабавала апоры... У гэты момант ляснуў стрэл. Узводны спатыкнуўся, марудна правёў рукою па грудзях, па ілбе, нібы шукаючы навобмацак рану, каб закрыць яе... Ускрікнуў: «Ласіца!» — кінуўся да хлява, ударам нагі шырэй расчыніў дзверы, сагнуўшыся, праслізнуў у катух. Падбеглі Атаманчук з салдатамі. Узводны паказаўся ў дзвярах. У руках ён трымаў аўтамат і рэмень з падсумкам і штык-нажом. Моўчкі перадаў гэта Атаманчуку, сам зняў шапку і выцер ёю змакрэлы лоб. Ласіцу двое выводзілі пад рукі. Атаманчук кінуўся да яго:

— Дурань! Цэлы хоць?!

І сплюнуў. І падышоў да Шаўчэнкі, які прысеў на бервяно каля сцяны і закурыў. Атаманчук таксама дастаў цыгарэту.

— Дзіцячы сад... Дай прыкурыць.

— Слухай, а можа, праўда? — задуменна спытаў Шаўчэнка, падаючы яму карабок з запалкамі.

— Што?

— Ну, што ёсць такая... настальгія... Калі нянькі дзяцей душылі...

— Чаго гэта ты раптам?

— Ды так... На радзіму пацягнула!

— Ты ж казаў, у цябе няма, — здзівіўся зампаліт.

— Таму і пацягнула, што няма...

Ледзь зачынаўся дзень, і сцяна хлява, нядаўна такая чужая, страшная, а цяпер, асветленая і абагрэтая сціплым лістападаўсякім сонцам, з двумя мужчынамі пад ёю, што мірна курылі, была самая звычайная, самая будзённая.

1996г.

# З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці

Штодня хаджу я па лясной дарозе,
І, як грыбы, збіраю я радкі.
Світальны лес у кошык мой прыносіць
Крамяныя, з расой, баравікі...

*(М. Башлакоў, «Па грыбы»)*

**I**

Помню, у далёкім, здаецца, яшчэ дашкольным маленстве была ў нас такая гульня не гульня — хутчэй, першыя праблiскі, раннія парасткі будучай жыццёвай філасофіі, — гэта калі пыталі адзін у аднога: «Якая ў цябе наперадзе радасць?» Недасведчаным тлумачылі — вось мяне, напрыклад, матка бярэ з сабою ў нядзелю на базар, я ўвесь час думаю пра гэта і мне шчасліва на душы... І ў кожнага адразу штосьці падобнае знаходзілася: таму вуду абяцалі купіць, таму — веласіпед, у іншага імяніны хутка... Ды і проста — вось цяпер лета, цёпла, а потым будзе зіма, снег, лёд, навагодняя ёлка — не радасць хіба?

Многае з тых часоў забыта, палова сяброў маленства ўжо і на свеце не засталося, а вось гэтае — трымаць у запасе «радасць», жыве і па сёння.

Прыдумаў я аднойчы аповесць «З кошыкам», лірычную, пра грыбы. І мо месяц насіўся са сваёй задумкаю, жыў ёю, усяляк адцягваў выкананне яе, а калі навальваліся праблемы, забівала тлумам галаву, тады ў паемным куточку душы ўспыхвала — у цябе ж «радасць» наперадзе! У цябе ж цэлых 12 недагуленых дзён адпачынку! Вось прыйдзе восень, з’явіцца вольны час, ляжа на стол стос беленькай гладкай паперы, запоўніцца чорным ці сінім атрамантам ручка... За вакном халодны дождж, вецер, а тут, на кухні, суха, светла, утульна... Кубак гарбаты і пачак сухіх цыгарэт. Хвіліны шчасця... А наперадзе ж яшчэ «радасць» — калі белая, як нечапаны снег, папера ператворыцца ў чарнавікі, г.зн. запоўніцца літарамі, спішацца ўздоўж і ўпоперак рознакалібернымі сказамі (асабліва дарагімі і важнымі тым, што іх потым зусім немагчыма расчытаць), пакрыецца «галачкамі» ўставак... І тады ўключыцца кампутар і набярэцца гэты кароткі, разам з тым ёмкі, з падтэкстам загаловак —

«З кошыкам».

Ну і што, што тэма не новая? Я пастараюся не паўтарацца. І мне — зрэшты, як, і кожнаму вясковаму беларусу, чыя добрая трэць жыцця так ці інакш звязана з лесам, знойдзецца што пакласці ў свой (у дадзеным выпадку літаратурны) кошык, і ў мяне ёсць свае запаветныя (у дадзеным выпадку творчыя) мясціны...

Ды толькі чалавек мяркуе, а Бог распарадкуе. Нядоўга мая «радасць» — прадчуванне блізкай любімай працы — цягнулася.

**II**

Прысылаюць мне з Масквы часопіс «Дружба народаў», з перакладам майго апавядання. Але ледзь толькі я прабег вачыма змест на вокладцы, так на тое апавяданне забыўся — іншае кальнула ў сэрца... Невядомы Барыс Васілеўскі. Аповесць «Апошняе паляванне», з падзагалоўкам «Сёе-тое з жыцця грыбоў, а заадно і людзей».

Але хіба так бывае? Хіба праўда, што думкі, і творчыя замыслы, і сюжэты могуць перадавацца на адлегласці, як і магнітныя, і радыё- хвалі? Тады чым растлумачыць, што адзін-адзіны раз за апошнія дзесяць год узяў у рукі «Дружбу народаў» і адразу ж наляцеў на гатовае, матэрыяльнае ўвасабленьне сваёй уласнай задумкі? Чаму менавіта ў гэтым, дзе і маё апавяданне, нумары? Што за такое хуткае, такое... як гэта сказаць, да неверагоднасці невыпадковае супадзенне?

Была яшчэ, праўда, крохкая надзея — можа, памыляюся? Можа, так сабе творчык, у іхнім маскоўскім стылі, з усімі іхнімі цяперашнімі выкрунтасамі?

Ідучы на прыпынак, чытаў на хаду — людзі саступалі мне дарогу (у нас усё яшчэ чалавек з кнігаю ў руцэ, як і п’яны чалавек, у пашане), потым у аўтобусе чытаў — ліхаманкава, па дыяганалі... І з кожным новым сказам, абзацам, эпізодам сумненні знікалі. Я бачыў перад сабою ўласную будучую аповесць, толькі чужым прозвішчам падпісаную. Ды яшчэ выкананне было лепшае, чым магло б быць у мяне.

Чытэльная, тонкая, у меру сур’ёзная, у меру іранічная штучка... У якой знайшлося месца ўсім маім так і нерэалізаваным знаходкам, назіранням, маленькім адкрыццям... Не было, здавалася, ніводнай дэталі, якую б гэты Барыс Васілеўскі (дай яму Бог здароўя) прамінуў.

Дзе маё сцвярджэнне, што звычайна грыбамі называюць толькі белыя, а ўсе іншыя маюць назвы ўласныя? Вось яно, у аповесці

Б.Васілеўскага:

«...Кажу «грыбы», маючы на ўвазе белыя грыбы...»

Я хацеў напісаць, якую адчуваеш горыч, калі бачыш збіты кімсьці, або растаптаны грыб; калі ласка:

«Колькі разоў даводзілася бачыць з прыкрасцю вось такія, збітыя і нават расчаўленыя няўважлівай нагою грыбы. А нібыта і сядзелі ў адкрытую, навідавоку...»

А мо аўтар прапусціў гісторыю, як, зрэзаўшы грыб, мохам ці ігліцаю прыкрываеш карэньчык, каб іншыя грыбовікі не заўважылі? Як жа!

«Гэты каштоўны кружок (карэньчык) я заўсёды прыкрываю травою, лісцікам, прысыпаю якім-небудзь іншым лясным смеццем. Але не для таго, каб «не загнівала грыбніца»... Сам я, зразумела, заўсёды засмучаюся, калі бачу такі вось, пакінуты некім свежы кружок — значыць, хтосьці паспеў прашмыгнуць тут раней за мяне... Для іншага, асабліва для ўважлівага грыбніка не толькі сам грыб, а і пакінуты мною навідавоку зрэз — крыніца інфармацыі; па гэтым зрэзе шмат чаго можна вызначыць, і самае галоўнае — што тут, магчыма, *месца*...»

І тое ёсць у Б. Васілеўскага, што грыб (белы, канечне) не расце, калі на яго паглядзець; я сам мо сто разоў, каб пераканацца, правяраў — і на другі дзень знаходзіў на тым месцы альбо карэньчык, альбо такога ж самага, як і ўчора, толькі зморшчанага, падсохлага грыбка-шпендрыка...

І што калі грыбы (не толькі белыя) не браць, дык яны знікаюць, перастаюць вадзіцца... Так — у нашых мясцінах ніколі не раслі ў вялікай колькасці ні грузды, ні рудоўкі-рыжыкі, ні апенькі — не раслі таму, упэўнены, што іх не браў ніхто. У апошнія гады пачалі браць — з'явіліся!

І што гаворыш з грыбам у думках, ці нават уголас, дзякуючы яму за знаходку яго ж...

Я нідзе, акрамя сваёй мясцовасці, больш не чуў, ні ў адным слоўніку не бачыў, ні ў воднага пісьменніка не сустракаў слова «грыбовік», толькі «грыбнік». І вось пры садзеянні таго ж Б.Васілеўскага, — у пісьменьніка чэхаўскай пары С.Максімава (забытага цяпер, ды, здаецца, і ніколі асабліва не папулярнага) знаходжу — нарыс «***Грибовник***».

«Гэта тое самае, — тлумачыць Васілеўскі, — што ў нас цяпер грыбнік».

Я да сваіх сарака гадоў зрабіў маленькае адкрыццё (праўда, з грыбамі звязанае ўскосна): піць гарэлку аднаму цікавей, нават, калі

хочаце, больш прыстойна, чым у кампаніі, і толькі чакаў зручнага моманту, каб у які твор яго ўставіць. Дзе там! Зноў умешваецца Васілеўскі.

«Хто гэта сказаў, што піць у адзіноце — кепскі знак? Вось каб сядзеў зараз насупраць які ідыёт і парушаў цішыню ідыёцкімі воклічамі, тады б я сапраўды адчуў адзіноту. А так — хіба я адзін? З маімі думкамі, пачуццямі, радасцямі, трывогамі? Хіба мала ў мяне за жыццё набралася сапраўды цікавых субяседнікаў, якіх я магу выклікаць кожную хвіліну, хай нават і ва ўяўленні?..»

З усіх бакоў, па ўсіх пунктах я бачыў сябе абкрадзеным. Не матэрыяльна, вядома, не ў сэнсе плагіяту, не — проста здавалася, у мяне адабралі тую самую дзіцячую «радасць», з якой так прыемна насіцца і дзякуючы якой крыху цікавей жыць на свеце.

**III**

Разам з тым спакваля, як яно часта бывае, па меры чытання ўжо расло, высьпявала, афармлялася іншае, акрамя маленькай крыўды і не зусім маленькай зайздрасьці, пачуццё — нязгоды, ці, дакладней, не з усім, пра што піша Б. Васілеўскі, поўнай згоды.

Недзе на палове аповесьці я адклаў часопіс і задумаўся.

Мо таму, што прыйшло на розум чэхаўскае: «Дваццаць чалавек адначасова могуць пісаць на адну й тую ж тэму без боязі паўтарыцца», мо таму, што сам аўтар дарэчы лінуў вады на мой млын:

«Грыбная тэма — невычарпальная. Яна з тых, калі кожнаму хочацца дадаць штосьці сваё. Сустрэнуцца два грыбнікі, выслухае адзін аднога і абавязкова скажа: «А вось я аднойчы...»

І праўда! Колькі грыбовікаў, столькі гісторый. Вось я, дапусцім, збіраюся зараз спрачацца з Барысам Васілеўскім — на той падставе, што «ў нас інакш усё гэта»; пройдзе час, пабачыць свет гэтае эсэ — знойдзецца каму і мяне аспрэчыць...

Словам, я крыху асмялеў, асвойтаўся і вырашыў падаць і свой голас.

Па-першае. Пры ўсёй таленавітасці, шчырасці, сімпатычнасці твора «Апошняе паляванне...» ўсё ж бачна, што пісаў чалавек, для якога грыбы — найперш эстэтыка, летуценнасць, туманок, раса, траўка, лісток на грыбной шапцы... Чаго варты адзін эпізод з мабільнікам!

«Вось і на гэты раз убачыў там (каля свайго лецішча) белы, нікім не заўважаны грыб. Проста красун белы: даволі вялікі, але яшчэ малады — з выпуклым капялюшыкам, шакаладным зверху,

беласнежным з-пад нізу, з тоўстай ножкаю, з танюткім сетчатым узорам на ёй. І рос прыгожа: на самым версе купіны, у гордай адзіноце, сярод дробнай ярка-зялёнай траўкі... Што было рабіць? Проста зрэзаць? — шкада. Дача знаходзілася за якіх сто метраў, там у гэты час была жонка. Ісці да яе? — рызыкоўна: хто-небудзь з суседзяў запраста можа натыкнуцца на гэты грыб... І пакуль я раздумваў так у нерашучасці, раптам дайшло: у мяне ж — мабільнік. І ў жонкі на дачы свой мабільнік, гэта дзеці нам расстараліся... Я патэлеванаваў ёй: «Я — каля копанкі. Прыходзь. Такі раскошны белы!» Праз хвіліну жонка прыйшла, таксама, канечне, падзяліла маё захапленне...».

Я хутчэй з зайздрасцю, чым з іроніяй, працытаваў гэты эпізод. Дарэчы, наперад прашу прабачэння за выпіскі — іх нямала яшчэ будзе, але яны, мне здаецца, вартыя цытавання. Што да эпізоду з красуном грыбам і з мабільнікам, дык нам, у большасці сваёй вяскоўцам, для каго паход у лес — звычайныя, часта суровыя будні, магло б такое прыйсці ў галаву?

Другое. Мнагавата згадак-спасылак-азіранняў на старэйшага таварыша па літаратурным цэху Уладзіміра Аляксеевіча Салавухіна, на яго (цудоўную, бясспрэчна) аповесць «Трэцяе паляванне». (Хаця тут справядліва будзе заўважыць: а ты сам чым займаешся, як не спасылкамі-азіраннямі ўжо на Б.Васілеўскага? На жаль, вось такія мы, пісьменьнікі...)

Потым. Яўны перабор — што ў Б.Васілеўскага, што ў У.Салавухіна — апісанняў-смакаванняў усіх гэтых тыпова рускіх «водочек-наливочек, да после баньки, да под грибочки»... Да гэтага мы яшчэ вернемся.

Далей. Нават у нейтральнай, «грыбной» тэме замнога плошчы адведзена і зашмат эмоцыяў аддадзена бясконцым іхнім маскоўскім міжусобным літаратурным разборкам («переделкинские проделки», як я іх называю).

Але ўсё гэта такая неістотная драбяза! Зусім не яна прымусіла мяне задумацца. І нават не вось гэтая аўтарская катэгарычнасць: «Чаму падлік вядзецца выключна белым грыбам? На пытанне: «Колькі белых?» любы грыбнік адкажа заўсёды!»

Не яны, не гэтыя моманты, а наступны абзац выклікаў ва мне ўжо не падспудную, а абсалютную нязгоду, і адначасова прынёс палёгку, разуменне таго, што дарэмна я так хутка здаўся, рана ад сваёй задумы адмаўляюся — не ўсё яшчэ вытаптана і выбрана, павінна хапіць і на маю долю.

Вось ён, абзац, пасля якога я акрыяў. Нават два абзацы.

«Чаму, — піша Барыс Васілеўскі, — ядомы і вельмі смачны —

асабліва ў смажаным выглядзе — грыб лісічка ніколі не бывае чарвівы?» І спасылаецца на У. Салавухіна.

А ў апошняга: «Гэты грыб здзіўляе тым, што, мабыць, з усёй грыбной разнастайнасці ніколі не бывае чарвівы. Чаму чарвякі пазбягаюць лісічак, я не ведаю, і наўрад ці ведаюць пра тое вучоныя людзі — міколагі».

Было ў мяне некалі апавяданне «Сыч» (са слоў Янкі Брыля, Васіль Вітка перад смерцю чытаў яго і нібыта нават хваліў... у адрозненне ад таксама ўжо нябожчыка Алеся Асташонка — таго гэты «Сыч» проста выводзіў з сябе.) Там пра сучаснага кулака, які прадаваў на базары лісічкі, і нягожыя, бракаваныя, пакрышаныя, чарвівыя не выкідаў, а забіраў у слоіку дамоў: курам, парасятам — каб нічога не прападала ў гаспадарцы.

Адразу звярнулі ўвагу на гэтыя *чарвівыя* лісічкі. Уладзімір Міхайлавіч Казбярук па тэлефоне працытаваў нейкага польскага паэта: той таксама катэгарычна заяўляў, што лісічкі ніколі не чарвівеюць.

Дарагія рускія, беларускія і польскія спецыялісты. Чарвівеюць! Сцвярджаю гэта не як вучоны-міколаг, а як практык. Усё правільна: чарвяк інакшы, чым, напрыклад, у баравіку, гэты, лісічкавы, толькі адзін, жоўтага колеру з чорнай галоўкай, падобны на тых, якія мы знаходзім у яблыках і грушах, даволі вялікі і вельмі цвёрды — да таго, што скрыгіча, патрапіўшы пад нож. Але ж ён ёсць і называецца чарвяк! Ён выядае-выточвае лісічку з сярэдзіны, як шашаль дрэва. Цэленькая і чыстая зверху, яна, калі яе падрэжаш, літаральна рассыпаецца ў пальцах...

Тут трэба зрабіць адно адступленне. Катэгарычнасць такіх паважаных і грыбовікаў, у першую чаргу У.А. Салавухіна, прымусіла мяне яшчэ раз зьвярнуцца, прынамсі, да творчасці апошняга і перачытаць яго славутае «Трэцяе паляванне». І што вы думаеце? У зборы твораў, г.зн. у апошнім варыянце аповесці, акурат пасьля слоў пра лісічкавую чарвівасць адшукалася зорачка, і пад ёю — устаўка, якой у ранейшых выданнях не было:

«Чытач з горада Волжскага прыслаў *сногсшибательное* паведамленьне. «Гэтым летам я ляцеў у вёску на крылах у прадчуванні грыбной насалоды. Але надзеі мае не спраўдзіліся, за ўвесь адпачынак я не знайшоў ніводнага белага грыба — ліпень быў спякотны, дажджоў не было... Але і з пустымі рукамі не вяртаўся. Я знаходзіў 3 — 4 пасяленні лісічак, і валізка не была пустою. Вось толькі многія лісічкі былі чарвівыя. Прычына? Не ведаю. Магчыма, таму, што ў гэтай пасадцы яны былі адзінымі грыбамі. Як вы на гэта глядзіцё?»

На жаль, Уладзімір Аляксеевіч не піша, як на гэта паглядзеў ён; што да мяне, дык я гляджу на гэта з некаторай крыўдаю, асабліва на слова, якое не змог перакласці, а толькі вылучыў курсівам: *сногсшибательное*... Ніякае яно для нас, беларусаў, не *сногсшибательное*.

У інтэрвью «ЛіМу» Іван Якаўлевіч Навуменка выказаўся пра згаданага ўжо «Сыча»: «Гэта ж жывы факт! Недзе ўбачыў таго Сыча, такога сквапнага, заўсёды хмурнага...»

Ага. Пісьменнік толькі тое і робіць, што бачыць, запамінае і апісвае... Нікому не даводзілася за савецкім часам, у сёмым класе, прадаваць на базары тыя ж лісічкі? Не? Калі трымціць уся сярэдзіна ад сораму і страху, бо за падобны «бізнэс» запраста можна вылецець са школы, тым больш, што амаль усе настаўнікі гарадскія і вельмі часта сюды, на базарчык, наведваюцца... Калі пакупнік-псіхолаг з аднаго пагляду раскусіў цябе, ведае, што не пікнеш ты, і робіцца крыклівым, прыдзірлівым, нахабным, прынюхваецца да тых няшчасных лісіц, перабірае... І абавязкова ж натыкнецца хоць на адну, чарвяком паточаную! І тады альбо плакалі твае грошыкі, альбо мусіш напалавіну скінуць кошт, абы толькі ён не падымаў крык на ўвесь базар... А дома ў сваю чаргу гвалт: як можна ўмудрыцца замест дзесяці рублёў натаргаваць пяць?!

Вось з такіх, не зусім вясёлых, гісторыяў растуць «Сычы», а не з падглядвання чужога...

І яшчэ, закрываючы тэму лісічак. Успамінаю, як адвёў на іх душу ў апошняе перадчарнобыльскае лета, калі іх было хоць касою касі, а мала хто па іх хадзіў. За дзень-два набіраўся кашэль (гэта добрыя два вядры), матка яго за плечы, да горада паўгадзіны язды, аўтобус ходзіць рэгулярна... Прывязе назад поўна пакупак, каўбасы, свежага хлеба, селядцоў, плюс у мяне кожны дзень тры рублі на кішэнныя расходы — г. зн., на пляшку «чарніла» і пачак цыгарэт, пры тым, што я тры месяцы пасля войска нідзе не працаваў.

Цяпер, калі на іх нечакана пайшла мода, ўзнік такі попыт, ухопіш тую лісічку: не на продаж — сабе каб паспытаць. Выграбаюцца ў прамым сэнсе граблямі, выпорваюцца дручкамі, выдзіраюцца разам з мохам, верасам і грыбніцаю... Усё пастаўлена на шырокую нагу. У кожнай вясковай краме пункты скупкі, ад вясны да восені шнуруюць туды-сюды на аўтамабілях па вёсках прыватнікі-перакупшчыкі — свае, палякі і нават немцы, плацяць у тым ліку і валютаю. Ці то гэтыя лісічкі памагаюць ад радыяцыі, ці то ад раку, ці то з іх вырабляюць лекі ад СНІДу, ці то (чытаў недзе) яны выкарыстоўваюцца ў прыгатаванні рэдкіх фарбаў, ці то — і гэта, на

маю думку, сама бліжэй да праўды — яны проста смачныя і падабаюцца еўрапейцам...

Законнае пытанне: хто іх, гэтыя лісічкі, у цяперашняй вёсцы бярэ і здае? Калі там ужо і людзей амаль не засталося? Па-першае, гарадскія лісічнікі, якія на гэтым спецыялізуюцца. Па-другое, розныя валацугі, бамжы, бабылі альбо беспрацоўныя ахламоны, якіх павыганялі жонкі з гарадскіх кватэр і яны паспаўзаліся дамоў да старэнькіх матак. У суседняй вёсцы ажно трое такіх, у адной хаце, самы малодшы — мой аднагодак, і ўсе трое п'юць. Паняцця не маю, чым яны займаюцца зімою, затое няцяжка ўгадаць іхнюю летнюю «прафесію» — усё тыя ж лісічкі. Яшчэ б: за дзень жартуючы можна зарабіць пяць-дзесяць даляраў!

Аднак дзеля справядлівасці скажам, што і лісіцы, калі бачыць у іх не ўсяго толькі дасканалае тварэнне Прыроды, а дармовыя грошы і выпіўку, могуць за сябе адпомсціць. Як у той казцы пра залатую антылопу, дзе сквапны раджа ледзь не задыхнуўся, засыпаны залатымі манетамі. І як здарылася ў мінулым годзе з маім сябрам-аднавяскоўцам. Цягаў-цягаў ён тыя лісіцы, здаваў-здаваў, піў-піў, пакуль не сканаў у пустой хаце, нават не дабраўшыся да ложка, — так і акалеў, стоячы на коленцах, галавой на пасцелі. Побач па падлозе жаўцелі рассыпаныя лісічкі — як залатыя манеты, выбітыя капытцам казачнай антылопы.

## IV

Цяпер абяцанае пра «водочки-наливочки, после баньки да под грибочки»...

Калі я, беларус, чую такое, ці чытаю ў якогась пісьменніка — найчасцей, вядома, расейскага, у мяне заўсёды ўзнікае нейкі скепсіс, больш таго — падымаецца ў душы нават нейкі пратэст. І зразумела, чаму. Для нас, беларусаў, гэтыя штучкі не арганічныя, а запазычаныя. Яны, так бы мовіць, не выцякаюць з нашага менталітэту і з нашых традыцый.

Чамусьці ніхто з маіх мінскіх сяброў-знаёмых не верыць, калі я расказваю, што ў нашай вёсцы на Мазыршчыне, ды і ва ўсіх вакольных вёсках, ніколі не было, і цяпер няма, такой, здавалася б, неабходнай рэчы, як лазня.

— Дзе вы тады мыецеся?

На добры лад трэба адказваць: у вадзе! А дзе мыюцца французы з англічанамі, у якіх таксама адсутнічае традыцыя лазні? Ці мы да скančэння вякоў толькі рускіх будзем капіраваць?

Замест гэтага я звычайна мямлю:

— Ну, зімою ў начоўках, у балеі... А ўлетку хапае ж вады...

І, каб прыхаваць ніякаватасць, каб паказаць, што я і сам са сваіх цёмных, некультурных землякоў пасміхаюся, расказваю вядомы анекдот: «Ганна, дзе ты мыешся?» — «У копанцы!» — «А зімою?» — «А колькі тае зімы!..»

Гэта раней я так рабіў. Але паступова, распытваючы людзей — ураджэнцаў розных куткоў Беларусі, чытаючы кнігі, я прыйшоў да высновы, што мая Мазыршчына зусім не нейкі вырадак у сям’і. Акрамя памежных з Расіяю рэгіёнаў: Гомельшчыны (да якой Мазыршчыну не адношу), Віцебшчыны і Магілёўшчыны на ўсёй астатняй тэрыторыі Беларусі — а гэта падаўляючая большасьць — ніякіх лазняў не было ў паміне. Не бярэм выключэнні. У любой мясцовасці заўсёды знойдзецца дзівак, як правіла, не тутэйшы, прышлы, які ўвесь час «адмочвае» розныя незвычайнасці: то пасадзіць пад вакном пальму, то завядзе стравусаў, то пабудуе лазню... Масавай з’явай гэта рэдка становіцца.

Успомнім, чым заняты мележаўскі Міканор, вярнуўшыся з войска ў свае Курані. Не грэбляю — «лазню, лазню будаваць трэба!»

У «Новай зямлі» Якуба Коласа, якая справядліва лічыцца энцыклапедыяй беларускага жыцця прамінулага стагоддзя, можна знайсці ўсё, што душы заўгодна, не забыты драбнюткія побытавыя дэталі, у тым ліку ёсць і цудоўныя радкі пра грыбы:

...Ранюткі час. Нідзе нікога,  
Між дрэў звіваецца дарога,  
А па дарозе ты з кашом  
У лес шыбуеш ціхачом,  
Каб ашукаць жанок руплівых,  
Бяссонных, вечна клапатлівых,  
І ім на злосць, на зайздрасць тую  
Набраць грыбоў капу, другую,  
Пакуль агледзяцца яны,  
Што там карэньчыкі адны...

Але калі вы адшукаеце там хоць згадку пра лазню, першы вас павіншую і пастаўлю сто грамаў. Здавалася б, такі рытуал, такая ўдзячная тэма, такі размах для коласаўскага пяра, столькі гэта магло б даць «дум і натхнення паэту»! Аднак жа лазні месца ў геніяльным творы не знайшлося. (Увогуле, калі не памыляюся, гэтая тэма прыйшла ў нашую літаратуру толькі разам з Максімам Гарэцкім.)

Тут не варта ні здзіўляцца, ні засмучацца, ні тым больш саромецца. Як не засмучаюцца і не саромеюцца французы, чаму не апеў лазню Расін, альбо англічане — чаму не зрабілі таго самага Шэкспір з Байранам. У адсутнасці «лазневай» традыцыі няма ні кепскага, ні добрага; проста як ёсць, так ёсць. І, можа, дарэмна наш Міканор так ужо ўбіваўся па той лазні. Напэўна, не горш за яго ведалі продкі, што ім трэба ў першую чаргу рабіць, як мімімум, былі не дурнейшыя за нас — хоць бы таму, што спарадзілі нас, такіх разумных.

З беларускімі — асабліва на поўдні — сапраўды, не такімі ужо доўгімі і не такімі суровымі зімамі, з працяглай цёплай парою, калі паўсюль поўна рэчак, азёр, копанак — ці была ў тых лазнях вялікая патрэба? І наадварот: калі б прыродныя, кліматычныя, этычныя, ментальныя, якія хочаце іншыя патрэбы паставілі б перад неабходнасцю збудавання хаткі без вокан, з гарачымі камянямі, на якія трэба ліць ваду, — ніякага сумнення, што каля кожнай, нават самай занядбанай беларускай хаты з незапомных часоў тулілася б акуратная лазнечка.

Абяцаў пра «грибки под водочку», а перакінуўся на лазні... Аднак тут прамая сувязь. Раз не ў нашай традыцыі было заводзіць лазні, дык, натуральна, адсутнічалі і спадарожныя атрыбуты гэтага: г.зн., не было патрэбы ў востра-салёных закусках, ды і самой «водочки», калі на тое пайшло, не было — была самагонка, удвая, а то і ўтрая за гарэлку мацнейшая, і яе «грибочками» не надта закусіш, тут трэба сала, мяса, каўбаса...

Нашы продкі яўна не належалі да грыбных гурманаў. Большасць блюд, што мы чытаем у раздзелах кулінарных кніг па беларускай кухні, звязаных з грыбамі, — плод фантазіі складальнікаў, прашу паверыць. Ну, у суп пакласці некалькі сухіх баравікоў... Ну, мачанка грыбная пару раз на год... Булён з ранніх сыраежак... Патэльня смажаных, таксама першых, лісіц... У лепшым выпадку на Каляды адкрыць слоік марынаваных малюсенькіх белых грыбкоў, або зялёнак, або масьлякоў... Усё. Уся беларуская нацыянальная «грыбная кухня». І ніякіх далікатэсаў, ніякіх фаршыраваных грыбамі яек (прыдумаць жа такое!), ніякай грыбной ікры, ніякіх мачэнняў і саленняў — ды і ў чым саліць? Бочкі, дзежкі, вываркі, ражкі, цэбры — усё занята пад важнае, сапраўды неабходнае, ад чаго большы, чым ад грыба, наедак: сала, мяса, гуркі, капуста, квас бярозавы... Слоікі — пад памідоры, яблыкі, грушы, слівы, розныя варэнні...

«Яшчэ не хапала на забаўку тару пераводзіць!»

Канечне, узнікне вядомы скепсіс, калі, напрыклад, паслухаць

таго ж У.А. Салавухіна, што, маўляў, трэба казаць не рыжыкі, а ласкальна-памяншальна — рыжычкі...

Ды ў нас не тое што «рыжычкі», проста «рыжыкі» ніхто не скажа — рудоўкамі іх у нас завуць! Вось вам яшчэ штрых, які падкрэслівае паблажлівасць беларуса да мочана-салёных, лёгкіх, «закусачных» грыбоў. Дастаткова параўнаць пяшчотна-саладжавыя рускія «груздь», «волнушка», «рыжик» з нашымі — грузд, ваўнянка, рудоўка...

І зноў неверагоднае да невыпадковасці супадзенне: пішу зараз гэтыя радкі, а па радыё даўняя песня, здаецца, П'ехі, з прыпевам:

«Руды грыб»,<br>
А по-русски —<br>
«рыжик»!

Памятаеце заўвагу Васілеўскага пра двух грыбовікаў, адзін з якіх, выслухаўшы другога, абавязкова запярэчыць: «А вось у мяне інакш было...»? Так і я — расказваю, і далей збіраюся расказваць толькі пра звычаі сваёй роднай мясцовасці. Цалкам дапускаючы, што ў іншых, нават у суседнім з маім раёне, зусім «не так было». Патрапіў я аднойчы да сябра на Астравеччыну. І калі ўбачыў, як гэтыя рыжыкі-рудоўкі растуць, якія яны прыгожыя, як з імі пашанотна абыходзяцца, калі паспытаў іх — я, «лясны» чалавек, упершыню за 38 гадоў жыцця — смажынымі на патэльні, а потым, у Мінску, салёнымі... Ды што тут многа гаварыць! Зразумеў, словам, колькі было страчана ў вечнай пагоні толькі за грыбам белым, як ён, гэты белы, засланяў сабою белы свет.

## V

І ўжо з ім, з Яго Вялікасцю белым, ці — проста Грыбам, насіліся па поўнай праграме. Яно і зразумела — то была асноўная, калі не адзіная крыніца даходу вяскоўца ў савецка-калгасныя часы.

Пачаць з таго, што адзін ён — Грыб, а ўсе астатнія (у тым ліку і непараўнальная рудоўка-рыжык) проста «казлякі». Сам жа цар грыбоў меў даволі шырокі падзел:

у залежнасці ад месца вырасту — пясчанік, мучковік, травяны, «аддзельны» (пад адзінокімі дрэвамі), параслёвік, верасовік, берозавік, паддубнік...

У залежнасці ад узросту і энергетычнай каштоўнасці — белы і жоўты, ён жа «баршчовік», ён жа перастарак;

у залежнасці ад пары года — каласавік, летні, восеньскі;

у залежнасці ад «таварнага знаку» (калі рыхтуецца на продаж) — цяжкі і лёгкі…

І г. д. і да т.п. Кожны грыб кваліфікаваўся, сарціраваўся, пра кожны трэба ведаць, на што яго лепей пусціць. Каласовік, напрыклад, грыб ненадзейны, слабы — значыць, высушыць і пакінуць сабе… Беразовік — выдатны, духмяны, але лёгкі, таксама нявыгадны для продажу… А вось парaслёвік (вельмі прыгожы, з чорна-вішнёвай галавою; растуць у старым хвойніку у зялёным вільготным мосе або на палянах з сівым лішайнікам) хай не такі пахучы, затое чысьценькі, цяжкі і такога на базары, ды яшчэ ўзімку, адарвуць з рукамі…

Сушыць таксама іх будзеш па-рознаму. Таму ж параслёвіку больш жару падкінуць, а, скажам, верасовік чуць паляжаў — і ўжо сухі, як порах… Увогуле, працэс сушкі па ўрачыстасці можна параўнаць хіба што з выпечкай хлеба. У нас так і казалі — «пасадзіць» грыбы, у сэнсе, пакласці іх у печ. Беднай кабеціне трэба было ўспароцца сярэдначы, запаліць у печы, пакуль тая выгарыць, самой досвіткам збегаць у лес, вярнуцца раней за астатніх, згатаваць сняданак, падрыхтаваць чарэн — г.зн., падмесці яго чысценька, пакрапіць (так!) свежай халоднай вадою, падаслаць саломкі, ды не абы-якой, не аўсянай — зь лепшага жытняга акалотка, пакласці навідавоку нізкі…

У гэтым месцы іншы чытач можа спыніцца і з доляю прыкрасці падумаць: «Вось ізноў! Якія яшчэ нізкі, што за нізкі? У нас не так завуць!» І праўда, па сабе заўважаў — ёсць нейкае, мякка кажучы, непрыняцце, калі чужыя звычкі, дыялектныя словы, рэгіянальныя паводзіны навязваюцца як нешта бясспрэчнае, «вось толькі так, і не інакш!»

З такім жа пачуццём непрыняцьця прачытаў і я наступныя радкі Салавухіна:

«Белыя грыбы сушаць па-асабліваму. Не на жалезных лістах, не на бляхах, але нанізанымі на нітку. Раней іх нанізвалі на тонкія лучынкі, а лучынкі гэтыя ніжнімі парожнімі канцамі апускалі ў гаршчок, накшталт таго як кветкі ставяць у вазу. Такім чынам, з гаршка тырчэлі пучком лучынкі з нанізанымі грыбамі… Усё гэтае прыстасаванне ставілі ў печ, у якой ужо не горача, але і не холадна. Гаспадыня ведала, калі паставіць».

Я не маю права не верыць выдатнаму пісьменніку. І разам з тым уяўленне адмаўляецца маляваць прыведзены вышэй варыянт. Па-першае, чаму нельга сушыць грыбы на засланай саломкаю бляс? На чым тады? На чым сушыць вялікія жоўтыя грыбы, абабкі, старыя

асінавікі, у якіх дыяметр шапкі з добрую патэльню? Як гэта — сушыць «нанізанымі на нітку»? Да чаго там, у печы, гэтыя ніткі прывязваць? І што такое лучынка, ды яшчэ тонкая, ды яшчэ ніжнія канцы якой — парожнія? А яна, канечне, тонкая, прыкладна, як вязальная спіца, бо інакш пасколюцца грыбы. І многа насадзіш на такую спіцу грыбоў? Тры-чатыры ад сілы. Калі ж дапусціць, што гэта якіясь доўгія, звыштрывалыя лучыніны, дык як такую канструкцыю вертыкальна ўпіхнуць у печ? Ды і абернуць яны гаршчок, калі будуць доўгія...

Я да таго гэта, што чым кепскі наш палескі варыянт сушкі — нізкамі? Нізкі — гэта пасечаны на кавалкі ад паўметра да метра даўжынёй сталёвы дрот. Старыя, вялікія грыбы, як ўжо казалася, на бляху, маладыя — па росту, ад большага да меншага панізаць на гэты дрот... І ніякай «вертыкалі» — проста кладзі іх на акропленую вадою салому. Калі грыбы высахнуць, у іх ужо будуць гатовыя дзірачкі, неабходныя для іголкі з суровай ніткаю...

Але вось наступны салавухінскі пасаж. Разумеючы пэўную мастакоўскую перабольшанасць, тым не менш тут я цалкам з пісьменьнікам згодны і шкадую, што не я гэта напісаў:

«На кожным базары можна ўбачыць гандлярак сухімі белымі грыбамі. Калі перакласці на вагу, дык сушаныя белыя грыбы атрымаюцца ў шмат разоў даражэйшыя і за мяса, і за рыбу, і за самую экзатычную садавіну, і за мёд, і за арэхі, і за ўсё харчы, бадай, нават даражэйшыя за чорную ікру, нягледзячы на тое, што яна цяпер у нас неверагодна дарагая».

Усё правільна. Сорак — пяцьдзесят рублёў на тыя грошы за кілаграм, а за лета можна было нанасіць ад пяці да дзесяці кіляў, асабліва ў каго вялікая сям’я. Не шкадавалі на грыб ні сілы, ні часу, вазіліся з ім, нянькаліся з ім — адплачваў і ён узаемнасцю. Машыны, кааператыўныя кватэры, матацыклы, веласіпеды, адзенне, ежа... На ашчадную кніжачку на чорны дзень...

Усё гэта расло ў лесе пад нагамі.

## VI

Але і цану за сябе грыб браў адпаведную.

Гарадскія нашы настаўнікі дзіву даваліся, зразумець не маглі, чаму мы, вясковыя дзеці, гадаваныя на прыродзе, на сваіх каларыйных, натуральных, смачных харчах прыходзілі пасля летніх канікулаў у школу такімі дохлымі, бледнымі, амаль не падрослымі.

Адкуль ім было ведаць, што як з тых караленкаўскіх «дзяцей падзямелля» сыры падвальны камень высмоктваў сокі, сілы і здароўе, так з нас лес? Што з самага пачатку школьных гадоў, ад першага класа і да апошняга, мы патрапляем ў ледзь не прыгонную залежнасць ад яго, становімся ледзь не яго рабамі?..

Ягады: чорныя, маліны, суніцы, буякі, брусніцы, ажыны, рабіна, каліна, журавіны... Лупленне кары — з крушыны і лазы (Бог дасць, калі-небудзь напішу і пра гэта, бо ні ў кога яшчэ такой тэмы не сустракаў). Хваёвыя шышкі, а таксама хваёвыя лапкі — была калісь і такая нарыхтоўка; іх, гэтыя лапкі, перамолвалі і дадавалі ў камбікорм. Бярозавыя і хваёвыя пупышкі. Зграбанне ігліцы — на прызбу, каб уцяпліць на зіму хату, і драннё балотнага моху — канапаціць шчыліны ў гаспадарчых прыбудовах. Нарыхтоўка дроў — перманентна круглы год.

Але галоўнае, канечне, грыб, грыб і грыб.

«Лес — наша багацце»... «Летні дзень год корміць»... «Загадка: стаіць пры дарозе, капялюш набакір, хто ўбачыць — паклон дасць»... Любімыя, добрыя, наіўныя настаўнікі, напаўняючы нас падобнымі сентэнцыямі, вядома, і не здагадваліся, што мы маглі ўкладваць у іх крыху іншы, і далёка не рамантычны сэнс.

Грыбная пара нядоўгая, сёння яны ёсць, а заўтра зніклі, таму трэба карыстацца момантам — хутчэй, часцей, раней, каб апярэдзіць іншых, каб пабольш ухапіць (менавіта так і пыталі: «Ці многа сёння ўхапіў?»). У любое надвор'е, «ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору», як пісаў наш класік Янка Купала, хочацца табе ці не, здаровы ты або хворы — нікога не калыша, будзь ласка, кошык у зубы — і наперад, пад цёмныя хвойныя шаты...

Да школы, гадоў да сямі, была яшчэ сякая-такая вольніца, прынамсі, рана не падымалі і далёка з сабою не бралі. Але ўдзень — хоць на гадзінку, хоць блізенька, каб прывыкаў, каб вучыўся... І колькі ж тады радасці было! Колькі зайздрасці да «вялікіх» — старэйшых братоў і сясцёр, і колькі неўразумення, чаму яны не адчуваюць свайго шчасця, чаго бурчаць, сярдзітыя, нашто злуюцца? Гэта ж так здорава — самому хадзіць у лес па грыбы! Хутчэй, хутчэй бы ў першы клас, а гэта аўтаматычны дазвол, своеасаблівы пропуск у лес — хай спачатку разам з дарослымі, не адыходзячы ад іх, затое потым, у трэцім, чацвёртым класе — ужо і самастойна...

Гадкоў чатыры, ад сілы пяць мне было. Пару мясцін блізенька каля вёскі ўжо трохі ведаў. Што мне аднойчы цюкнула ў галаву, з якога такога перапуду, але раз увечары, калі нікога не было дома, раптам схапіў аберуч вядзерца і сцежкаю ў траве (трава высокая,

мяне і не відаць у ёй) — бягом у лес! Там і адлегласьць 500 метраў, але для малога, ды аднаго, ды на ноч гледзячы — цэлае падарожжа! Поўнае розных цікавасцяў і небяспек. Сьмешна не гэта, а тое, што не паспеў я забегчы ў лес, на знаёмую блізенькую падянку, як пад першымі ж хвоямі ўбачыў... грыба! Ды не аднаго — тры штукі побач! Ды якія — ростам мне па калена! Я іх з карэннямі павыварочваў, я іх у вядзерца — а яны не ўмяшчаюцца, а яны выпадаюць... Бяда! А тут цямнее... А дома ўжо, канечне, пярэпалах... Сяк-так, аднаго пад паху, другога ў вядзерца, трэцяга за пазуху — данёс, і хоць уляцела ад маці, затое доўга потым хадзіў героем вёскі.

Хіба мог тады падумаць, як хутка гэтая грыбная цяга зменіцца прымусам, гэтая зайздрасць да самастойнасці старэйшых ператворыцца ў панылае выкананне абавязку?

Цемрадзь. Перадсвітальны час. Самая пара, калі спіцца, сама тыя гады, калі расцеш у сне... Дзе там — ужо катурхаюць! «Уставай, сынку, памалу». У вушах звон. У вачах мухі. Звыклая, не ў аднаго мяне, а ва ўсіх нас тадышніх, з’ява: адну калашыну нацягнеш, а на другой замарочыцца ў галаве, затуманяцца сном мазгі — і брык з табурэткі. Нічога страшнага — падымуць, адзенуць... У хаце цёмна, а на вуліцы цямней. У нас яшчэ вёска такая, што ў які бок ні пайдзі, трэба пераходзіць адну й тую ж рэчку, дзе па кладках, дзе ўброд. Разуешся, кеды ў рукі... Раса, як лёд, халодная-халодная, вада, як сырадой, цёплая-цёплая... Дападзем, бывала, са старэйшым братам да жаданай грыбной мясціны — ну цёмна, хоць вока выкалі! Нават сабакі яшчэ не гаўкаюць, нават пеўні не співаюць... Паляжам на сырую ад расы ігліцу, прытулімся спіна да спіны. Але які там сон — і холадна, і камары, і птушкі раннія... Не спіцца ж ім, дурным, іх жа ніхто рана не будзіць!.. Толькі прымосцішся — ужо і развіднее патроху, без сонца...

Даходзіла да бунту. Хто вінаваты ў тым, што мы не высыпаемся? Грыбы. А раз так, трэба ім за гэта помсціць. Знішчаць іх. Старэйшы за мяне на пяць гадоў брат такое прыдумаў.

І вось ён, першанькі. Прабіўся з-пад бярозавага лісця, свежы, бадзёры, умыты расою, ашаломлена-радасны ад сваёй, хай і нядоўгай, прысутнасці ў свеце Божым.

— Чаві, — ціха скамандаваў брат. — Чаві!— працадзіў праз зубы.

Я падняў над грыбам нагу...З нейкім жывым піскам, з нейкім перадсмяротным усхліпам адзін з самых дасканалых шэдэўраў Прыроды пад падэшваю кеда ператварыўся ў месіва... І ў той жа момант нешта змянілася вакол. Сонца знікла, раса высахла, лес

пацямнеў, фарбы пабляклі... Зашапацела, прадказваючы бяду, сваімі лісткамі асіна...

— Так будзеш рабіць з кожным!

Праз гадзіну сышліся, у аднаго і ў другога амаль поўныя кошыкі. У вочы адзін аднаму не пазіраем.

— Многа рачавіў?

— Шэсць, — схлусіў я.

— Малайчына. Я таксама дзесяць, — схлусіў у адказ брат.

Бунту канец. Санлівасць даўно прайшла. Расхадзіліся, акрыялі, падабрэлі. Ужо можна прыкмячаць сёе-тое і акрамя грыбоў: вусеня, падсвіслага на павуціне, экзатычнасць высокага папаратніку, пах альховага ліста, калі яго расцерці ў пальцах, падзалочаныя ствалы хвой і доўгія, роўныя цені ад іх... Напаўняецца кошык. Хутка дадому, а там — смачны сняданак, а там — цалюткі дзень наперадзе... Малінаў паесці, на рыбалку схадзіць, пакупацца, зямлянку каля возера падкапаць... Самапал, ці, па-нашаму, падпаленку зрабіць... Паглядзець на каляндар і ўспомніць, што хутка лету канец, а разам з ім і грыбам, — падымацца рана не трэба будзе, школа пачнецца, сябры, кнігі, тэлевізар... Якое ж, падумаўшы, багатае і цудоўнае жыццё!

Так, заняты справамі, зямлянкамі і самапаламі, набегаешся за дзень, а ў восем-дзевяць вечара ўжо дрыхнеш без задніх ног. Малому і пераносілася лягчэй.

А вось падлетку!.. Калі дзеўкі з горада да бабуляў на канікулы прыехалі, калі ўсё дзённае жыццё ператвараецца ў адно толькі чаканне ночы, калі:

Травы пахнуць кветкамі,
кветкі пахнуць зорамі,
зоры над палеткамі —
лесам і азёрамі...
(П. Броўка)

Самае неразгаданае, самае страшнае і самае лепшае, што было, ёсць і будзе на свеце — гэта калі табе 13 — 14 гадоў, ты ідзеш летняй, душна-духмянай ноччу па вёсцы і ў канцы вуліцы раптам чуеш галасы і малады дзявочы смех... Які пасля гэтага будзе сон? Да якіх грыбоў табе раніцаю? Шукаеш іх машынальна... А дотык яе калена да твайго быў, ці толькі здалося? І калі быў — дык выпадкова? Як гэта яна сказала?.. Шэсць, усяго шэсць раніцы! А дзесяць вечара будзе праз, праз... Трэба не забыць: «Раз ты ўчора сказала Валеру...» А

Валер са Светаю, усё правільна... Наташа! Ты ж у пясочку з ёю гуляўся, гэта ж ты павінен быў першы разгледзець, зразумець, што... Ты — а не Сяргей!

І вось пасля трэцяй ці чацвёртай ночы такіх «жарсцяў», рана-раненька толькі дайшоў я да кладак — я-а-ак павяло ўбок, я-а-ак лінулася кроў з носу. Добра, што не ў лесе дзе. Задраў галаву, заціснуў пальцамі нос, вярнуўся, упаў у ложак... Роўна праз гадзіну ўскочыў, выспаны, з яснай галавою, здаровы, з пругкім адчуваннем цела. І зноў, канечне, у лес. І набраў тады ўдвая больш, чым звычайна. І нават вершык склаў:

Ціха і сумна. Дзень непагодны,
Жнівеньскі дожджык рэдкі імжыць.
Пахне грыбамі, цвіллю калоднай,
Пень схлупянелы ў мосе ляжыць.
Сеткі паўсюль павуціння абвіслі,
Мокрыя, ліпнуць да курткі і рук,
Дзесь у кары або ў скручаным лісціку
Ад непагоды схаваўся павук.
Трохі далей, з-пад кашлатае лапкі —
Ах, які гожы выглядвае грыб!..
Смоўж светла-жоўты з аб'едзенай шапкі
Ледзь скалупнуўся — так моцна прыліп.

А на душы і праўда было ціха і сумна. Бо зразумеў, што не хапае ўсяго толькі такой драбязы, як нейкіх 60 лішніх хвілінак!

— Яно так, — згадзілася маці. — Кажуць жа, твае грыбы ніхто не пабярэ. Калі ні пайдзі, табе дастануцца. Але ж печ прастыне, дух не той. А яны да заўтра паляжаць, дык што будуць за грыбы. Хіба, вы думаеце, мы, маткі, на зло вам вас будзім? Проста ранішнія грыбы інакшыя, чым дзённыя, і пахнуць інакш, і разабрацца з імі лягчэй...

**VII**

Браў, яшчэ і як браў грыб сваю даніну — нявыспанасцю, здароўем, вольным часам... Адсюль, мабыць, і гэтае дваякае да яго стаўленне: павага, шанаванне, замілаванне з аднаго боку і ледзь не пагарда — з другога... Падспуднае жаданне выбавіцца з-пад улады яго, адносіны да яго, як да неадухоўленага эксплуататара.

Кароценькі паказальны выпадак.

Вяртаюся я аднойчы з грыбоў. І прычапляецца да мяне гарадскі грыбовік. «Прадай хоць дзесятак, самых горшых, даю

дваццаць капеек за грыб!» І дастае два рублі. І ўсё гэта вельмі сур'ёзна. А вакол глухі лес. У адной руцэ ў яго нож, у другой грошы, а на зямлі паміж ног пустое вядро. Я не столькі спалохаўся, колькі разгубіўся. Няўжо ён не разумее, што такое не прадаецца? Як не прадаецца ўсмешка, кропля расы, сонечны промень ці кавалачак туману... А галоўнае, навошта яны яму, гэтыя грыбы?! Чужыя, аднолькава бязлікія? Гэта для мяне яны жывыя — вунь той вялізны параслёвік, які ўжо нібыта сябар мне, бо калі я зразаў яго на любімай паляне, дык акурат у той момант думаў, з якім лікам сёння ўвечары згуляюць мінчане з кіяўлянамі... А гэты зграбненькі таўстун, узяты ў верасе пры самай дарозе — сведка маіх патаемных думак-мараў пра начную лаўку з Наташаю... І гэта іх, маіх сяброў, часцінкі сябе — трэба аддаць у абмен на дзве пакамечаныя жоўценькія паперкі?!

Я не разумеў дзядзьку, а ён — мяне. Так і разышліся. Лепш сказаць, я адзін пайшоў, адчуваючы спінаю, што ён стаіць і пазірае мне ўслед.

— Ну і дурны, — рэзюмавала, выслухаўшы, маці. — Куплялі, дык прадаў бы. Яны і сухія мо столькі не каштуюць, колькі ён даваў, дык яшчэ клопату з імі. А сабе б вярнуўся ды зноў набраў.

У школе нас вучылі адным прымаўкам; напрыклад:

«Такі смачненькі грыбок, так і просіцца ў раток», — а ў рэальным жыцці мы чулі іншыя:

«Чаму іх воўк не есьць, калі яны такія смачныя? Дык воўк мяса шукае!»

Тут ужо не проста непрыязнь, а нават нібыта нейкая затоеная помста ім, грыбам — магчыма, і за тое, што, цягаючы іх дзесяткамі кілаграмаў, самі ніколі іх удосталь не паспыталі. Усё на продаж, сабе толькі «горшанькія», чарвівенькія, «жоўценькія», у якія суп ці ў боршч укінуць... Я да гэтага часу не ўяўляю, як можна, напрыклад, наварыць у капусным расоле вялікі чыгун адных белых, цалкам, і проста есці іх з хлебам? (Журналіст Алесь Гаўрон расказваў, што менавіта так робяць у іх на Магілёшчыне, а той грыбны адвар — найлепшы сродак ад пахмелля.)

Ну, праўда, парадокс нейкі: з дня ў дзень, з году ў год гэтыя грыбы браць, самаму іх не есці, адчуваць сваю ад іх залежнасць і немагчымасць ад яе пазбавіцца — і адначасова нежаданне ад яе пазбаўляцца, бо прыгожыя ж яны, чэрці, загадкавыя, прыцягваюць да сябе нечым!

І вось падлеткавы (самы залаты) перыяд жыцця канчаецца. Трэба сталець. Рабіцца хлопцам. Забываць на футболы, хакеі, тэлевізары, кнігі... А ў першую чаргу на грыбы. Бо сталенне

вызначаецца не толькі па тым, ці гуляеш ты ўжо з дзеўкаю, а і па тым, ці маеш ты свабоду выбару: хадзіць або не хадзіць у лес? Так і казалі старэйшыя хлопцы: «Ану адсюль, ты яшчэ па грыбы бегаеш!»

...Напісаў вось «па грыбы» — і зноў дазваляю сабе невялічкае адступленне, на гэты раз мовазнаўчае. Як усё ж правільна: у грыбы ці па грыбы? Іх збіраюць, ці шукаюць, ці рэжуць, ці падымаюць, ці хапаюць, ці проста бяруць? Вялікая руская літаратура падкінула яшчэ парачку ўвогуле неверагодных дзеясловаў: «зрываць» грыбы і «ламаць» грыбы, і гэта, упэўнены, паспяхова перавандруе і ў беларускія слоўнікі.

Мо таму, што мая Мазыршчына заўсёды была ізаляваная ад вялікага свету, мо з іншае прычыны, але ў нас, бадай, як нідзе на Беларусі арыгінальнае да роднай мовы стаўленне — гаварыць як хочаш, абы «не па кніжнаму». Не пограб, а поргаб, не мухамор, а махамор, на чарвівы, а чарлівы, не скарбонка, а шкарбонка, не веласіпед, а лісапета (дарэчы, калі я купіў аднойчы веласіпед сумеснай беларуска-італьянскай вытворчасці і прачытаў у інструкцыі — bizikletta, дык быў прыемна здзіўлены і жаночым родам гэтай «біцыклеты», і падабенствам гучання.

Фільтрацыя слова ў нас жорсткая, любы адыход ад мясцовых правілаў караецца бязлітасна: асмяяннем, перакрыўляннем, мянушкаю... І не дай вам Бог хоць выпадкова назваць грыб кніжным баравіком, ці сказаць «у грыбы» замест «па грыбы»!..

Я не апраўдваю гэта, не ідэалізую, проста адзначаю, як факт. Але ў адным выпадку згодны са сваімі землякамі на сто працэнтаў — правільней усё ж казаць не «ў грыбы», а «па грыбы». І не збіраюць іх, як і ягады не збіраюць, а — бяруць. Бо каб збіраць, дык трэба каб было рассыпана. Тады ж іх, да слова, можна і падымаць — калі яны ў адным месцы і ўсе адразу перад вачыма.

Спачатку мы ідзем *Ў* лес, а ўжо там выбіраем, *ПА* што мы прыйшлі. Не кажам жа мы: пайду ў краму ў хлеб. У грыбы або ў ягады можна зашыцца, залезці, забрацца — як і ў сена, у маліннік, у глушэчу лесу; можна дапусціць, што якісь дурны вужык залез у грыбы — у прамым сэнсе, у сярэдзіну кошыка з грыбамі, ці аса заляцела ў слоік з ягадамі — злятала «ў ягады»...

Тут, мабыць, варта кіравацца не столькі граматычным правілам, колькі элементарнай логікай: калі мы выпраўляемся кудысьці з мэтаю раздабыць штосьці, і прынесці дадому — тады «па што» мы ідзем? У краму ідуць па тавар, у лес — па грыбы.

## VIII

Я з малых гадоў і ўсё свядомае жыццё так ушчыльную з лесам звязаны, немавед колькі гэтых грыбоў перацягаўшы, — а нічога незвычайнага, містычна-неверагоднага на гэты конт і не магу прыгадаць. Нічога такога, што здарылася б толькі са мною, і больш ні з кім.

Бывалі, канечне, сякія-такія прыгоды: ласёў бачыў, зайцаў, лісу... Грыб знайшоў аднойчы трохпавярховы: на шапцы ніжняга рос другі, а на ім трэці... Неяк у глухім месцы, далёка ад вады, ледзь не наступіў на вялікую прыгожую качку — ляжыць сабе пад хваінаю і пазірае на мяне чорным вокам. Чаго ляжыць, што тут робіць?.. Потым паднялася і паляцела, лавіруючы між хвой. У сябе ў двары каля ганка сабраў мо з кілю восеньскіх апенькаў. Не так даўно касіў у агародчыку і ў густой атаве пад сліваю натрапіў на цэлы россып, штук трыццаць, выдатных рыжыкаў... Вось і ўсё, бадай.

Ніколі не бачыў славутых грыбных «ведзьміных кругоў», не ведаю нават, як яны выглядаюць. Хоць бы раз натыкнуўся на неруш — якую-небудзь у непралазнай лясной глушэчы палянку, усеяную вялікімі і малымі, карычневымі, жоўтымі і шакаладнымі грыбнымі шапкамі... Здаралася, праўда, натрапіць на многа грыбоў у адным месцы, і тады радасцю ўздрыгвала сэрца, не так ад удачы, колькі ад таго, што — першы, і гэтая палянка — мая, толькі я ведаю пра яе існаванне! Потым агледзішся: адзін даўні карэньчык, другі... Размоклы недакурак... След на пяску...

Ні якогасьці аграмаднага грыба, які не ўлазіў бы ў кош і які на здзіў і зайздрасць людзям давялося б нясці ў руках праз усю вёску... Напрыклад, вось такога:

«У Францыі знойдзены белы грыб вагою 3 кг. 200 г, з шапкаю ў акружнасці 105 см, адпаведна, з дыяметрам шапкі 33, 4 см. Але рэкордны па памерах белы грыб быў знойдзены ў Беларускай ССР, пад Мінскам, з дыяметрам шапкі 58 і ножкі 15 см. Трэба, аднак, заўважыць, што пладовыя целы такіх памераў сустракаюцца выключна рэдка».

Мы, беларусы, заўсёды былі і будзем паперадзе планеты ўсёй!

А па-другое, можа, дарэмна я прыбядняюся? Не бачыў, не знаходзіў, не траплялася... Мо проста не ўмеў заўважаць? Бо ёсць у мяне такая рыса — унурыцца ў сябе, і аглухнуць, і аслепнуць (пайшоў неяк па ваду, а калодзеж далёка ад хаты, і вярнуўся... з пустым вядром — забыў выцягнуць і наліць вады). Не ведаю, плюс ці мінус гэтая з дзяцінства звычка да празмерных фантазій, у якіх дзе я толькі

не пабываў, чаго толькі не нагледзеўся, якімі толькі багаццямі не валодаў, чаго толькі ў якасці чалавека-»невідзімкі» не вырабляў!.. Дык вось і цешся сваім уяўленнем. Тут ужо, відаць, па прынцыпу «альбо — альбо», на выбар: сініца ў рэальнасьці, альбо жораў — у фантазіях...

Іван Мікалаевіч Пташнікаў, з якім мы разам працавалі ў «Полымі», неяк сказаў:

— Ва мне памёр нерэалізаваны вялікі вандроўнік. Адзін раз за ўсё жыццё ездзіў у Беласток, на два тыдні, потым раман хацеў пісаць пра тую паездку...

З такім сумам у голасе, з такой горыччу наш цудоўны празаік прамовіў гэта, што ў мяне ледзь слёзы не выступілі. За савецкім часам з'ездзіць у Беласток, і настолькі ўзрушыцца гэтым, столькі набраць уражанняў і матэрыялу, што іх можа хапіць на цэлы раман!

А я? Дзе мой не раман — апавяданнейка з камарыны нос? Ва мне «вялікі вандроўнік» не толькі не паміраў, ён і не нараджаўся ніколі. Канечне, калі, бадзяючыся па Лісабонах, Парыжах, Мадрыдах, Берлінах думаць увесь час, як той Колас у Булонскім лесе, пра свае балацянкі і парослі — дык што ж заўважыцца, што вынесецца?.. Быць падарожнікам — гэта таксама талент. А не, стоячы ў Луўры перад узятай у куленепрабіваемае шкло Монай Лізаю, замест шэдэўра бачыць сціплы стэндзік, таксама пад шклом, Мазырскага краязнаўчага музея... Альбо, лежачы на траўцы і пацягваючы піва каля Эйфелевай вежы (там, дзе возерка з лебедзямі і вербы, ведаеце?), уяўляць сябе не ў цэнтры Парыжа, а ў далёкім геаграфічна і храналагічна Гомелі, у парку каля палаца Румянцава, куды нас, школьнікаў, некалі вазілі на экскурсію — першы выезд у вялікі свет! Замест таго, каб у прадмесці Бардо захапляцца архітэктурай замка чатырнаццатага стагоддзя (у нас такія склады-пакгаўзы бываюць на чыгуначных станцыях), з віннымі склепамі ўнізе, пастаяў я каля яго, пастаяў, шклянку віна выпіў — ды і пабрыў у недалёкі лес. А йсці вінаграднікамі, а абапал дарогі кусты такіх буйных, раскошных, жоўтых ружаў! А вось і лес — увесь мой замак, увесь мой «Храм», як Сыс піша. Дрэвы, крапіва, мох, папаратнік... І масьляк расце пад сасною. Далібог! Такі, як у нас, і пахне, як у нас, і скурка лупіцца... Ну, не дзіва хіба?! Альбо ў сталіцы Германіі ў час экскурсіі паслухаў трохі гіда, упомніў некалькі знаёмых нямецкіх слоў, пакалупаў запальнічкай бетон на рэштках Берлінскай сцяны, зайшоў за яе, азірнуўся — і на пяту! Сеў у метро і паехаў куды вочы глядзяць, з намерам вылезці на любой станцыі, якая спадабаецца сваёй назваю. Вылез на Unter den Linden — і, канечне ж, адразу ўбачыў тое, што не мог не ўбачыць: скрыначкі лісічак на парапеце каля супермаркета!

Нашых, беларускіх, лісічак (гл. раздзел III). Араб, ці турак імі гандлюе. Яго, гэтага гандляра, нябось ніхто са школы выганяць не будзе, як мяне маглі б некалі, яму зусім неабавязкова пісаць апавяданне «Сыч», а потым даказваць, што лісічкі бываюць чарвівыя...

Вось такія Моны Лізы, такія Луўры і Прадо. Цяжкавата мне быць вандроўнікам.

Але самы цікавы наступны выпадак. Гляджу неяк па тэлевізары перадачу пра Манголію. І не магу адарвацца. Гляджу дзесяць хвілін, пятнаццаць... І раптам ў галаве штосьці шчоўкае, пераключаецца і я ўспамінаю, што я ж там, у Манголіі, быў! Больш таго, быў у гэтых мясцінах, якія зараз паказваюць! Вось тая самая гара, зарослая эдэльвейсамі так будзённа, як нашая якая пустка дзьмухаўцамі ўвесну... А вось той самы луг, на якім «пасуцца» аграмадныя макеты дыназаўраў, — каля аднаго я нават сфатаграфаваны... Як можна было забыць?! Чым я там два тыдні займаўся? Што запомніў?

Зараз скажу. Вяртаемся мы неяк з шырокага мангольскага стэпу ва Улан-Батар. Дарэчы, назбіраўшы ў траве так званых іхніх грыбоў, падобных на нашыя дажджавікі-»порхаўкі», толькі з вышэйшымі ножкамі. У іх яны завуцца белымі і, сухія, прадаюцца на базары за проста неверагодныя грошы, у параўнанні з, напрыклад, мясам, якое там амаль бясплатна. Вечар. Бяскрайні стэп. Адна палова сонца апусцілася за гарызонт, другой палове мы не даем апусціцца, бо наш «пазік» з усіх сіл ляціць наўздагонку. Туды, на захад, дзе мая радзіма і дзе цяпер не вечар, а толькі-толькі ўсчынаецца раніца. Якая маленькая ўсё ж Зямля! Адно й тое сонца адной сваёй паловай паказвае вечар, другой — раніцу. У расчыненае вакно б'юць пахі кавылю і палыну... Вось так бы і гнацца за сонцам да самай сваёй вёскі, а там яно хай плыве сабе далей, у Еўропу, за акіян, ізноў у Манголію — а я астануся ў сваім ціхім беларускім вечары, дзе раса прыбівае пыл, дзе пахне яблыкамі і статак вяртаецца з пашы...

Дык вось, вяртаючыся да пачатку раздзела, паўтару, што розныя незвычайныя гісторыі, з грыбамі зьвязаныя, мяне, на жаль, абмінулі. І ўжо тым больш не здаралася са мною такога, як з адным удачлівым чалавекам. Напароўся ён на неяк на грыбы. Набраў кош, вядро, зняў сарочку і туды набраў, скінуў штаны і, завязаўшы калашыны, напоўніў і іх... А грыбоў усё не менее. Тады ён пачаў адломваць карані, пакідаючы толькі шапкі. Не ведаю ўжо, як ён ішоў дахаты: голы, у руках кош, вядро і сарочка, на шыі — набітыя грыбамі штаны, па абодва бакі зьвешваюцца калашыны... Ад каго толькі і ў якіх толькі мясцовасцях я пра гэтага шчаслівца не чуў!

Моцна падазраю, што мы маем справу калі не з агульна-беларускай легендаю, дык з агульна-палескай дакладна, з тых, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне, — гэткая мара аб простым чалавечым «шчасці»...

Асабіста я нічога падобнага ў вочы не бачыў. Затое бачыў, як падкладваюць на ніз кошыка мох і казлякі, а наверх — белыя. Бачыў, як хавалася ад мяне, жэўжыка, прысядала ў кустах дарослая маладзіца, — ці то баючыся, каб не прасачыў яе грыбовішчаў, ці то каб не сурочыў... Бачыў і чуў, як кланяюцца лесу, шэпчуць нейкія словы і сыплюць долу нейкія сухія, відаць, намоўленыя зёлкі...

Дык вось гэта — паводзіны людзей у лесе — і па сёння для мяне загадка, незразумеласць, містыка куды большая, напрыклад, за той факт, што грыб не расце, калі на яго паглядзіш. Як дарослыя, нібыта сур'ёзныя, нібыта разумныя людзі могуць займацца ўсім гэтым, верыць ва ўсё гэта?! Тое самае, дарэчы, і з рыбалкаю: стаім мы, падшыванцы, з прымітыўнымі арэшнікавымі вудамі, а побач — дарослыя здаровыя дзядзькі, пры поўнай амуніцыі, у рыбацкіх ботах, з такімі снасцямі, што нам і не сніліся... Папрыязджалі на машынах, на матацыклах... А стаяць і займаюцца тым, чым і мы займаемся, ды яшчэ калі ў нас лепш клюе (а ў малых заўсёды лепш клюе) з зайздрасцю, нават са злосцю на нас зіркаючы!...

Мяне білі па губах — не лічы грыбы! Не любіць грыб гэтага, трапляцца перастане, ніколі не набярэш больш за тую лічбу, якую аднойчы вымавіў. На пытанне: «Колькі набраў?» заўсёды і кожны адкажа: «Трохі ўзяў», — незалежна ад таго, два грыбы ў вядры перакочваюцца ці поўны кашэль за плячыма. Калі ўжо лічыць, дык нізкамі (гл. V раздзел), і ў гэтым апошнім, дарэчы, ёсць логіка. Грыбы ж бяруцца дзеля кілаграмаў і грамаў, а не дзеля штук. На адной нізцы можа быць шэсць вялікіх, на другой -- шаснаццаць малых, а вага, ці сабекошт — аднолькавыя.

## IX

Сапраўдную асалоду ад паходаў у лес я навучыўся атрымліваць даволі позна, пасля арміі, калі мне было ўжо за дваццаць і калі я пачаў смутна здагадвацца, што акрамя непасрэднага, уласна жыцця ёсць шанец пражыць яшчэ адно — паралельнае, дадатковае; іншымі словамі, калі я пачаў спрабаваць пісаць.

Дзеля гэтага патрэбна адзінота. А нішто больш не дае такой ідэальнанай адзіноты, як грыбны лес.

Здавалася б, столькі перад вачыма малюнкаў, фарбаў, навізны!

Кожны крок — свежае ўражанне! Па ідэі, тут проста месца ў галаве не павінна заставацца для нейкіх абстракцый, элементарна не павінна хапаць часу на іх. Аж не: у параўнанні, дапусцім, з рыбалкаю ў лесе ўсе рухі даведзены да аўтаматызму. Ногі безпамылкова выводзяць на патрэбныя мясціны, вочы адшукваюць грыбы, рукі падразаюць, вусны абдзьмухваюць, кошык напаўняецца...А думкі — самі па сабе, нічым не занятыя, свабодныя, лунаюць у якіх хочаш сферах... Вось толькі шкада, што на хаду нельга запісваць.

На рыбалцы ці ловіцца рыба, ці нерухома стаяць паплаўкі на вадзе, асабіста ў мяне, напрыклад, нейкая прастрацыя, абсалютнае бяздумнае сузіранне; як бы сам робішся адной з гэтых алешын на беразе, ці гэтай вадою, ці нават проста пачаткам або працягам бамбукавага свайго вудзільна. У адрозненне ад лесу вада ўвогуле не мае нейкай такой пастаяннай, «духоўнай» прывязкі — яна ўвесь час цячэ, змяняецца і разам з тым паўсюль яна адна й тая ж. Рыбычыць аднолькава прыемна ў любым месцы, абы вада і рыба.

Зусім іншая сітуацыя з лесам і з грыбамі. У чужых краях пачуваешся неспакойна, няўтульна — наўрад ці толькі ад боязі заблудзіцца. Калі гэтае эсэ было ў чарнавіках гатова, мне спатрэбілася з'ездзіць у лес. Самі разумееце, чаму. Трэба было крыху іншымі вачыма на ўсё паглядзець, а сёе-тое і пераправерыць. Стаяў залаты верасень, цёплы, з начнымі туманамі і парнымі дожджыкамі, была сама грыбная пара, якія, можа, раз на дзесяць гадоў выпадаюць. Я даехаў электрычкаю да адной станцыі, дзе ні разу раней не быў, але гэта не перашкодзіла мне набраць гадзіны за тры — да наступнай электрычкі на Мінск — поўнае вядро адборных восеньскіх маладых грыбоў, у асноўным маленькіх рыжыкаў і маслячкоў. Знайшоў і шэсць белых, моцных, прыгожых, прычым тры злепленыя разам, як бы растуць з аднаго корня... Словам, жыві і радуйся!

Але вялікай радасьці якраз-такі і не было. Міжволі зноў прыгадаўся Васілеўскі:

«Калі ж лес напаўняецца староннімі, наляцелымі з горада грыбнікамі, ды калі яны яшчэ гарлапаняць, раз-пораз гукаючы адзін аднаго, быццам не ў прыгарадных кусціках разбрыліся, а па глухой бяскрайняй тайзе, тут, само сабою, усё зачараванне — і лесам, і грыбамі — знікае ўмомант. Тут ужо не да «любавання» — патрапіўшы на грыбы, трэба рваць іх, хутка і моўчкі, гледзячы навокал пільна, як ястраб: ці не тырчаць яшчэ тут паблізу, каб і іх прыбраць моўчкі і хутка...»

Усё так. Але ж і пустым ніхто з лесу не выходзіць. Хапіла і мне і грыбоў, і паветра, і сонца, і шорхання жоўтай лістоты пад нагамі. А

што да гукання, дык да яго можна прывыкнуць і не звяртаць увагі, як і можна пастарацца хадзіць па такіх мясцінах, дзе будзеш адчуваць сябе хоць бы ў адноснай, ілюзорнай адзіноце.

Справа ў іншым, мне здаецца. Я быў чужы гэтаму лесу, а ён чужы мне. У нас не было з ім агульнага мінулага. Нас не звязвала нічога патаемнага, нічога, калі хочаце, інтымнага, і наўрад ці калі-небудзь будзе звязваць — я нават не запомніў, пад якімі дрэвамі браў свае белыя. Якая ўжо тут радасць, так — сухія, меркантыльныя адносіны пакупніка (мяне) і гандляра (лесу).

— Можна вядро грыбоў, калі ласка?

— Калі ласка, выбірай...

Не рамантыка, а звычайная нарыхтоўка. І як жа ж, калі стаяў ужо на пероне ў чаканні электрычкі, пацягнула да сябе на радзіму, як захацелася апынуцца на сваіх запаветных мясцінах! Адкуль у нас гэтая цяга? Якая, чым больш мы робімся дарослымі, тым больш мацнее?

Што гэта, як не жаданне калі не спыніць, дык хоць бы затармазіць Час?

На старых, любімых, адданых нам мясцінах мы шукаем не столькі грыбоў (хаця і іх, канечне), колькі саміх сябе ранейшых. Можа быць, у нас нават яшчэ жыве падспудная надзея, што калі рэзка павярнуцца, дык на якую долю секунды можна будзе ўхапіць паглядам постаць хлопчыка з кошыкам — самога сябе малога, на лясной сцежцы, які аддаляецца, аддаляецца, пакуль не знікне ўжо назаўсёды...

Неяк у роднай вёсцы ў вельмі беднае на грыбы лета марна абыйшоў я паўлеса і з пустым кошыкам, ледзь валочачы ногі, вяртаўся дамоў. І раптам убачыў, што стаю паблізу сваёй палянкі — той самай, з якой пачыналася мая грыбная «адысея». Які ні быў стомлены, а не зазірнуць на яе не змог. Хоць бы каб проста павітацца. Я ступаў, знарок не падымаючы вачэй... Калі ж падняў іх — кошык ледзь не вываліўся з рук. Грыб! А вунь другі! А вунь трэці! Чацвёрты, пяты! Пяць здаравенных, адзін у адзін параслёвікаў павытыркалі свае вішнёвыя шапкі з зялёнага моху і падміргваюць мне... Дык гэта ў адным месцы, а калі пахадзіць яшчэ вакол?

Я не стаў іх хутчэй падразаць. Апусціўся на сухую, цёплую ігліцу. Пад рукой зашапацеў сівы лішайнік. Я закурыў. Гэта ж мне чатыры гадкі было тады, а цяпер — дзесяць разоў па чатыры... Буры над Зямлёю пранесліся, цэлыя грамадскія фармацыі змяніліся, мільёны людзей зніклі і мільёны нарадзіліся, самога мяне ўжо тройчы з таго свету выцягвалі... А яны растуць! А яны сядзяць сабе, бы на

карціне, як ні ў чым не бывала! А яны як дарылі, так і дорацьсваю ціхую радасць, нічога за гэта не патрабуючы!...

Ад узрушэння, ад утомы, ад курэння нашча паплыла галава... Ды і хто я?! Той чатырохгадовы, якога шукаюць у вёсцы?! Ці васьмікласьнік, і сяджу тут ( і сядзеў жа некалі!), і душа захлынаецца ад радасці, бо наперадзе —цэлы свет, цэлае жыццё!.. На якіясь міг час спыніўся, яго не стала зусім — і мяне не стала цяперашняга... То быў момант, калі мне ўдалося двойчы ўвайсці ў адну й тую ж раку — у адзін і той жа Час.

Але больш я такіх «эксперыментаў» паўтараць не адважваўся.

## X

Цэлымі днямі я прападаю з кошыкам у лесе.

Я ўжо даўно не расту ў сне. Ніхто мяне не будзіць — сам успорваюся раненька, і подбегам, па расе, туманам — туды, у лес. Маці адгаворвае: не хадзі, і няма іх дужа, тых грыбоў, і ног пашкадуй, ты ж у адпачынку...

Можна было б, канечне, і «адпачыць», г.зн., бяздумна пасядзець на прызбе ці на беразе копанкі з вудаю. Але такія лагодныя стаяць вераснёвыя дзянёчкі, так хочацца іх паболей ухапіць, а галоўнае, так я ўжо натаміўся ад людзей, ад кніг, ад дураты мінскіх кавярняў і забягалавак, так хочацца хады і адзіноты, што, мабыць, каб са стрэльбамі гэты лес ахоўвалі, дык папоўз-пашыўся б у яго, як той шпіён-лазутчык.

У мяне другое дыханне. Я ў другі раз перажываю сваё маленства. З ранку я не саракагадовы дзяцюк, а падлетак. Па інерцыі, па набытай даўно, і відаць, ужо назаўсёды звычцы я ўсё подбежкам — каб як найхутчэй набраць неабходныя два-тры дзесяткі «адчэпных» грыбоў, а потым спакойненька хадзіць ужо ў сваю ахвоту, для душы.

Пасля абеду ў мяне іншая праграма. Іду я ў другі бок, блізка, ды і сам я ўжо іншы — не баламутны падлетак, а стары, непаваротлівы дзед, з кіёчкам... І грыбы бяру па іншаму — не адны белыя, а ўсе, якія ведаю, тым больш цяпер, увосень, яны ўсе растуць адначасова: і лісіцы, і зялёнкі, і махавічкі, і сыраежкі, і грузды, і асінавікі, і абабкі, і маслякі...

Усё адпраўляецца ў кошык, усяму я радуюся, за ўсё дзякую лесу, лёсу і Богу. І як добра, што пакуль ёсць куды сваю здабычу прынесці, як здорава, што цябе чакае недзе самы родны чалавек, які будзе радавацца твайму поспеху, хай сабе і такому сціпламу, як

кошык восеньскіх грыбоў...

Але што гэта?! У грудзі мне ўпіваецца калючы дрот. Проста пасярод лесу. Адгароджвае, адсякае адну з самых маіх любімых мясцінаў. Папярэджвае — стоп, грыбовік, далей табе ходу няма. А на тое, што ты ўсё жыццё тут хадзіў — начхаць, цяпер я, дачнік, буду тут хадзіць.

Добрыя вы мае людзі. Я не супраць ні вас, ні вашых лецішчаў, што з усіх бакоў абляпілі нашу вёску, якімі забудована і гэтае вось вялікае колішняе поле, што свеціцца зараз праз дрэвы. Калі ласка, жывіце на здароўе. Наадварот, мне прыемна, што вы ўбачылі і ацанілі прыгажосць нашай мясцовасці, што вы практычна выратавалі вёску, бо ў ёй неўзабаве не засталося б ніводнага карэннага жыхара і тады знікла б нават назва яе...

Але навошта, калі вам адвялі надзел на полі, адхопліваць яшчэ і такі ж самы па памеры кавалак лесу? Навошта вы спрамілі рэчку? Вам жа, і дзецям вашым, каля яе гуляць і рыбу ў ёй лавіць... Навошта вы робіце агароджы не толькі ўпрытык да саменькай вады — так што і сцежачкі не застаецца, каб прайсці берагам, дык яшчэ ўлазіце і ў самую ваду? Адгароджваеце і яе тым жа калючым дротам ці металічнай сеткаю — да палавіны рачулкі?

...Асцярожна, каб не прабіць боты і ўвогуле не пакалечыцца, я пад гэты дрот падлажу. Апасліва, як злодзей, азіраюся. З палёгкаю ўспамінаю, што сёння будні дзень і гаспадары павінны быць у горадзе. Даходжу да загона са свежай, ледзь падсохлай зямлёю — відаць, толькі ўчора, ці нават сёння раніцаю выкапалі бульбу. Паўз загон вузенькая, метры два шырынёю палоска, зарослая асіннікам, бярэзнікам, лазняком... Тут я заўсёды браў што-небудзь, сюды ж знарок кіраваўся і сёньня... І не дарэмна! Белы, у траве. А вось россып падасінавічкаў, ростам з палец, з ярка-чырвонымі напарстачкамі шапачак... Ваўнянкі адна ў адну, і шмат! — ступаць страшна... З іх карэньчыкаў з-пад нажа аж пырскае белае малако.

Прайшоў адным бокам палоскі, павярнуўся, прайшоў другім — падбярозавікі, і як раней не ўбачыў? Цэлая сямья, чорныя галоўкі, махрыстыя, ножкі тоўсьценькія, як цылідрыкі лато...

Удача! Ніхто не гаркнуў на мяне з блізкага доміку, ніхто не выскачыў адтуль з дубінаю... Дзякую, мілая палоска, за тое, што ты ёсць, што помніш мяне, блуднага сына, — я цябе таксама, дзе б нібыў, успамінаю...

Кошык мой прыкметна цяжэе.

2004 г.

# Дзікі Луг

## I

Урочышча называлася Дзікі Луг. Было яно ад вёскі кіламетраў дваццаць, за Нароўляю, па другі бок Прыпяці. Кожны год у ліпені туды вербавалі касцоў і жанок, бо мясцовых рук не хапала, а травы перастойвалі.

Рыхтаваліся да паездкі грунтоўна. Брыгадзір паляк Маслоўскі нават рабіў абход кожнаму двару, правяраў, ці ўсё ў парадку. Мужчыны кляпалі косы, устаўлялі зубы ў граблі, выразалі з сырых асін мянташкі, запасаліся новенькімі зярністымі брускамі. У кожнага мелася адмысловае паленца з убітай бабкай, каб там, на месцы, пакляпаць. Жанкі пакавалі ў клункі закуску, рыхтавалі флягі, бідоны, біклажкі — пад ваду, а некаторыя, самыя эканомныя — пад беражоны яшчэ з вясны бярозавы квас, перастаялы, сівушны на выгляд і на смак.

Асабліва радасці было малым. «Дзікі Луг» у іх уяўленні значыла рай зямны. Там начуюць у шалашах з сена, ядуць каля вогнішчаў, расказваюць розныя гісторыі, там Прыпяць, у якой столькі рыбы, што сама выскоквае з вады на бераг. Малыя рабілі вудкі, плавілі ў лыжках волава для грузілаў, вучыліся на выгане закідваць донкі, збіралі пад калодамі тоўстых чарвякоў-выпаўзкаў і складвалі ў бляшанкі з-пад халвы, не забыўшы прабіць у накрыўцы дзірачкі, каб даставіць чарвякоў жывымі — шлях няблізкі!

Выязджалі зацемна, гадзіны ў чатыры раніцы, на дзвюх грузавых машынах. Людзі набіваліся ў кузавы: мужчыны, дзеці, бабы — каторая і з немаўлям. У пярэднюю кабіну побач з шафёрам сядаў Маслоўскі. Дома заставаліся толькі самыя старыя і падлеткі — глядзець гаспадарку.

Машыны ехалі з уключанымі фарамі. Дарога вяла праз поле з жытам, праз пясчаныя заносы, дзе колы буксавалі і трэба было выгружацца і штурхаць, праз лес з каранямі, ад якіх кішкі з цябе вытрэсвала, і нарэшце каціласа гладкай роўненькай шашою. У ліпені віднее хутка. Сонца яшчэ не ўстала, а ўжо каля Нароўлі светла, толькі над ракой белы туман, нібы вада кіпіць. Прыткнуты да берага, людзей чакаў маторны паром. На беразе каля яго тапталіся ажно тры начальнікі, усе ў белых сарочках, без пінжакоў, штаны запраўлены ў боты і ва ўсіх трох на раменьчыках афіцэрскія планшэты. Калі пачалі грузіцца, убачылі на пароме бабулю з кароваю — вяроўка накінута на

рогі. На нагах у старой кірзавыя чобаты з белымі працёртымі дзірачкамі на халявах, на плячах ваенны кіцель, за спінаю гарбом — хустка з прыпасамі, на твары суровая акамянеласць.

«Хворая карова, — пранеслася між людзей. — На травы вядзе...»

Гэта было не рэдкасць — калі ў мяцовага люду хварэла скаціна і не памагаў ветэрынар, дык ішлі ў Дзікі Луг, з надзеяю, што жывёліна сама адшукае, што ёй трэба, і вылечыцца.

Застапарылі колы ў машын, адвязалі канат, завёўся матор. Карова павярнула галаву і пачала глядзець на свой бераг.

...Плыве, скрыпіць паром. Плюхае знізу ў дошкі вада. Над ракой туман. У тумане на сярэдзіне адзінокая лодка з рыбаком. І так прыемна пахне бензінчыкам і дымам ад цыгарак!..

**II**

Паром з разгону тыцнуўся тупым носам у пясчаны пляж. Мужчыны перакінулі на бераг дашчаты насціл. Бабуля, ні на кога не зірнуўшы, сышла па ім са сваёй караваю і пасунулася ў прырэчныя зараснікі, трушчачы ботамі сцябліны балегалову. Выгрузіўся народ, з’ехалі машыны.

Нідзе не было ні пазнакі дарогі. Шырокая, доўгая затока з вербамі адыходзіла ад Прыпяці. За ёй у тумане на пагорку і быў Дзікі Луг. Людзі са сваімі клункамі, граблямі, косамі і віламі на плячах, у сутонні падобныя на паўстанцаў Каліноўскага, цугам пагрэбліся на пагорак, стараючыся ступаць след у след, каб лішне не таптаць траву. Пакуль дабраліся, пярэднія былі мокрыя з галавы да пят, а хітраму начальству, якое замыкала калону, — хоць бы што, толькі боты ад расы блішчэлі.

Адсюль пачыналіся ўчасткі. Уся прасторная абалонь ляжала перад вачыма. Клін нечапанай, белай ад мокрага павуціння травы шырэў на пагорку, звужаўся да затокі і ўпіраўся ў бераг. Злева, унізе, яго мяжу абазначала Прыпяць, а справа, на ўзвышку — няроўная сцяна кустоўя. Хмызняк то залазіў на травяное поле, то адступаў, утвараючы прагалы. А далей, за пагоркам і вакол распасціраліся суцэльныя палескія джунглі, непралазныя зараснікі, пышныя шаты лазняку і алешніку, крушын і вольхаў, шывельгі і вербалозу, і сярод усяго гэтага бяскрайняга зялёнага прастору рэдка вырэзваліся клінкі чыстай травы, ды яшчэ ўзвышаліся, як маякі, то там, то сям адзіночныя дубы з буслянкамі ў ралах.

Гэта было поўнае ўладарства дзікай прыроды, аддадзенай самой сабе, панаванне амаль не кранутай чалавекам першабытнасці, чароўнае запусценне, глушэча, непралазная нізінная дзіч. Толькі рака звязвала з цывілізацыяй, і адзіны спосаб сувязі, калі, не дай Бог, што здарыцца — было крычаць, гукаць цераз раку, каб прыслалі з таго берага паром ці лодку.

Даўно, гадоў дзесяць назад, людзей прывезлі сюды ўпершыню, кожнаму адмералі надзел, абазначылі ўбітымі ў зямлю калочкамі, на зачэсаным месцы хімічным алоўкам упісалі прозвішча касца. Калочкі даўно пусцілі корні, сталі добрымі вербалозінамі. Ужо не трэба было кожны год перамяраць па-новаму. Кожны ведаў свой куст і свой надзел да апошняй купінкі, як уласныя паплоўчыкі дома ў агародзе.

Пакуль людзі звыкла разбрыдаліся і разбіраліся, складвалі клункі, бабы ладзілі шалашыкі з посцілак, мужчыны пастуквалі малаткамі — асаджвалі косы, а каторы спрытнейшы ўжо і мянтачыў, — тры начальнікі таксама не гублялі часу. Адзін паказаў пальцам направа, другі рукой махнуў налева, трэці прыставіў далонь да ілба, хоць сонца было збоку ад яго і яшчэ не свяціла ў вочы... І на тым місія іх скончылася. Завярнуліся і спаважна пайшлі пратаптанай сцежкаю ўніз да парома. Маслоўскі на хаду даў апошняе неабавязковае распараджэнне Кулінічу, якога яшчэ ў вёсцы прызначыў замест сябе: «Ну, глядзіце тут», — і заспяшаўся следам. Замарочны дзень у яго наперадзе: мітусня, бегатня, кантора, бухгалтэрыя... Аднаму дагадзі, з другім падхалімнічай, на трэцяга прыкрыкні, з чацвёртым цераз сілу выпі... А ўсё для людзей, каб грошай больш выцыганіць.

Яшчэ цяжкая ад расы трава калыхалася за імі, а мужчыны ўжо шахалі адладжанымі косамі. Трава па пояс, роўная, не пераспелая, дажджом і ветрам не здратаваная, косіцца лёгка; толькі чутно: жых! жых! Фізічная асалода чуць гэты гук — як падсякае танюткая сталь падатлівыя сцяблiны, скідвае іх справа налева. Туман апаў на зямлю. Роснае павуцінне блішчыць на сонцы. Хоць сонца ўжо добра ўгравае, а паміж касцоў не ўбачыш голага цела: адзіная вольнасць — адкасаць у кашулі рукавы. Маленькія жабкі так і пстрыкаюць з-пад кос. З бліжэйшых дубоў зляцелі буслы і ходзяць кожны за сваім касцом, дзюбаюць недарэзкаў. Уперамешку з буслaмі ззаду бабы з большымі дзецьмі растрэсаюць траву; меншыя не адыходзяць ад шалашыкаў — аказваецца, ім забаронена нават пазіраць у бок ракі, не тое, што да вады спускацца: Прыпяць такая непрадказальная, што, калі захоча, можа ўтапіць нават на сухім беразе. Вось табе і рыбалка, вось табе і чаканы Дзікі Луг! Хаця, калі шчыра, саміх туды не надта цягне, яны яшчэ на пароме ўбачылі, што гэта сапраўды небяспечная, глыбокая,

шырокая, вялікая рака, асабліва тут, перад упадзеннем у Дняпро. Так што цяпер толькі і забаўкі, калі хто з касцоў захоча папіць і яму паднясеш, або знарок, па дабрыні душэўнай, папросіць прыкурыць папяросіну, — прыкурваеш, маці бачыць, а нічога не кажа.

Мужчыны косяць зверху ўніз. Пакосы доўгія, канчаюцца ля самай затокі. Пад вербамі, схаваўшыся ў цень, стаяць машыны. Вербы тут такія старыя і тоўстыя, што ў абхваце не саступяць дубам. У трэшчынах іх шурпатай кары лёгка хаваецца далонь. Самі дрэвы стаяць на беразе, а карані пераблытанымі вяроўкамі круцяцца па зямлі і залазяць у ваду. Вада каля гэтага берага глыбокая, цёмная, халодная, калі апусціць руку, і чыстая — ні травінкі, нават раскі няма. Затое процілеглы бераг — адкаты, нізкі, раскашуе раслiннасцю. Ён увесь зарос сітнікам, аерам, рагозам, а бліжэй да сярэдзіны — трохліснікам, і там на вадзе песцяцца жоўтыя гарлачыкі і незвычайнай белаты буйныя лілеі. І канечне ж, скрозь — і на беразе, і ў вадзе — знаёмы чарот са сваімі карычневымі і чорнымі катахамі; з яго сцяблін атрымліваюцца неблагія шпагі, на якіх можна біцца, пакуль ліпкі пух не пачне лезці ў вочы і ў рот, казытаць у носе; а яшчэ іх можна, каб паддобрыцца да маці, зрэзаць тры-пяць штук і паставіць у слоік на стале — прыгожа...

Там, каля таго берага, поўна рыбы. І ўздрыгвае ў касца сярэдзіна, калі даносіцца адтуль салодкі плёхат... Але ведаюць з горкага вопыту — нялёгка здабыць прыпяцкую рыбку, з-за чаратоў не кінеш ні вудку, ні донку, не ўлезеш з таптухай ці «кабылаю», якія прыдатныя толькі для балацянак, копанак, стаўкоў глыбінёй жабе па калена, а тут трэба адмысловыя снасці, якіх яны нават назваў не ведаюць, толькі бачылі, як мясцовыя ловяць...

Застаецца толькі з зайздрасцю на той чаратовы рай пазіраць.

Дакошваючы да затокі, мужчыны боўтаюць з берага касамі ў вадзе. А хто спускаецца да Прыпяці, на пляж, куды прычальваў раніцай паром. Па свежых і высахлых зеленаватых палосках ціны, як па гадавых кольцах, можна вызначыць, якой велічыні бываюць хвалі ў непагадзь, ці калі расплюхае іх буксір з цяжкай баржай або пасажырская «Ракета» на сваіх крылах. Тут сярод рознага нанесенага вадой друзу трапляюцца ракавіны — чорныя, цяжкія, а ўсярэдзіне, калі створкі такой расчапіць ножыкам, — з перламутравым адлівам і з вострым пахам свежай рыбы. Касцы мочаць у вадзе мянташку, шлэпаюць ёю па белым дробным пясочку, каб набіўся ў пазы, — і лепш за любы брусок.

## III

— Давай, давай, давай! — падганяе Куленіч, калі бачыць, што хто прыстаў, ці спыніўся выцерці пот, ці каса не так ходзіць у руках, або занадта марудна падымацца на пагорак.

— Ніжай! ніжай! ніжай! — пакрыквае ён, калі няма да чаго прычапіцца. У роце яго пабліскве залаты цыганскі зуб, даўно дакураная, патухлая беламорына прыліпла да губы.

Сам ён худы — скура, косці ды мускулы. Такіх звычайна ніякая ўтома не бярэ. Лясніцкая фуражка з зялёным аколышам зухавата ссунута набок, з-пад брыля вылазіць чорны чуб з белымі павуцінкамі сівізны. З халявы звешваецца раменьчык мянташкі. Яму ўжо за сорак, але ён толькі нядаўна, у мінулым годзе, ажаніўся; узяў не са сваёй вёскі, а ажно з Махнавіч — таксама, праўда, не маладую, затое якую ўдалую! У свае трыццаць яна выглядае як дзяўчынка-падлетак. Такая вясёлая, спрытная, са зграбнай постаццю і з мілым наівам у твары. Ёсць у іх ужо маленькі сынок. І ён з імі тут, на лузе, спіць у шалашы пад полагам з марлі. Рахманы, хоць бы піскнуў. Махновачка час ад часу ўтыркае граблі ў мяккую зямлю і бяжыць глядзець, выдзьмухвае з шалаша камароў, якія шыюцца ў цень ад сонца. Яна сама ўся як сонца. Усё ёй у навіну — і яе роля замужняй кабеты, і маладой маці, і клапатлівай гаспадыні... Яна ніколі не ведала самастойнасці, век пражыла ў адной хаце разам з бацькамі, і цяпер прагна, з жарам аддаецца гэтым новым абставінам свайго жыцця, якое, аказваецца, можа быць такім поўным, аграмадным!.. Шчаслівая! І як ні стараецца прытушыць бляск у вачах, а ўсё роўна зыходзіць ад яе ззянне, аж наўкол разліваецца: толькі гляньце, людзі, якой я ўмею быць! — і хіба што зрэдку, як воблачка на сонца, набягае на твар вінаватасць — за тое, што ёй пашанцавала, і нават лёгкі спалох: а возьме ды здарыцца нешта, і знікне так раптоўна зваленае на яе шчасце?..

Куленіч да жаніцьбы быў ціхі, спакойны чалавек, «дабрачы», як яго малодшы брат Пятро характарызуе. Працаваў у лясніцтве. За парубкі дужа не ганяў, наадварот, калі натыкаўся ў лесе на свежы пень, дык закрываў мохам і прытоптваў тырсу. Толькі калі ўжо зусім нахабна, проста на вуліцы звальвалі машыну крадзеных дроў, дык папярэджваў, каб схавалі на задворкі, ды не шморгалі двухручкаю, а яго, Куленіча, з бензапілою пазвалі. Ніколі не браў ні грошай, ні магарычоў. «Аддасі які дзень», — буркаў, што значыла, каб баба памагла жаць, ці бульбу скапаць, ці памалаціць, ці сечкі нарэзаць, ці капусты ўвосень нашаткаваць. Прычым, як некаторыя з усходніх

палешукоў, ён не змякчаў «ц» і ў яго гучала — «капац, рэзац, шаткавац». Удачлівы паляўнічы, ён часта прыносіў з лесу то зайца, то лісу, а бывала, глушца, цецерука, адзін раз нават янота. Да яго ў хату знарок прыходзілі падзівіцца, ківалі галовамі, цмокалі языкамі і так і не верылі, што здабыча з іхняга лесу. Мясцовы люд, вякамі жывучы ў сваіх лясах і балотах, па большасці нецікаўны, флору і фаўну ведае слаба: звычка бачыць вакол сябе адно й тое ж прытупляе ўвагу. Ім лягчэй паверыць, што ў Дальніх Ставах жыве нешта, вогненным шарам гарыць і *пужае*, чым у сапраўдныя, рэальныя рэчы, у тое, што пад носам.

«Не, то не ў нас... У нас не водзіццца, у нас бедненько... Кудысь ездзіў, але ж ён не скажа...»

Гэта праўда, ён немнагаслоўны быў. Нават калі збіраліся зімою мужчыны выпіць, у карты пагуляць — выпіваў крышку, сядзеў маўчком, глядзеў, як іншыя гуляюць, сам адмахваўся: ай! яны сняцца ўночы!..

Варта ж было чалавеку ажаніцца, як яго падмянілі. Задраў Кулініч нос! Набраў у галаву, што ён ужо немавед хто. Пачаў вылазіць наперад, умешвацца ў размовы, перабіваць, нават камандаваць... Як і цяпер, на лузе. Толькі чуваць:

— Давай-давай і ніжай-ніжай!..

Зрэшты, ніхто не крыўдуе. Самі зацікаўлены, каб зрабіць лепш, бо будзе ж праверка. Прыедуць чужыя людзі, убачаць абы-якую пакошу, скажуць — брак.

Суседзяў у Кулініча трое. Па правую руку малодшы брат Пятро, той самы «дабрачы»; па левую — два бабылі, стары і малады, дзед Мікалай Мірон і дзевятнаццацігадовы Грыша Ігнатаў. Яны ўдвух косяць адну дзялянку. За імі няма каму растрэсаць, і ўвішная Махновачка паспявае і на сваёй паласе, і на іхняй — шчыруе, стараецца, толькі лыткі незагарэлыя з-пад спадніцы мільгаюць.

Гэты Грыгор Ігнатаў, пакуль яго аднагодкі служылі ў арміі, адсядзеў у турме за бойку год і паўтара месяцы. Цяпер ён адчувае сябе заразным, адрынутым, гнаным — і саромеецца ўсяго да непрыстойнасці. Нават косіць ён угнуўшы галаву, воч не падымае, нібы крадзе. На галаве ў яго пілотка з газеты, шэрыя ад старасці гумавыя боты заклеены кружкамі, выразанымі з веласіпеднай камеры, брусок у яго не цэлы, а палавіна, таму ён трымае яго не ў галянішчы, як нармальныя людзі, а запіхвае ў кішэню штанцоў... І ўсё ў яго неяк не па-даросла. му, не па-гаспадарску, несур'ёзна.

Грыгор саромеецца свайго з маладых гадоў заплямленага лёсу, і таго, што косіць не адзін, а ўпрычэпку з дзедам, бо яму, як блазну,

не далі свой уласны цэлы ўчастак... Сорамна, што ён ужо вялікі хлопец, а такі непрыгожы: круглы ў рабацінні твар, адтапыраныя вушы, кароткая шыя і нечакана доўгія — як выпрастацца, да каленяў — рукі. Да ўсяго ж ён сын сапраўднага ведзьмака. Яго бацька Ігнат быў аграмаднага росту мужчына, з барадой да пояса, зімой і летам хадзіў босы і толькі ў белым — як здань; большую частку жыцця пражыў адзін у лесе, у зямлянцы, зімаваў ледзь не разам з мядзведзямі ў адным бярлогу, ведаў мову звяроў, птушак, дрэў (вядома ж, што бяроза і асіна па-рознаму шапацяць лісткамі пад ветрам), а калі паміраў — тры дні і тры ночы не мог адысці, пакуль не здагадаліся засланку ў печы зняць, дзверцы ў грубе адчыніць і юшкі паадкрываць — тады толькі ў коміне загуло, быццам у сталеплавільнай домне, і дух яго адляцеў.

— Грыша, сынок, не ляці так, ты ж старога зацягаў! — просіць Махновачка.

Пятро са сваёй паласы таксама падае голас:

— Грыгор, у травы ног няма, не ўцячэ!

Яны з дзедам разам працуюць на чыгунцы, і ў Пятра ўжо нібы абавязак ім апекавацца.

— Дзед, ідзі адпачні, я дакашу...

— А я не ўтаміўся! — маладым голасам, бадзёра адказвае Мікалай Мірон. Дзе ў чалавека імя, дзе прозвішча, не разбярэш, і яго завуць хто Мікалаем, хто Міронам, як языку зручней. Яму семдзесят гадоў. Узяты ён не так касіць, колькі на падхват: дзе падгрэбсці з бабамі, дзе касу памагчы падладзіць...

Аднак пакуль дзед ні ў чым не саступае маладому. На два Грыгоравых махі ён робіць адзін, а інтэрвал паміж імі не скарачаецца. Пры тым ён паспявае яшчэ перыядычна піць соду ад пякоткі, якую ён называе — *жога*; спыніцца, дастане пакуначак з газеты, высыпле ў жменю, зап’е вадой з салдацкай біклажкі... На ім чорная чыгуначніцкая форма. Алюміневые гузікі сцёртыя да таго, што ўжо нават не адбіваюць сонца. Душна яму, і ён прыдумаў вентыляцыю: сарочку скінуў, а пінжак адзеў на голае цела, і цяпер з-пад пінжака кусціцца на грудзіне сівы мох. І сам ён падобны на сівы пень. Бываюць у лесе такія пні — стары, але яшчэ моцны, летняе сонца і зімовы мароз выпарылі з яго вільгаць, вятры высушылі, адпаліравалі, і зрабіўся ён цвёрды, як жалеза, стаіць, і будзе стаяць невядома колькі часу, перажыўшы і сваіх спарахнелых суродзічаў, і хілы маладняк.

— Дзед, папі яшчэ соды, — не ўнімаецца Пятро. — Я дакашу за цябе, памагу!..

— А ты ўсім памажы, — раіць ззаду Пятрова жонка Валя. — Ідзі яшчэ брату памажы — яго забыў. Пасля ідзі яшчэ цюрэмшчыку памажы...

Пятро і праўда ўжо цераз край да ўсіх «дабрачы». У яго саладжавая, нечаканая для вясковага мужчыны мянушка — Кветка. Гэта мясцовы прыгажунчык, які памылкова нарадзіўся ў сялянскай хаце. З такой знешнасцю яму трэба было б здымацца ў кіно ці працаваць спецагентам у якім-небудзь непрыкметным куточку буржуазнай Еўропы, пакрысе ўкараняцца, памалу збіраць патрэбныя звесткі... Армію ён адслужыў у Сярэдняй Азіі. У яго альбоме красуецца малады, прыгожы, як кветка, шляхцючок; на галаве замест шаблоннай фуражкі з кукардаю — фарсістая сімпатычная панама. Яна і цяпер на ім. У адрозненне ад Кулініча Пятро ажаніўся рана, адразу пасля службы, узяў старэйшую за сябе на пяць гадоў Валю — гэтую самую, што цяпер, працуючы ззаду граблямі, бурчыць пад нос, не сціхае. Хоць пражылі яны ўжо колькі часу, трое дзяцей-дзяўчынак у іх: Вера, Надзя і чатырохгадовая Любка, — а ладу не было і няма паміж імі. Справа ў тым, што Пятро — горкі п’яніца. Валя яго слабасць тлумачыць так: канечне, ён прыгожы, «кветка», а яна непрыгожая, ён малады, а яна, выматаная дзецьмі, старая, ён добры, асабліва да чужых, а яна паганая... З іншага боку і Пятро ў даўгу не застаецца. Ён ніколі не заве жонку па імені, а толькі *мая*.

«Ты *маёй* не бачыў?»

У п’янага ў яго звычка швэндацца па чужых хатах і расказваць, як Валя яго на сабе сілком жаніла:

«Каб *мая* тады не зацягнула на сябе, дык я б, можа, на машыніста пайшоў вучыцца», — яго няздзейсненая запаветная мара, ездзіць далёка на цягніку, глядзець новыя мясціны, знаёміцца з рознымі цікавымі людзьмі... І пах цеплавознага вугальку. Замест гэтага ён як прыйшоў з арміі, так вось ужо дзесяць гадоў у мазутнай спяцоўцы разам з пенсіянерам Мікалаем Міронам гайкі на чыгунцы круціць, мяняе рэйкі і шпалы, а калі міма праносіцца хуткасны, Пятро толькі пазірае ўслед, прытрымліваючы ад ветру панаму...

П’янаму, Валя помсціць яму езуіцкім спосабам — увечары выграбае ўсе грошы з кішэняў, а раніцай не дае пахмяліцца. І толькі калі бачыць, як яму кепска, ёй самой робіцца весялей, мякчэй на душы. «Баліць? — ласкава-зларадна пытае яна. — Хай пабаліць. А не бадзяйся па хатах. А не кажы, што ў цябе жонка паганая».

— Табе трэба той дзед, — бурчыць Валя. — Табе трэба той цюрэмшчык... Табе трэба чужыя людзі... У цябе свая сям’я, трое дзяцей, хата, жонка...

Замест адказу Пятро выцірае панамай мокрую шыю і глядзіць на сонца. Яго русыя валасы кольцамі прыліплі да лоба, а на падбародку падсыхае мутная кропля.

— О пячэ! Як у барханах!..

І праўда, даўно полудзень. Часцей звонкае шорганне брускоў і мянташак аб стальное палатно. Вельмі гучна стракочуць конікі. Сытыя буслы то адзін, то другі закідваюць галовы на спіны і клякочуць. Ад сонца ў вачах на зялёнай траве белыя плямы; усё — абалонь, Прыпяць, затока, пракосы — бачыцца не акрэслена, а праз дрогкую смугу. Жоўта-чорныя сляпні віюцца над людзьмі роем; ад паху людскога поту яны адурэлі да таго, што некаторы сядае на касаўё ці грабільна і, растапырыўшы ад экстазу крыльцы, упіваецца замест цела ў гарачае дрэва.

**IV**

У абед пацягнуліся ўсе ўніз, у цень, у прахалоду — туды, дзе затока, вербы і машыны. Некаторыя адразу пападалі ад утомы на мяккі мурог пад вербамі, большасць пачала спускацца да вады — як гэта быць на Прыпяці і не пакупацца?

Купанне людзей, што нарадзіліся, выраслі і жывуць сярод лесу і балот, далёка ад вялікай ракі — гэта нешта. Усе яны баяцца вялікай вады, якая рухаецца, плыве, ва ўсіх на генетычным узроўні страх перад ёю, тым больш такой, як Прыпяць. Яны прывыклі да вады стаячай, сажалкавай, кар’ернай, плаваць умеюць у лепшым выпадку па-сабачы і на неглыбокім месцы, каб у любы момант можна было дастаць нагамі дно. Ды і слова яны «купанне» ўжываюць неахвотна, гэта блюзнерства, для малых, а дарослы спаважны чалавек скажа не «пайду купацца», а «пайду мыцца».

У кожнага ў руцэ кавалачак мыла. Жанчыны не ідуць у ваду зусім, мыюцца з берага. Што да дзяцей, дык тым ужо і наказваць не трэба: самі асцерагаюцца, і купанне для іх — легчы ў прыбярэжную ваду на жывот, а галавой на мелкае, ці, як пішуць, на плыткае, — нібыта і купаешся, хвалі цябе з галавой накрываюць, нагамі ў вадзе боўтаеш — і разам з тым у вір не зацягне.

Мужчыны з чырвонымі загарэлымі шыямі, з белымі жыватамі і нагамі, усе ў аднолькавых чорных трусах мочаць сабе пад пахамі, жменямі чэрпаюць ваду, абмываюць трохі пот — і давай хутчэй церціся мылам. Мыла не хоча даваць пену ў рачной вадзе. Доўга і старанна, па некалькі разоў, шаруюць галовы. Усё гэта пасля будзе называцца:

«А што мне твая Прыпяць, я ў ёй сто разоў плаваў!»

Самыя смелыя заходзяць па шыю — пастаіць трохі, не ведаючы, што рабіць далей, галава над вадою, сам крэкча, нібыта ад асалоды — «вух ты! харашо!» — а ў вачах трывога... Пастаіць — і назад, на бераг, а адтуль хутчэй за вербы, у лазняк, выкручваць трусы — абавязковы рытуал! — ці купаешся ты, ці мыешся, ці рыбу ловіш, гэта самая першая, неабходная справа.

Збоку ад купальшчыкаў, вышэй па рацэ Грыгор вельмі асцярожна, перастаўляючы ногі, як на лыжах, зайшоў па калені, потым па пояс, па шыю і паплыў наразмашку. З берага на яго глядзелі з асуджэннем. Ён заплыў на самую сярэдзіну, нырнуў, высунуўся па грудзі, пастаяў так, памагаючы сабе рукамі, затым, відаць, засаромеўся, што ўсе на яго пазіраюць, лёг на спіну і ціха паплыў назад да берага.

Тым часам на беразе затокі пад вербамі жанкі ладзілі полудзень. Цёплае малако ў бутэльках з газетнымі затычкамі, бляшанкі рыбных кансерваў, сала, мяса з коўбіка, гуркі, свежыя і вараныя яйкі, зялёная цыбуля, хлеб — у кожнай сям'і адно й тое ж, як салдацкі харчпаёк, а ўсё адно здаецца, што ў суседа смачнейшае. Не паспелі пад'есці, як на рацэ затарахцеў матор, паказалася сіняя лодка з трыма мужчынамі. Праехала паўз бераг і завярнула ў затоку. Падчаліла акурат да таго дальняга, чаратовага беражка.

Па беларускай завядзёнцы іх спачатку дружна абгаварылі — мы тут працуем, а яны сярод белага дня рыбку ловяць... Потым гэтак жа дружна апраўдалі:

— Хай ловяць на здароўе, яны шкоды не робяць...

— Хіба мы для іх косім? — для сабе...

— Бачыш, уночы іх ганяюць, дык яны ўдзень...

— Наловяць, у Кіеў завязуць...

— А што тут маторкаю да Кіева?

Дзеці сабраліся ў чародку і пайшлі глядзець. Куленіч, на хаду дажоўваючы, таксама.

Людзям з гэтага берага, з-пад навіслых над вадой вербаў, відаць, як яны там ловяць. Утрох, дзіўнай снасцю — такім шырокім трохкутным брэднем. Двое з бакоў за палкі цягнуць, трэці ззаду прыцiскае камель да дна.

— Ніжай, ніжай, ніжай! — даносіцца адтуль знаёмае Кулінічава.

— Гэта «крыга», — тлумачаць недасведчаным знаўцы.

Бачна, як зводзяць разам палкі, выцягваюць тую «крыгу», ніз змыкаецца, і ўвесь улоў — твой. Як у вялізным мяху. Блішча срэбра ў

сетцы, залацяцца ліні, лупяць хвастамі, выгінаюцца зялёныя шчупакі, ходырам усё ходзіць! Так, не перабіраючы, разам з малькамі і ракамі, нясуць і ссыпаюць у лодку.

Людзі зайздросцяць, дзівяцца:

— Во як лавіць трэба...

— А мы з «кабыламі»...

— Сядзім у балацянках, нічога не ведаем...

Цяпер ужо і дзецям зразумела — смешныя яны са сваімі прымітыўнымі донкамі, грузіламі і здохлымі ад спёкі чарвякамі ў бляшанках. Канечне ж, і яны да абеду спрабавалі — але нічога не закідваецца, не хоча ляцець, блытаецца, рвецца, а калі і выцягваецца, дык клубок «барады», корань аеру ці камяк прыдоннай травы. Цяпер яны ўсё ведаюць. Канечне ж, справа ў снасцях. Ды калі б нам... Дайце такую «крыгу», ды маторку, мы б!..

Усяго разы тры зацягнулі браканьерчыкі — і больш не трэба, паўлодкі рыбы. У каламутнай вадзе з дна падымаюцца бурбалкі, усплываюць на паверхню прытаптаныя расліны, напалоханыя рыбіны, якім пашанцавала выжыць, пускаюць кругі.

— Хоць бы дзецям далі па рыбінцы...

— Хто ж то дасць?

— Дзе ж тут усім напасешся...

— На нас на такую прорву дзве лодкі дай — мала будзе...

З павешанымі насамі дзеці пайшлі назад. Кулініч застаўся, пачаў прыкурваць — з выглядам чалавека, які свой абавязак выканаў, а вы ўжо тут самі разбірайцеся. На лодку ён нават не пазірае — рыбы я вашай не бачыў, шчасце такое...

— Эй, памочнік! Лаві!

Два шчупакі метровай даўжыні адзін за адным бохнуліся на бераг, як дзве паляніцы, заскакалі ў траве, тоўстыя, у жоўта-зялёных крапінах, з белымі жыватамі і чорнымі спінамі. Кулініч нават дзякую не сказаў. Абыякава, на калене, з страшным хрустам — на другім беразе чуваць было, пераламаў рыбінам хрыбетнікі, злупіў сцізорыкам паску кары з лазіны, уздзеў праз жабры, і так і прыцягнуў — хвастамі па траве, да свайго табара. Кінуў — і адразу ж адвярнуўся. Каса яго зацікавіла, кальцо пачаў правяраць, цаўё мацаць, ручку падцягваць.

Махновачка ззяе ад гонару. Калыша Васілька:

— А дзе наш татачка, пакажы... А вось наш татачка, рыбку злавіў... Паглядзі якую... І ты, як вырасцеш, будзеш рыбку з бацькам лавіць... На маторачцы будзеце ездзіць... Зараз мы галля назбіраем... Чысціць пачнем з хваста...

— Пачысціць і я магу, — ні да кога не звяртаючыся, сказаў дзед. Бо, калі шчыра, які б ні быў, а выхадзіўся ён. А так занятак, з рыбаю валэндацца, з галлём, з вогнішчам, з юшкаю...

Пасля абеду сонца пайшло спускацца. Вербы ўжо не даюць цень машынам, і два шафёры, што нараўне з усімі махалі косамі, пайшлі ў каторы раз заводзіць маторы і шукаць новага ценю.

Расы няма ў паміне, трава цяжкая, шорсткая, косы слізгаюць па ёй, а дзе проста шоргаюць, як па дроце. Усё часцей перакуры. Усё большае патрэба прамачыць вадой горла і заадно лішні раз паглядзець на сонца, якое з чырвонага робіцца малінавым, мяккім; промні не свецяць, а сцелюцца. Вось палавіна яго ўжо схавалася за дубы з буслянкамі. Яшчэ трохі — і зусім знікла. Цені ад блізкага хмызняку, ад дубоў ляглі на луг.

Людзі збіраліся да сваіх шалашыкаў. А тры касы ўсё яшчэ пасвіствалі: Кулініч, Пятро і Грыгор заканчвалі дзедаву долю.

## V

Які доўгі быў дзень!..

Каля вогнішча ў Кулініча на юшку і на чарку сабралася цэлая кампанія. Толькі Пятро Кветка адмахнуўся: «Мне з вашай кроплі толькі рот памачыць, а крыку ад *маёй* будзе...» Там у яго свой агеньчык, і Валя топчацца.

Юшку ядуць з аднаго вядра, сагнутымі ў кручок алюміневымі лыжкамі. Чуюцца толькі мірныя гукі сёрбання, абсмоктвання костак і пляскат далоні то ў лоб, то па плячы, то па карку. Камар'ё! Дзед зварыў без бульбы, затое цыбулі, лісту, перцу і солі напёр. Але юшку ж нічым не сапсуеш, рыба ўсё лішняе ўбярэ.

Грыгору дасталася, ці сам ад сціпласці знарок выбраў, шчупаковая галава — зубатая, як акула, з цвёрдымі жабернымі пласцінамі. Ён яе старанна, па костачцы разбірае, і калі агонь у кастрышчы ўспыхвае весялей, відаць на яго безыменным пальцы сціплую татуіроўку: маленькі, расплывісты, быццам шарыкавай ручкай намаляваны, крыжык. Выпіць яму не налілі, проста забылі, а ён, канечне, змоўчаў. Увогуле, Грыгора не заўважаюць, не звяртаюцца, не гавораць з ім, як бы і няма яго.

Паеў трошкі, голад спатоліў і маўчком падаўся да свайго шалашыка. Хоць бы хто паклікаў яго, папрасіў застацца. Так і ляжыць недзе адзін, у цемры, з камарамі, забыты-пакінуты...

Махновачка, якая да таго часу пакарміла і ўкалыхала сына, неўпрыкмет узяла недапітую бутэльку, пайшла туды.

— На, каўтні, сыночак, хай і табе пашчаслівее... Не глядзі на іх, не слухай, хай сабе брэшуць, а ты жыві, такі малады...

Ноч, зоры, цёплая зямля...

Па ўсім лузе рассыпаліся чырвоныя кропкі вогнішчаў. Чуваць, як унізе вада ласціцца аб бераг. Тонка, соладка пахне прывяленая, а к ночы зноў акрыялая трава. Шыпіць сала, капае з яго і патрэсквае тлушч на вугаллі.

Размякчэлыя ад спіртнога, ад такой прыгожай ночы, людзі адчувалі кожны адно і тое ж — паўнату жыцця, якога так многа вакол, якое і ў стракатанні конікаў, і ў гэтай цыбуліне, у хрумсце, з якім яе грызуць, і ў тым, як чарка перадаецца з рук у рукі, і ў вогнішчы, якое гарыць сабе, падымаецца дымок над ім, а полымя кідае водбліскі на твары і выхоплівае з цемры няроўны круг пакошы.

Гавораць яны пра ўсё на свеце.

— Ён быў чалавек сільны, — расказвае Кулініч пра кагосьці са свайго лясніцтва. — Звалі яго Васіль. Паехаў на север.

Кулініч, калі вып'е, гаворыць кароткімі сказамі і праз сціснутыя шчэлепы, таму чуецца: сыльны, Васыль, сэвэр.

— Паступіў на лесасплаў. Там яго білі. Парвалі лёгкае. Захварэў, работац не мог. Лёг пáмірац. Далі групу.

І ўсім шкада стала таго незадачлівага Васіля, якога і ў вочы ніколі не бачылі. Нехта ўспомніў ранішнюю бабулю з кароваю. Дзе яна цяпер, у цемры, хай бы падыйшла да людзей, пагрэлася, павячэрала... І як гэта карова, нібы кот ці сабака, умее адшукваць травы, якія лечаць?

— Чалавека прыпячэ — ён знойдзе, а то карова...

— Свет вялікі, усяго бывае...

Паглядзелі на цёмную пляму Грыгоравага шалашыка. Панізілі галасы. Выпілі яшчэ. Загаварылі пра космас, што вось зляталі туды, а Бога не знайшлі. І хоць усе адзінадушна, нават стары Мікалай Мірон, сышліся на тым, што Бога, канечне, няма, але нешта ўсё-такі ёсць. І трэба было б паслухацца парады старых мудрых людзей і апоўначы ўбіць у магілу Ігната-ведзьмака асінавы кол, бо не паспеў ён памерці, як пачаліся адна за адной сухія навальніцы; без дажджу, без хмар, сярод яснага дня маланкі лупілі ў што папала, і гэта вялікае цуда, што ацалела вёска; праўда, пастуха Козю на полі гром забіў, згарэў нашчэнт, толькі абвугленая галавешка ў труне ляжала.

— Не, Бог не Бог, а нешта ёсць...

— А што, хіба няма таго, што *пужае*?

Словам *пужае* завецца ўсё неверагоднае, містычнае, невытлумачальнае. Найчасцей яно існуе чамусьці ў выглядзе

вогненнага шара памерам з футбольны мяч. У кожнага ёсць у запасе гісторыя.

— Неяк вяду веласіпед уночы... Коціцца клубок вогненны! Жарам гарыць! *Пужае*! Я падскочыў, як урэзаў насцаком! Клубок як запішчыць, як кінецца ўцякаць!.. Я цябе навучу!.. Я табе папужаю!..

Па Прыпяці ў цемры ўнізе павольна рухалася чародка агнёў. Буксір цягнуў баржу. Калі яна праплыла, ажывіўся самы стары, Мікалай Мірон.

— А то адзін раз было... Я ў войну іду з чыгункі... Іду. Едзе мадзяр на веласіпедзе... Я перш падумаў — немец. Вінтоўка за плячыма целяпаецца. Я шапку зняў... Ён едзе. Я добры дзень даў... Ён едзе. Я гляджу — мадзяр! Надзеў шапку. Ён едзе... Вінтоўка, праўда, за плячыма. Я саступіў з дарогі... Ён едзе...

Мікалай Мірон нарадзіўся ў 1900 годзе, і як у 14 гадкоў пайшоў працаваць на чыгунку, так і звекаваў на ёй. Улады мяняліся, а ён адзін быў нязменны. Без чыгункі ніводная ўлада не абыдзецца. Ён і служыў кожнай уладзе: царскай, пралетарскай, польскай, нямецкай, савецкай, — а ўжо якія там былі цягнікі, чые яны, і што на вагонах напісана, якія штэмпелі стаялі, яму было ўсё роўна. Здавалася б, які лёс! якое багатае на падзеі жыццё! чаго толькі чалавек не набачыўся! колькі ўсяго можа расказаць! А нічога падобнага. На самай справе ён ніколі не быў далей свайго райцэнтра, ні служыць, ні ваяваць чыгуначнікаў не бралі, увесь яго светапогляд абмяжоўваўся двумя перагонамі ў два бакі ад станцыі каля вёскі. Нават калі аднойчы мужчыны паднялі пытанне на такую, здавалаася б, блізкую яму тэму: чаму цягнікі з гладкімі коламі не звальваюцца з гладкіх рэек? — і тут ён нічога не змог адказаць, прамямліў, што, можа, таму, што колы магнітныя і прыліпаюць да рэек.

— ...Я іду. Мадзяр едзе...

Тут раптам узнікла з цемры вельмі высокая постаць і пачала набліжацца да вогнішча. Усе прыціхлі. Постаць наблізілася, удвая паменшала, і ўсе ўбачылі, што гэта іхні брыгадзір, Стась Маслоўскі. І вельмі ўзрадваліся яму. Кожны зрабіў рух, што хоча пасунуцца, хоць месца хапала.

— Сядайце, Стась Касперавіч!

— Сюды, тут мякчэй...

— Юшкі засталося, хоць і прастыла...

— Затое шчупаковая...

Брыгадзір пахіснуўся, відаць, ад таго, што выйшаў з цемры да святла.

— А я лодкаю... Папрасіў рыбака. Лодкай перавёз мяне. Рачное таксі! — і засмяяўся крышку гучней, чым трэба, і твар у яго, падалося, быў чырванейшы, чым звычайна. Але гэта, канечне, ад агню; ва ўсіх твары чырвоныя.

Маслоўскага любілі, хоць крыху і пабойваліся — усё ж такі што ні кажы, а ён паляк. З іншага боку, прыемна, што ён хоць і паляк, а такі ж, як усе: есць, штаны носіць, гарэлку п'е. І ўсё адно за тое, што ён паляк, было чамусьці шкада яго. Любому чалавеку, відаць, сорамна жыць не на радзіме. Няўтульна. І таму Маслоўскага заўсёды стараліся падбадзёрыць, лішні раз сказаць добрае слова — вядомая беларуская рыса, гэтая перабольшаная гасціннасць да іншародцаў, каб не дай Бог не пачувалася ім тут горш, чым дома.

Маслоўскі выцягнуў з кішэні пляшку гарэлкі, бохнуў на траву.

— Ну, хлопцы, грошай вам будзе... Не ведацьмеце куды складваць! У Нароўлю тры разы матлянуўся... З бухгалтаркаю... Ну, Зося завуць, каторая замуж выйшла...

Як пачулі пра грошы, як убачылі яшчэ выпіўку — узбудзіліся! Заганарыліся! Пачалі набіваць цану сабе, сваёй працы. Калі так добра плацяць, дык, мабыць жа, ёсць за што.

— Цяпер касілкі, касілкі... А карова не есць з-пад касілкі сена!

— Толькі з-пад касы!..

— Не, ну мо цераз сілу, як выгаладаецца, але што там будзе за малоко...

Тым часам каля другога вогнішча Пятро Кветка не ідзе спаць, сабраў вакол сябе дзяцей, курыць, забаўляе іх байкамі, сыпле такімі слоўкамі, як аксакал, саксаул, сакля, рахмет, салям... Усю Сярэднюю Азію ён называе Узбекістан, а ўсіх без выключэння азіятаў — узбекамі.

— Дзядзька Пятро, а кіргізы? — пацяшаюцца, хіхікаюць разумныя дзеці. — Казахі хіба — таксама ўзбекі?

— І азербайджанцы, дзядзька Пятро?

— І японцы?

— Усе падрад, — пацвярджае Кветка. — Вельмі дабрачыя людзі!

Валя круціцца ў шалашы, і злосць у ёй расце: на камароў, на ноч, на цела, што свярбіць, на рукі, што гудуць, асабліва на смех, які перашкаджае думаць і спаць.

— Вот ненавісны, — варочаецца яна.

Яна зайздросціць чужому смеху, радасці, не разумее, чаму людзі да яго горнуцца, а да яе — не. Ад малых адбою няма, ён і сам любіць дзяцей, толькі чамусьці не сваіх, а чужых.

— Там шакалы жывуць... Сабачкі такія... Выйдзеш з саклі ў барханы, настраляеш шакалаў...

Дзеці пераглядваюцца, пераміргваюцца — такі стралец... Усе выдатна ведаюць, які ён жаласлівы, ён нават траву касіць шкадуе, шыхае асцярожна, пільна ўглядаецца, каб не цапнуць якую жабку, а калі ўбачыў перарэзанага напалам маладога вужыка, дык збялеў, рукі трэсліся, і жонка на ўвесь луг крычала пра яго нікчэмнасць.

— Заходзім у кішлак, прамым ходам — у чайхану. Духан, паіхняму. Там з чайнікаў віно ў піялы налiваюць... Ад душы. Няма грошай — бясплатна нальюць. Такія ўжо дабрачыя людзі...

Нарэшце Валя не вытрымлівае і тумакамі гоніць яго спаць.

Тухнуць пакрысе адно за адным вогнішчы, а на небе, наадварот, большае зорак, і ярчэй разгараюцца яны. І недзе тут, паблізу, начуе адзінокая баба з каровай...

Назаўтра да абеду скасілі, да вечара высушылі і ў акуратныя копы склалі. Клін быў чысты, прыбраны, прыемна вачам было глядзець, а нагам ступаць, і самім не верылася, як такія малыя мурашы змаглі ўправіцца з такой масай травы.

Больш не было чаго рабіць. Падплыў паром. А людзі не спяшаліся, усё стаялі, гаварылі... Хацелася яшчэ хоць крышку тут пабыць, у гэтым цудоўным месцы.

— Паехаліце! — звала, упрошвала Махновачка, баючыся за малога. — Ну паехаліце ўжо!..

І калі ішлі да парома чыстай пакошай, міжволі азіраліся, і ўсе, нават дарослыя мужчыны, у думках дзякавалі свайму лугу, ужо не дзікаму, і развітваліся з ім, як думалі, да наступнага лета.

**VI**

Прайшло шэсць гадоў. У Кулінічаў выгадаваўся сынок — гэткі херувімчык з белымі, як ільняное палатно, валасамі, і з сінімі, як кветкі ільну, вачыма — увесь у свайго дзядзьку Пятра.

Чамусьці позні дзеці заўсёды крыху не такія, як усе. Васілька больш цягнула да дарослых. З дзецьмі ён не надта любіў гуляць «у нашых і немцаў», у хованкі, у хакей-футбол, — адзінае, на што згаджаўся, пастаяць у варотах, ці, як ён казаў — «на вароцях». Яму цікавей было з бацькам пасоўваць па клетках шашкі, складаць даміно ці перакідвацца з маткаю картамі ў «п’яніцу». Часта пад вечар каля Кулінічавай хаты можна было назіраць такі малюнак: сядзяць на лаўцы дзяды з каменькамі, і з краю маленькі Васілёк з палачкаю, пальчыкі счэплены на каленях.

Кулінічы не шкадавалі для яго нічога. Больш дзяцей у іх не было, і Васільку даставалася ўся пяшчота.

У вёсцы не разумелі гэтага. Вёска ўсё хавае, тут не прынята паказваць, што ты нешта ці некага моцна любіш, тут не да мусі-пусяў, не да цялячых пацалункаў, не да цырымоній; усё гэта выпрацоўвалася вякамі, перадавалася з пакалення ў пакаленне як абярэг, было няпісаным кодэксам.

Вось класічны дыялог маці з сынам: «Ідзі есці, ірад!» — «Ай, не хочу!» — «Я табе не захочу!.. я з цябе шкуру злуплю!..»

У Кулінічаў усё па-іншаму. Махновачка выплыве на вуліцу, мядовым голасам: «Васілёчку, ідзі, сыночку, естачкі!» — «Іду, мамачка. А дзе татка?»

Бацькі з малых гадоў прывучаюць дзяцей да скрытнасці: пойдзеш гуляць, дык хаця нікому не кажы, што еў, у чужой хаце не сядай за стол, не пазірай, як чужыя ядуць, — самы вялікі сорам, калі падумаюць, што галодны.

— Ды барані Бог нічога нікому не расказвай! Маўчы, і ўсё!

Васілька ахвотна ішоў у любую хату, як у сваю ўласную. Лез за стол, калі запрашалі. І адказваў на любое пытанне. Хітрая баба перастрэне, заманіць цукеркам ці грушаю, і пачынаецца: «А што ты сёння еў, Васільку?»

— Каўбасу з казулі. І яшчэ фаршу матка накруціла.

— А браце! А дзе ж вы мяса бярэце?

— Ляснічы прывёз, — бесклапотна казаў Васілёк, седзячы на лаве, хістаючы ножкаю.

— А матка цябе б’е калі?

— Не-а.

— Ты, мабыць, як вырасцеш, будзеш ляснічым?

— Не-а.

— Дык мо брыгадзірам? Маслоўскі хутка на пенсію, дык мо ты замест яго будзеш?

— Не-а.

— А кім ты будзеш?

— Матросам на караблі.

— Ты пабач! — аж слупянела баба ад здзіўлення. — Хто ж цябе гэтаму вучыць? Матка?

— Не-а. Дзядзька Пятро.

— А колькі табе матка грошай на кніжку наклала? Мо ўжо тысячу?

— Не-а. Сто мільёнаў.

— А браце!.. Так Махновачка навучыла...

Зрэшты, усе падобныя спектаклі заканчваліся аднолькава — пасля бабы ўголас адна адной пераказвалі (ведаючы, што кожная данясе Махновачцы):

— Не людзі, а золато! І Кулініч, і дзіцятко, і жоначка яго!..

А Кулініч між тым выматваўся ў сваім лясніцтве; усё зарабляў і капіў. Не адставала Махновачка: і ў калгасе, і ў горадзе на базары, і агарод вяла. Многа памагаў лес-карміцель. Узімку, расцягнутыя на рожках перад печчу, заўсёды сушыліся зайцавы шкуркі ці смярдзела на ўсю хату ліса. Не саромеліся дзіцячага заробку: збіралі і здавалі ў нарыхтоўчую кантору сасновыя і бярозавыя пупышкі, умудраючыся налупіць іх вёдры, а ўвосень тымі ж вёдрамі ў тую ж кантору цягалі рабінавыя ягады. Пра лета няма чаго казаць. Улетку літаральна начавалі ў лесе. Дралі кару з крушыны і лазы, грабёнкаю збіралі ягады, латашылі арэхі, ці, як казаў Васілёк, арах***і*** — «арахоў цехнік даў!» Кару ён называў —к***о***ра. Увогуле, Васілёк дзякуючы матцы ўзбагачаў мясцовую лексіку. Усе казалі — «во ён», Васілёк — «во се то во ён»; усе — «даўно», Васілёк — «во се пара»...

Мацнела гаспадарка. З'яўляліся новыя матэрыяльныя рэчы. І ўсё было як бы ў квадраце, мела сваю маленькую копію — з прыцэлам на Васілька. Была кабыла — і жарэбчык, стрэльба двухстволка — і тульская аднастволачка, матацыкл «Урал» — і каляска да яго... Быў чорна-белы тэлевізар — Кулініч з'ездзіў у горад, вярнуўся з каляровым.

Махновачка на вуліцы прыціскала Васілька да сябе і ў залежнасці ад таго, як рос іх дабрабыт, мяняла сынаву будучыню:

— Хутка будзеш з намі ў калясачцы ў лес ездзіць, к***о***ру драць...

— Будзеш са стрэльбачкі зайцоў біць...

— Выгадуецца жарэбчык — паскачаш на ім у лясніцтва, бацьку памагаць...

— Вось вывучышся — будзеш у цвятным целецізарыку выступаць...

— Вось прададзім матацыкл, купім машынку — будзеш руль круціць...

Усе гэтыя штучкі не маглі не насцярожваць. Не трэба хваліцца шчасцем, яно не любіць публічнасці, яго трэба хаваць, нават саромецца яго; шчаслівыя павінны адгарадзіцца ад астатніх дубовымі дзвярамі, жалезнымі замкамі — хаця б дзеля таго, каб не сурочылі.

І быў яшчэ адзін момант. Надта ж прыгожа ў Кулінічаў пад акном расла каліна. А па вясковых няпісаных законах каліну (як і елку ці сасну) нельга садзіць блізка. Звычайна яна туліцца на задворках, хаваецца ў глухім канцы агарода. А ў іх расла навідавоку,

адразу перад верандай, у кампаніі толькі ламаносаў — гэтыя абвівалі і калінавы куст, і шула, і саму веранду і яшчэ паўзлі ўверх, чапляючыся вусікамі за нацягнутыя гаспадыняй ніткі, да самага франтона. Акрамя гэтых бяскрыўдных ламаносаў, нічога больш не замінала каліне; яна тут уладкавалася, як пані: шыкоўная, пародзістая, увесну аблітая белым кветам, улетку нават здаля чырвоная ад буйных, большых за вішні ягад.

**VII**

Перад тым, як зайсці да Кулінічаў, Пятро Кветка спыняўся пад калінаю, даставаў з вечна адтатурчанай — нават калі там нічога не было — кішэні пінжака пляшку «чарнільца», прамочваў горла, зрываў жменю ягад разам з лісцем, зажоўваў, адплёўваўся, пасмейваўся:

— Ад душы… Дабрачая закуска!

Пятро пакрысе ператварыўся ў ціхага, скончанага п’яніцу. Гэта проста быў нейкі эксперымент з прадвызначаным фіналам: хто каго, я гарэлку ці яна мяне? З часам у яго знізіўся бар’ер уздзеяння спіртнога — яго ніколі не ванітавала. Аднак нават у тыя рэдкія дні, калі ён не піў, у яго ўжо ўсё роўна кожны вечар па інерцыі пачыналі блытацца думкі і ногі.

Ён даўно закінуў мару пра машыніста, ужо не праводзіць з зайздрасцю вачыма хуткасныя цягнікі; цяпер яго цікавяць толькі «мядзведзі» — таварнякі з віном з Малдавіі, якое чырваноносыя экспедытары за капейкі прадаюць на разліў. Не расказвае ён ужо і пра свой Узбекістан, панама знасілася, а альбом стачылі ў пацяруху мышы.

Жонка кляла яго: «Чаго на людзях не чувана, не бачана — каб так чалавек дамоўкі цураўся! Дошкі ў плоце калываюцца, як зубы, а яму няма калі. А ён паўзе і паўзе па чужых хатах, хто яму там якім мёдам мажа...»

І праўда, гаспадаркі ён не любіў, тут Валя мела рацыю. Ужо тады абазначыўся крах вёскі — задоўга да Чарнобыля і перабудовы, пачыналіся першыя яе перадсмяротныя сутаргі, пакаленне Пятра было апошнім пакаленнем, звязаным з зямлёй; яны ведалі, што апошнія, што на іх усё скончыцца, дзеці іхнія ўжо не выберуць іхняй долі, ды ніхто і не хацеў, каб яны яе такую выбіралі.

Пятро, як малы, уцякаў з дому пры кожным выпадку. Спачатку выдумляў прычыны, потым і выдумляць перастаў — проста сыходзіў з двара і ішоў да чужых. Чужыя яго шкадавалі, налівалі,

выпытвалі, і ён хоць часткова атрымліваў тое, чаго быў пазбаўлены дома.

— Пятро, мне не гарэлкі шкода, — спачувала яму Махновачка, — цябе шкода! Яны ж цябе затаўкуць! — агучвала яна тое, што ведала ўся вёска.

Дома ў Пятра ўжо не абыходзілася тым, што грошай на пахмелку не давалі. Калі раней Валя сцябала яго словамі, дык цяпер перайшла да справы. Тым больш, дзеўкі падраслі і актыўна сталі памагаць маці. Усе яны ўдаліся ў Валю, пабралі і знешнасць — такія ж непрыгожыя, і душу — так жа ненавідзяць бацьку. П'янага бездапаможнага Пятра звязвалі на падлозе і білі: усур'ёз, са ўсяе сілы, чым папала... Нават малая Любка збоку таптала шапку. Потым пакідалі ляжаць звязанага да раніцы.

— Гэта ж трэба так чалавека ненавідзець! — дзівілася Махновачка.

— Ад душы ненавідзяць, — падліваў масла ў агонь Кветка.

— Хоць ты падавай у якую міліцыю...

— Якую міліцыю...

— Ці развядзіся. Цяпер жа не раней. Вазьмі Галю Міронаву, яна сама пабяжыць, у Архангельск на сплаў паедзеце...

— Які Архангельск, які сплаў... Яна ж дзеўка, а мне каб маладзіца! Ці такая, як ты...

Кулініч павярнуў бокам да люстэрка твар з белай барадой — ён якраз галіўся, паставіўшы перад сабой міску з гарачай вадою, і крэкнуў. З-пад ляза выступіла кроў. Звычайна ён, калі быў дома, слухаў, але не ўмешваўся.

— Ды не корміць, — скардзіўся Пятро. — Дома сала і на рабоце сала... І тое так пасаліла, што ў шкурцы белыя такія як бы праточынкі.

— Ты пабач — солі пашкадавала! — Махновачцы, як і любой жанчыне, прыемна было чуць, што ёсць горшыя за яе.

— Я ёй кажу — недасаліла. А яна — сам Маслоўскі еў! Крычыць, Маслоўскі еў, а ён жа не ты! Маслоўскі сцізорыкам абрэжа — гэта, кажа, нічога, гэта сальнічкі... Для яе Маслоўскі пуп зямлі. Маслоўскі скажа, што цяпер зіма, дык яна будзе паўтараць — зіма. Чаю папрасіў раніцай, дык яна голага кіпятня падсаладзіла...

— І чаю не кінула шчопаці?

— І не кінула.

Махновачка млела ад задавальнення.

— І мала ёй усё, мала... У Маслоўскага, крычыць, поўная хата дабра. Дык Маслоўскі ж крадзе ў калгасе. І я б краў, бурака, бульбіну...

— То сяго, то таго...

— А што я з пуці прынясу? Балта ў кішэні? Гайку?

Куленіч, які скончыў галіцца і выціраўся ручніком, успрыняў гэта як намёк. Канечне, ён даўно мог бы прыляпіць брата да лясніцтва. Але не рабіў гэтага, баючыся кампраметацыі.

—Э-х, — толькі крэкнуў ён і выйшаў з хаты.

— Кажу, касцюм трэба купляць. Як падняла крык! А ў мяне адзін касцюм, і на работу, і на выхад. Вось гэты самы. Распісваўся ў ім колісь.

— Не дае?

— Слухаць не хоча.

— Гэта так баіцца, каб прыгожы не быў, — скумекала здагадлівая Махновачка. — Каб на жабрака быў падобны. А надзенеш касцюм, ды пабрыешся...

— Я ўсё адно куплю.

— А і купі!

— Я ўжо нагледзеў у горадзе ў «Прамтаварах». Дабрачы такі... У сівенькую палоску. Нават мераў — як па мне шыты.

— А і купі!

— Я і куплю.

— Пастаў перад фактам. Ну, пакрычыць, паб’е трохі, мо не пасячэ, не спаліць...

— Я так і зраблю. Яна дачакаецца.

— А і зрабі!

— Куплю з палучкі — і ўсё.

Выгаварыўшыся, выліўшы душу, Пятро падымаўся і йшоў да Грышы Ігнатавага.

Грыгор за гэты час паспеў другі раз адсядзець у турме і другі раз ажаніцца. Першая яго жонка з дзіцям жыла ў горадзе, а другая — Сюзана, пакуль з ім.

Да хаты вёў вузкі доўгі двор. Сама хата стаяла далёка ад вуліцы, нібы хавалася, саромеючыся свайго выгляду. Гэта была маленькая дарэвалюцыйная халупа. Пры тым, што Грыша працаваў на лесапільні і пры жаданні мог бы выпісаць любыя матэрыялы, ці хоць накрасці, і выбудаваць церам з балконамі. Але ў хаце не было нават драўлянай падлогі, а гліняная. Калі Пятро пераступіў парог, Сюзана гатавала вячэру на газавай пліце. У хаце стаяў прыемны пах смажанага мяса. Шланг ад балона з надпісам «Прапан» да пліты быў

даўжынёю ўсяго паўметра. Балон прыткнуўся так блізка, што яго бок даставалі агеньчыкі камфаркі, і фарба там пачарнела і крышку аблупілася. Акрамя смажаніны, таксама пахла сырой глінай і хворым чалавекам. Закутак за печчу завешаны быў капай. Там жыла Грышына маці. Яшчэ пры жывым Ігнаце яна пашкодзілася розумам і перастала выходзіць на вуліцу. Калі твой чалавек вядзьмак, дык ты аўтаматычна ведзьма, тут ужо нічога не зробіш. Так і жыла за печчу, там ела, спала, а пра тое, што яшчэ не канец свету, ведала ад сына з нявесткаю.

Звычайна калі заходзіў Пятро — а ён адзін і заходзіў, людзі паранейшаму пазбягалі Грыгора, ды і сам ён не надта любіў чужых, а Пятра прымаў, можа, толькі таму, што захавалася ў памяці, як некалі яго, затурканага звярка, Пятро пашкадаваў на касьбе, — калі Пятро стукаў дзвярыма, уваходзячы, заўсёды паўтаралася адно й тое ж. З-за печы чуўся старэчы голас з капрызнымі інтанацыямі малой дзяўчынкі.

«Грыша, нехта прыйшоў!» — «То што?» — «Я баюся!» — «Чаго ты баішся?» — «Людзей!»

— Дык памірай, — адказваў сын. — Цяпер не зіма, яму выкапаем.

Грыгор у чаканні вячэры сядзеў у покуце, склаўшы на стале рукі, як школьнік за партай. Галава сям'і, мужчына, гаспадар. З першай жонкай ён таксама не парываў; яна працавала на мясакамбінаце, і Грыгор мінімум раз на тыдзень ездзіў у горад і вяртаўся з сумкай бясплатнага свежага мяса.

Гэта быў ужо не зацюканы апостал часоў Дзікага Луга. І знаку не засталося ад яго сарамлівасці. Ён памажнеў, памужнеў, выцягнуўся ў рост, рукі прыйшлі ў норму, не кароткія і не доўгія, а звычайныя — мускулістыя, мужчынскія. Татуіровак на іх паболела: на адной з'явілася русалка, на другой — чарка на тонкай ножцы, аплеценая гадзюкай з каронаю на галаве, і ў кароне лічбы — нумары калоній. Ён даўно не чырванее — цяпер турма ў вёсках не рэдкасць; стульваецца толькі тады, калі на ветры прыкурвае, а так глядзіць адкрыта людзям у вочы, грудзі распраўленыя, зухаваты, нахабны, разумны, дзвюма жонкамі дагледжаны, на мясе адкормлены — мардаты, гладкі мужчына. Гаварыць ён пачаў заўсёды з іроніяй: гы-гы, хі-хі, ха-ха... Нібы ён адзін ведае нешта такое, пра што іншыя і не здагадваюцца.

Пятро прыляпіўся за сталом з краю. Сюзана па-свойску падштурхула яго бліжэй да патэльні і выпіўкі. Пятро піць не стаў, а накрыў сваю чарачку дрыготкай, з сінімі венамі і ўсё адно не

вясковай, далікатнай далонню. Яму хацелася пагаварыць. Грыгор сам выпіў, падкалоў на відэлец кавалак духмянага мяса з падрумяненазалацістай скарыначкай сала.

— Я касцюм, Сюзана, сабраўся купляць...

— Касцюм? Тройку?

— Ды не, куды там, просты... Штаны, пінжак. У палоску такі...

Грыша працаваў сківіцамі, слухаў з паблажлівасцю чалавека, у якога ўсё задалося і для якога такіх праблем не можа існаваць у прынцыпе.

— Запомні, — пракаўтнуўшы, сказаў ён, — не ў касцюмах шчасце. Я магу тры касцюмы купіць. А толку?

— Ну, ты мяне з сабой раўняеш...

— А Валя біцца не будзе? — пацікавілася Сюзана.

— А я і пытаць не буду. Пастаўлю перад фактам!

— Герой. Я ўсялякіх наглядзеўся... І ў касцюмах і без касцюмаў. У нас вунь таксама адзін. Прыязджае з горада ў цэх у касцюме, у цэху пераапранаецца ў робу і абапалкі пад дыск падпіхвае. Дык мы яму апілак у кішэні насыплем — выграбай...

Сюзана засмяялася. Паўнаватая, з павольнымі рухамі, вельмі прыгожая. Маладосць і свежасць так і выпіралі з яе. Толькі крыху дзіўна было, як яна, гарадская дзеўка, сімпатычная, добрая характарам, упісалася сюды, як умудраецца ужывацца сярод гэтага рэзруху, ды яшчэ так глядзець за сабой. Ці, можа, наадварот, гэта на фоне ўбогасці і рэзруху яна так выгодна адцянялася?

— А вазьмі майго бацьку — светлай памяці Ігната, — важна сказаў Грыгор. — У адной кашулі век прахадзіў, а разумнейшы за ўсіх быў!

Цяпер ён не саромеўся свайго бацькі, а пры кожным выпадку падкрэсліваў, што, хоць і запознена, а, канечне ж, спрацавалі бацькавы чары — інакш хіба быў бы ён, Грыгор, такі ўдачлівы?

## VIII

З палучкі Пятро купіў у горадзе касцюм, дваццаць пачкаў «Прымы». Пералічыў рэшту. Застаўся такі мізэр, што яму стала сумна. А трэба яму быў той касцюм, паміраў ён без яго, ці што? Захацелася нават вярнуцца і папрасіць, каб забралі назад. Але сорамна было. Вось купі кепска, і не купі тое ж.

Зайшоў у сталовую, выпіў вінца, занюхаў рукавом — апошнім часам ён зусім перастаў закусваць, не лезла нічога. Да станцыі паехаў дызелем. Сонейка вераснёвае грэла, мухі зуммерылі каля мутнага

шкла. Закалыхала, развезла Пятра. На станцыі пачаў пераходзіць рэйкі, заплячліся ногі, грымнуўся, як стаяў — уперад, пераноссем на стальную рэйку. Кроў так лінулася, што пакунак з касцюмам стаў мокры, а «Прыма» ў сетцы з чырвона-белай ператварылася ўся ў чырвоную. У бальніцы паглядзелі, што п'яны, бедна адзеты, ніхто нічога не выпраўляў, сяк-так на хуткую руку зашылі, як шавец цыруе дзіравы бот... Так і зраслося. Пераносіцы не стала зусім. Замест роўнага сімпатычнага носа цяпер тырчэла паміж шчок качыная пляскатая дзюбка, а на тым месцы, дзе была пераносіца, сярод праваленых зморшчын, свяцілі дзве маленькія, як іголкай праткнутыя, дзірачкі. Калі Пятро курыў, дым ішоў праз рот, праз ноздры і струменіўся праз гэтыя дзірачкі. Яшчэ яны пасвістваlі. Пятро скажа слова — свісь! На спачуванні — маўляў, чэрці, не маглі зашыць па-людску, адказваў:

— Такая ўжо кабеціна была дабрачая (свісь дзірачкамі!)... Ад душы!

— Яна ж цябе знявечыла!

А ён сваё:

— Каб не *мая*, я б з ёю яшчэ (свісь!) ...

Ён яшчэ не да канца разумеў, што здарылася, думаў, ён па-ранейшаму Кветка. Неяк прыйшоў да Махновачкі.

— Дай машынку, Сюзана падстрыгчы абяцала.

— Пятро, — сказала Махновачка, дастаючы з шуфляды прадаўгаваты футаральчык, стараючыся быць строгай. — Ты ж глядзі... Людзі без рук, без ног чапляюцца... Ну што ж гэта — шклянка і папіроса... Ты ж раней неяк так не піў моцна... Пачакай, на цукерак Сюзане...

Сюзана прарэзала дзірку ў газеце, адзела Пятру на галаву, застрыкала каля вуха машынкаю.

— А чаго вы касцюм не носіце?

— Ён мне як бы ў плячах шыракаваты, — Пятро асцярожна павярнуўся пад газетай, каб паказаць, і свіснуў носам.

— А не сварылася?

— Не.

— Ну, правільна... Раўнавала. А цяпер каму вы трэба?

— Грыша, што там стрыкае? — капрызнічаў голас за печчу. — Чаго тут людзі? Я баюся!..

Грыгор нешта думаў, пазіраючы на Пятра.

— Слухай, — сказаў ён, — я не магу на цябе глядзець без смеху. — Зняў са сцяны прадаўгаватае люстэрка з утыркнутай у раму навагодняй паштоўкай. — На, сам паглядзі. Ну які ты Кветка? У нас

адзін быў такі, на цябе падобны, дык мы яго дражнілі Носар. Я цябе цяпер таксама буду зваць Носар, добра?

Так пакрысе Пятру пачало адкрывацца, што ён ужо не той, якім быў да 11 верасня. Цяжка было змірыцца з гэтым. Канечне, прывык чалавек да прыгожай знешнасці, думаў, яна вечна з ім будзе. Піў ён па-ранейшаму — да таго, што Валя ўжо махнула рукой і нават біць перастала, ды і без толку гэта, ён усё роўна не адчуваў болю.

Прайшла восень, настала зіма, мінуў снежань, а ў студзені Пятро ўзяў касцюм пад паху і панёс па хатах прадаваць. Ніхто не купіў. Затое напаілі так, што ўвечары Пятро ўпаў на падлогу, з рота ў яго паказаўся сіні агеньчык, як з газавай камфаркі. На гэты раз усур'ёз спалоханая Валя разаслала дочак ва ўсе канцы: Любу — па Махновачку, Веру — да Маслоўскага, выклікаць «хуткую», Надзю — да Сюзаны, бо трэба ў такіх выпадках, калі п'яніца «гарыць», каб маладзіца памачылася ў рот. Сюзана накінула паліто, без хусткі, пакуль дабегла — Валя з Махновачкаю ўжо галасілі на ўсю вуліцу.

Хавалі Пятра ў мароз. Дрэвы стаялі ў белым інеі. Мікалай Мірон у кажусе, у тоўстых рукавіцах, у шапцы з апушчанымі вушамі на могілках глядзеў, як капаюць яму, і даваў парады.

— Яно толькі здаецца, што мароз, а ў мароз зямля не цвердая... Так, зверху, сантыметраў дваццаць пяць — трыццаць, — здымаў рукавіцу, нагінаўся, мацаў, а зямля і праўда чым глыбей, тым цяплей была.

На памінкі Куленіч прывёз аднекуль ласінае сцягно. Махновачка нарабіла катлет, наварыла застудзіны. Зрэшты, і так усяго хапала, бо тады яшчэ была традыцыя абавязкова несці на памінкі кісель, бутэльку, міску з вінегрэтам, курыцу ці кавалак мяса.

Састаўленыя сталы перасякалі ўсю хату. Але месца ўсё роўна ўсім не хапала, бо людзей на могілках было многа. Вырашылі памінаць зменамі: хто выйдзе — другі зойме яго месца.

— Колісь так — калі сеў, то сеў, — успамінаў Мікалай Мірон. — А падняўся, больш не сядзеш. А цяпер жа кураць. Выйшаў, пакурыў, зноў вярнуўся...

З чужых прыехалі з горада далёкія сваякі па Валінай лініі, муж з жонкаю. Жонка была мясцовая, яе ведалі, а мужа першы раз бачылі. Сціпленькі, культурненькі, у касцюмчыку-гальштучку, маленькага росту, акуратна падстрыжаны, падобны на вучонага ці на настаўніка матэматыкі. Ён не курыў і ад спіртнога адмовіўся катэгарычна, кіўнушы ў бок могілак: «Свежы прыклад!» Яго адразу запаважалі.

Толькі пачалі ўсаджвацца, як раптам Сюзана наўзрыд заплакала:

— Я вінаватая!.. Каб хутчэй паспела... Жыў бы!

Валя вусны падціснула, упарта глядзела ў талерку перад сабой. Увесь яе выгляд паказваў — так, вінаватая. І ты, і ўсе за гэтым сталом, толькі не я.

Махновачка аж рукамі пляснула:

— Яшчэ што выдумай! Табе тут зусім быць не трэба! (Сюзана была цяжарная.)

І павяла яе дамоў. А за сталом выйшла новая замінка. Людзі пераглядваліся, перашэптваліся. Трэба было нешта сказаць, і так сказаць, каб не пакрыўдзіць удаву, а гэта практычна было немагчыма. Любыя словы ўспрымуцца як абвінавачванне Валі. Напрыклад, калі пачаць шкадаваць нябожчыка — «чаго ён памёр, мог бы жыць ды жыць...». Альбо калі, напрыклад, паспачуваць яму — «вось і адмучыўся...»

— Ну, хто скажа тост? — гучна спытаў Грыгор, які капаў яму і пагэтаму тут, за сталом, адзін пачуваўся свабодна. — Ну, так і быць, давайце я скажу тост.

Але тут устаў Кулініч.

— Брата майго Пятра ўжо не падымеш — яму хай зямля пухам. А што з яго работы ніхто не прыехаў, — зларадна павысіў голас Кулініч, — вянка не прыслалі — дык хай яны некалі пабачац самі!.. — урачыста, помсліва закончыў ён.

Вось гэта словы! Так сказаў, што пазайздросціць можна. І вінаватых знайшоў, і Валю не пакрыўдзіў.

У канцы стала сядзелі дзве асірацелыя Пятровы дочкі, Вера з Надзяю, ужо вялікія дзеўкі. На іх непрыгожых, насупленых, з чырвонымі вачыма тварах выразна чыталася прыкрасць, сярдзітасць: і без таго ім з такім бацькам жыццё не было мёдам, а цяпер увогуле што надумаўся, паказаў фокус — узяў ды памёр!.. Малыя Люба з Васільком сумленна капіравалі дарослых, кампотам у чарачках не стукаліся, лобікі наморшчылі, у руках насовачкі, на каленях ручнічок... Толькі раз усчалася ў тым кутку валтузня, і пачуўся шэпат Любкі на ўсю хату:

— Не чапай, мой бацька памер, а не твой!..

Спачатку крыху сароменіся чужога чалавека за сталом. Але гэты гарадскі сваяк, гэты вучоны ці настаўнік вёў сябе, як мыш. Не піў, мала еў. Нешта яму муляла. Хаваў пад скацерку-абрус рукі. А жонка яго неяк умольна, разгублена глядзела на землякоў, нібы напярод просячы за нешта прабачэння. Цярпеў ён цярпеў — і ўсё ж

не вытрымаў: хутка кульнуў пяцьдзясят грам, потым, не закусваючы, запар адну за адной яшчэ тры разы па пяцьдзясят. Рашуча адвёў жончыну руку з катлецінай на відэльцы. Падняўся, звонка пастукаў чаркай аб пляшку, патрабуючы цішыні, і павёў такую гутарку.

— Я аб’ездзіў усю Беларусь, і мушу прызнацца, што такой дзічы, як у вас, нідзе больш не ўбачыш. Багацейшую гісторыю, традыцыі, звычкі вы ўмудрыліся апусціць да прымітыву. У Маларыцкім раёне — мяжа з Украінай, дзед паўзе ракам, а ўсё адно па-ўкраінску: «Добрага ранку!» А ў вас? Ці чулі вы пра такую традыцыю, як галашэнні? Мужчыны не галосяць ніколі, — ён пачаў загінаць пальцы. — Плач бабулі больш важны, чым маладой жанчыны, а галашэнне дачкі па бацьку больш важнае, чым жонкі па мужу. З могілак вяртаюцца — трэба тры разы печ пагладзіць і сказаць: «Хай паміраюць прусакі, а не людзі». А вы рукі спаласнулі — і ўсё? Хутчэй за стол?

Бедная жонка, чырвоная ад сораму, шморгала, цягнула яго за крысо. Але лектар толькі ўваходзіў у ролю, паставіў чарку і загінаў пальцы ўжо на другой руцэ.

— Тры стравы: куцця, кісель, застудзіна ... За жалобным сталом усе павінны быць сумнымі, ніякіх абгавораў, жартаў. А вы — тост, — паглядзеў асуджальна на Грыгора. — Гаварыць трэба стрымана, ціхімі галасамі і толькі пра нябожчыка, — паглядзеў на гэты раз на Кулініча, — а не пра тых, з кім ён працаваў, не пра вянкі... Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына — каму гэта было сказана? Вам? Хто гэта пачуе? Вось дзяўчына была, тут сядзела... Плача, што не памачылася ў рот. Дзіч! Забабоны, нагаворы, ведзьмакі... Самае звычайнае паганства!..

Усе і раней адчувалі, што нешта не тое. А тут проста пакрыўдзіліся. Слова «паганы» ведалі ўсе. Які б ні быў вучоны, а абзывацца за сталом... Гэта ж не вяселле... Ціха загулі, нясмела зашумелі — кшталту «выпіў, дык будзь чалавекам»... Вопытны Грыша даўно не еў, слухаў насцярожана. Асабліва яго зачапілі словы пра ведзьмакоў. Ён зразумеў гэта. як намёк на яго бацьку. Ніхто да гэтага часу не меў права ўсумніцца ў тым, што Ігнат на самой справе быў чалавекам незвычайным.

— А ў рог? — спытаў Грыгор. Яго вочы нічога добрага не абяцалі, правая рука сціснулася ў кулак, сіні ад татуіровак. — Калі я табе ў рог дам?

Тут якраз увайшла Махновачка, імгненна ацаніла сітуацыю. Кінулася разнімаць. Як птушка крылы, растапырыла рукі:

— Усё, будзе, будзе! На памінках доўга не сядзяць!.. Грыша, пайшлі... А вы — паехаліце!.. — і пачала штурхаць да дзвярэй вучонага разам з жонкаю. — Паехаліце, чуеце!.. — забыўшы, што нікуды яны не могуць паехаць, проста не дабяруцца ў такі час да горада.

Так Махновачка павяла дамоў ужо Грышу. І Васілёк пайшоў з імі.

Была зіма, студзень, студня з аплыўшым намёрзлым лёдам, зорнае неба, цішыня, сіні снег і блакітныя, вельмі ўтульныя вокны хат. Роўна перасякала вёску вуліца. Цёмныя платы, цені ад іх і ад хат толькі яшчэ больш падкрэслівалі прыгажосць начнога снегу. Ён іскрыўся і скрыпеў пад нагамі. Васілька трымалі за адну руку Грыша, за другую маці, і ён не столькі ішоў, колькі ехаў па слізкай, як коўзанка, дарозе, а то падціскаў ногі і вісеў паміж дарослымі.

— Мама, а дзядзька вучоны?

— Вучоны, сынок. І ты, як вырасцеш, станеш вучоны... Толькі гарэлкі беражыся, бачыш, што ад гарэлкі бывае...

— Ну і што, што вучоны? — сказаў Грыша без злосці, астыў на вуліцы і палагоднеў. — Калі ён вучоны, дык хай спярша піць навучыцца. Я яшчэ не такіх вучоных бачыў. Цэлую акадэмію прайшоў.

— Ох, прайшоў, Грышачка, прайшоў, не дай Бог нікому прайсці... Ты на іх не глядзі. Яны самі па сабе, а ты цішком сам па сабе. Ён сказаў па вучонасці, а ты сцярпі, змоўчы, адыйдзі ўбок... Хіба ты чужому чалавеку свае мазгі ўставіш?.. У іх вучонасць, а ў цябе таксама і розум, і Сюзана, і работа... Сам дабіўся, ніхто не памагаў...

— А хто мне памагаў? Сам!

— Ох, сам, Грышачка, век сам, і не прапаў, у людзі выйшаў, і матку няшчасную глядзіш, не кінуў, і ўсё ў цябе ладненька-складненька...

Збоку каб хто чужы паслухаў, дык можна было падумаць, што Грыша дзве аспірантуры скончыў, а не дзве ходкі меў за плячамі. Недзе далёка, на другім канцы вёскі, празвінела вядро ля студні, а пачулася як зусім побач. І такое блізкае было неба, што звон вядра даляцеў да яго, і зоркі вялікія і малюсенькія таксама празвінелі ціхім рэхам у адказ.

— Так цёпленька сядзець дома, целевізар глядзець, а яму холадна, — забывался Махновачка і казала пра Пятра, як пра жывога. — Так ужо шкода яго, так шкода! Такі добры быў... А што бачыў за век? Нічога. Добрыя ўсе няшчасныя, а злыя — шчаслівыя.

Тут Грыгор не згадзіўся. Ён лічыў сябе і шчаслівым, і не злым.

